## ДЗЕЛЯ ЖЫВОЙ СУВЯЗІ ПАКАЛЕННЯЎ

*(Замест прадмовы)*

Перш чым пачаць гэтыя радкі, я не мог яшчэ раз не з'ездзіць на сваю Астравеччыну. Каб узнавіць у памяці густы пах спелага жыта, таямнічы пошум сасновых бароў, ціхае цурчанне крынічнай Лошы. Каб сустрэцца з людзьмі, сярод якіх узрос, пачуць ад іх сакавітае, непаўторнае слоўца, са шкадобай разам паразважаць аб тым, як хутка бяжыць гэты няўмольны час.

У час паездак на радзіму не раз мне здавалася, што вось-вось вернуцца з небыцця краявіды, колеры, гукі і пахі дзіцячых гадоў. Але ўсюды былі ўжо іншыя краявіды, колеры, гукі і пахі. Гадоў сорак назад па вёсках не бялелі цагляныя мураванкі, праз поле не ішлі чароды камбайнаў, не беглі слупы электраліній, не надрываліся, буксуючы ў пяску і распускаючы клубы бензінавага куродыму, цяжкагружаныя самазвалы. І толькі аднойчы, калі я, унутрана сцяўшыся, паволі ішоў да старога, закінутага дома (нядаўна ён згарэў), што ў парадзелай, «бесперспектыўнай» вёсачцы Расолы, на нейкае імгненне прыйшло адчуванне, нібы табе зноў дзесяць год і нібы ты зноў гоніш вулачкай, што абрасла бэзам, з пашы карову. Але дастаткова было глянуць праз шчыліны ў дошках, якімі калісь, выязджаючы, забілі вокны, пабачыць пакрытыя цвіллю нейкія зусім пачужэлыя сцены, каб адразу ж вярнуцца ў сённяшнюю рэальнасць, яшчэ раз канстатаваць спрадвечную ісціну, што час адваротнага бегу, на жаль, не мае.

Вяртаючыся з Расолаў, я тады задумаўся над «пачаткам усіх пачаткаў». Як жа сталася, што мой лёс склаўся так, а не інакш? Адкуль да хлапчука, што вырас у глухой вёсачцы з нейкіх шаснаццаці хат, прыйшла цікавасць да кнігі, да даўніны? Што прымусіла яго, скажам, перамагчы юнацкую цягу да астраноміі і падацца ў філалогію, а потым — у літаратуразнаўства?

Прычын было некалькі.

Цяпер, з далечыні гадоў, мне выразна відаць, якую ролю ва ўсім гэтым адыграў бацька, звычайны селянін. Жыццё яго складвалася цяжка. З вялікай мнагадзетнай сям'і выйшаў ён з двухгектарным надзелам. Таму дзед па мацярынскай лініі, што жыў у суседняй вёсцы Задворнікі, быў супраць вяселля з «галадранцам», які падзарабляў па корчмах ігрой на скрыпцы. Маладыя без блаславення ўцяклі ў Пецярбург, дзе і абвянчаліся. А там — вайсковая служба ў пясках Туркестана, акопы першай імперыялістычнай, нямецкі палон, аднастайная работа ў нейкім кляштары ў Баварыі. Туга па радзіме, па сям'і прымусіла бацьку і двух яго сяброў уцячы з палону, пешкі прабірацца

праз усю Чэхію і Польшчу. Двойчы іх лавілі, і двойчы яны ўцякалі зноў. Ноччу ішлі, арыентуючыся па зорках, а днём адлежваліся ў лясах. Вярнуўся бацька ў Расолы з сухотамі. А тут новая бяда: аказалася, што па радзіме яго даўно пахавалі і бацькаў брат прэтэндаваў ужо на тыя «нічыйныя» два гектары. Потым той жа брат быў супраць, калі побач з ягонай хатай пачаў расці новы зруб. Бегаў у гміну, да белапольскіх улад, і даказваў, што гэта небяспечна з пажарных меркаванняў. Таму бацька на апошнія грошы мусіў купіць ацынкаваную бляху і накрыць ёю хату (потым гэта бляха, што выдзялялася сярод саламяных стрэх, была прычынай розных непаразуменняў).

І вось у гэтай хаце 7 жніўня 1932 года я нарадзіўся на свет. Першыя ўражанні: кросны на кухні, драўляны ложак з сеннікам, напханым саломай, вялізныя фікусы з якіх дужа хацелася сашчыкнуць лісты. Жыццё спакваля лягчэла, бо задворніцкі дзед перад смерцю адпісаў нам яшчэ два гектары ворнай зямлі і лапік лесу. У хаце з'явіліся самыя танныя газеты і часопісы. Бацька асаблівай адукацыі не меў, закончыў толькі прыходскую школу. Але быў ад прыроды надзелены цікавасцю да ўсяго, што дзеецца на свеце, любіў «напал прыкаваць», прыгадаць мінулае. Калі я захварэў, ён па вечарах чытаў мне розныя «дзіцячыя старонкі» з польскіх часопісаў, а потым заахвоціў да самастойнага чытання. Зрэдку дзіцячыя кнігі прыносіла са школы старэйшая сястра. У нашай хаце гаварылі па-рознаму. Звычайна была ва ўжытку «простая» беларуская мова. Калі ж прыходзілі госці, тады пачыналі «пальшчыць». У дзеда па бацьку была ў пашане літоўская мова, мова продкаў, але пры маёй памяці ад яе засталося ўжо хіба крыху літуанізмаў: ачу (у сэнсе: дзякуй), лаўжы, ройсты, рэзгіні, кумпяк... А калі бацька расказваў аб гадах, праведзеных у Пецярбургу і Туркестане, тады ў хаце гучала руская мова. Баварскія ж успаміны «падмацоўваліся» нямецкімі словамі.

Такімі ж разнастайнымі былі песні і казкі. Выпіўшы чарку, бацька пачынаў высокім голасам: «Трансваль, Трансваль, страна моя, ты вся горишь в огне». Маці любіла старадаўнюю «Каціўся зайчык па сенажаці» (нядаўна я знайшоў яе варыянт у рукапісным зборніку XVII стагоддзя). Сястра прынесла са школы не менш старадаўнюю польскую песню пра зайчыка, што сядзіць пад мяжой і не дбае пра паляўнічых (пазней даведаўся, што ў тым жа XVII стагоддзі яна была перакладзена на беларускую мову). А якія дзівосныя легенды расказвалі зімой на папрадушках суседкі: пра ваўкалакаў, што збіраюцца па начах у карчме Бастомскага над Лошай, пра касцёл, што калісьці стаяў на Хлябекавай гары, а потым разам з людзьмі праваліўся скрозь зямлю, пра мужнага Кастуся Каліноўскага, які нібы прыязджаў у

суседні маёнтак Аняліна да сваёй нарачонай... Тут, на Астравеччыне, на пагранiччы моў і культур, скрыжоўваліся і ўзаемадзейнічалі самыя розныя традыцыі.

А колькі радасці было, калі бацькі, едучы фурманкай у Вільню (па цягнік, хоць да станцыі Гудагай — вярсты з чатыры, не ставала грошай, ды і што завязеш тым цягнікам на рынак), бралі мяне з сабой! У дарогу выбіраліся звычайна звечара. Ляжыш, бывала, на возе, гружаным бульбай ці дрывамі, ды глядзіш, як над табой у начной цемрадзі праплываюць пачварамі галіны прыдарожных соснаў. Пад тахканне ды скрып колаў паволі засынаеш. Прачынаешся, калі сорак вёрст нібы і не бывала,— дзесьці ў Гурах, адкуль ужо відаць вежы старадаўняй Вільні. Найперш заязджалі да бацькавага брата ці сястры, якіх беззямеліца прымусіла перавандраваць у горад. Жылі яны каля самай Вострай брамы. Вядома, ім згружалі частку прыпасаў. Заходзілі на мінутку, каб сагрэцца нязвычным тады ў вёсцы чаем ды паласавацца булкай, якую падавалі на драўлянай талерцы з надпісам: «Чай кушать — хозяйку слушать». Тым часам я разглядваў яшчэ больш нязвычную, аздобленую разьбою мэблю, нейкія гравюры на сценах — усё гэта здавалася мне тысячагадовым па даўнасці і дзівосным па хараству.

Потым, крыху падросшы, у час, калі бацькі прадавалі на рынку які сувой палатна ці дзесятак яек, я пачаў самастойна блукаць па крывых віленскіх вулачках. Вучыўся арыентавацца па змрочных гмахах. Надоўга прыпыняўся каля вітрын шматлікіх тады букіністычных кнігарняў. А аднойчы нават забраўся па стромкіх, пакручастых прыступках на самую вежу Гедыміна і ўпершыню з бояззю глянуў з вышыні ўніз — на кафедральны сабор, на людзей, падобных да мурашак, на ўсю Вільню, ашчаціненую чарапічнымі дахамі, акружаную стромкімі ўзгоркамі. Не, такое хараство не забываецца!

І ўсё ж, відаць, асабліва ўразіла першая сустрэча з яе вялікасцю Старой Кнігай. Было гэта ў фашысцкую акупацыю. Жылося тады цяжка. Ледзь не кожны тыдзень па вёсцы шасталі паліцаі. Збівалі людзей, патрабуючы аддаць апошняе. Школы, вядома, закрыліся. Але цяга да кнігі, да ведаў жыла. Разам са стрыечным братам Яўгенам (цяпер ён вядомы мастак-графік у Польшчы) мы пазычалі кнігі, дзе толькі можна. І вось неяк даведаліся, што зусім побач, у запушчаным маёнтачку Сяржанты, у пані Эйніковай ёсць даволі багатая бібліятэка. Набраўшыся адвагі, пайшлі туды. Стараліся гаварыць папольску, не запэцкаць падлогу. Нарэшце нам дазволілі падысці да паліцы і выбраць па дзве кнігі. Памятаю, я адклаў прыгодніцкую аповесць Ванды Васілеўскай і тоўсты том, на якім залатымі літарамі

было выціснена: «Ваяж польскі» (потым даведаўся, што гэты «баечнік» быў зусім не польскі: туды трапілі казкі, запісаныя на Навагрудчыне, ды вольныя апрацоўкі казак Пушкіна). Але пані Эйнікова той фаліянт усё ж не дала.

— Гэтыя казкі,— павучальна тлумачыла яна,— запісаў мой дзед, Антоні Глінскі. Гляньце, дзеткі, вось сюды: яго аўтограф! Прысвячэнне маёй маці, а яго дачцэ, калі яна яшчэ была маленькай дзяўчынкай. Так што гэта кніга не пазычаецца. Яна сямейная рэліквія, спадчына продкаў!

Тады я ўпершыню зразумеў, што кніга каштоўная не толькі тым, што ў ёй напісана. Яна з'яўляецца каштоўнасцю яшчэ і сама па сабе. Помнікам аўтару. Эстафетай у ланцугу пакаленняў.

Уражаныя тым візітам, мы з Яўгенам рашылі арганізаваць сваю супольную бібліятэку. Сабралі ўсё ў адну шафку. Яўген выразаў з гумы пячатку. Адразу ж знайшліся і чытачы — бліжэйшыя і далейшыя суседзі. Але кніг было мала: аднатомнік Горкага, «Ганна Карэніна» Талстога, «Амок» Маўра, прыгодніцкія аповесці пра індзейцаў. Усё гэта мы перачыталі па некалькі разоў, раілі іншым.

6 ліпеня 1944 года ў Расолах было свята: па каляіністым тракце, што вёў з Астраўца на Лошу і далей на Шумск і Вільнюс, пачалі ісці і ехаць савецкія войскі. Яшчэ праз дзень-другі ў нашай вёсачцы пабываў прадстаўнік Астравецкага райкома партыі. Бацька стаў дэпутатам Дравяніцкага сельсавета, і цяпер маім абавязкам было разносіць розныя абвесткі, склікаць на сходы. На адным з іх гаварылі, што настала пара зноў вучыць дзяцей. Заахвоціўшыся, мы з Яўгенам рашылі пайсці ў Гудагайскую школу, адразу ажно ў пяты клас. Чыталі мы, праўда, бегла, рахавалі таксама нішто сабе. Але за першы дыктант нам паставілі па двойцы, прытым яўна завышаючы ацэнкі. І ўсё ж нас пакінулі, бо клас быў не ўкамплектаваны і яго збіраліся закрыць. Давялося тэрмінова давучваць тое, што сёння вядома, бадай, першакласніку.

З Гудагайскай школы я паслаў першыя допісы ў «Піянер Беларусі» і «Зорьку». Поспехі маіх аднакласнікаў там былі крышку перабольшаны. Але ж так хацелася, каб пра нашы суботнікі ды просценькія доследы ведала ўся Беларусь. Потым, калі наш клас усё ж перавялі ў Астравецкую школу, стаў пісаць у раённую газету. Т не толькі пра школьныя справы, але і пра калгас, які арганізаваўся ў Расолах у 1949 годзе (работы прыбавілася: прыйшлося налічаць працадні, мераць соткі). Як і многія ў такім узросце, пачаў грашыць вершамі. Але першыя адказы, падпісаныя М. Аўрамчыкам і У. Агіевічам,

здаліся такімі несуцяшальнымі, што назаўсёды адмовіўся ад рыфмавання, хоць часам і цягнула.

У параўнанні з Гудагаем і тым больш з Расоламі Астравец здаўся сапраўдным раем. Па-першае, раённая бібліятэка! Няхай і маленькая, халодная, але ўжо кожны дзень можна было ўзяць нешта новае. Па-другое, кіно! Няхай рвецца стужка і мала што відаць з-за галоў дарослых, але затое які новы дзівосны свет адкрываўся з экрана! Па-трэцяе, радыё! Няхай папі Адэля, у якой мы кватараваліся, і супраць таго, каб яно «гергатала» ў хаце, але затое можна было пайсці на вуліцу, да рэпрадуктара, прыбітага па слупе каля райкома партыі. І, вядома ж, урокі! Асабліва па літаратуры. Рускую мову і літаратуру ў нас вяла Каіса Яўгенаўна Гарына, беларускую — Цярэнцій Мікітавіч Крыўко. Часта іх урокі перарасталі ў цэлыя дыскусіі аб тым, што ж галоўнае ў жыцці чалавека. Са школьных сцен яны нярэдка пераносіліся на кватэры настаўнікаў. Свабоднага часу не было ніколі: камсамольскія сходы, дыспуты па новых кнігах, выпуск насценгазеты, перапіска з балгарскімі школьнікамі, паездкі ў Маладзечна на пасяджэнні абласнога літаратурнага аб'яднання, пастаноўкі спектакляў, выезды з імі ў калгасы, школьныя і вясковыя вечарынкі... Таму цяпер здзіўляешся, калі сённяшнія вучні часам пачынаюць скардзіцца, што ім сумна ў школе.

У дзесятым класе пачаў раздумваць, куды ісці далей. Спачатку дужа хацелася на астраномію. Відаць, паўплывала кніжка Джынса, якую выпадкам напаткаў. Пачаў збіраць літаратуру. Нават напісаў пісьмо самому Ота Юльевічу Шміту з нейкімі касмаганічнымі выкладкамі. Вядомы даследчык Арктыкі быў ужо вельмі хворы, аднак даручыў адказаць на пісьмо прафесару Варанцову-Вельямінаву, які на поўным сур'ёзе разгледзеў тыя наіўныя тэорыйкі. Адказ акрыліў. Яго я паказаў сябрам, потым бацьку. Але бацька астудзіў мой пыл:

— Што ты ўсё заладзіў: зоркі ды зоркі. Ты лепей глядзі, што робіцца на зямлі! Пачытай, колькі цікавага ў газетах пішуць. Цягне друкаванае слова — дык і ідзі па тую журналістыку. Можа, хоць свету паглядзіш.

У жніўні 1951 года я прыехаў у Мінск, каб здаваць экзамены на аддзяленне (тады яшчэ аддзяленне) журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ўсё ішло гладка аж да гісторыі. А там трапілася пытанне пра рабаўласніцкі лад у народаў Закаўказзя. Апрача адной назвы Урарту, дальбог, нічога не помніў. Таму пачаў здалёку: чаму ўзнік той лад, чаму павінен быў ён змяніцца іншым. Прывёў цытату з класікаў пра супярэчнасці паміж прадукцыйнымі сіламі і вытворчымі адносінамі. І тут жа здзівіўся: экзаменатар,

Лаўрэнцій Сямёнавіч Абэцэдарскі не толькі паставіў пяцёрку, але і, рашуча закрэсліўшы на экзаменацыйным лістку словы «Аддзяленне журналістыкі», надпісаў зверху: «Аддзяленне філасофіі».

На наступным экзамене мне так жа рашуча параілі ісці на беларускае аддзяленне.

Канчаткова збіты з панталыку, я доўга вагаўся, урэшце закрэсліў два пазнейшыя надпісы, а першы падкрэсліў перарывістай лініяй. Потым, праз дзесяцігоддзе, не раз аб гэтым шкадаваў. Філосаф, вядома, з мяне не атрымаўся б. Але аддзяленне беларускай мовы і літаратуры дало б для майго сённяшняга занятку больш, чым аддзяленне журналістыкі. Ні літаратура, ні мова не лічыліся ў журналістаў галоўнымі прадметамі. Вывучалі мы іх даволі павярхоўна. А латынь, так патрэбную мне сёння, не вучылі зусім. Праўда, аддзяленне журналістыкі дало іншыя карысныя веды, асабліва па сацыяльна-эканамічных дысцыплінах. Прывучыла пісаць хутка, дакладна фармуляваць сваю думку, дбаць пра стыль. Аднак, што ўтойваць грэх, хуткасць не заўсёды ідзе ў пары з глыбінёй думкі, часам падбівае на агульшчыну, шаблоннасць...

У студэнцкія гады было шмат цяжкасцей. Прыватная кватэра з капрызнай гаспадыняй. Потым перанаселены інтэрнат. Бацькі не часта маглі дадаць да стыпендыі нешта больш істотнае, чым кавалачак сала і глячок з топленым тлушчам. Але жылося цікава. З'явіліся новыя сябры: Віктар Шымук, Анатоль Вярцінскі, Яўген Каршуноў, Ігар Афанасьеў, Генадзь Зотаў, Уладзімір Каліноўскі. Працягвалася распачатая яшчэ ў маладзечанскім літаб'яднанні дружба з Арсенам Лісам. Адначасова на беларускім аддзяленні вучыліся Ніл Гілевіч, Мікола Арочка, Рыгор Барадулін. Усе мы часта сустракаліся на літаратурных вечарах, дыспутах, на пасяджэннях розных гурткоў. Часта да хрыпаты спрачаліся за чаем у інтэрнацкіх пакоях. Здабыўшы білеты на балкон, дружна хадзілі на тэатральныя прэм'еры. Пісалі «пстрычкі» ў газеты. Спрабавалі сілы ў рэцэнзіі, нарысе, фельетоне. У 1954 годзе ўбачыў у «Літаратуры і мастацтве» першую сваю грунтоўную публікацыю — водгук на раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах».

З выкладчыкаў найбольш моцнае ўражанне пакінулі, бадай, Давід Яўсеевіч Фактаровіч, Аляксандр Міхайлавіч Адамовіч ды Іван Васільевіч Гутараў. Давід Яўсеевіч імпанаваў нам сваім красамоўствам. Яго лекцыі па зарубежнай літаратуры вызначаліся сціпласцю і змястоўнасцю. Па прапанове Фактаровіча я стаў хадзіць на пасяджэнні навуковага гуртка, заняўся беларуска-польскімі літаратурнымі сувязямі. Потым у тым жа гуртку апрабавалася мая дыпломная работа «Адам Міцкевіч — публіцыст». Алесь Адамовіч, па вонкаваму

выгляду падобны да студэнта, з'явіўся ў нас неяк нечакана, пачаў весці спецкурс па стылістыцы, на канкрэтным матэрыяле вучыў, як жа разумець мастацкую тканку твора. Урэшце, Гутараў заражаў нас сваім бязмежным аптымізмам, пераканаў, што філалогія можа быць яшчэ і вясёлай навукай. Нейкі час мы глыбока верылі, што яму ўдалося знайсці невядомы раздзел «Яўгенія Анегіна». А калі ў канферэнцзале Акадэміі навук два вечары падрад ішло крытычнае абмеркаванне кнігі Івана Васільевіча, мы ўсім курсам пайшлі яго «бараніць» і ў самы напружаны момант, калі выступаў самы салідны апанент, выпусцілі на сцэну (о прабачце, акадэмічныя сцены) ашалелага ад страху ката.

Як і ўсё прыемнае на свеце, вучоба ва універсітэце неўзабаве скончылася. Летам 1956 года мяне скіравалі ў Радашковічы сакратаром раённай газеты «Сцяг Ільіча». Радашковічы, як вядома, маюць багатыя літаратурныя традыцыі. Непадалёку ад іх нарадзіўся Янка Купала. Тут вучыўся ў гімназіі Максім Танк, жылі і працавалі Браніслаў Тарашкевіч, Ядвігін Ш. Усе тры рэдактары, з якімі мне давялося працаваць у Радашковічах,— Мікалай Прашковіч, Мікалай Лявонаў і Уладзімір Шчэцін — самі літаратурнай творчасцю не займаліся, але падзялялі думку, што даўнія традыцыі трэба працягваць і памнажаць. Таму пры рэдакцыі было створана літаратурнае аб'яднанне. Фармальна ім кіраваў я, душою ж з'яўляўся Аркадзь Чарнышэвіч, які ў 1957 годзе пераехаў у Радашковічы і пасяліўся ў сціплым фінскім доміку. Яго апавяданні, урыўкі з рамана «Засценак Малінаўка» друкаваліся ў нашай газеце раней, чым у Мінску.

У «Сцягу Ільіча» часта з'яўляліся апавяданні, гумарэскі, вершы рэдакцыйных супрацоўнікаў — Міколы Гродпева, Алеся Рыбака, Міхася Жукава, Іосіфа Вагіны, Міколы Чайкі. Прысылалі і прыносілі свае творы Зінаіда Бандарына, якая перад смерцю знайшла ў Радашковічах часовы прытулак, зусім малады яшчэ Вячаслаў Рагойша, Сымон Белы (пляменнік Я. Коласа), Тамара Сакалова (знаёмая А. Блока), Анатоль Пётух. Часам заходзіла, каб паказаць які цікавы рукапіс, удава рэдактара «Нашай нівы» А. Уласава, чый маёнтак знаходзіўся да вайны непадалёку ад Радашковіч. Амаль кожны дзень у рэдакцыйнай пошце былі вершы пачаткоўцаў. Што ж датычыцца мяне, то я займаўся пераважна гісторыяй Радашковічаў і наваколля, «адкопваў» усё новых землякоў: вядомага дзеяча вызваленчага руху Сымона Рак-Міхайлоўскага, аднаго з першых даследчыкаў Байкала Бенедыкта Дыбоўскага, кампазітара Міхала Грушвіцкага, польскага пісьменніка Юльяна Гарайна... Тады ж устанавіў факт і зрабіў у «Беларусі» публікацыю аб тым, што славуты польскі кампазітар Міхал

Агінскі доўгі час жыў у Залессі каля Смаргоні, там папісаў свой чароўны паланез «Развітанне з радзімай».

Работа ў газеце была нялёгкая. У мае абавязкі ўваходзіла скласці макет нумара, выправіць усе матэрыялы ў стылёвых адносінах, самому даць дзвесце-трыста радкоў. Часта прыходзілася выязджаць у вёскі, удзельнічаць у самых розных кампаніях — аж да збору самагонных апаратаў. Як няштатны сакратар райкома камсамола вёў заняткі універсітэта культуры, арганізоўваў розныя вечары, сустрэчы, літаратурныя дыспуты і канферэнцыі. У тыя гады ў Радашковічах пабывалі Максім Танк, Пятрусь Броўка, Аляксей Кулакоўскі, Анатоль Астрэйка, іншыя пісьменнікі, дзеячы мастацтва. Часта як засядацеля запрашалі ў суд, асабліва на «псіхалагічныя» справы. У 1959 годзе Радашковіцкі райком прыняў мяне кандыдатам у члены партыі.

Аднак усе тры гады, праведзеныя ў Радашковічах, мяне трывожылі сумненні: а ці тым я займаюся, чым мог бы? Усё больш і больш цягнула да сур'ёзнай даследчыцкай работы. Пасылаў публікацыі ў «Літаратуру і мастацтва». Марыў пра аспірантуру, хоць яна і здавалася нечым нерэальным. І вось аднойчы, калі над Радашковіцкім раёнам павісла рэальная пагроза аб'яднання, набраўся адвагі і зайшоў да дырэктара Інстытута літаратуры Васіля Васільевіча Барысенкі.

— Можа, ёсць якая работа? Мне хочацца займацца дзевятнаццатым стагоддзем, літаратурнымі сувязямі...

— Работы няма. Але я прапаную вам паступаць у аспірантуру. Праз тыдзень экзамены.

— Але ж... Але ж я не рыхтаваўся.

— Ніякіх але ж. Як кажуць, не наеўся ва універсітэце — на хаду не наліжашся. Заўтра прывозьце дакументы.

Так я стаў аспірантам, так увайшоў у дружны і працавіты калектыў Інстытута літаратуры АН БССР, у якім знаходжуся вось ужо звыш дваццаці гадоў. Маёй кандыдацкай дысертацыяй «Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў другой палавіне XIX стагоддзя» згадзіўся кіраваць Аляксандр Міхайлавіч Адамовіч. Потым я пераканаўся, што навуковыя кіраўнікі бываюць трох тыпаў. Першыя бяруць асноўную нагрузку на сябе, дробязна апякаюць аспіранта на кожным кроку. Другія, навязваючы свой пункт гледжання, толькі перашкаджаюць у рабоце. Трэція ж, а да іх — на маё шчасце — адносіцца Адамовіч, намячаюць мэту, даюць агульныя ўстаноўкі, метадалагічныя парады, а потым прадстаўляюць поўную свабоду. На пачатку даследчыцкага шляху многа каштоўнага атрымаў я таксама

ад Навума Саламонавіча Перкіна, Юльяна Сяргеевіча Пшыркова і іншых старэйшых таварышаў.

Працуючы над кандыдацкай дысертацыяй, а потым над раздзеламі для гісторый беларускай дакастрычніцкай літаратуры на беларускай і рускай мовах, над іншымі планавымі тэмамі, я спакваля адчуў смак архіўнай, пошукавай работы. Хоць мне ніколі не даводзілася паляваць, але, відаць, адчуванне даследчыка, які капаецца ў старых рукапісах ці кнігах, можна параўнаць з адчуваннем паляўнічага: вось-вось табе трапіцца твая вялікая ўдача, твая асноўная знаходка. Вядома, пошукі вядуцца не вобмацкам. Як паляўнічы высочвае, дзе можа быць зверына, дзе пралягаюць яе сцежкі, так і даследчык карпатліва намацвае ніткі, што вядуць да таго або іншага рукапісу, страчанага твора. Прытым веды, веданне мноства фактаў, нават зусім другарадных, тут павінны спалучацца з інтуіцыяй. Часам адчуваеш: менавіта тут мусіць знаходзіцца нейкая салідная «зверына».

З усіх сваіх знаходак найбольш важкай я лічу творы (сёння іх набярэцца каля паўтары сотні) беларускай песенна-інтымнай лірыкі другой палавіны XVII — першай палавіны XVIII стагоддзяў. На маю думку, яны маюць прынцыповае значэнне. У часы прымусовай паланізацыі і каталізацыі якраз у гэтых творах выяўляла сябе народная самасвядомасць (не прызнавацца ж у каханні па польскай, лацінскай ці стараславянскай мовах!). Тагачасная любоўная лірыка нараджалася на скрыжаванні літаратурных, пераважна барочных, і народных, фальклорных традыцый. Па гутарковай мове, па свецкаму зместу яе ўжо цалкам можна аднесці да новай беларускай літаратуры. А гэта істотна ўплывае па перыядызацыю, дазваляе часткова запоўніць адзін з прагалаў у гісторыі нашага пісьменства.

Прагал, белая пляма... Колькі іх у нашым мінулым! Беларуская літаратура ў дакастрычніцкі час развівалася ў вельмі неспрыяльных умовах. Цэлыя стагоддзі яна была ў прынцыпе рукапіснай і ў прынцыпе ананімнай. Таму многія творы, спадчына многіх пісьменнікаў або бясследна загінулі, або яшчэ не адшуканы. Вярнуць іх народу, узнавіць разарваныя звенні ў жывым ланцугу пакаленняў — наш даследчыцкі абавязак. Адчуванне гэтага абавязку кіравала мной, калі пісаліся кнігі «Творчае пабрацімства», «Падарожжа ў XIX стагоддзе», «Таямніцы старажытных схавішчаў», «Шляхі вялі праз Беларусь» (у сааўтарстве з В. Грыцкевічам), «На скрыжаванні славянскіх традыцый», «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя», артыкулы для розных зборнікаў, часопісаў і газет.

Некаторыя калегі свядома ці міжвольна папракалі мяне ў «адрыве ад сучаснасці». Пад іх уплывам у мяне было некалькі спроб пісаць

пра сучаснасць — часам удалых (рэцэнзіі на раманы У. Караткевіча), часам спрэчных (артыкул «Каб з пер'яў выраслі галубы...»). Але цяпер такія спробы ў мяне бываюць усё радзей і радзей. Чаму? Ды таму, што, па-першае, даследчык не павінен быць усеяднай «жывёлінай», не мае права займацца ўсім, што трапіцца пад руку. Наш насычаны інфармацыяй век патрабуе спецыялізацыі ў нейкай вузкай галіне. Па-другое, заняткі гісторыяй, даўніной, вядома ж, зусім не азначаюць адрыву ад сучаснасці. Важна гэтаму мінуламу даць сучасную інтэрпрэтацыю, ацаніць яго з вышыняў сённяшняй марксісцка-ленінскай метадалогіі. Ніякі не сакрэт, што тыя ж факты славянскай гісторыі сёння служаць аргументамі ў ідэалагічнай барацьбе. І наша надзённая задача — глыбока даследаваць спрэчныя пытанні і спрэчныя перыяды мінулага.

Калі гаварыць жартам, то ў апошні час я яшчэ больш «адарваўся» ад сучаснасці, бо з дзевятнаццатага стагоддзя надоўга перабраўся ў васемнаццатае і нават семнаццатае. Прычын тут некалькі. Дзевятнаццатае стагоддзе ўжо даволі «абжыта» намаганнямі цэлай плеяды старэйшых і маладзейшых даследчыкаў — С. Александровіча, В. Барысенкі, М. Грынчыка, У. Казберука, Г. Кісялёва, М. Лазарука, М. Ларчанкі, А. Лойкі, С. Майхровіча, І. Навуменкі, Н. Перкіна, І. Саламевіча, А. Семяновіча і многіх іншых. Пераходным жа перыядам у развіцці беларускай літаратуры, калі не лічыць некалькіх публікацый П. Ахрыменкі, па сутнасці не займаўся ніхто. Ніводнага чалавека на цэлых паўтара стагоддзя ў той час, калі, скажам, у Ленінградзе ці Кіеве над гэтым перыядам працуюць дзесяткі даследчыкаў. І псіхалагічна можна вытлумачыць, чаму тое ж XVIII стагоддзе асабліва нікога не вабіла: існавала прадузятая думка, нібы тады нічога не было, таму што не магло быць, нібы наступленне рэакцыі на чале з езуітамі зусім перапыніла развіццё беларускай культуры ўвогуле і беларускай літаратуры ў прыватнасці, нібы народ стаў нейкім непаўнацэнным, надоўга заснуў летаргічным сном.

Заснуў... Але ж народ не можа не дзейнічаць, не вылучаць творцаў, не ствараць мастацкія каштоўнасці — няхай і ў іншамоўных, нязвычных формах. Беларусь не магла быць літаратурнай пустыняй, калі наўкола, у Расіі, Польшчы, на Украіне, пышна квітнелі барока, класіцызм, сентыменталізм. Значыць, напрошваўся вывад, трэба шукаць! Доўгія пошукі далі менш твораў, чым хацелася б, але больш, чым лічылася магчымым раней. Аказалася, што ёсць усе падставы гаварыць пра барока і класіцызм, пра асветніцкія праявы як у шматмоўнай літаратуры тагачаснай Беларусі, так і ва ўласна беларускай літаратуры. Зрэшты, тут яшчэ многа нявысветленага, нязнойдзенага.

Калісьці такое бязмежжа работы мяне нервавала. Хацелася як мага хутчэй перарабіць яе, каб потым раскашавацца адносна свабодным часам. Але паступова прыйшло разуменне, што жыццё ёсць няспыннае дзеянне. І ўжо іншая справа, што ў гэтым дзеянні трэба больш строга, чым гэта атрымоўвалася ў мяне, адмяжоўваць асноўнае ад другараднага.

У жыцці так цяжка аддзяліць галоўнае ад неабавязковага. Ды і што лічыць асноўным? Картатэку па XVIII і XIX стагоддзях, сабраную за дваццаць пяць год даследчыцкай работы? Пошукі невядомых твораў, забытых матэрыялаў? Але ж усё гэта, як сказаў адзін блізкі мне чалавек, зусім непатрэбна асноўнай масе чытачоў, якая чакае толькі раманаў і аповесцей, усё гэта ніяк не ўплывае нават на літаратурны працэс... Адказваючы тады, я парыраваў, што тыя знаходкі ўзмацняюць «сілавое поле» нашай літаратуры, высвятляюць яе вытокі, часта служаць пажыўнай глебай, угнаеннем, на якім узрастае прыгожае пісьменства (напрыклад, гістарычныя раманы). Урэшце, трэба ўзнаўляць гістарычную справядлівасць: у літаратурным працэсе нішто не павінна быць забыта... Сябе я ў той момант пераканаў, што гэта сапраўды так. Толькі мой субяседнік усё ж застаўся пры сваёй ранейшай думцы.

Шукаючы патрэбныя матэрыялы, выконваючы даручэнні Саюза пісьменнікаў, мне давялося даволі многа ездзіць па Беларусі, па ўсёй нашай Савецкай краіне, пабываць за яе межамі. Для мяне сталі блізкімі і дарагімі велічныя вежы і сцены Крамля, палацы Ленінграда, шырокі разліў Волгі ў Саратаве, пакрытыя вінаграднікамі ўзгоркі Малдавіі, сівыя вяршыні Каўказа і Цянь-Шаня. Заўсёды хораша на Украіне: у старажытных Кіеве і Львове, сярод стэпаў Днепрапятроўшчыны, ля стром Крыма і Прыкарпацця. Нібы ў родны дом еду ў Вільнюс, дзе столькі сяброў і столькі сваякоў. Даспадобы прыйшліся каларытныя вулачкі Рыгі і Таліна. Добра працавалася і гасцілася ў Варшаве і Кракаве, Познані і Гданску, Лодзі і Беластоку. Радавалася вока адбудаваным Берлінам, музейным Веймарам, гістарычным Патсдамам, акуратным Эрфуртам. А ў канцы 1982 года два месяцы я правёў у Англіі: працаваў у бібліятэках, аглядаў помнікі гісторыі сівога Альбіёна... Аднак ва ўсіх падарожжах думкі нязменна імкнуліся на радзіму — нават не столькі ў Мінск, колькі на ціхую, задуменную Астравеччыну. Корпаючыся ў бібліятэках і архівах, я адначасова шукаў і матэрыялы па яе гісторыі. Потым паехаў туды на адно лета, другое, пабываў у калгасах, пазнаёміўся з многімі цудоўнымі працаўнікамі. Так нарадзілася кніга «Астравеччына, край дарагі...», якой я хацеў хоць часткова сплаціць доўг перад родным

кутком зямлі. Гэта яшчэ адна спроба «вырвацца» ў сучаснасць. Відаць — не апошняя.

Пішучы гэтыя радкі, я ўвесь час трывожна думаў: а што далей? Ну, выйдзе гістарычная аповесць «Восень пасярод вясны», падзеі якой разгортваюцца на той жа Астравеччыне (у аснову пакладзены апрача архіўных матэрыялаў пачутыя ў дзяцінстве паданні). Ну, падрыхтуем «Біябібліяграфічны слоўнік пісьменнікаў Беларусі», над якім цяпер працуе амаль увесь наш сектар беларускай дакастрычніцкай літаратуры. А потым? Трэба будзе ўрэшце закончыць (у сааўтарстве з А. Лапінскене) кніжку пра беларуска-літоўскія літаратурныя ўзаемасувязі. І зноў вярнуцца да славянскай мемуарыстыкі — на гэты раз XIX стагоддзя. Яшчэ раз напісаць пра норавы «даўнейшых» беларусаў. Бо мы добра ведаем, колькі яны мелі зямлі, колькі дзён хадзілі на паншчыну, колькі чаго прадавалі, а вось як яны наводзілі сябе ў паўсядзённым побыце, як любілі, ненавідзелі, што елі і што апраналі, як абсталёўвалі сваё жытло,— усё гэта ўяўляем даволі цьмяна, прыблізна...

Постаці мінулага ўсё часцей узнікаюць у маім уяўленні, нібы жывыя. Толькі ці хопіць сіл, часу і здольнасці ўсё гэта ўвасобіць на паперы?!

1977-1983

# 1 Гарады, людзі, кнігі

## НІБЫ АДЗІН ДЗЕНЬ

Чатыры тыдні для знаёмства з іншай краінай — час мікраскапічна мізэрны. Нават для таго, хто пра гэтую краіну ўжо сёе-тое чытаў і сяк-так сачыў за яе перыёдыкай. Асабліва калі ўлічыць, што ехаў я ў Польшчу не турыстам, якому толькі і клопату, што вандраваць, пазіраць ды запісваць, а з камандзіроўкай Інстытута літаратуры АН БССР у кішэні. Ехаў, каб адшукаць некаторыя матэрыялы па гісторыі беларускага пісьменства і сувязей яго з польскай літаратурай. На наведанне славутасцей, па сустрэчы з калегамі па варштаце, на тэатры і кіно заставаліся толькі нядзельныя дні і вечары. І таму гэтыя нататкі не прэтэндуюць на асаблівыя абагульненні.

Нейк ужо так шчасліва склалася, што час, калі я быў у Польшчы, супаў з шэрагам цікавых міжпародных мерапрыемстваў. Калі наш цягнік імчаў па мосце цераз Віслу, з акна было відаць, як на стадыёне Дзесяцігоддзя Народнай Польшчы віталі лідэраў велагонкі міру — і потым з тыдзень уся Варшава, ад падлеткаў да сівых прафесараў, літаральна жыла гэтай велагонкай. Праз некалькі дзён у Палацы культуры і навукі адкрыўся восьмы Міжнародны кніжны кірмаш, на якім дзве вітрыны былі запоўнены прадукцыяй беларускіх выдавецтваў...

Усімі колерамі вясёлкі пераліваліся сцягі розных краін не толькі ў Варшаве. Поезд Варшава — Кракаў прыбыў па вакзал старадаўняй польскай сталіцы якраз у той момант, калі ў «Апола», адным з лепшых кракаўскіх кінатэатраў, пачаўся чарговы фестываль кароткаметражных фільмаў, у якім удзельнічалі многія краіны свету. Дэманстраваліся вельмі цікавыя творы, розныя па тэматыцы і па творчай манеры. Асабліва моцнае ўражанне пакінуў польскі кароткаметражны фільм «Ясны дзень свабоды».

І ўрэшце — о, супадзенне! — кракаўскі экспрэс спыніўся пад крытым перонам познанскага вакзала ў тое імгненне, як па радыё пачалася трансляцыя з адкрыцця Міжнароднага кірмашу. Трыццаць другі раз сабраліся ў Познані прамыслоўцы і прадстаўнікі гандлю розных кантынентаў, каб паглядзець на чужое, пахваліцца сваім. Ну і, вядома, каб нешта купіць ці прадаць. На скрыжаванні векавых гандлёвых шляхоў, ля падножжа арыгінальнай тэлевізійнай вежы, гаспадары прапануюць цяпер не столькі пітны мёд або бурштынавыя каралі, колькі магутныя краны і нават цэлыя заводы. Вабяць экзатычнасцю павільёны Індыі, краін Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі. Але, як

заўсёды, найбольшая цесната — ля павільёна СССР. У той час, як амерыканцы «гваздом» сваёй экспазіцыі зрабілі дэманстрацыю ультрасучасных... спінінгаў, тут выстаўлены станкі, аўтамашыны, тэлевізары, халадзільнікі. Сярод іх ёсць і вырабы з маркай беларускіх заводаў. Для таго каб пашырыць веды польскіх чытачоў аб нашай краіне, у дні кірмашу тыднёвік «Край рад» абвясціў спецыяльны конкурс. Яго ўдзельнікам прапануецца адказаць і на пытанне аб прамысловым будаўніцтве ў Савецкай Беларусі.

Знаходзячыся ў Польшчы, я літаральна на кожным кроку бачыў праяўленні той братэрскай дружбы, якая звязвае нашы народы. Трактар «Беларусь» па палетках пад Кракавам. Мінскі самазвал на будаўніцтве вышынных дамоў па Маршалкоўскай. Тэлевізар «Нёман» у доме варшаўскага служачага. Перапрацоўка беларускай песні «Бывайце здаровы», якую я пачуў ля таго ж тэлевізара ў выкананні артыстаў Чанстахоўскага тэатра. Беларуская кніга ў вітрынах новых паступленняў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, Ягелонскай — у Кракаве, Рачынскіх — у Познані. Але не толькі гэта. Польшча цікавіцца жыццём Савецкай Беларусі, яе літаратурай і мастацтвам. Цікавіцца — і вывучае, даследуе. Паяўляюцца кнігі, артыкулы, пераклады. Маладыя літаратуразнаўцы з кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Міхал Кандрацюк і Мікалай Урублеўскі нядаўна выдалі брашуру пра народных песняроў Беларусі Янку Купалу і Якуба Коласа, прасачылі там іх сувязі з польскай літаратурай. У першым томе «Вялікай усеагульнай энцыклапедыі», які ў маі месяцы атрымалі падпісчыкі, ёсць грунтоўны артыкул вядомага вроцлаўскага славіста Мар'яна Якубца пра шматвяковую гісторыю беларускага пісьменства. Аўтар выкарыстоўвае самыя апошнія працы нашых літаратуразнаўцаў. У тым жа томе — вялікія артыкулы пра Беларусь у цэлым і беларускае мастацтва ў прыватнасці (апошні напісаны Стэфанам Казакевічам). Асабліва вялікая цікавасць да жыцця нашай рэспублікі ў творчай інтэлігенцыі і студэнтаў. Мне давялося прысутнічаць на сустрэчы з дэлегацыяй нашага Таварыства савецка-польскай дружбы ў Варшаўскім аддзяленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. З якой увагай прысутныя слухалі паведамленне Пятра Глебкі аб сённяшнім дні нашай літаратуры, з якой настойлівасцю прасілі прысылаць пабольш беларускіх кніг і грампласцінак! Я пабываў таксама на практычных занятках на той жа кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дзе пад кіраўніцтвам дацэнта Мінскага педінстытута М. Лазарука і яго варшаўскага калегі, аўтара цікавага паэтычнага зборніка «Белавежскія матывы» А. Барскага (Баршчэўскага), студэнты авалодвалі гісторыяй беларускай

літаратуры. І, паверце, у нязвыклым крыху вымаўленні элегантных варшаўскіх студэнтак добра гучалі і Колас, і Багушэвіч!

Адпраўляючыся ў падарожжа, у сваім падручным сшытку я склаў даволі доўгі спіс тых польскіх літаратараў і літаратуразнаўцаў, якія маюць дачыненне да Беларусі, нарадзіліся тут або пісалі пра яе. На жаль, не з усімі ўдалося сустрэцца. Ежы Путрамант паехаў на улюбёныя мазурскія азёры. Унук беларускага паэта Вінцэся Каратынскага, рэдактар газеты «Жыце Варшавы» І енрык Каратынскі, у якога маглі захавацца некаторыя рукапісы дзеда, якраз адбыў у Жэневу. З сардэчнай удзячнасцю ўспамінаю прафесара А. Абрэмбскую-Яблонскую, якая, нягледзячы на выключную занятасць, зрабіла усе магчымае, каб мая камандзіроўка дала найбольшы плён. Энергічная і нястомная, усебаковы эрудыт, яна адначасова ўзначальвае кафедру беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце і сектар беларускай філалогіі ў Інстытуце славяназнаўства ПАН. Прафесар А. Абрэмбская-Яблонская з'яўляецца адным са стваральнікаў першага польска-беларускага слоўніка, які нядаўна выйшаў з друку. Цяпер на яе рабочым стале — заключны (сёмы) том «Беларускага народа» М. Федароўскага, атлас беларускіх гаворак на Беласточчыне. А ў перспектыве — беларуска-польскі слоўнік.

У Кракаве некалькі разоў удалося гутарыць з прафесарам Ягелонскага універсітэта Станіславам Тадэвушам Грабоўскім. Яшчэ да першай сусветнай вайны ён многа падарожнічаў па Беларусі, пісаў пра яе. Цяпер прафесар Грабоўскі даследуе беларуска-польскае літаратурнае пагранічча, вывучае творчасць Баршчэўскага, Федароўскага. Нягледзячы на свае восемдзесят з лішнім гадоў, Нестар кракаўскіх славістаў поўны жадання яшчэ раз пабачыць Беларусь, пра якую, як мне казалі яго малодшыя калегі, у сваіх лекцыях ён гаворыць з асаблівым сентыментам. Ды ці толькі прафесар Грабоўскі?! Вядомы літаратар Юльюш Гамуліцкі, з якім нас пазнаёмілі пасля яго лекцыі пра Норвіда ў Варшаўскім універсітэце, расчулена прыгадваў, што яго бацька, паэт Віктар Гамуліцкі, наведваў беларускую вёску і прысвячаў ёй свае вершы. Ураджэнец Чэрвеньшчыны, адзін з самых папулярных у сучаснай Польшчы пісьменнікаў і тэлеапавядальнікаў, чалавек нялёгкага творчага лёсу Мельхіёр Ванькові на добрай беларускай мове дэкламаваў Багушэвіча і Манеру, паказваў рэдкія здымкі, зробленыя ў час колішніх падарожжаў па Беларусі, а таксама аўтапартрэт свайго продка, мінскага мастака Валянціна Ваньковіча. Цікавы субяседнік, М. Ваньковіч любіць нечакана ўставіць у гутарку сакавітае беларускае «слаўцо».

Мне вельмі спадабалася тая тонкасць, з якой палякі спалучаюць павагу да ўсяго лепшага, створанага іншымі народамі, з ушанаваннем нацыянальных традыцый. У Народнай Польшчы ўмеюць зберагаць усё тое, што засталося ад мінулых стагоддзяў. З якой любоўю адбудаваны сярэдневяковыя камяніцы на рынку Старога мяста ў Варшаве, адноўлены тыя сімвалічныя казлы, што ў поўдзень выходзяць па балкон Познанскай ратушы. Як прадумана размешчаны экспанаты на выстаўках «450-годдзе першай польскай друкаванай кнігі» і «1000-годдзе польскай дзяржавы», якія мне пашчасціла паведаць у Варшаве. Асабліва свята зберагаюцца рэвалюцыйныя традыцыі. Да кожнага дома, ля якога ў час вайны фашысты расстрэльвалі польскіх патрыётаў, цяпер прымацавана мемарыяльная дошка з усхваляванымі словамі, а да яе кожную раніцу чыесьці рукі кладуць букеты жывых кветак.

А колькі наведвальнікаў заўсёды тоўпіцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве, дзе выстаўлены шэдэўры Матэйкі, Міхалоўскага і іншых класікаў польскага жывапісу (дарэчы, ёсць тут і творы нашых землякоў, напрыклад, партрэты І. Аляшкевіча). Праўда, сюды часам трапляла і беспардонная мазня, але нядаўна польскія музеі перасталі купляць «эксперыментальныя» творы. Тое ж самае можна сказаць аб польскім тэатры. На «сучаснай» оперы Г. Чыжа «Белавалосая» прысутнічала ўсяго некалькі дзесяткаў слухачоў, затое на манюшкаўскую «Гальку» нельга дастаць білетаў. Палякі любяць класіку і ўмеюць яе ставіць так, каб яна гучала сучасна. Я маю на ўвазе «Сярэбраны сон Саламеі» Ю. Славацкага ў Польскім тэатры ў Варшаве (у пастаноўцы К. Скушанкі) і міцкевічаўскія «Дзяды» на сцэне тэатра імя Славацкага ў Кракаве (сцэнічны варыянт і рэжысура Б. Каржанёўскага). Кракаўскім артыстам удалося стварыць хвалюючы, арыгінальны спектакль. Адзінае пярэчанне, з майго пункту гледжання, выклікаюць касцюмы беларускіх сялян — празмерна ўмоўныя, падобныя хутчэй не на світкі, а на манаскія сутаны. Асобная тэма — багатыя ўражанні ад оперных і балетных твораў («Блудны сын» К. Дэбюсі, «Свята вясны» І. Стравінскага, «Юдзіф» А. Ганегера, аб'яднаныя агульнай тэмай любові — да сына, жанчыны, радзімы).

Аднак асноўную частку майго часу занялі бібліятэчныя і архіўныя пошукі. Як вядома, гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя мае багата «белых плям». Гэта і загадкі ў жыццёвых і творчых біяграфіях такіх пісьменнікаў, як Багрым і Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч і Вярыга-Дарэўскі, Баршчэўскі і Рыпінскі. Гэта і асобныя кнігі, аб якіх вядома толькі тое, што яны існавалі. Гэта і асобныя творы, якія з-за адсутнасці беларускай друкаванай трыбуны, з-за жорсткай

цэнзуры заставаліся у рукапісах і не адшуканы да сённяшняга дня. Гэта і таямнічыя акалічнасці з'яўлення па свет некаторых выданняў, якія друкаваліся або нелегальна ў краіне, або за граніцай. Гэта... Ды ці мала што загінула ў гады, калі каралі нават за захоўванне беларускіх кніжак, ці мала што спалена ў завірусе дзвюх войнаў, а то і проста сцёрта няўмольным часам. Дастаткова сказаць, што і сёння яшчэ не адшуканы асабістыя архівы Дуніна-Марцінкевіча і Лучыны, Багушэвіча і Вярыгі-Дарэўскага. Вядома толькі, што іх паперы часткова траплялі і ў зборы Ельскага, і да Кіркора, і да Зямкевіча. Але дзе гэтыя самыя зборы?

І вось, працуючы над даследаваннем беларуска-польскіх літаратурных сувязей у XIX ст., я ўбачыў, што вельмі часта ніткі архіўных пошукаў вядуць у братнюю Польшчу. Туды часткова трапілі зборы А. Ельскага. Там, у Варшаве, жыў Р. Зямкевіч, які збіраў (а то і проста выкрадаў з бібліятэк) усё, што мела дачыненне да беларускага пісьменства. Урэшце, у Польшчы, у Кракаве і Познані, былі выдадзены кнігі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская», «Тралялёначка», «Смык беларускі». Магчыма, у друкарнях У. Анчыца і Р. Нікульскага захаваліся рукапісныя арыгіналы?! Магчыма, там жа знаходзіцца і яшчэ адзін зборнік класіка нашай літаратуры — «Скрыпка беларуская»?! Па меншай меры, польскія біёграфы Багушэвіча (і пра гэта ўжо згадваў С. Александровіч) называюць яе побач з іншымі друкаванымі зборнікамі паэта. А калі «Скрыпка» друкавалася, то, магчыма, там жа, дзе «Дудка» або «Смык»...

Літаральна на першым кроку варшаўскіх пошукаў мяне спаткала расчараванне. На кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта мне паведамілі, што пасля смерці Р. Зямкевіча яго зборы трапілі ў рукі Ю. Галомбака, аўтара вядомай манаграфіі пра Дуніна-Марцінкевіча. На жаль, у 1944 годзе дом Галомбака быў ушчэнт разбураны бомбай і, такім чынам, рукапісныя скарбы Зямкевіча назаўжды загінулі. Бяда, як кажуць, ходзіць у пары: у Нацыянальнай бібліятэцы я даведаўся, што ў час вайны згарэлі таксама ўсе эмігранцкія зборы, якія паходзілі з Рапэрсвіля (Швейцарыя). А там жа, як бачна з вопісу, апублікаванага яшчэ ў 1929 годзе, захоўваліся некаторыя нелегальныя выданні на беларускай мове (напрыклад, «Змова»), перапіска В. Дуніна-Марцінкевіча з прагрэсіўнымі эмігранцкімі арганізацыямі.

Аднак за пасляваенныя гады рукапісны аддзел Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве набыў мноства прыватных архіваў, якія яшчэ но поўнасцю апрацаваны і апісаны. Ці не пашукаць там? У старадаўнім, адноўленым з руін палацы па плошчы Красінскіх мяне сустракаюць

надзвычай ветліва. Так, сёе-тое ёсць. Вось у зборах вядомага польскага паэта З. Пшасмыцкага і мінскага музыказнаўца А. Валіцкага трапляюцца лісты і польскія вершы Янкі Лучыны. Праўда, частка з іх ужо вядома. І раптам — больш буйная знаходка: паэма В. Дуніна-Марцінкевіча «З-над Іслачы». Яе рукапіс бібліятэка зусім нядаўна набыла ад М. Круповіч. «Апавяданне Навума Прыгаворкі ў 2-х частках з-над Іслачы, або Лякарства на сон» датавана 1868 годам. Як і ў іншых творах паэта, польскі тэкст чаргуецца з беларускім. У паэме аўтар рэалістычна паказаў тое шляхецкае асяроддзе, у якім ён жыў (Іслач — рэчка ля Люцынкі). Між іншым, паяўляецца ўжо і Сабковіч, які пазней стане цэнтральным героем «Залётаў». На першай старонцы рукапісу стаіць пячатка А. Ельскага. Значыць, не легенда, што ў Ельскага, у Замосце захоўваліся паперы Дуніна-Марцінкевіча. Значыць, сюды, у Нацыянальную бібліятэку трапіла частка збораў вядомага беларускага калекцыянера і аматара старасвеччыны.

Старанна праглядаю вопісы далей. Асаблівую ўвагу звяртаю на прозвішча Ельскага. Вось яно сустракаецца зноў. Невялікая кніга, у якой пакідалі свае водгукі наведвальнікі музея А. Ельскага ў Замосці. Усяго зроблена 225 запісаў на рускай, польскай, французскай, нямецкай і нават дацкай мовах. Гучыць беларускае слова. І нават вершаванае.

І вось у апошні дзень перад ад'ездам у Кракаў выпадкова я натрапіў на вопіс Галоўнага архіва старажытных актаў і, хаця польскія калегі запэўнівалі мяне, што там нічога беларускага няма, старанна праштудзіраваў кожную старонку. На адной з іх значыўся архіў Прозараў і... Ельскіх. Толькі «тых» Ельскіх ці не «тых»? Прыйшлося адкласці выезд у Кракаў і перабазіравацца з плошчы Красінскіх на Длугую вуліцу.

У Галоўным архіве старажытных актаў высветлілася, што ў 1946 г. з Нацыянальнага музея сюды сапраўды трапілі рэшткі папераў Ельскага, якія ў сваёй большасці былі знішчаны ў першую сусветную вайну. Захаваліся, ш правіла, толькі маёмасныя дакументы. Аднак есць і невялікая папка з надпісам «Матэрыялы па беларускай літаратуры. 1517-1896». Адкрываю яе. Пераважна нататкі па бібліяграфіі беларускай літаратуры, ужо апублікаваныя ў «Хвілі» і «Краі» і таму вядомыя. Але вось рукапісны зборнік вершаў невядомага дагэтуль беларускага паэта, які ахарактарызаваў сябе наступным чынам: «Склаў селянін Мінскай губерні, Навагрудскага павета, Нягневіцкай воласці, сяла Лаўрышава Мікалай Фёдараў Марозік 1890 года; усіх твораў маю больш пятнаццаці на розныя тэмы». Тут жа — экземпляры рэдкіх беларускіх выданняў, пісьмы К. Каганца, Р. Зямкевіча і інш.

І ўсё ж праграма ёсць праграма: трэба ехаць у Кракаў. Гэты горад таксама мае немалое дачыненне да беларускай літаратуры. Тут выдаваліся творы Багушэвіча. Тут жылі і вучыліся Скарына і Цётка. Тут памёр А. Кіркор, адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры, які ў сваім курсе «Аб літаратуры братніх славянскіх народаў» пісаў, у прыватнасці, што беларускія творы А. Вярыгі-Дарэўскага «Гутарка з пляндроўкі па зямлі латышоў», «Быхаў» і інш. былі надрукаваны значным тыражом. А паколькі ў савецкіх бібліятэках гэтыя творы не захаваліся, то, можа, яны, прынамсі, адшукаюцца сярод папераў таго ж Кіркора...

І зноў — расчараванне. У бібліятэцы Ягелонскага універсітэта, адным з найбольшых кнігасховішчаў Польшчы, захавалася толькі частка архіва А. Кіркора. У ёй ёсць многа матэрыялаў па беларускай этнаграфіі, археалогіі, ёсць запісы беларускіх пародных песень, але няма нічога, што непасрэдна датычылася б беларускай літаратуры або асобы Вярыгі-Дарэўскага. Праўда, у рукапісным аддзеле той жа бібліятэкі знайшліся вельмі цікавыя пісьмы А. Ельскага да Ю. Крашэўскага, а таксама польскія творы Ф. Савіча і іншых беларускіх аўтараў. Але паколькі яны патрабуюць асобнай гаворкі, не буду спыняцца па іх, як не буду спыняцца на матэрыялах пра А. Вярыгу-Дарэўскага і Э. Жалігоўскага, што захаваліся ў бібліятэцы Чартарыскіх.

Хочацца больш падрабязна спыніцца на пошуках, звязаных з асобай Ф. Багушэвіча. Як вядома, у Кракаве, у друкарні Уладзіслава Анчыца пры пасрэдніцтве Яна Карловіча былі надрукаваны «Дудка беларуская» і «Тралялёначка». Беларускі паэт прыязджаў сюды ў ліпені 1891 года па VI з'езд польскіх даследчыкаў прыроды. Багушэвіч перадаў Кракаўскаму нацыянальнаму музею некалькі каштоўных рэчаў. Магчыма, захаваліся нейкія дакументальныя сляды ўсяго гэтага? Першым чынам трэба высветліць, дзе цяпер архіў друкарні У. Анчыца. Супрацоўнікі бібліятэкі Ягелонскага універсітэта ўстанаўліваюць, што паперы У. Анчыца не трапілі ў дзяржаўныя сховішчы. Тут жа нехта ўспамінае, што яшчэ жыве ўнучка Анчыца. Тэлефонны званок да Зофіі Тшабіцкай.

— Не,— адказвае яна,— папераў майго дзядулі ў мяне няма. Яны ўсе засталіся ў будынку друкарні па Звежынецкай вуліцы. Калісьці яна належала майму дзядулі, а цяпер — дзяржаве. Пагаварыце з дырэктарам.

— На жаль, нічым не магу вам дапамагчы,— разводзіць рукамі дырэктар Выдавецкай друкарні таварыш Пежынка.— На паддашку сапраўды захоўваецца частка папераў Анчыца. Але яны яшчэ не ўпарадкаваны. Апрача таго, тут знаходзіцца архіў толькі ад 1901 года,

калі друкарня пераехала з Сенаторскай на Звежынецкую, вас жа цікавіць пачатак 90-х гадоў XIX ст. Не ўяўляю, што сталася з архівам друкарні на Сенаторскай. Можа, што памятае сябар Анчыца, уладальнік антыкварнага магазіна на Шчапанскай плошчы Мар'ян Кшыжаноўскі. Калісьці ён сам быў кнігавыдаўцом.

— Так, памятаю,— старэчым шэптам кажа гаспадар антыкварыята.— Памятаю, што Анчыц выдаваў нейкі зборнік на беларускай мове. Але калі яго перапраўлялі нелегальна цераз граніцу з Расіяй, увесь тыраж канфіскавалі і спалілі. Так, здаецца, зборнік называўся «Скрыпачка». А што датычыцца архіва друкарні на Сенаторскай — нічога не памятаю. Стары Анчыц наогул не паважаў паперы, усю дакументацыю трымаў у кішэні. А ўрэшце спытайцеся ў майго сябра і аднагодка прафесара Казімежа Віткевіча. Вось яго адрас.

— Сёння ўжо цяжка гэта ўзнавіць у памяці,— уздыхае прафесар Віткевіч.— Калі з часам успомню, напішу вам.

Паступова ў пошукі ўключаліся ўсё новыя і новыя асобы — з ваяводскага архіва, з архіва і бібліятэкі Кракаўскага аддзялення ПАН, з Нацыянальнага музея. Але так і не ўдалося адшукаць паперы са старой друкарні Анчыца па Сенаторскай вуліцы, знайсці дакументальныя звесткі аб удзеле Багушэвіча ў з'ездзе даследчыкаў прыроды, аб яго падарунку для Нацыянальнага музея (магчыма, каштоўнасці ўручаліся ананімна). Не дала вынікаў і спроба звязацца з унучкай Багушэвіча — Канстанцыяй Пшаднікоўскай, якая якраз пераехала з Ольштына ў Сопат. Заставалася адзіная надзея на Познань, дзе ў 1894 годзе Р. Нікульскі «сваім коштам» друкаваў «Смык беларускі».

Але ў Познані — новая неспадзяванка. Пры пасрэдніцтве прафесара Вайцяхоўскай, а таксама намесніка дырэктара бібліятэкі Познанскага універсітэта прафесара Паўлікоўскага, які ўзначальвае познанскую рэдакцыю «Слоўніка людзей польскай кнігі», прыйшлося канстатаваць, што ніякага выдаўца Р. Нікульскага наогул не існавала, што «Смык беларускі» надрукаваны шрыфтам, якога ў той час не было ні ў адной з познанскіх друкарняў, што кніга зусім не значыцца ў справах нямецкага паліцайпрэзідыума. Значыць, «Смык» выдадзены не ў Познані...

Дало свой плён і знаёмства са старой польскай перыёдыкай. Да гэтага часу, напрыклад, лічылася, што першым водгукам на «Дудку беларускую» з'яўляецца рэцэнзія Е. Раманава, змешчаная ў 1894 годзе на старонках «Гродненских губернских ведомостей». Аднак пошукі паказалі, што гэта не так. Прагрэсіўны кракаўскі часопіс «Пшэглёнд повшэхны» адгукнуўся на выхад зборніка Ф. Багушэвіча яшчэ ў маі 1892 года. Аўтар рэцэнзіі, Тытус Саподзька, відаць, паходзіў з

Беларусі, бо сістэматычна і з веданнем справы пісаў пра грамадскае і культурнае жыццё на беларускай зямлі. Так, у студзеньскім нумары таго ж часопіса за 1891 год змешчаны яго артыкул «Да пытання аб беларускай археалогіі».

Т. Сaподзька дае зборніку Ф. Багушэвіча высокую ацэнку: «Гэта быццам чуллівае рэха скаргі, якое далятае з далёкай і амаль забытай правінцыі паміж Дзвіной, Дняпром і Прыпяццю». У «Дудцы беларускай», напісанай «невядомым песняром», рэцэнзент вылучае «сімпатычны ўступ», разлічаны на самыя шырокія колы чытачоў. На думку Саподзькі, найбольшую каштоўнасць маюць вершы «Хрэсьбіны Мацюка» і «Праўда», якія цытуюцца ў каментарыях да рэцэнзіі ў арыгінальным гучанні. У заключэнне аўтар выказвае шкадаванне, што «пэўны час нельга нават і думаць, каб «Дудка» магла распаўсюджвацца сярод беларускага народа, якому яна прынесла б сапраўдную карысць».

Відаць, частка тыражу «Дудкі беларускай» не была адпраўлена ў Беларусь і засталася ў Галіцыі. Час ад часу зборнік трапляў у рукі таго або іншага польскага даследчыка. Так, высокую ацэнку творам Ф. Багушэвіча даў у 1912 годзе вядомы вучоны Л. Васілеўскі. У кнізе «Літва і Беларусь» ён адзначыў: «Багушэвіч галоўным чынам пісаў добрыя творы, прасякнутыя цудоўным народным гумарам або ціхай меланхоліяй. Для паэзіі Багушэвіча, у якой многа твораў, вельмі прыгожых з эстэтычнага пункту гледжання, характэрны сардэчная любоў да народа, спачуванне яго долі і нядолі, таксама глыбокая прывязанасць да Белай Русі і ўсяго беларускага».

Польскі друк адгукнуўся таксама на вестку аб смерці Янкі Лучыны і на выхад яго варшаўскага паэтычнага зборніка 1898 года. У варшаўскай «Праўдзе», хаваючыся пад крыптанімам «Н», рэдактар часопіса, вядомы тэарэтык літаратуры Аляксандр Свентахоўскі апублікаваў некралог, які пачынаецца словамі: «У Мінску памёр чалавек, якога не ведала шырокая грамадскаць, якога гісторыя літаратуры яшчэ не ўвекавечыла на сваіх старонках, а пасля смерці часопісы не прысвяцілі яму нават дробнай нататкі. Стоячы ўдалечыні, на ўзмежку, ён не быў фаварытам, не меў падтрымкі, не стаў пестуном якога-небудзь часопіса, не здабыў сабе сяброў, якія напісалі б некралог, хоць у сваёй душы ён хаваў і талент, і запал. Ён любіў прыроду... на яе ўлонні выхаваўся і яе прывабнасцю захапляўся. Быў ён чалавекам добрым і справядлівым, змог у сабе падтрымліваць агонь духоўнага энтузіязму, нягледзячы на фізічныя пакуты». Затым, працытаваўшы ўрывак з «Паляўнічых замалёвак», А. Свентахоўскі рэкамендуе выдаць беларускія вершы Янкі Лучыны: «Мы ведаем многа яго твораў, якія дагэтуль не друкаваліся. Сярод іх ёсць таксама абразкі,

маляўніча напісаныя на беларускай мове. Варта, каб хто-небудзь заняўся гэтай спадчынай, аб'яднаў бы яе ў вязанку, кветкі якой узбагацілі б мастацкую літаратуру». І, хто ведае, магчыма, улічваючы гэтую параду А. Свентахоўскага, пецяроургскія студэнты назвалі беларускі зборнік Янкі Лучыны 1903 года «Вязанкай»...

Варшаўскі зборнік беларускага паэта дачакаўся у польскім друку трох рэцэнзій. Першым выступіў з кароткай нататкай у газеце «Век» (1898, № 262) Юзафат Навінскі. Затым у газеце «Слова» (1899, № 107) апублікаваў рэцэнзію вядомы гісторык літаратуры Ігнацы Хшаноўскі, а ў часопісе «Бібліятэка варшавска» (1899, кастрычнік) — Аўрэлі Драгашэўскі.

Гаворачы аб творах Я. Лучыны, І. Хшаноускі асабліва хваліць «Паляўнічыя замалёўкі»: «Палессе са сваімі лясамі і балотамі, з прыродай і людзьмі, якія жывуць на яе ўлонні і ўсёй душой любяць лясы і балоты, паказана ў гэтых «Замалёўках» з такой жа сімпатыяй і па-свойску, як і ва «Уласе» Сыракомлі. Толькі гэта — не «ваяўнічыя», а «паляўнічыя» ідыліі... Відаць, што аўтар зжыўся з Палессем, відаць, што любіў яго, што, як і яго настаўнік (Сыракомля.— А. М), умеў прыкмеціць сапраўдную прывабнасць у пушчах, барах і балотах». Адзначаючы залежнасць твораў Я. Лучыны ад паэзіі Сыракомля І. Хшаноўскі адначасова падкрэслівае іх арыгінальнасць, высокую мастацкасць: «І ўвогуле ва ўсіх гэтых замалёўках ёсць не толькі жывасць апавядання і пластычнасць у апісаннях прыроды, не толькі незвычайная назіральнасць, але і пачуццё — глыбокая прывязанасць да радзімай зямлі, да старых людзей, да шчаслівых хвілін маладосці, ёсць, урэшце, сапраўдны гумар — смех скрозь слёзы».

У адрозненне ад І. Хшаноўскага, А. Драгашэўскі акцэнтаваў увагу на сацыяльнай значнасці лірыкі Лучыны, на яго любові да народа. Параўноўваючы верш «Калі зацвіце колас» з некаторымі кальцоўскімі творамі, рэцэнзент знаходзіць у ім перш за ўсё не запазычанае, а арыгінальнае, навеянае жыццём. «Грудзі паэта,— пісаў Драгашэўскі,— напоўнены тымі ж пачуццямі, якія жывуць у грудзях Грышкі і Базыля».

Рэцэнзіі на зборнік Янкі Лучыны 1898 года, якія былі апублікаваны ў варшаўскім друку і прыцягвалі ўвагу польскага чытача да спадчыны беларускага паэта, сведчаць аб тым, што польская літаратурная грамадскасць добра ведала яго імя і яго творчасць.

У гэтых нататках названа толькі частка з таго, што цікавіла аўтара ў час яго першай паездкі ў Польшчу, што знойдзена там у бібліятэках і архівах. Можна было б расказаць яшчэ аб тым, як праходзілі — і не без поспеху — пошукі аперэт С. Манюшкі на словы

В. Дуніна-Марцінкевіча. Расказаць аб забытых кнігах па гісторыі нашага пісьменства (напрыклад, аб працы М. Рудзінскай-Фраэліховай «Заўвагі пра беларускую літаратуру»).

...Чатыры тыдні прабывання ў Польшчы прайшлі нібы адзін кароткі дзень. Дзень, у якім не хапіла нават часу, каб наведаць Жалязову Волю, дзе нарадзіўся Шапэн, або Вілянаў, дзе ў музеі ёсць беларускія старажытнасці. Каб прыгубіць кубак гарачага мёду ў кракаўскай «Пасецы», спакойна, не пазіраючы на гадзіннік, налюбавацца Вавелем і выстаўленымі ў ім дыванамі-арасамі, вернутымі ў залы кракаўскага замка з Канады, куды япы трапілі ў ваенныя часы. Каб з'ездзіць у Вроцлаў ці Торунь, дзе таксама ёсць беларускія матэрыялы... Здаецца, толькі ўчора мяне віталі калегі з кафедры беларускай філалогіі, а сёння ўжо трэба з імі развітвацца, гаварыць: «Да пабачэння, да сустрэчы ў Мінску!» Трэба развітвацца з Польшчай, славянскай сястрой Беларусі.

1963

## У ВІЛЬНЮСКІХ РУКАПІСНЫХ СХОВІШЧАХ

Чарговыя навуковыя камандзіроўкі ў Вільнюс былі непрацяглымі, але даволі плённымі. У рукапісных аддзелах Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР і Навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта імя В. Міцкявічуса-Капсукаса знойдзены некалькі невядомых раней твораў нешматлікай па колькасці помнікаў беларускай літаратуры XVIII стагоддзя. З іх найбольш цікавыя дзве вершаваныя сатыры, прысвечаныя руска-прускай Сямігадовай вайне. Назвы гэтых сатыр да лаканічных не адносяцца: «Указ гарачы палкам Расійскім, з Прус да Масквы варочаючымся, чэрэз курыера ўсёй арміі аб'яўляем» і «Праект вялікастрашнаму войску Расійскаму напроціў няздобнаму каралю Прускаму, праз сем лет на вайне будучаму, прама чэсна напісана ліста». Невядомы нам аўтар з'едліва, часта ў непрыстойных словах высмейвае палітыку царскага двара, расказвае аб яго закулісных справах. Не менш цікавыя два вершаваныя тэксты, якія, мабыць, служылі прыпеўкамі ў час танцаў — «Тэкст скочцы» і «Тэкст втуры той жа кампазітуры». Выяўлены яны ў рукапісным зборніку «Опера...», складзеным дзесьці ў пачатку XVIII стагоддзя (у зборніку ёсць польскі твор «Ярмарка ў Навагрудку падчас бытнасці Аўгуста II ...1706 г.»). Вось пачатак даволі вялікага, у 48 радкоў, «Тэксту скочнага»:

Дзеванька цяжанька ўздыхае,

Шчо сабе дружонька не мае.
Красы з лічанька спалі,
Чорна очы запалі...

Да апошняга часу імёны Каятана Марашэўскага і Міхала Цяцерскага былі вядомы толькі па двух беларускіх драматычных творах — «Камедыі» і наследаванні-перапрацоўцы п'есы Ж. Мальера «Лекар па прымусу». У фондах Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР знайшлося некалькі польскіх твораў гэтых выкладчыкаў Забельскай гімназіі на Полаччыне. Сярод іх — датаваныя 1787-1792 гг. трагедыі «Свабода ў няволі», «Фемістокл», «Крэз», камедыі «Пышнагольскі», «Шлюб, перакручаны дагары нагамі штучкамі арлекіна», аперэта «Апалон-заканадаўца» (падзеі яе адбываюцца па Парнасе, куды прабіраецца прыгонны селянін), змястоўная арацыя «Пчолы». Усе яны сведчаць, што Марашэўскі і Цяцерскі былі людзьмі, прагрэсіўнымі для свайго часу, яркімі прадстаўнікамі класіцызму на тэрыторыі Беларусі.

Са шкадаваннем глядзеў я на стосы нотных рукапісаў, звезеных у 1864 г. у Вільню з усёй Беларусі. Цяпер яны захоўваюцца ў неапрацаваным фондзе Вільнюскага універсітэта. Тут ёсць творы, напісаныя ў Полацку і Слоніме, Віцебску і Гродне. Ёсць нотныя тэксты такіх кампазітараў Беларусі XVIII стагоддзя, як Эўзебіюш Міхалевіч (Полацк), Дэльфін Мікалаеўскі і Франц Прамнітц (Слонім), Міхал Кавалеўскі і Юзаф Казлоўскі (Забельская гімназія). Іх спадчына чакае рукі беларускіх музыказнаўцаў, якім тут хопіць работы на цэлыя гады.

Аднак і палітычныя сатыры, і лірычныя вершы, і польскія творы забельскіх драматургаў, і іншыя тэксты XVIII стагоддзя патрабуюць спецыяльнага аналізу (ён зроблены ў кнізе «На скрыжаванні славянскіх традыцый»). Тут жа хочацца расказаць аб некаторых выпадковых знаходках, якія стаяць некалькі збоку ад асноўнага накірунку маіх пошукаў.

**Хто ён, уладальнік сшытка?**

Часам карысна пагартаць вопісы фондаў, якія, на першы погляд, да Беларусі ніякага дачынення не маюць. Здавалася б, што можа быць цікавага ў паперах даваеннага, буржуазнага Каўнаскага універсітэта? Абыякава гартаю апісанні розных юрыдычных спраў, раскладаў лекцый. І раптам — па-літоўску: Рукапісны зборнік вершаў Чарота

Праз паўгадзіны са сховішча прыносяць тоўсты сшытак у ружовай вокладцы. Тры першыя старонкі парваны. Далей ідуць вершы, перапісаныя выцвілымі сёння чародамі і расплывістым хімічным алоўкам: А. Салагуб — «У дэфензіве», А. Гурло — «К. Каліноўскі»,

Ясакар — «Змаганне», Я. Купала — «Моладзі», рэвалюцыйныя песні ў беларускім перакладзе («Варшавянка», «Змучаны цяжкай няволяй», «Смелымі крокамі ўночы») і на рускай мове («Молодая гвардия», «Вперед, заре навстречу»). А вось і творы Чарота — паэма «Босыя на вогнішчы», вершы «Дымам і пажарам», «Беларусы». Імя і прозвішча Міхася Чарота выведзены буйнымі літарамі, і таму архівіст, апісваючы рукапіс, паспешліва прыняў яго за зборнік аднаго Чарота.

А далей... далей невядомы нам уладальнік сшытка, чалавек (калі меркаваць па падбору тэкстаў) рэвалюцыйна настроены, пад уражаннем перапісанага ў 1928-1929 гг. і сам спрабуе пісаць вершы, у якіх яўна адчуваецца ўплыў Янкі Купалы:

Колькі разоў я пісаць пачынаў
Цябе, дарагая заметка натхнення,
Але, пачаўшы, я хутка кідаў,
Бо не хапала цярпення.
Цяпер я нанова пісаць пачынаю,
Бо чую прыліў сілы волі,
І гэты пачатак рашуча вітаю —
Не кідаць пісаць больш ніколі!!
Шчаслівы ты ці нешчаслівы —
Будзі сыноў сваёй зямлі.
Над беларускай роднай нівай
Нязгасны светач распалі!!!

А яшчэ далей... ідзе беларускі дзённік уладальніка. Вось першыя запісы: «6. X. Субота. А палове сёмай бачыўся з Таварышам. Вызваў ён мяне дзеля заўтрашняга дня. Гутарылі доўгі час, шпацыруючы каля агароду. Заўтра ўбачымся». «8. X. Панядзелак. Не іду на лекцыі, бо парваўся бацінак... Дзень восеньскі хмурны, ідзе дождж. Нявесела на душы.

Эх, восень, восень, колькі суму
Прыносіш ты ў маю душу,
Пад завыванне ветра й шуму
Я часта горка галашу».

Паступова перад чытачом паўстае прывабны воблік аўтара працытаваных запісаў. Жыве ён у даваеннай Вільні (упамінаецца Вострая Брама), вучыцца ў беларускай гімназіі (называюцца выкладчыкі — Віслаух, Ральцэвіч), удзельнічае ў нелегальнай рабоце (чытае рабочым шкляной гуты творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў), падтрымлівае сувязь з паэтамі-рэвалюцыянерамі (ліст ад Алеся Салагуба, гульня ў шашкі з Валянцінам Таўлаем). У свабодныя хвіліны невядомы нам па прозвішчу юнак чытае творы беларускай і польскай класікі,

ходзіць разам са сваёй сяброўкай па маляўнічых ваколіцах Вільні, любуецца краявідамі. А ў сэрцы ўвесь час жыве туга па роднай вёсцы, па матулі, якая прысылае лісты, напісаныя нязграбнымі каракулямі.

У часы, калі за кожным крокам сачылі шпікі, калі не было чым заплаціць за вучобу, хлопцу жылося нялёгка. У 1929 годзе адбылася яго бурная размова з дырэктарам гімназіі Астроўскім (аўтар дзённіка не шкадуе па яго адрасу «цёплых» слоў) — і давялося пакаваць клункі. Цягніком юнак дабіраецца да Смаргоні, а адтуль на сялянскай фурманцы — у родную вёску. Пачынаецца нялёгкае жыццё падпольшчыка, які вядзе агітацыйную работу сярод сялян. І раптам, пасля прыходу «таварыша Аляксандра», тэкст абрываецца. Мабыць — арышт!

Хто ж уладальнік рукапіснага зборніка рэвалюцыйных твораў? Каму належаць гэтыя вельмі шчырыя і мужныя запісы? Ведаем мы пра яго вельмі нямнога. Звалі яго Уладзімірам (ёсць зварот сябра: «Браток Валодзька»). У 1929 годзе ён быў выключаны з Віленскай беларускай гімназіі. Бацькі яго жылі дзесьці каля Вішнева (аўтар ходзіць туды з вясковымі хлопцамі). І — усё.

Хочацца верыць, што чытачы кнігі дапамогуць устанавіць прозвішча юнака-рэвалюцыянера, здольнага маладога літаратара. А можа, і ён сам дзесьці жыве, не думаючы пра тое, што яго сшытак нейкім таямнічым чынам трапіў у бібліятэку Каўнаскага універсітэта і ў яго фондзе захаваўся да нашых дзён?!

### Рукапісная манаграфія пра Мір

У 30-х гадах нашага стагоддзя на пошце ў Міры сціпла служыў Аляксандр Снежка. Гэта быў апантаны краязнавец, які збіраў матэрыялы пра Мір і яго ваколіцы. У 1937 годзе ён выдаў у Лідзе брашуру «Фарны касцёл у Міры», надрукаваў некалькі краязнаўчых артыкулаў у часопісе «Земя Лідзка» (1937, № 1-5).

Аляксандр Снежка доўга працаваў над манаграфіяй пра гістарычнае мінулае Міра і славутага мірскага замка. У 1936 годзе свой рукапіс пад назвай «Мір. Манаграфія колішняй сталіцы Мірскага графства і ваколіц» ён аддаў у адно з віленскіх выдавецтваў. Але па невядомых прычынах манаграфія была адхілена і з цягам часу трапіла ў рукапісны аддзел Цэнтральнай бібліятэкі АП Літоўскай ССР.

У рукапісе прасочана гісторыя Міра за сем стагоддзяў. Першае ўпамінанне аб гэтым гарадку датуецца 1394 годам. У 1434-1490 гадах Мір належаў Гедыголдавічам, у 1490-1568 — Ілінічам. Адзін з Ілінічаў у 1508 годзе пачаў тут будаваць замак, каб абараняцца ад варожых нападаў. Дзеля гэтага былі ўзведзены дзве спецыяльныя цагельні, а

вапну прывозілі са Свержна. Потым «панамі на Міры» сталі Радзівілы. Яны прымалі тут Пятра I, асадзілі цыганоў на чале з іх каралём Марцінкевічам. У XIX ст. замак трапіў у рукі князя Вітгенштэйна, які пасля Кутузава стаў галоўнакамандуючым рускай арміяй. Урэшце ў 1898 годзе князь Святаполк-Мірскі, рашыўшы, што назва яго роду паходзіць ад Міра, набыў замак і яго наваколле за 700 тысяч рублёў. Ён узвёў тут царкву, заснаваў бібліятэку і карцінную галерэю.

Аўтар прыгадвае, што Мір знайшоў багатае адлюстраванне ў мастацкай літаратуры. Мірскі замак апісаны ў эпапеі Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» як замак Гарэшкаў. Мясцовая легенда пакладзена ў аснову гутаркі У. Сыракомлі «Пра заклятую скарбніцу». Славуты мірскі звон, гукі якога нібы чуліся ажно ў Нясвіжы, апісаны ў «Дзённіках квестара» І. Ходзькі. Урэшце ўжо ў XX стагоддзі пра мірскія кірмашы расказаў у паэме «Мая зямля» (Вільня, 1928) ураджэнец гэтых мясцін вядомы фатограф і польскі паэт Ян Булгак.

Гісторык культуры знойдзе ў манаграфіі Снежкі шмат цікавага матэрыялу пра філосафаў Саламона Маймона, які вучыўся ў Міры, і Фларыяна Бохвіца, які тут нарадзіўся. Многія старонкі рукапісу прысвечаны прабыванню ў Міры У. Сыракомлі. Аўтар прыгадвае, што каля мірскага касцёла пахаваны бацька славутага падарожніка Ігната Дамейкі Гіпаліт Дамейка, што ў тым жа касцёле захоўваліся косці маманта, выкапаныя ў часе будовы. Прыводзяцца і іншыя звесткі пра гістарычнае і культурнае мінулае гэтага старажытнага беларускага паселішча.

**Беларуска-польская п'еса З. Нагродскага**

Прозвішча Зыгмунта Нагродскага ўпершыню я сустрэў у архіўнай справе аб пабудове ў Вільні помніка Адаму Міцкевічу. Са справы было відаць, што ў 1898 годзе, калі адзначалася стагоддзе з дня нараджэння польскага паэта, Нагродскі быў ініцыятарам і старшынёй нелегальнага юбілейнага камітэта. Актыўным членам яго быў і Францішак Багушэвіч.

Потым у «Лістках календара» Максіма Танка я прачытаў запіс ад 27 сакавіка 1937 г. пра смерць Нагродскага. «Памёр надзвычайна цікавы чалавек,— гаворыцца ў мемуарах,— адзін з апошніх прадстаўнікоў таго пакалення, пра якое мы сёння знаем толькі з літаратуры». З. Нагродскі расказваў і М. Танку і Е. Путраманту аб сваёй дружбе з Багушэвічам, вершы якога ён часта, апрануўшыся ў мужыцкую сярмягу, дэкламаваў на вечарынках. У Нагродскага былі цікавыя здымкі Багушэвіча, рукапісы нікому не вядомых твораў паэта. «Адышоў з

гэтага свету З. Нагродскі,— працягвае М. Танк,— забраўшы з сабою шмат старонак з біяграфій многіх выдатных людзей і з гісторыі польска-беларускіх узаемасувязей, якія не знаю, ці ўдасца калі хоць часткова запоўніць нават самым удумлівым і працавітым нашым даследчыкам літаратуры».

Зацікавіўшыся Нагродскім, я пачаў пераглядаць віленскую беларускую перыёдыку за 1937 год. Не можа быць, каб яна не адгукнулася на смерць гэтага дзеяча жалобным некралогам! Нарэшце ў другім нумары «Калосся» знайшлася невялікая нататка. У ёй паведамлялася, што Нагродскі памёр 25 сакавіка 1937 года. Усё жыццё ён цікавіўся беларускай паэзіяй і нават сам пісаў беларускія вершы. У архіве Віленскага беларускага музея, паведамляла «Калоссе», захоўваюцца два такія вершы. Першы з іх напісаны ў 1901 годзе ў пецярбургскай турме і адрасаваны жонцы (аўтар абяцае хутка вярнуцца і прыдумаць «заплату» сваім мучыцелям). Другі верш прысвечаны памяці Сыракомля Паводле «Калосся», Нагродскі, апрануты ў беларускую сялянскую світку, нібы чытаў яго на адкрыцці помніка Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне. Але тут яўная недакладнасць. Помніка Сыракомлі ў Барэйкаўшчыне ніколі не было. Хутчэй за ўсё верш пытаўся ў 1912 г., калі, адзначаючы 50-годдзе з дня смерці паэта, віленскія літаратары, у тым ліку Янка Купала, выехалі ў Барэйкаўшчыну, каб прыбраць кветкамі стол з жарнавога каменя, за якім Сыракомля калісьці пісаў свае творы.

У «Калоссі» гаварылася таксама аб тым, што Нагродскі, захапіўшыся «Дудкай» Багушэвіча, пазнаёміўся з ім і пасябраваў. Працуючы ў сельскагаспадарчым кааператыве па Татарскай вуліцы, Нагродскі падзяляў сваіх кліентаў-сялян кніжкамі Багушэвіча, чытаў іх на вечарынках рамеснікаў. Потым за ўласныя грошы арганізаваў другое выданне твораў свайго сябра. Адным словам, Нагродскі быў цікавым і заслужаным для беларускай літаратуры чалавекам.

І вось у рукапісным аддзеле вільнюскай акадэмічнай бібліятэкі, у фондзе Ромераў, знайшоўся драматычны твор Нагродскага «На калядьі». П'еса гэта мае і падзагаловак: «Народны абразок з ваколіц Зулова з 1876 года».

У прадмове да «абразка», напісанай Аленай Ромер, сказана, што твор узнік у асяроддзі, дзе сяляне гавораць «па-тутэйшаму», па-беларуску, а вышэйшыя слаі — на польскай мове. Таму і п'еса атрымалася дзвюхмоўная. Па-беларуску перададзены ў ёй сялянскія дыялогі, народныя песні. Мелодыі песень і музыку танцаў, якія «захаваліся ў памяці аўтара абразка», запісала Бранілава Гаўронская.

Алена Ромер прыводзіць таксама біяграфічныя звесткі пра Нагродскага. Нарадзіўся ён у 1866 годзе ў Зулове на Свянцяншчыне. У 15 год паехаў у Пецярбург, дзе пашыраў асвету сярод салдат. Недаядаючы, купляў на пуды кнігі з бібліятэк І. Агрызкі і А. Кіркора. Потым пераехаў у Вільню, засноўваў там народныя бібліятэчкі, выдаваў кніжачкі, наладжваў прадстаўленні. «З пачатку гэта былі вершы, дыялогі на беларускай мове, калі п. Зыгмунт у лапцях і сярмязе цудоўна дэкламаваў вершы Багушэвіча». У 1900 годзе Нагродскі быў сасланы ў Пскоў. Памёр у страшэннай матэрыяльнай нястачы.

Перад «абразком» ёсць уступнае слова самога Нагродскага. Ён расказвае аб працэсе апалячвання беларускага сялянства на Віленшчыне ў другой палавіне XIX ст. Тады сяляне яшчэ не разумелі, што «гэтая так званая «простая» мова з'яўляецца адной з славянскіх моў, такая ж добрая, як і кожная іншая — аб чым ім першы сказаў народны паэт, які пісаў на беларускай мове, палымяны... патрыёт Францішак Багушэвіч». Аўтар адмоўна ацэньвае гэты працэс: «Так тапілася і, як тады ўжо здавалася, утапілася старая, цікавая і арыгінальная культура беларускага народа ў маіх родных мясцінах, а часткова і ва ўсім краі».

Падзеі п'есы «На калядзы», паводле аўтарскай рэмаркі, адбываюцца ў вёсцы Балюлі ў ваколіцах Зулова (Свянцянскі павет) зімой 1876-1877 гадоў. У простай сялянскай хаце збіраюцца хлопцы — Юзік, Эдвардка, Матэўка, дзяўчаты — Стэфка, Забелька, Лявося, Пятруся. Іх ветліва прымаюць гаспадар і гаспадыня. Яны просяць моладзь заспяваць песні. Гучаць «Цераз рэчаньку, цераз быструю», «У лесе каліна», «Каб я, малада, зязюлькай была», «Гэй, там, у бору, сасна гарэла», «Балела галоўка сем нядзель» і іншыя. У хату (даецца падрабязнае апісанне хаты) заходзяць з калядой каларытна апранутыя (ідзе падрабязнае апісанне вопраткі) «журавельпікі». Пачынаецца спаборніцтва ў народных танцах і гульнях («Мяцеліца», «Лявоніха», «Падушачка»). «Журавельнымі» прамаўляюць да ўсіх сакавітай беларускай мовай. Праўда, часам гучаць і «не-нашыя» (польскія) песні, але ў цэлым п'еса пабудавана на беларускім фальклорна-этнаграфічным матэрыяле. Скразнога дзеяння ў «абразку» няма. І ўсё ж песні, танцы і дыялогі скампанаваны так умела, што пры добрай пастаноўцы п'есы на сцэне магло б атрымацца захапляючае народнае відовішча.

Магло б... На жаль, ва ўмовах буржуазнай Польшчы п'еса Нагродскага не ўбачыла сцэны, не трапіла да чытача. Жадаючы неяк дапамагчы старому і збяднеламу аўтару, Алена Ромер пры падрыхтоўцы п'есы да друку пайшла на хітрасць. Яна пісала, што п'еса ўзнікла ў «атмасферы» таго самага Зулова, у якім нарадзіўся Юзаф Пілсудскі,

што ў творы ёсць «паветра», якім ён дыхаў. Але гэта яшчэ больш насцярожыла пілсудчыкаў ад цэнзуры: атмасфера ж п'есы аказалася беларускай! А хіба мог Пілсудскі «дыхаць» беларускім «паветрам»?!

І п'еса Нагродскага была пахавана ў архіве!

**Мінскі зборнік забытага аўтара**

Хочацца сказаць некалькі слоў таксама пра рукапісны зборнік вершаў С. Шаблючэнкі (псеўданім невядомага нам бліжэй Сяргея Аляксандравіча Малевіча). Складзены ён у 1896 годзе ў Мінску і называецца «На чужбине». Аўтарам зборніка быў, хутчэй за ўсё, украінец (эпіграфам бяруцца радкі з шаўчэнкаўскіх вершаў). Але пісаў ён на рускай мове (у вопісе чамусьці ўказана, што на ўкраінскай).

Тэматыка зборніка «На чужбине» даволі разнастайная. Тут і інтымная лірыка («Ноччу», «Восенню»), і апісанні беларускіх краявідаў («Кастры»), і філасофскі роздум аб сэнсе жыцця (урывак «Сустрэча Новага года»). Ёсць у зборніку наследаванне Міцкевічу («Магілы гарэма»). Але найбольшую цікавасць для нас мае падборка «З беларускіх матываў». Вось пачатак адной з беларускіх народных песень, апрацаваных С. Шаблючэнкам:

Тяжко, грустно жить молодке
На чужой сторонке,
Тяжко, грустно жить в неволе
У лихого мужа...

Адным словам, у канцы мінулага стагоддзя жыў у Мінску цікавы паэт. Мінск для яго быў «чужбиной», але гэта не перашкодзіла яму зацікавіцца беларускімі народнымі песнямі, захапіцца беларускімі краявідамі, працавітасцю беларускіх сялян.

**Песня паўстанцаў 1794 года**

...У верасні 1935 года, у сувязі з VI з'ездам польскіх гісторыкаў, бібліятэка Віленскага універсітэта арганізавала цікавую выстаўку, прысвечаную мінуламу літоўска-беларускіх зямель. Адзін з арганізатараў выстаўкі, вядомы калекцыянер Міхал Браништэйн, падрабязна апісаў экспанаты выстаўкі ў II томе «Дзённіка VI агульнага з'езда польскіх гісторыкаў у Вільні». У якасці аднаго з найбольш рэдкіх экспанатаў ён пазваў рукапіс невядомай «Песні беларускіх жаўнераў» з 1794 года. Аднак сам тэкст твора ні тады, ні пазней апублікаваны не быў, а сляды яго згубіліся.

І вось не без дапамогі знаўцы вільнюскіх архіваў Генадзя Кісялёва мне ўдалося натрапіць на гэты след. Беларуская песня касцюшкаўскіх паўстанцаў адшукалася ў 21 фондзе аддзела рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР. Гэта — чатыры старонкі рукапіснага тэксту з яўнымі арфаграфічнымі прыкметамі XVIII стагоддзя. Усяго ў «Песні» — 60 вершаваных радкоў.

«Песня беларускіх жаўнераў» мае патрыятычны характар. Яна заклікае беларусаў даць «сабе рукі ўзаем», каб «адзываць» бацькаўшчыну. Многія радкі накіраваны супраць царскага самаўладства і прускіх заваёўнікаў. У «Песні» гаворыцца аб здзеках царскага чыноўніцтва і арміі:

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзерлі, як нас білі.
Дакуль будзем так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаці.
Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы акавалі?
Дочкі, жонкі пам гвалцілі?
Трэ, каб мы ім заплацілі.

У заключэнні песні гучыць заклік узяць зброю ў рукі і далучыцца да касцюшкаўскіх паўстанцаў, выступіць супраць магнатаўздраднікаў, якім абыякавы лёс радзімы:

Здрада ёсць ужо ў сенаце.
А мы будзем гніць у хаце?
Возьмем косы ды янчаркі,
Пачнем гордыя гнуць каркі!

Зразумела, невядомы аўтар быў сынам свайго супярэчлівага веку. Ён яшчэ ўскладае вялікія спадзяванні на боскую дапамогу, на тое, што «вольнасць» беларусам дадуць самі паны. Ён яшчэ не зусім разумее розніцу паміж рускім народам і царызмам. У «Песні» адчуваецца шляхецкая абмежаванасць. І тым не менш, гэта — вельмі цікавы помнік беларускай літаратуры XVIII стагоддзя, звязаны з імем Касцюшкі і паўстаннем, якое ён узначальваў на тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Літвы.

Карыстаючыся выпадкам, хачу адзначыць, што нашаму земляку Т. Касцюшку прысвечаны таксама дзве беларускія народныя песні. Адна з іх пачынаецца са слоў «Слаўна Вільна, слаўна Гродна» і апублікавана ў 1882 годзе нейкім Пламеньчыкам на старонках газеты «Дзённік Познаньскі» (№ 68). Другая песня («Наш Касцюшка слаўны быў») прыведзена ў той жа газеце ва ўрыўках.

**Напісана ў часы Багушэвіча**

Даследчыкам гісторыі беларускай літаратуры добра вядома імя Рамуальда Зямкевіча, які збіраў і публікаваў беларускія рукапісы, выступаў з цікавымі артыкуламі. Куды менш вядома асоба яго жонкі Ляоніі Зямкевіч, якая нарадзілася ў 1882 годзе ў Клевіцы Ашмянскага павета і памерла ў 1919 годзе ў Вільні. У свой час яна рэдагавала польскі сацыял-дэмакратычны часопіс «Святло», за што ёй пагражала ссылка ў Сібір.

Як і яе муж, Л. Зямкевіч была страснай збіральніцай рукапісаў і захоўвала не адну памятку, звязаную з беларускай гісторыяй і літаратурай. У прыватнасці, у яе паперах быў верш Л. Вітана-Дубейкаўскага «Бура», датаваны 1893 г.:

Стогне віхар, гудзе ў полі,
Гне сталетнія дубы,
Плачуць людзі з горкай долі —
Недзе дзецца ад журбы.

Вые віхар безупынна,
Дрэвы верне з каранём.
А дзе ж гэтаму прычына?
І навошта мы жывём?

Калі ж хмары перастануць
Зацямняці нашы дне?
Калі ж праўда зноў паўстане
І прамень святла блісне?

Калі ж мы у думцы згоднай
Ўстанем край свой бараніць,
Ў Беларусі — Маці роднай,
Як браты, пачнема жыць?

Ой, не плач, гаротны людзе,
Бо шкада ж нашых вачэй!
Пасля буры ясна будзе,
Заіграе дзень ярчэй.

Калі б хмары не шумелі
Навакол нашых сяліб.
Калі б гора мы не мелі —

Без свабоды памярлі б.

Скора прыйдзе да нас воля!
Ў родным краю — паміж нас —
Заяснее шчасце, доля.
Будзе свята — вялік час.

Як бачым, верш «Бура» вызначаецца даволі высокім ідэйна-мастацкім узроўнем і ў многім сугучны дэмакратычнай паэзіі Ф. Багушэвіча. Аўтарам верша з'яўляецца вядомы архітэктар Лявон Дубейкаўскі, які пазней, у пачатку XX стагоддзя, жыў у Варшаве і быў там адным з кіраўнікоў польска-беларускага таварыства. «Бура» пашырае нашы ўяўленні аб беларускай літаратуры канца XIX стагоддзя і яшчэ раз сведчыць, што яна не была такой ужо беднай па імёны.

1960-1971

## «ТОРБА СМЕХУ» КАРОЛЯ ЖЭРЫ

Аднойчы ў аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе ўвагу маю прыцягнуў тоўсты, у 416 лістоў зборнік, які значыўся пад лацінскай літарай Q і лічбамі XV, 3.

Лацінска-польская назва яго была па-барочнаму доўгая і квяцістая: «Процьма рэчаў, торба смеху, гарох з капустай, а кожны сабака з іншай вёскі, або Кніга, якая ўключае ў сябе збор розных цікавых і мудрых, дасціпных і забаўных, сэнсоўных і сентыментальных твораў, пытанняў і адказаў, без ладу і ніякага парадку ўкладзеных дзеля ўцехі і забавы, а часам служыць кожнаму і дзеля выратавальнага павучання, нядаўна распачатая, а да сканчэння свету незавершаная. Хто яе распачаў, таго знойдзеш у наступных радках».

А далей ішоў макаранічны, польска-лацінскі верш, папацеўшы над якім з гадзіну, я расшыфраваў прозвішча аўтара: Жэра!

Аднак, перагарнуўшы наступную старонку, на якой красаваўся старанна вымаляваны родавы герб Жэраў (Дубна), я зразумеў, што пацеў дарэмна. Тут аўтар, ужо не гуляючы ў хованкі, адкрыта пісаў, што прозвішча яго Жэра, імя — Кароль, другое імя — Антон, манаскае імя Гаўдэнцій, што нарадзіўся ён 1 верасня 1743 года на Падляшшы, у вёсцы Тварогі Выпыхі ў сям'і дробнага шляхціца. У 1751 годзе пачаў літары «вучысмус, а плакацісмус, бо бацька прыганяісмус, няхай яму бог заплацісмус». У 1754 годзе аўтара прывезлі ў Драгічын і аддалі ў езуіцкую школу, дзе яго балюча білі («хто гэта чытацісмус, то яму

смехацісмус, а мне бядысмус»). З 1765 года Жэра ў Пінску, стаў там манахам-францысканцам. А затым пераехаў «на Белую Русь», у Сянно, дзе быў выкладчыкам у мясцовым канвенце (цяпер гэтую навучальную ўстанову мы назвалі б школай-інтэрнатам).

Нягледзячы на свой манаскі стан, Жэра быў чалавекам вясёлым, любіў жыццё і ведаў яму цану. Захоплена ён слухаў і запісваў гарэзлівыя фацэціі-анекдоты, забаўныя гісторыі, якія здарыліся на Піншчыне і Лепельшчыне, у Гродне і Сянно. Зборнік Жэры — гэта сапраўды «гарох з капустай»: проза і вершы, дыялогі і маналогі. Такая жанрава-стылёвая мешаніна цалкам адпавядала барочнай эстэтыцы, якая паклала выразны адбітак на творчую індывідуальнасць Сенненскага аўтара. Яго анекдатычныя апавяданні па-барочнаму квяцістыя і парадаксальныя. Многія з іх гратэскныя, алагічныя. Свет у іх паказаны, як тады гаварылі, «зусім наадварот». Так, як хаця б у гэтай абсурднай гісторыі. Як і ў наступных гісторыях, у ёй захаваны беларусізмы, асаблівасці мовы аўтара: польскія ж словы даюцца ў перакладзе.

## ЯК З КАНЯ,<br>ХАЦЯ СА СКУРЫ АБДЗЁРТАГА,<br>УЖЫТАК МЕЦЬ

Адзін падарожнік многа за адзін дзень дарогі праехаў і змардаванага каня ўвёў у яўрэйскі бровар, у якім адстойвалася гарэлка, падкінуў яму сена, а сам пайшоў у карчму.

Конь болей хацеў піць, чым есці, адвязаўся і, знайшоўшы бочку з гарэлкай, піў, колькі яму хацелася. Напіўшыся, калі гарэлка яго азмрочыла, упаў — нібы здохлы ляжаў. Той падарожнік, думаючы, што конь яго здох, зняў з яго скуру і, узяўшы скуру, пайшоў.

Конь, абдзёрты са скуры, праспаў дзень і ноч і ўстаў. Карчмар, здзівіўшыся, выгнаў яго ў поле. Было тое веснавым часам — той конь без скуры, ходзячы па полі, калі яму боль і сверб дакучалі, качаўся па грэчцы пасеянай (бо на той час грэчку сеялі), а калі качаўся, паўлазіла грэчка і паволі пачала на ім абыходзіць, а потым цвісці і спець. Бачачы гэта, восенню адзін разумны гаспадар стаў зважаць, што цецерукі на каня сядаюць і грэчку на ім ядуць, зрабіў два кашы, прывязаў адзін каню з аднаго боку, а другі з другога і прывязаў да хваста сякерку.

Калі тады цецерукі зляталіся да таго каня, каб грэчкі пад'есці, а дзеўбануў яго які, дык конь, баронячыся, як махнуў хвастом, так адсек цецеруку галаву, а цецярук — у кош! І так штодня хадзіў да таго каня і штодня меў што вымаць з кашоў.

А тут трэба зважаць, якую ён меў вялікую карысць з таго каня. Чаго і чытачу жадаю.

Барока дапускала кантамінацыю самых розных пачаткаў: камічнага і трагічнага, рэальнага і фантастычнага, кніжнага і фальклорнага. Такое спалучэнне выразна адчуваецца і ў зборніку Жэры. Яго аўтар зыходзіць з рэальнасці, але часта звяртаецца і да антычных матываў, і да народнай творчасці, апрацоўвае сюжэты, добра вядомыя фалькларыстам.

## ПРА ВАЎКА, КАЗУ І КАПУСТУ

Адзін чалавек, маючы пры сабе ваўка, казу і капусту, прыйшоў да рэчкі, цераз якую ён мусіў пераправіцца — знайшоў, на шчасце сваё, пры беразе човен і думае сабе: усё гэта разам не здолее ў чаўне перавезці. Калі перавязу перш толькі ваўка, то каза з'есць капусту, калі перавязу толькі капусту, то воўк з'есць казу.

Перавозіць тады найперш казу, а ваўка і капусту пакідае. Едзе потым і бярэ капусту, капусту пакідае, а казу назад бярэ, каб не з'ела капусту. Перавёзшы назад казу, пакідае яе, а бярэ ваўка і гэнага перавозіць. Урэшце вяртаецца і казу перавозіць, а так, без ніякай шкоды, пераправіўся праз тую раку. А тут быў розум патрэбны.

Хаця сам Жэра не раз падкрэслівае, што яго зборнік складзены «без ладу і ніякага парадку», аднак, чытаючы яго, пераконваешся, што за вонкавай хаатычнасцю ў аўтара хаваецца прадуманая сістэма. Вядомыя сюжэты ён па-свойму інтэрпрэтуе. Апавяданні аб'ядноўваюцца ў цыклы, дзе адзін твор звязаны з другім, дапаўняе яго. Такім цыклам з'яўляецца, напрыклад, шэраг напаўфальклорных гісторый пра бабу і чорта (у сваю чаргу, ён уваходзіць у большую групу апавяданняў пра жаночую хітрасць). Пачынаецца цыкл з прыпеўкі пра д'ябла, які няўдала спрабаваў араць жанчынай. Далей ідзе фацэцыя «Як баба чорта, што яе на вузкай кладцы сустрэў, хітрасцю ашукала». У ёй жанчына, трапіўшы ў цяжкую сітуацыю (д'ябал спытаў яе на кладцы, хто лепшы: ён ці бог), выкручваецца беларускай фразай: «Бог добры, але і вашэць няліхі, толькі што вашэцю ліхія людзі на зуб узялі». Завяршаецца ж цыкл апавяданнем, змест якога добра вядомы па фальклорных зборніках.

## ЯК БАБА ЧОРТА НА ГАСПАДАРЦЫ АШУКАЛА І Ў ПАЯДЫНКУ ПЕРАМАГЛА

У часе веснавым баба з д'яблам увайшлі ў нягодныя адносіны і так угаварыліся з сабой:

— Ты, пане д'ябле, гэты кавалак поля заары, і я маім просам засею, а вашэць забаранууеш. А восенню, як уродзіцца, то тым просам напалавіну падзелімся.

Калі тады проса тое паспела, баба, пайшоўшы, гронкі проса ў фартух пазжынала для сябе, а яму, як лес, сцябліны з карэннямі пакінула. Д'ябал, прыкмеціўшы тое, а асабліва, калі яна з таго проса кашу ела, пачаў яе папракаць: «Ты мяне, баба, ашукала, бо сабе вярхі сабрала, а мне карэнне пакінула».

Баба на тое: «Ну, калі вашэць лічыш гэта для сябе крыўдай, то на другі год засеем для сябе тое самае поле, а вашэць ужо падбярэш вярхі, а я карэнне!»

І пасеяла баба рэпу. Чорт тады найперш націну для сябе пазразаў, а яна сабе потым рэпу выкапала.

Чорт, бачачы, што і другі раз яго ашукалі, сказаў бабе: «О, ужо трэці раз пасеем ячмень і, зрабіўшы з яго піва, разам вып'ем».

Баба тады на тое згаджаецца, і сеюць яны ячмень, які яны з поля, калі той паспеў, разам сабралі і звезлі. Д'ябал змалаціў, змёў, баба солад зрабіла. Д'ябал дровы сячэ, носіць, ваду цягае, бочкі набівае, а баба тым часам адстоенае піва паперaлівала сакрэтна ўбок, у іншае начынне, а саму гушчу навідавоку трымае, і сама каштуе, і яму каштаваць дае, кажучы: «Будзе добрае піва, як перабродзіць!»

Калі піва ўжо зусім перахадзіла, пазлівалі яго ў бочкі і бочкамі падзялілі тую мутную гушчу — а яна адстоеную частку таго піва сабе ўзяла.

Д'ябал, бачачы, што піва нічога не вартае, раззлаваўся, кажучы: «Якога нарабіла сабе, такое і пі!» — і пайшоў.

Аж баба крычыць яму: «Пане д'ябле, а яшчэ ж падзелімся доннымі саладзінамі!»

А д'ябал у адказ: «Бяры сабе і ўсе саладзіны» — і з той пары больш ніколі не хацеў звязвацца з бабай. Адтуль і прымаўка пайшла: «Чорт з бабай піва рабіў і саладзінаў выракся!»

На чацвёрты раз пакрыўдаваўшы такім чынам тры гады на бабу, прыходзіць зноў вясной да яе і выклікае яе на паядынак.

Яна, маючы смелае сэрца, не толькі ахвотна бярэцца з ім ваяваць, але нават дае яму вілы, а сама бярэ ражон, кажучы яму: «Калі ты мяне ўпораш віламі, то праб'еш мяне два разы, а калі я піхну цябе ражном, то толькі раз праб'ю цябе!

І пачалі яны праз плецены плот ваяваць. Калі баба піхне ражном д'ябла праз плот, то ражон навылёт прашые д'ябла. Калі д'ябал піхне віламі бабу праз плот, то вілы ў плоце загразнуць, а баба цэлая.

Зваявала тады баба ў тым паядынку д'ябла. І адтуль пайшла другая прыказка: «Бабу і чорт не зваюе!»

У часы барока было модна спалучаць не толькі розныя жанры і стылі, але і розныя мовы. Такое ж макаранічнае сумяшчэнне мы бачым і ў зборніку Жэры. З польскай мовы аўтар пераходзіць на ла-

цінскую, з лацінскай на беларускую, якую ён называе рускай. Яго героі размаўляюць, як кажа сам Жэра, «з рускага па-польску, а з польскага па-руску». Вось як, напрыклад, выспеўлівае «адзін з візітатараў чужых дамоў» у сюжэце, запісаным пад нумарам 23:

Дзе хаўтуры, то я дзяд,
Дзе вяселле, то я сват,
Дзе хрэсьбіны, то я кум,
А дзе ліюць, то я чум.
Гэй, чум, чум!

Чым далей гартаеш зборнік Жэры, чым пазней зроблены запісы, тым часцей сустракаюцца беларускія ўстаўкі. Многія апавяданні заснаваны на «рускіх» прыказках і прымаўках, часам невядомых для сучасных збіральнікаў: «У ліхага бортніка і мёд горкі»; «Кравец гадзе, а жалеза кладзе» (г. зн. лаецца, але прасуе); «Голы разбою не баіцца»; «Узяўшыся за гуж, не кажы, што не дуж»; «Не заўсюды кату масленіца»; «Прыйшла свіння да каня, аж і шэрсць іншая, і ногі кароткія». Урэшце з'яўляюцца тэксты, амаль цалкам напісаныя па-беларуску. На мове «Белай Русі» гавораць усе героі гратэскна-макабрычнай фацэціі пра недалёкага папа і яго кемлівага парабка:

ПРА ПАПА З ПАРАБКАМ,
ШТО ДАМОВІЛІСЯ, КАБ НІКОЛІ
І НІ ЗА ШТО НА СЯБЕ НЕ ГНЕВАЦЦА

Поп угаварыў сабе на гадавую службу парабка і, дамаўляючыся з ім аб плаце, такую з ім заключыў умову: «Я што табе скажу, то ты ўсё павінен здзелаць, і хоць бы я табе што цо і прыкрага здзелаў, то ты не павінен за тае гневаць на мяне».

Парабак, чуючы тое, узаемна кажа папу: «Але, ойчаньку, калі і я вашэці што нядобрага здзелаю, то і вашэць на мяне не павіненэсь ся гневаць!» — і такі стаў паміж імі з абодвух бакоў кантракт.

Заключыўшы такі між сабой кантракт, пачаў поп дрэнна да парабка адносіцца, а потым пытаецца ў яго: «Ці не гневаешся, парабча?»

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая мендзы намі напачатку згода стала!»

Узаемна парабак учыняе яму такую штуку: пасля каляд загадаў поп парабку насеч сухіх дроў. Парабак, пайшоўшы, пасек усе вазы і ўсе летнія экіпажы.

Пабачыўшы гэта, пачаў поп яго моцна папракаць.

Парабак на тое: «Не мог я сушэйшых дастаць, а экіпажы летнія, цяпер, на зіму, непатрэбныя».— І сказаў: «А ці не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Кажа поп: «Не гневаюся, бо такая міжы намі ўмова стала, кабы не гневацца!» Тут поп пачаў парабка з левай пляжыць, а парабак узаемна папа — ужо не з левай, а з правай.

На вясну камандуе поп парабку, каб пайшоў араць, і кажа яму ўзяць з сабой суку і загадвае яму: «Датуль не сыходзь поля, пакуль сука ўперад не пойдзе дамоў, і што сука будзе рабіць, каб і ты тое самае рабіў!»

Пайшоў парабак араць. Парабак пачынае араць, сука ідзе за ім, парабак узараў адзін загон, ідзе на другі, сука ідзе за ім. Парабак ідзе на трэці загон, сука ідзе за ім. Прыйшоў поўдзень. Людзі ідуць дамоў, а ён арэ, бо сука ходзіць за ім. Людзі, папалуднаваўшы, прыходзяць і запрагаюць валы ў ярмо, а ён арэ, бо сука ходзіць за ім.

Урэшце спыніўся, валокі пад саху падклаў і, злавіўшы суку, як пачне біць, як пачне прыгаворваць ёй: «А ці ты ж мяне даўжэй яшчэ будзеш трымаць на полі?»

Як яе тады выпусціў, яна бягом дамоў, ён па яе прыкладу пайшоў з валамі за ёй, стараючыся, каб таксама за сукай разам гнаўся, бо поп загадаў яму, каб так рабіў, як чыніць будзе сука.

Прыбягае сука ў плябанію, аж вароты закрытыя, таму сука скок праз вароты! Ён за ёй з валамі прыбег, а калі не змог разам з імі пераскочыць праз вароты, дастаў з-за пояса сякеру і, пачацвертаваўшы на кавалкі валоў, паперакідаў іх праз вароты.

Поп, тым расстроены, рукі заламіў і кажа: «Ах, што ты, бязбожны чалавек, здзелаў?»

Парабак на тое: «А што ж, ойчаньку, што вашэць мене кажэце, то й тое і ўчыніў. Вашэць мене казаў тое чыніць, што сука будзе чыніць, то я так чыніў, як сука чыніла; сука праз вароты, так я перакінуў валы праз вароты, а ото і сам лезу праз вароты, я ўсё захаваю, як вы, ойчаньку, казалі. А чы не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Поп адказвае: «Не гневаюся, бо так ва ўмове стаяла!» Тут поп, рассярдзіўшыся, пачаў рознымі спосабамі парабка цвічыць: кіем латаць, пагаем кропіць, прывязаўшы да пераплота, розгамі сячы. Урэшце ад шыі аж да полу зрэзаў кавалак скуры, а нас дзёр і ячменнымі асцюкамі пасыпаў, пытаючыся: «А ці гневаешся, парабча?»

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая ўгода паміж намі стала, каб ніколі не гневацца».

Аднойчы паехаў поп на хаўтуры і, адправіўшы хаўтуры, прыехаў дадому і сказаў парабку: «Парабча, пайдзі разбяры каня!»

Парабак пайшоў, разабраў каня, як разбіраюць вепрука: пасек іх на кавалкі і, склаўшы іх у кадушку, прыйшоў у плябанію, кажучы: «Ойчаньку, ужо я разабраў каня, дай, ойчаньку, солі, буду саліць!»

На тое поп: «А што ж ты будзеш саліць?»

— Саліць,— кажа парабак,— ну, то ж каня, што вашэць казаў разабраць!

Поп пайшоў і паглядзеў: ён жа каня на кавалкі пасек. Поп на тое: «Ах, ты ашалеў, што ты здзелаў?»

Парабак: «Вашэць казаў каня разабраць, так я разабраў! А чы не гневаешся, ойчаньку, за тое?»

Поп: «Не гневаюся, бо такая ўгода мендзы намі».

Поп зноў парабку зрэзаў кавалак скуры ад шыі аж уніз і нацёр ячменнымі асцюкамі, пытаючыся яго: «А ці не гневаешся, парабча»?

Парабак адказвае: «Не гневаюся, ойчаньку, бо такая стала міжы намі ўгода: квіта за квіта, а дарма нічога!»

Аднойчы вечарам сеў поп, пападдзя і дзеці за стол. Дзіцёнак малы захацеў пайсці на двор, сказаў тады поп да парабка: «Парабча, выведзі дзіця на падворак!»

Парабак, павёўшы дзіця, бавіцца доўга. Поп з пападдзёю чакаюць і чакаюць, няма ані парабка, ані дзіцяці, дзівуюцца: «Што та так доўга бавяцца?»

Нарэшце прыходзіць парабак сам адзін. Пытаецца яго: «А дзіця гдзе?»

Парабак адказвае:

— Ён сядзіць на кале і лічыць зоркі на небе.

Поп з пападдзей выходзяць, аж бачаць, што парабак дзіця ўбіў на кол. Тут поп з пападдзей у лямант.

А парабак да іх:

— А што, ойчапьку, чы не гневаешся?

Поп: «Што, што, трудна гневацца, такая ж міжы намі стала ўгода!»

Поп, тое бачачы, што ўжо нічога не зможа з парабкам, а паколькі быў няўпэўнены і ў сваім жыцці, задумаў з пападдзей уносіцца з плябаніі, кажучы: «Хоць я яго рознымі спосабамі мучаю і хачу, каб ён мяне кінуў, але ён мне болей шкодзіць, чорт яго перабудзе, мы яго не перабудзем. Уцякайма з хаты, нех яго чорт бярэ!»

Здарылася тады, што той парабак трохі напіўся, прыйшоўшы, лёг і, больш прыкідваючыся, нібы цвёрда спіць, пачаў страшна храпець. Поп тады кажа да пападдзі: «Цяпер нам час уносіцца, бо парабак цвёрда спіць. Ну, жонка, забірайма ў мяшкі, што можна, а ўцякайма, пакуль ён спіць!»

Тут пачалі з другога пакоя зносіць, у тыя мяхі складваць і наклалі адзін мех, падняў поп і сказаў: «Ужо пападдзі досыць будзе, кладзём цяпер у другі для мяне!» Прынеслі раз, пайшлі па болей, а тым часам, устаўшы, парабак улез у той мех.

Яны. прынёсшы болей адзення, прыхавалі яго ім. Падняў поп, аж цяжка: «Ой, як цяжка буду несці, поўна ўжо! Цяпер жа ціхухна ўносьмыся, каб парабак не ўчуў!»

Падаўшы тады на сябе тыя абодва мяшкі, далей у прочкі, бездарожжам, і прайшлі яны чвэрць мілі ў радасці, што ад парабка ўцяклі, аж раптам парабак, седзячы ў папа ў мяшку за плячыма, крычыць, нібы здалёку: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Чуючы тое, поп з пападдзею сказалі сабе: «Ах, ён жа за намі бяжыць, уцякайма ў старану, кідайма гэтую дарогу, а бермася ўбок, каб ён за намі па шляху не ўзяў!»

Кінуліся тады ўбок, прабіраючыся праз хрусты, праз ламы, і ў той, і ў гэны бок, губячы па сабе след, аж парабак зноў, седзячы ў папа за плячыма, крычыць: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Тут поп з пападдзей кажуць сабе: «Ах, чы яму чорт паказвае дарогу, ён жа за намі гоніцца, уцякайма ў іншую старану!» Перапраўляюцца яны тады праз балоты, праз багны.

Аж ён зноў крычыць, нібы ўжо недалёка іх будучы: «А пачакайце мяне, ге, ге!»

Поп з пападдзёю зноў у іншыя бакі. Ужо з папа і пот ліецца, а ўсё ж, губячы след, у розныя кідаецца бакі.

А парабак кліча іх: «А па-ча-кай-це мя-не, ге, ге!»

Тут поп, мала сілы ўжо ў сабе маючы, прыбягае да ракі вялікай, праз якую цяжка перабрацца, потым, як змардаваны, скінуў з сябе мех на зямлю, а парабак, седзячы ў мяху, сказаў: «Ой, ой-чаньку, як жа няміласэрна ты мяне кінуў!»

Тут поп, здзівіўшыся, сказаў: «А ты што тут робіш?»

А на тое парабак: «А я ж з вамі ўцякаю!»

Тут поп, не ведаючы, што мае болей чыніць, пацісnуў плячыма і рашыў, каб пры той рэчцы пакладіся спаць, Загадаў тады поп легчы парабку пры самым беразе той ракі, сам лёг пасля яго, а пападдзя — ад поля. Пакладіся такім чынам.

Поп з пападдзёю, змардаваныя, паснулі цвёрдым сном, парабак жа, добра думаючы пра сябе, не засынаў, але калі адчуў, што поп і пападдзя паснулі, тады ўстаў, перайшоў за пападдзю і пачаўшы яе штурхаць, разбудзіў яе і сказаў ёй: «Папіхайма парабка!» Пападдзя зразумела, што гэта ёй кажа поп, папхнулі небараку папа, аж поп у ваду, баўбыць, паляцеў. Толькі тады сказалі яны да сябе: «Ах, што ж мы здзелалі, ушак мы штучку ўтапілі!»

Парабак пападдзю супакоіў, і, за рукі ўзяўшыся, пайшлі, і з сабой шлюб узялі.

Так тое збываецца, што сказаў русін: «Дастаў пап слугі, як чорт грэбла!»

Манах Жэра, як і іншыя яго сучаснікі, апранутыя ў сутану (прыгадаем біскупа Т. Красіцкага з яго паэмай «Манахамахія»), з'едліва высмейваў не толькі праваслаўнае, але і каталіцкае духавенства. Яно ставіцца, скажам, куды ніжэй філосафаў. У некаторых анекдотах дастаецца і самому папе. Беларускія сяляне, засведчыў Жэра, скептычна адносіліся да ксяндзоў, абзывалі іх на споведзі рознымі непрыстойнымі словамі і ўвогуле не лічылі за людзей. Вось які выпадак здарыўся аднойчы з аўтарам у Сенненскі перыяд яго жыцця.

КСЯНДЗЫ — НЕ ЛЮДЗІ

Я, будучы сам ксяндзом, да таго францысканцам, заўсёды меркаваў, што ксяндзы з'яўляюцца людзьмі, так як і іншыя людзі, але,

жывучы на Белай Русі, даведаўся наступнае. У адсутнасць ключніка пайшоў я сам з кухарам на вяндлярню, дзе саланіну і іншае мяса вешаюць.

Пачаў той кухар браць, рэзаць мяса, колькі хацеў, і, нарэзаўшыся, сказаў: «Досыць будзе!» — і тут зноў рэзаць пачынае.

Я пытаюся ў яго: «А гэта нашто ты рэжаш?»

Аж ён адказвае: «Гэта, маспане, для людзей».

Я на гэта яму: «Альбо ж мы не людзі?»

Ён кажа: «Не, вашэці не людзі».

Я: «А хто ж мы?»

Ён мне адказвае: «Вашэць ксяндзы, а не людзі».

І толькі тады я даведаўся, што мы ксяндзы, а не людзі!

Вальнадумства Жэры праявілася і ў яго крытыцы тагачаснага феадальнага ладу. У зборніку выразна паказана цяжкае паднявольнае жыццё беларускага селяніна. Для яго, сцвярджае аўтар, «хлеб з мякінаю — то не голад, сарочка грэбная — то не галота, пруга лычаная — то не бяда», бо часта бывае так, што ні хлеба, ні кашулі няма. У апавяданнях Жэры паны здзекуюцца з сялян, прымушаюць іх працаваць за мізэрную плату. Адна гаспадыня, гаворыцца ў фацэціі пад нумарам 140, карміла свайго парабка толькі моркваю. Даведзены да адчаю селянін стаў прыкідвацца, што ад такой нішчымнай стравы ён пачынае вар'яцець. Гэта падзейнічала на прыдуркаватую шляхцянку. «Ой, ашалеў парабак,— гаворыць яна сама сабе па-беларуску,— ашалеў, ад морквы ашалеў, о, ужо ж я яму ніколі не буду даваць морквы». Панства ў зборніку ўпадабняецца пошасці. У цыкле анекдотаў пра полацкага магната Жабу мужык, якога прывялі агледзець хворага вала, кажа, што таго «праклятая жаба мучыць». Калі ж прысутныя слугі, зразумеўшы намёк, рассмяяліся, селянін нібы пачаў апраўдвацца, іграючы на сугуччы слоў: «Гэта, пане, такая хвароба называецца». Прыгоннікі ў Жэры часта надзелены абразлівымі прозвішчамі-мянушкамі.

### ПАГЛЯДЗІ, ЧЫТАЧ, ШТО ПАЛІТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ МОЖА І ЯК СЯБРОЎ ПРЫДАЕ

У адну карчму прыехаў на начлег пан Быкоўскі, пасля яго хуценька пад'ехаў пан Бараноўскі — вячэру разам з'елі і, калі змяркалася, сказалі людзям сваім карчму замкнуць, а самі паклаліся спаць.

Як толькі сцішыліся, заязджае ў тую карчму трэці падарожны і пачынае стукацца, клічачы: «Адкрый!»

На тое паноў тых людзі адказваюць, што тут ужо няма месца, бо двое паноў тут ужо спыніліся.

Пытае той падарожны, якія тут паны пастой маюць.

Адказваюць людзі, што тут спыніўся адзін пан Быкоўскі, а другі пан Бараноўскі.

На тое падарожны, а прозвішча ў яго было Свінярскі, сказаў: «Ах, дзеля бога жывога, у такім прыгожым хляве ці не можа тут і пан Свінярскі змясціцца!»

Тады тыя двое, лічачы, што гэта чалавек з багатым уяўленнем, сказалі сваім людзям: «Адчыніце, нейкі цнатлівы чалавек прыехаў!»

Прыемнымі тады размовамі з сабой уволю нацешыўшыся, з добрымі думкамі паснулі сабе і ў вялікім задавальненні назаўтра раз'ехаліся паміж сабой.

Па-беларуску ў зборніку гавораць не толькі сяляне, але і прадстаўнікі другіх саслоўяў і сацыяльных груп. Вось пані Пакаш, жонка полацкага суддзі. Аднойчы яна паслала служанку ў свіран за некалькімі рэчамі, але тая забыла прынесці адну з іх. І тады суддзіна адпраўляе дзяўчыну назад з прымаўкай: «Калі галава дурная, то нагам худа». Вось дробны шляхціц з Піншчыны. Жадаючы падкрэсліць сваю незалежнасць ад магнатаў, ён загадаў намаляваць на браме чалавека, які малоціць цэпам збожжа. Унізе пад малюнкам ішоў беларускі подпіс: «Нас[...] багачу, калі свой сноп малачу». Вось сын карчмара Лейба. Аднойчы палез ён на паддашак, каб верабейчыкаў з гнёздаў выбраць, зацерушыў там агонь, а калі загарэўся дах, хуценька збег уніз і сумны ходзіць па хаце. Маці пытае яго, пра што ён так думае. А Лейба ў адказ: «Ой, я думаю, кабы наша карчма загарэлася, дзе б нашы верабейчыкі падзеліся?» Вось у пекле сустракаюцца шынкарка і млынар. Яна трапіла туды за тое, «што меры не далівала». «Ой, пані кума,— адказвае ёй млынар,— я і з вярхом браў, а такі мяне тут прыслалі». Адным словам, зборнік сведчыць, што ў другой палавіне XVIII стагоддзя паланізацыя не была на Беларусі ні канчатковай, ні поўнай, што гутарковая беларуская мова бытавала тады ў розных сацыяльных асяроддзях (дзякуючы Жэры мы сёння маем розныя ўзоры гэтай мовы).

Ну і, вядома ж, па-беларуску гавораць у зборніку сяляне. Яны «сыпяць» прымаўкамі («з богам а з мядзведзем ніколі не барукаліся, бо абодва дужыя»; «хоць у вашэці карона, такі вашэць варона»). Нягледзячы на прыгнёт, селянін у Жэры не губляе чалавечага аблічча. Ён дасціпны, вясёлы, па сваіх разумовых і маральных вартасцях часта стаіць вышэй, чым прадстаўнікі пануючых класаў. Млынар, падобны на Несцерку, перамагае ў дыспуце нават караля. А сам Жэра быў здзіўлены самастойнасцю думак аднаго Сенненскага селяніна:

## ЯК МУЖЫК ПРОСТЫ ДОСЦІПАМ РАЗАНУЎ МЯНЕ НА БЕЛАЙ РУСІ

Будучы на Белай Русі, у канвенце Сенненскім, зімой неяк глянуў я ў печ і ўбачыў, што агонь у печы пагас. Пачаў сам папраўляць. Раптам надышоў стораж, прамовіў я тады да яго так: «Папраў мне дровы вось такім чынам!» І пачалі ў тым месцы дровы гарэць. І сказаў я тады яму: «Вось бачыш, калі паслухаеш людзей, то на карысць пойдзе!» І пытаюся ў яго: «Хіба ж не праўда?»

А ён мне адказвае: «Праўда, маспане, заўсёды людзей слухай, а для таго свой розум мей!»

Хто ў такіх справах разбіраецца, зразумее, як ён тут мяне ўцяў! А мужык просты быў.

Зборнік дае таксама магчымасць меркаваць пра некаторыя беларускія мастацкія творы XVIII стагоддзя, тэкст якіх да нас не дайшоў. Старая праваслаўная гарбарыха, у якой кватараваўся Жэра ў Драгічыне, любіла спяваць тагачасны «жорсткі раманс», які пачынаўся словамі:

Ой, я умру з вечара,
А ты умрэш з ранку,
Няхай жа нас пахаваюць
Хоць у едную ямку!

Відаць, след нейкай беларускай іроікамічнай паэмы на біблейскі сюжэт дайшоў да нас, дзякуючы Жэры, у выглядзе двух вершаваных радкоў пра галаву Алаферна, якую адсекла помслівая Юдзіф:

(Збудзіўся) Галафернес, а галава куды,
От, табе без галавы: ні туды ні сюды.

Усяго ў ленінградскі рукапісны зборнік, датаваны прыблізна 1773-1798 гадамі, уключаны 233 пацешныя і павучальныя гісторыі. І добрая палавіна з іх заснавана на беларускім матэрыяле, насычана мясцовымі рэаліямі. Беларускай мовай Жэра карыстаўся з такой жа лёгкасцю і натуральнасцю, што і польскай. Ён быў адным з першых мясцовых аўтараў, якія смела і ахвотна чэрпалі з народна-фальклорных крыніц. Жывасць і займальнасць апавядання, надзённы і гуманістычны змест забяспечылі творам Жэры шырокую папулярнасць. Відаць, у яго быў не адзін рукапісны зборнік, а некалькі. Яны перапісваліся, вар'іраваліся, дапаўняліся. Адзін з такіх зборнікаў, вельмі адметны ад ленінградскага, быў у свой час знойдзен этнографам Зыгмунтам Глогерам (зяцем А. Ельскага) і выдадзены ў Варшаве ў 1893 годзе. Вядомы польскі вучоны Ю. Кшыжаноўскі, аналізуючы гэта выданне, пазваў творы Жэры «дасканалымі», а яго самога —

своеасаблівым прадвеснікам рамантызму. Прынамсі, спосаб выкарыстання фальклору ў яго апавяданнях і ў рамантычных гавэндах (гутарках) у многім падобны. Урэшце, творы Кароля Жэры былі ў 1980 годзе выдадзены ў Варшаве як помнік «гутарковай» літаратуры эпохі Асветніцтва. У прадмове да гэтага зборніка высока ацэньваюцца мастацкія вартасці твораў Сенненскага аўтара, падкрэсліваецца, што ў іх ёсць шматлікія і багатыя беларускія элементы.

«Торба смеху» Кароля Жэры належыць да агульнай спадчыны двух славянскіх народаў — беларускага і польскага.

1974—1984

## «ПРЫБУДЗЬ, ПРЫБУДЗЬ, МАЕ СЭРЦА...»

Гаворку пра гэту знаходку, мусіць, трэба пачаць з публікацыі ў польскім часопісе «Славія арыенталіс». Яшчэ ў 1966 годзе маскоўскія даследчыкі Ніна Філіпава і Аляксандр Пазднееў змясцілі там артыкул «Польскія песні ў рускім рукапісным зборніку XVIII стагоддзя», дзе прывялі тэксты васьмі песень, запісаных кірылічным скорапісам дзесьці ў канцы XVIII ст. Вядомая польская вучоная, адна з аўтараў польска-беларускага слоўніка, прафесар Антаніна Абрэмбская-Яблонская, аналізуючы апублікаваныя тэксты, пісала там жа, што зборнік несумненна паходзіць з ваколіц Бабруйска, што ў ім многа беларусізмаў, выразна праявіліся аканне і яканне, а адна з васьмі песень, «Прачыстая дзева, маці рускага краю», па сутнасці з'яўляецца не польскай, а беларускай.

У 1966 годзе варшаўская публікацыя не выклікала ў мяне асаблівай цікавасці. Але потым, у 1970-1972 гадах, у польскіх рукапісных і друкаваных зборніках XVII-XVIII стагоддзяў мне пашчасціла знайсці нешта каля ста твораў беларускай песенна-інтымнай лірыкі (часткова яны змешчаны ў кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў», якая ў 1974 годзе выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»). І тады лагічна ўзнікла пытанне: а ці не маглі апалагічныя творы трапіць і ў рускія зборнікі?! Праўда, адзін з такіх зборнікаў я ўжо ведаў. Гэта — рукапісныя «Куранты», складзеныя ў 1733 годзе для яраслаўскай купчыхі (ці купецкай дачкі) Пратапопавай. Побач з рускімі тэкстамі ў зборнік уключаны больш 10 беларускіх песень з нотамі. Упершыню «Куранты» я пабачыў у Пушкінскім доме ў Ленінградзе яшчэ ў 1964 годзе. Але тады па розных прычынах знаходку не ўдалося абнародаваць, і ў 1970 годзе «Куранты» ўпершыню былі апублікаваны англійс-

кімі славістамі А. Макмілінам і Ц. Дрэйджам на старонках «Оксфардскіх славянскіх запісак». Гэта, дарэчы, і падштурхнула мяне заняцца зборнікам, апісаным Н. Філіпавай і А. Пазднеевым. У варшаўскім часопісе былі ўказаны нават каардынаты рукапісу: Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве, інвентарны нумар 23898/213.

І вось, палюбаваўшыся адрэстаўраванай Краснай плошчай, іду ў славуты Гістарычны музей. Выпісаўшы пропуск, крочу праз залы, у якіх сабраны бясцэнныя скарбы, у тым ліку звязаныя з гісторыяй Беларусі. На другім паверсе знаходжу аддзел рукапісаў. Бачу засяроджаныя твары людзей, што гартаюць старадаўнія фаліянты.

— Не, рукапісу з такім вялікім нумарам у нас няма і быць не можа,— кажа дзяжурная.— Тут нейкае непаразуменне. Праверце па нашых вопісах.

Гартаю апісанні музейных збораў. Заказваю зборнікі, у чымсьці падобныя да таго, што мне патрэбны. Пасля некалькіх няўдалых спроб — першая знаходка. У зборніку пад нумарам 3134, датаваным 1742 годам, сярод рускіх духоўных і свецкіх песень з нотамі аказалася невядомая дагэтуль беларуская песня, у якой малады хлопец-сіраціна скардзіцца на сваю беднасць, на разлуку з каханай. Тэкст яўна літаратурнага паходжання, хоць у многім і блізкі да фальклору.

Кірылічны скорапіс XVIII ст. безумоўна не адпавядаў ні тагачаснаму, ні тым больш сённяшняму беларускаму вымаўленню. Таму прыходзіцца задумвацца над кожным словам, выпраўляць апіскі, урэшце, ставіць знакі прыпынку. Паволі ўзнаўляецца тэкст у такой, прыблізна, моўнай форме, у якой ён гучаў пры спяванні год прыкладна 250 таму назад:

Да цяпер во я пры беднасці, пры вялікай тузе:
Астаўляю сваю міленькую, як каліну ў лузе.
Да цяпер я пры беднасці, пры вялікім смутку:
Астаўляю сваю міленькую, як голуб галубку.
Голуб сівы, голуб сівы, галубка сівейша,
Ой, міла жэ мне родная матка, дзяўчына мілейша.
Да цяпер жэ я пры беднасці, пры вялікай бедзе,
Астаўляю сваю міленькую, як утанку ў водзе.
Ой, мне утанка на водзе, селязень за вадою,
Прыбудзь, прыбудзь, маё сэрца, згаворым са мною.
Да цяпер жэ я пры беднасці, як прыблудна оўца.
Не з кім мне прамовіці сладка верненькага слоўца.
Плыві, паплыві, селязеню, да вніз за вадою,
Накажы жэ ты маему роду, што я сіратою.
Да цяпер жэ я, сіротонка, на свеце астаюся,

Украдзены тыя кружолачкі, што з печы спускаюся.

У зборніку пад нумарам 3134 — звыш дзесяці беларускіх любоўных песень, напісаных невядомымі аўтарамі ў канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў («Нашы канапелькі ў зіме зеляненькі», «Ох, жаль жа мне сябе, і сэрданьку нудна», «Вялела мне маці зялён ячмень жаці» і інш.). Асабліва цікавая сярод іх песня «Цячэць вада па даліне», якая, мабыць, трапіла ў Беларусь з Украіны:

Цячэць вада па даліне,
Шырако лясная ліне.
Прыхілюся к міленькому
І к лічэнку беленькому.
Ой, п'ет жэ он папівает,
Міленькую вспамінает.
Запрагайце коні враны,
Поедземо мы да Грані.
Прыехалі прэд балові,
Вышла міла для размовы:
— Ой, я жыву край Дунаю,
Цебе, сэрцэ, вспомінаю.
— Не пайду я і з табою,
П'ян, сярдзіта, аж не ўстою.
Пусціл есі туман густы,
Хочаш мяне з ума звесці.
— Ой, звяду, я не убогі,
У мяне ёсць грошай многа.
— З кім люблюся — абыймуся,
Да сердэнка прыгарнуся.
За рэкамі, за вадамі
П'ет мой мілы з казакамі.
— Запрагайце коні в санкі,
Поедземо да каханкі.
Прыехалі прэд варота,
Выпіла міла крашэ злота:
— Ой, гдзе жывеш, прабываеш,
Сваю мілу забываеш.
— Хадзі, мілая, за мною,
Будзем мы жыці з табою.
— Ты, казана, завалока,
Любі ж мяне, як нарока.
Ой, нізведзеш ты, нябожа,
І бог табе не паможа.

Твае грошы, як палова,
Я дзяўчына чарнаброва.

У гэтай песні кідаюцца ў вочы разыходжанні з сучаснай беларускай мовай. Але яны не павінны нас бянтэжыць. Мова ж, як і ўсё на свеце, увесь час змяняецца, развіваецца. 250 год таму назад яна, зразумела, была іншай, чым цяпер. Таму лексіка песні прыкметна, але не так ужо і многа розніцца ад слоўнікавага складу сённяшняй мовы.

Выйшаўшы з музея, я зноў задумаўся над тым, як знайсці зборнік, апісаны ў варшаўскім часопісе. Можа, пазваніць камусьці з аўтараў артыкула? Праз даведачную з цяжкасцю знаходжу нумар тэлефона прафесара Пазднеева.

— Аляксандр Уладзіміравіч нічога вам сказаць не можа,— пачуў я ў трубцы сумны жаночы голас.— Ён ужо з год вельмі цяжка хворы...

Заставалася Ніна Філіпава. Але паколькі я не ведаў яе імя па бацьку, а Філіпавых у Маскве літаральна тысячы, тэлефонная служба не змагла мне нічым дапамагчы.

Праз колькі дзён у музеі, пад нумарам 2929, знайшоўся яшчэ адзін рускі рукапісны «Песеннік» з беларускімі тэкстамі. Даты на зборніку няма, але паколькі ў ім багата гімнаў у гонар імператрыцы Елізаветы Пятроўны, яго прыкладна можна датаваць 30-40 гадамі XVIII ст.

Асабліва прывабліваюць у зборніку два лірычныя дзявочыя маналогі. Маладая гераіня скардзіцца на свайго каханага, які забыў пра яе:

Быстранькія рэчанькі, халодныя воданькі,
Даль бо, хто яго там дзержыць, што да мяне міл не бяжыць.
Ой, хоць лістанькі пішы, ой, хоць служаньку прышлі.
Ні лісточкі не пісаў, ні служаньку не прыслаў.
У мяне ножанькі не дрыжаць, цябе, мой мілы, праважаць,
У мяне устанькі не свярбяць, цябе, мой мілы, цалаваць.

У другой песні, многім блізкай да першай, гаворка ідзе аб радаснай сустрэчы закаханых пасля доўгай разлукі:

Памажыце плакаці, міленькога чакаці,
Ці іншую міл мае, што да мяне не прыбывае,
Прышлі, прышлі служаньку, узвесялі маю тужаньку.
Хвалю ж цябе, дружа мой, што сам, сэрданька, прыбываеш.
Бяры стрэлы і сайдак, я пайду сама пеша так.
У мяне ручанькі не баляць цябе, міленькі, абнімаць.
Там пярына пухова ўбрана пра мілова.
Усягда рада з табой быці, нікагда жэ пазабыці.

Побач з песнямі-маналогамі ў зборніку ёсць і дыялогі. Закаханыя вядуць паміж сабой размову — клянуцца ў шчырасці пачуццяў або наракаюць на нявернасць. Некаторыя з такіх дыялогаў крышку фрывольныя. Але ў тыя часы, калі панавала царкоўная ідэалогія, калі пачуццёвае каханне абвяшчалася грэхам, такія творы мелі «крамольнае» гучанне. Яны сцвярджалі права чалавека на каханне, на «зямное» шчасце:

— Ой, перастань, мой наймільшы, да мяне хадзіці,
А мяне жа, маладзеньку, з розуму звадзіці.
— Як я маю перастаці, калі люблю цебя,
А ты, мая наймільшая, упусці да себя.
— Як я маю упусціці, маці ключы мае,
І вялікім она замкам дзверы замыкае.
— Крадзі ключы у мацеры, колі будзе спаці,
А сваёга наймільшога упусці да хаты.
Крала ключы у мацеры, маці не пачула,
А сваёга наймільшога да сябе клікнула:
— Падзі ж цяпер, мой наймільшы, пацеш маю душу,
А я табе, што захочаш, учыніці мушу.

Здаючы «Песеннік» дзяжурнай (акрамя працытаваных тэкстаў у ім яшчэ аказаліся беларускія «калядкі» і варыянт беларускай песні пра вайну грыбоў), я на ўсякі выпадак спытаў у яе, ці не ведае яна часам каардынат філолага па прозвішчу Філіпава. Праз хвіліну мне далі нумар тэлефона. Праз дзве — ужо набіраў сямізначную лічбу. І зноў — расчараванне:

— Па-першае, я не Ніна, а Іна, па-другое, у Варшаве ніколі не друкавалася,— пачуў я ў адказ звонкае шчабятанне.— Праўда, я ведаю, што сярод філолагаў ёсць яшчэ адна Філіпава. Аднойчы мяне нават віншавалі, калі быў надрукаваны яе артыкул. Але дзе яна жыве і працуе, дальбог, не ведаю — Масква вялікая. Вам жа раю заглянуць у аддзел пісьмовых крыніц. Ёсць такі ў Гістарычным музеі побач з аддзелам рукапісаў. Можа, зборнік, што вы шукаеце, знаходзіцца там...

Назаўтра, хоць гэта быў у музеі санітарны дзень, мяне ўсё ж прынялі ў аддзеле пісьмовых крыніц і ў калекцыі Шчукіна адшукалі рукапіс пад нумарам 23898/213. Толькі беларускіх песень — апрача «Прачыстай дзевы» — там не аказалася. Былі рускія («Красавица драгая!»). Былі злёгку беларусізаваныя («Мне маркотно маладзенькой»). А беларускіх не было.

Аднак апошнюю старонку рукапісу я закрываў без пачуцця расчаравання. Бо дзякуючы гэтаму зборніку ўдалося знайсці звыш 20 невядомых раней тэкстаў беларускіх любоўных песень XVII-XVIII ста-

годдзяў. Зрэшты, пры рабоце з рукапісамі так часта бывае: шукаеш адно, а знаходзіш іншае.

1975

## СЮРПРЫЗЫ ФОНДУ 1135

Як гэта часта бывае, усё пачалося з сумненняў. Сядзелі мы неяк з Вячаславам Чамярыцкім над супольным раздзелам для будучай «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» на рускай мове ды здымалі розныя «птушачкі», пастаўленыя на палях калегамі па пяру.

— А ты ўпэўнены,— спытаўся Вячаслаў,— што апавяданні «Прамова русіна» і «Другая прамова Русіна» трэба датаваць не першай, а другой палавінай XVIII стагоддзя?

— Хто яго ведае,— засумняваўся і я.— У «Полымі», дзе гэтыя апавяданні ўпершыню былі апублікаваны у 1965 годзе, абодва яны аднесены да першай палавіны XVIII стагоддзя. І сапраўды: у гэтых дужа цікавых сатырычных творах ёсць алегарызм і квяцістасць, уласцівыя часу барока, контррэфармацыі. Але ж адначасова у апавяданнях выразна адчуваецца і дух Асветніцтва. Паслухай, як смела парадзіруюцца біблейскія матывы, як высмейваецца «нябесная» і зямная сацыяльная несправядлівасць. Свет параўноўваецца з вялізнымі жорнамі, куды бог, нібы зерне, засыпае людзей. І неаднолькава, ох як неаднолькава даводзіцца ў гэтых жорнах багатым і бедным! Разумееш, для першай палавіны XVIII стагоддзя, калі Беларусь была ахутана змрокам езуіцкай рэакцыі, усё гэта занадта смела, занадта вальнадумна. Таму — калі не другая палавіна стагоддзя, то, прынамсі, сярэдзіна, часы ранняга, яшчэ непаслядоўнага Асветніцтва...

— Добра было б пагартаць сам рукапіс...— летуценна сказаў Вячаслаў.

— Што ж, хутка буду ў Вільнюсе, зайду ў Гістарычны архіў і пагартаю. Можа, там ёсць нейкія канкрэтныя даты або вадзяныя знакі на паперы...

І вось сяджу ў ціхім архіўным будынку на Добрай радзе. Праз закратаваныя вокны прабіваюцца промні не па-лютаўску шчодрага сонца, асвятляюць невялікі рукапісны «Зборнік урыўкаў з розных літаратурных, палітычных і забаўных твораў». На цёмнай вокладцы ззяюць пазалотай выціснутыя лацінкай ініцыялы — «М. С.». Каму яны належаць? Уладальніку зборніка? А можа, самому аўтару, перапісчыку? І хто ён? Ва ўсякім выпадку, гэта быў чалавек адукаваны. Драбнюткімі круглымі літарамі побач з беларускімі творамі, побач з

«Прамовай русіна», «Другой прамовай русіна», камедыяй «Вакханалія», перапісаны апавяданні, прамовы, сцэнкі на польскай і лацінскай мовах. Пад некаторымі з іх стаяць даты — 1717, 1725, 1733, 1735, 1741, 1743. Сустракаюцца і больш раннія — 1658, 1664, 1698 і нават 1579. Зразумела, што гэта даты ўзнікнення твораў, перапісаных невядомым збіральнікам. На жаль, пад абедзвюма «Прамовамі» такіх дат няма... Тады, можа, што падкажуць філіграні? Па вадзяных жа знаках можна ўстанавіць, у якім прыкладна годзе была зроблена папера... Праглядаю на сонца кожную старонку. Нарэшце знаходжу адзін знак: на ўпрыгожанай лісточкамі і кветачкамі кароне ўзвышаецца пахілы крыж. Кідаюся да нядаўна выдадзенага альбома Е. Лаўцявічуса «Папера ў Літве ў XV-XVIII стст.», дзе ёсць і беларускія філіграні. Не, на жаль, якраз такой няма. Відаць, папера была завезена аднекуль здалёк...

Расчараваны, пачынаю спакваля перачытваць тэксты — не толькі тыя, што ўжо апублікаваны ў «Полымі», але і польскія, лацінскія — усё падрад. Сярод «усялякай усялячыны» сустракаюцца розныя парады, рэцэпты, эпітафіі, дыялогі. Некаторыя з іх маюць яўна вальнадумны характар. Напрыклад: «Калі пан Езус стаяў на адной назе? — Калі сядаў на асла»; «Якія людзі самыя вясёлыя? — Ксяндзы, бо пяюць над нябожчыкам...» І гэтак далей — на цэлую старонку.

А вось польская «Падарожная, якой адзін шляхціц, што ехаў у Полацк, быў надзелены на развітанне іншым шляхціцам». Зрэшты, польскасць гэтага твора вельмі адносная. І па змесце, і па мове. У «Падарожнай» многа беларусізмаў, беларускіх прымавак і параўнанняў. Пажадаўшы сябру, каб ён меў у дарозе ўсяго столькі, колькі Пінск мае ўюноў, Слуцк — юхтовай скуры, а Ваўкавыскі павет — каменняў, невядомы нам аўтар дадае: «Колькі мае Скірмунт грошы, пан Сяміградскі — вошы». Канчаецца ж «Падарожная» такімі словамі: «Дай жа, божа, в. пану, прыбыўшы да Полацка, не цярпець той нужы, да лазні пасляшыць, покі естэсь дужы...» Дарэчы, беларусізмаў багата і ў іншых польскіх творах. Сустракаюцца цэлыя «чатырохрадкоўі»:

Пан мой кланяецца табе і зычыць,—
Шчоб ты была красна, как вясна,
Багата, как осень, плодная, как свіння,
От табе і коўшык на брагу...

Урэшце на старонцы 163-й знаходжу невядомы дагэтуль беларускі празаічны твор — «Евангелія руская». Відаць, у маіх «папярэднікаў» па рукапісе пасля абедзвюх «Прамоў» і інтэрмедыі ўжо не хапіла запалу, каб дачытаць зборнік да канца... Мастацкія вартасці «Евангеліі рускай» не дужа каб вялікія, але ж нельга забываць, што яна

пісалася ў XVIII стагоддзі, ад якога да нас дайшло не так ужо і шмат беларускіх твораў. Апрача таго, знаходка цікавая яшчэ і тым, што гэта — парадыйная «радаслоўная» самога Багдана Хмяльніцкага, адно з першых упамінанняў аб ім у нашай літаратуры. З'явіўся твор, відаць, у шляхецкім асяроддзі.

ЕВАНГЕЛІЯ РУСКАЯ

Кнігі радзенныя, пладзенныя ўсіх малаверных русакоў. Напачатку, мае дзітанькі, не было нічога, а тое нічога нарадзіла нікога. І так зрадзіліся, спладзіліся пры чорном лесе, пры гнілым балоце Апанас і Кунас, Апанас зрадзіл Якіма, Якім Трахіма, а Трахім апядзь парадзіл Грышку, Грышка апядзь парадзіл Арышку, Арышка парадзіл Саўку, а Саўка Булаўку, а Булаўка апядзь парадзіл Малемона, Малемон Філімона, а Філімон парадзіл Курылу, Курыла Гаўрылу, а Гаўрыла апядзь парадзіл Юрку, а Юрка Панцялея, а Панцялей парадзіл Сяргея Мельніка і жонку яго Хвеську. Хвеська апядзь парадзіла Бабу, а Баба парадзіла Нядзведзя — кусага звера, а той Нядзведзь — кусы звер — апядзь парадзіл Бабу, а тая ўжо Баба не парадзіла Нядзведзя — кусага звера, да й парадзіла Хмеля, казацкага Гетмана, каторага вялічает Царыца Маскоўская і ўся Русь Малаверная».

Што ж, падумалася, карпатлівае чытанне дало хоць нейкі плён (цікава было б устанавіць, ці ёсць ва ўкраінскай літаратуры твор, падобны да «Евангеліі рускай»?!). Пара ўжо і здаваць зборнік назад. У апошні раз адкрываю вокладку. Гляджу на эксслібрысы. Яны сведчаць, што рукапіс спачатку належаў графу Антону Тышкевічу, потым — Віленскаму музею навукі і мастацтва, а той падарыў зборнік Віленскаму таварыству сяброў навук. Фонды ж апошняга склалі разгалінаваны 1135 фонд Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР. Праўда, эксслібрысы нічога не гаварылі, хто быў першы ўладальнік рукапісу, хто і калі яго перапісваў...

І тут раптам кінуўся ў вочы сціплы падзагаловак да зборніка: «Пісаны пасля 1741 г. Том І. Прозай». Ага, значыць, ёсць усё ж сэнс датаваць «Прамовы» сярэдзінай XVIII стагоддзя. І калі існуе том першы, то лагічна дапусціць думку, што дзесьці існуе і том другі — з творамі вершаванымі. Толькі дзе? Пад наступным, дзевяностым нумарам у тым жа другім вопісе 1135 фонда? Заказваю дзевяносты рукапіс — нічога падобнага. Нейкі лацінскі слоўнік 1742 года. Відаць, абнадзеіў я сам сябе, старыя вопісы не супалі з новымі...

І тады пачаў праглядаць усе рукапісы другога вопісу падрад...

Рукапіс 103. Побач з каралеўскім прывілеем, нададзеным Ушачам (вось узрадуецца Рыгор Барадулін, калі паведаміць яму...),

змешчана польская сатырычная паэма «Рыцар у Кірысі», датаваная дзесьці 1776 годам. Зрэшты, і тут польскасць вельмі адносная. Героі часта карыстаюцца беларускай мовай. Напрыклад, адзін «юрыста» звяртаецца да другога так:

Куды табе, харпак, ваяваць
Да й на каня яшчэ сядаць.
Ты ўсеў на каня да й зваліўся,
А казак цябе цягне за чупрыну
І сячэ, сячэ канчуком чэраз спіну...

Рукапіс 145. Складзены дзесьці каля Забелаў — там, дзе напісаў сваю «Камедыю» Каятан Марашэўскі. Распачаты ў 1809 годзе і закончаны каля 1824 года. І зноў — беларускія вершы. На гэты раз — пра п'янства («Пілі айцы, пілі дзеды, і мы ўступім у іх следы»).

Рукапіс 147. Нарэшце! Той жа велічыні і з той жа вокладкай зборнік. Той жа дробненькі, «макавы» почырк. І надпіс на першай старонцы: «Том II. Вершы». Адкрываю зборнік наўздагад — і адразу трапляю на беларускія вершаваныя радкі. Пісаны яны лацінкай, на правілах тагачаснай польскай арфаграфіі ды яшчэ без знакаў прыпынку. Значыць, будуць цяжкасці пры передачы тэксту ў адпаведнасці з сучаснымі беларускімі нормамі. Літаральна над кожным словам даводзіцца задумвацца: а як яно гучала б у вуснах аўтара тады, як яго мог сказіць польскі правапіс і як яго пісаць сёння, каб не было залішняй мадэрнізацыі. Праўда, у тэксце ўжо выразна (хоць і не заўсёды паслядоўна) адбіліся асноўныя асаблівасці беларускай мовы — аканне і яканне, дзеканне і цеканне, нескладовае ў. Таму перапісваю амаль літаральна — толькі, вядома, карыстаючыся беларускім алфавітам.

## ПТУШЫНЫ БАЛЬ

Да ўчыніў верабей на прыпечку жніва,
Змалаціўшы, уварыў пшанічнае піва.
Паўтычыны хмелю даў, вельмі ж тога жалаваў,
Думных меў прахаці, гасцей частаваці.
На музыку паўтарак, вялікую суму
Адлічыўшы: — Ну, казак, шчоб загралі думу.
Я, худак-верабей, запрасіўшы гасцей,
Мушу весел быці, з німі вэспол піці.
Ой, прыляцеў снігірок, скрыпачок не просты,
Сказаць пану верабею: — Едуць к табе госці,
Едзець пан журавель, і дзядзька твой хрусцель,

І пані сініца, родная сястрыца.
Скочыў хутка верабей госці спатыкаці,
Гляне ў поле быстрым окам, аж іх не відаці.
Толькі два пугачы, слаўныя трубачы,
І пан крук басіста, бацян варганіста.
— Мае мілы суседы, паны музыканты,
Заграйце ж мне танцы, вясёлэ драганты.
Мілы кручку, заспявай, снігірочку, заскрыпай,
А ты, пане бацяне, зайграй на варгане.
Як верабей-гаспадар весела танцуе,
Запрашоных да сябе гасцей не пільнуе.
Замкі біюць, адмыкаюць, самі піва наліваюць.
Верабей не бачыць, весел в дому скачыць.
Як верабей-гаэспадар перастаў скакаці,
Стануўшы пры парозе, пачаў прыймаваці:
— Ой, мая ж ты мілая, ой, дружачка любая,
Я верабей, слуга ваш, чакаў да туль век вас.
І так думных ён гасцей садзіць кала стола,
Засадзіўшы, быў ім рад, не змаршчыўшы чола.
І сарокі і галіцы селі разам на паліцы.
Села і варона, хаця ж непрашона.
На той банкет камара з мурашкаю забілі,
З камарэнька тры полці сланіны злупілі,
Сто келбас парабілі і тры кумпі усвэндзілі.
Схабы прыпякана, да столу давана
І так думных гасцей усех чэнставана.
Камара з мурашкаю смачна ўжывалі.
За здароўе вераб'я елі, пілі аж да дня,
Не чыніўшы здрады, не дазнаўшы звады.
Калі блізка паўночы сава прыляцела,
Так ціхонька пад сталом на здраду ўсела.
Старшы госць журавель казаў сабе слаць пасцель.
Хрусцялёк упіўся, пад стол падваліўся.
Паруець сава хрусцяля, на пул разадрала,
А спячому жураўлёві горла пракусала,
Гаспадара не зганіла, музыкантаў параніла,
А сарокі з печы мусілі ўцечы.

Як бачым, па сваёй лексіцы верш вельмі блізкі да сучаснай нашай мовы. Застаецца вытлумачыць толькі асобныя словы — паланізмы, лацінізмы і старaславянізмы. Прахаць — гэта, безумоўна, прасіць, паўтарак — манета ў Рэчы Паспалітай, вэспол — разам, дра-

ганты — відаць, жарабцы, думны — горды, полці — кускі, схабы — рэбры, грудзінка, паруець — свяжуе.

Ну а змест? Змест таксама вельмі цікавы. Наіўна было б думаць, што гаворка тут вядзецца сапраўды пра птушак. Перад намі — алегорыя, так характэрная для часоў барока. І высмейваецца ў ёй, хоць і нязлосна, тагачасная шляхта, якая праводзіла сваё жыццё ў няспынным баляванні. Не выключана, што асновай для напісання твора стала нейкая народная сатыра.

Дарэчы, «Птушыны баль» шырока пайшоў у народ. У фальклорным зборніку «Жартоўныя песні» (Мінск, 1974) змешчаны ажно 17 яго варыянтаў.

Перапісаўшы «Птушыны баль» (фотакопіі тут мала дапамогуць, бо чарніла выцвіла, а папера парудзела), пачынаю штудзіраваць знаходку грунтоўна. Як і ў «Томе І», беларускія тэксты тут таксама ідуць уперамежку з польскімі (цэлыя паэмы пра Навагрудак, Лапшын), лацінскімі. Некаторыя творы, прысвечаныя канкрэтным падзеям, маюць дакладную дату напісання. Напрыклад, беларускі верш на прыезд у Вільню вармінскага біскупа Кшыштафа Шэмбека пазначаны 17 ліпеня 1729 года. Даволі дзіўны гэта верш. Вонкава ён цалкам прысвечаны рэлігійным справам: польскі біскуп прыходзіць да труны каралевіча Казіміра, які быў залічаны да святых, і паміж імі, жывым і мёртвым, пачынаецца размова. Увесь час абыгрываецца гербавая эмблематыка (у Казіміра — лілея, у Шэмбека — ружа). Але гэта ўжо не традыцыйны рэлігійны верш, а хутчэй пераканаўчае сведчанне яго разбурэння. Перад намі — жывыя людзі з зямнымі клопатамі. У апавяданні многа радкоў, узятых яўна з народнага, фальклорнага арсенала. Напрыклад:

Нуце ж, нуце, казакі, ласкавага маем,
Па святых мы, грэшнікі, князя павітаем.
Он сядзіт харошанькі, рожамі кідает,
А казельчык адзін з другім перад нім бегает.
На князюю рожу гледзят, очанькамі: луп, луп,
Рожэнькамі подкідают, ножанькамі: туп, туп.
Казельчыкі, любчыкі, застаньцеся з намі,
Наш Казімір карміці будзет ліліямі.

Дарэчы, такое спалучэнне кніжнай і народнай метафарычнасці характэрна і для беларускага вершаванага віншавання, звернутага да валынскага біскупа Стафана. У 1720 годзе ён прыязджаў у Пінск, каб пакланіцца мошчам Андрэя Баболі. Зноў пачынаецца дыялог. І дзіўна: жывы нічуць не зайздросціць таму, хто святым «узнёсся» на неба. Наадварот, ён заклікае Баболю лепш вярнуцца на «грэшную» зямлю:

— Да ўстань, устань, Андрэю, трэба сорам знаці,
Да ўжо ж слоньца прад вароты, да ўжо ж слоньца в хаці.
Наляжаўся ты даволі, устань жа, устань, чы чуў, Баболя!
Годзе, годзе спаці.

І «сьвяты» не абураецца такой ерэтычнай просьбай. Гатоў памяняць райскія «кушчы» на зямныя пакуты. Яму сумна «на высокім небе» — там «не ўседзіш, калі б хацеў».

А побач, нібы для падмацавання такіх ерэтычных думак,— зусім ужо антыклерыкальны (калі не атэістычны) дыялог мітрапаліта з чортам-пратапопам. Аказваецца, абодва яны — аднаго поля ягадкі, і высокаму царкоўнаму саноўніку ніяк не «адхрысціцца» ад нячыстай сілы.

РАЗМОВА АДНАГО МІТРАПАЛІТЫ
З ПРАЗБІТАРАМ, КАТОРЫ СЕ НАЗЫВАЛ ШАТАН,
А БЫЛ ПРАТАПОПАМ СЛОНІМСКІМ

— Чалом, чалом, шатане.
— Слава вашмосьці, міласцівы пане.
— Гдзе ж ты ездзіў, шатане?
— Па попах, міласцівы пане.
— Шчо ж ты чыніў, шатане?
— Грошы збераў, міласцівы пане.
— Чы не крыўдзіш ты каго, шатане?
— Табе нічога да тога, міласцівы пане.
— Чы многа ж ты прывёз грошы, шатане?
— Сто таляраў бітых, міласцівы пане.
— Сабе ж ты чы многа ўзяў, шатане?
— Толькі ж такі (?), міласцівы папе.
— А многа ж то на цябе, шатане?
— А естэм пратапопам, міласцівы пане.
— Скаржуць ся многа на цябе, шатане!
— Табе ж то пажытак, міласцівы пане.
— Кат цябе просіць а той пажытак, шатане.
— Мая то душа адкажэць, міласцівы пане.
— Чаму ж ты круціш-муціш, шатане?
— Неспакойная мая галава, міласцівы пане.
— Чаму ж ты очыма мругаеш, шатане?
— Праўда очы колет, міласцівы пане.
— Чаму ж ты шальберуеш, шатане?
— Праўдаю не пажыўлюся, міласцівы пане.

— Чаму ж ты лакомы на грошы, шатане?
— То мая ўцеха, міласцівы пане.
— Чаму ж таке імя ліхое, шатане?
— Імя вэдлуг паступку, міласцівы пане.
— Прэце ты чы не помніш на смерць, шатане?
— Я смерці не баюся, міласцівы пане.
— Альбо ж ты не чалавек, шатане?
— Вшак ведаеш, што я, міласцівы пане.
— Абходзішся з людзьмі добра, шатане?
— Ішчэ калі каторы, міласцівы пане.
— Чаму ж ты не быў на кржцінах, шатане?
— Бо яўныя крыжы, міласцівы пане.
— За твае злосці трэба цябе ў турму, шатане.
— Змілуйся, на цябе сто коп, міласцівы пане.
— Чы не хочаш ты быць владыкаю, шатане?
— Амін, амін, міласцівы пане.
— Чаму ж ты не ласкаў на людзей, шатане?
— Убогі я, срамеюся іх, міласцівы пане.
— Чаму ж ты не добрага роду, шатане?
— Пад такою планетаю ўрадзіўся, міласцівы пане.
— Якая ж тва планета, шатане?
— З Блізнят Ураг да Шатан, міласцівы пане.
— Чы не брат твой Шайтан Баша, шатане?
— Аднаго ж то плоту кол, міласцівы пане.
— У імя Айца, Сына і Духа С., проч ад мяне, шатане.
— Хоцьбысь хацеў адхрысціцца, не адхрысцішся ад мяне, міласцівы пане.

Здаецца, усё зразумела: адзін служка па сваёй немаральнасці роўны другому, а абодва яны бліжэйшыя сваякі самому чорту. Для чытачоў, не абазнаных са старой беларускай мовай, застаецца толькі дадаць, што пратапоп — гэта галоўны поп царквы, шатан — чорт вышэйшага рангу, таляр — манета, нажытак — карысць, мругаць — міргаць, шальбераваць — ашукваць, вэдлуг — паводле, прэце — дык, вілак — аднак, а кржціны — хрысціны...

А далей пайшлі зусім свецкія творы. Па-беларуску алегарычныя. Дзейнічаюць у іх насякомыя, птушкі і нават грыбы. Сустракаецца знаёмы нам ужо шэры верабейчык — відаць, гэта своеасаблівы сімвал збяднелага засцянковага шляхціца. І ўсюды скрозь алегарычнасць лёгка праглядваюцца людскія ўзаемаадносіны, пакуты, страсці. Адкрывае «анімалістычны» цыкл верш пра чорнага жучка, што, на гора сваёй маці, утапіўся ў рэчцы.

ЛЯМЕНТАЦЫЯ МАТКІ
НАД ТОНУЧЫМ СВАІМ СЫНКОМ ЖУЧКАМ

Ляцеў чорны жук, жук дай да рэчкі пук, пук.
Прыляцела яго маці, стала жучку жалаваці:
— Ох, мой мілы жучку, подай жа мі ручку!
Я, няшчасна маці, пайшла ў поле жаці.
Ты в сілонку дуфаў — у быструю рэчку ўпаў.
Ох, мой мілы жучку, подай жа мі ручку!
Віжу сына свого в рэчку ўпадлога,
Віжу жучка мога юж ледва жывога.
Ой, чы піці захацеў, чы ад слонца упацеў.
Ах, мой мілы жучку, подай жэ мі ручку!
Што ж я пачну собе, як дам раду тобе,
Альбо утаплюся, альбо ўдаўлюся.
Ах, мой мілы жучку, подай жэ мі ручку!
Слёзы з очак плынуць, жалі в сэрцу выюць;
Очэнькамі: луп, луп, ножэнькамі: туп, туп.
Ах, мой мілы жучку, подай жэ мі ручку!
Подай жэ мі обе, як дам раду тобе?
Або з нім на векі не выходзіць з рэкі.
Ах, мой жучку, подай жэ мі ручку!
Чы я ж тобе того не мовіла,
Чы я ж тобе шчо злого жычыла:
Не лятай, не гуляй, па водуньца не плывай.
Ах, мой мілы жучку, подай жэ мі ручку!
Да ўжо ж рыбкі плынуць; хутка выплываюць,
Майго сынка жучка палкнуці думаюць,
Ах, бяруць, ох, ірвуць, ох, кусаюць, палынаюць.
Майго сынка жучка не застала й ручка.
А я, бедна маці, што ж буду дзелаці,
Колі болей сынка не буду відаці?
Ах, скочу, ах, рынуся, за табою утаплюся.
Нехай жаль мой знаюць, матку пажыраюць.

Каментарыі да гэтага верша патрабуюцца самыя нязначныя: дуфаць — гэта па-польску пераацэньваць свае сілы, зазнавацца, а жычыць — зычыць.

Бадай, найбольш цікавы з сацыяльнага пункту гледжання з'яўляецца ў зборніку сатырычны верш «Нязгода птаства і суд над крукам». Таксама алегарычны. Вядома, кожная алегорыя з'ўляецца шматзна-

чнай. Таму цяжка адразу сказаць, хто выведзены тут у вобразе разбойніка-крука. Буйны магнат, які не дае жыцця сялянам і драбнейшай шляхце-птаству? Або, можа, наадварот — народны заступнік тыпу Вашчылы ці Налівайкі, якога шляхта цягне на каралеўскі суд для жорсткай расправы? Уся бяда ў тым, што коскі ў вершы не прабаўлены, і радок «Пабіў, паеў, палупіў простэ мужычышча» можна прачытаць і так: «Пабіў, паеў, палупіў, проста мужычышча». Зрэшты, другі варыянт здаецца больш праўдападобным: наўрад ці кароль пакараў бы так цяжка кагосьці з феадалаў...

НЯЗГОДА ПТАСТВА І СУД НАД КРУКАМ

Ой, крычала, верашчала чайка на балоце,
Праклінала і плакала, паўшы гдзесь пры плоце:
— Ты чапліска, галота, шчо ты учыніла,
За что ж моіх Пузыноў дзеці пагубіла?
Чы ты, птуха, з тога духа, сава нешчасная,
Палыкала, пажырала ў ночы, праклятая.
— Ой, я віджу, быў тут госць, чорнае кручышча,
Пабіў, паеў, палупіў, простэ мужычышча.
Прыляцела там цяцерка кумку пацяшалі,
За ёю сойка, чайкі цётка, ела разважаці:
— Перастань жа слёзы ліці, горанька плакаці,
Тугу сэрцу жаласнэму вельмі задаваці.
І мы многа вельмі злога ад лотра цярпелі,
І пакою, над вадою жывучы, не мелі.
Раннай зоры прыляцеўшы, часта галасует,
А сарокам і варонам усёгды фальгует.
Радзім тобі, яко собі, пойдзем наглядаці,
Па шэрокіх і высокіх дубах шпегаваці.
А як знайдзем, будзем біці чалом велікому
Цару орлу над усімі птухамі старшому.
Наляцелі і уселі пад дубам шырокім,
Гладкім, цёмным, дуплаватым і вельмі высокім.
Выглядают быстрым окам блізка і далёка,
Аж скачэт крук з кручаняты на вярху высока.
Беглі хутка, вельмі прудка к свайму Осудару:
— Пожалуй нас, рассудзі нас, міласцівы цару.
Ад вяліка лотра крука вельмі крыўду маем,
Дзеці нашыя пагубіў, о, так называем.
Казаў стаці, заволаці крука да расправы,

Крука ведут, ў шыю біют, не дают направы.
Порвет за лоб і скажэт: — А ты, просты хлопе,
Будзеш каран, душагубча, здохлых коні попе.
Дэкрэт хутка па апоцы сам осудар папісаў.
Напісаўшы, сокал рэгент прэд усемі (зачытаў).
Казаў крука біць у слупа, біўшы, чвартаваці,
Чвартаваўшы, огцеці (?) і з лесу выгнаць

Дадамо толькі, што лотр — гэта нягоднік, ела — узялася, галасаваць — узнімаць шум, фальгаваць — патураць, апока — скала, камень, а рэгент — начальнік канцылярыі.

І — зноў сустрэча з бедным шэрым верабейчыкам, якога крыўдзяць больш моцныя птушкі. Тыповая з'ява для Рэчы Паспалітай з яе шляхецкай анархіяй і міжусобіцай. Таму, мабыць, верабейчык выклікае сімпатыю, а яго смерць — сум (назва верша ў зборніку дадзена на лацінскай мове, прыпеў «Ой, верабейку, сільна не можаш, чы жыў будзеш?» паўтараецца пасля кожных двух радкоў).

АПІСАННЕ ПТУШЫНАЙ ХВОРАСЦІ

Сеў сабе варабейчык на кухні,
А очкі яму падпухлі.
Ой, верабейку, сільна не можаш, чы жыў будзеш?
Прыляцелі к варабеньку сініцы.
Паглядзелі варабеньку в очыцы.
Прыляцелі к варабеньку ластоўкі,
Аглядзелі варабенька галоўкі.
Прыляцела к варабеньку плісачка,
Памацала варабенька ножачку.
Стаў сабе варабенька тужыці,
Смерці сен пачаў маліці:
— Я варабейчык, малая птушка,
Не вялікая ў мяне душка.
Арол б'ет гусі чужыя.
Шурак — курчата малыя.
Крук, як чорт чорны, многа так мае,
Варона доўга кракае,
Жэбы пугача начнога,
Жэбы кажана дурнога,
Мне, варабейка, малай птушачкі,
Не бяры барздо душачкі.
— Не тужы, верабейку, не тужы,

Барздо пазбудзеш твэй душы.
Твая годына ўжо прыцякае
Смерць сен з касою зблiжает.
Затрапаў варабейчык скрыдламi.
Абвярнуўся да гары ножкамi.
Выпусцiў душу.
Усе сен засмуцiлi,
Што варабейчыка згубiлi.
Не плачце, птушкi, не выйце,
Богу сен лепш памалiце.
Вечная памяць варабейчыковi,
Нашаму калiсь друговi.

Растлумачым: шурак — гэта каршун. I яшчэ адзiн стары «знаёмы». Сустракаўся ён i ў фальклорных, i ў лiтаратурных крынiцах. Гэта той самы камар, што з дуба зvaliўся ды аб карэннi пабiўся. Калi б не тое, што ў часы контррэфармацыi фальклярыстыкай яшчэ не займалiся, можна было б падумаць, што перад намi — запiс народнага твора.

КАМАРА З ДУБА ЦЯЖКI ЎПАДАК

Стукнула, грукнула ў лесе.
Што ж нам новага прынесе?
Упаў камарэц з дуба,
Шукаючы Галуба.
Упаў на карэнiшча,
Стоўк сабе каленiшча,
Да праляцела там муха
Да камаровага (в)уха.
Гукаючы яму:
— Мiлы камару,
Жаль мне цябе непамалу,
Што для тога Галуба
Упаў з тоўстага дуба.
Тая ж ела ракавацi,
Гдзе бы камара схавацi.
— Пахавай мяне у полi,
Пры зялёнай ролi,
Натыкай мяне стралами
З острымi жэлязцамi,
Самапал палажы пры боку,

Машна, разак няхай на оку.
Калі прыйдуць казакі,
Харошыя юнакі,
Будуць камара плакаці
І горка жалаваці.
Да і запішы на магіле
Ку векапомнай хвілі:
— Тут ляжыць камарышча,
Харошае юначышча.
Няхай кажны ведаець,
Гдзе камар спачываець.

Відаць, здарылася так, што «Камара з дуба цяжкі ўпадак», твор літаратурны па спосабу свайго ўзнікнення, потым «пайшоў» у народ, стаў фальклорным па спосабу распаўсюджання. (У тых жа «Жартоўных песнях» ёсць 20 яго варыянтаў.) На такую думку асабліва наводзіць наступны верш, які мае лацінскую назву «Ваенны паход грыбоў». Янка Саламевіч казаў мпе, што чуў у дзяцінстве беларускую казку на такі сюжэт, але потым ніяк не мог знайсці яе сярод фальклорных запісаў. Распаўсюджаны на Случчыне варыянт гэтага верша неяк цытаваў мне Максім Лужанін. Дарэчы, рускую казку з такім сюжэтам апрацаваў для дзяцей Аляксей Талстой.

ВАЕННЫ ПАХОД ГРЫБОЎ

Расказаў князь баравік, сежучы пад сасною,
Всем грыбам ісці на вайну, всем ісці да бою.
Адказаў яму казляк: — Я хоць добры юнак,
Да самапала не маю, застануся ў гаю.
Адказалі аненкі: — Мы грыбы слабенькі,
Мы ў полі не зраслі, да пры дзераве скіслі.
Адказалі ім рышкі: — Мы не баравыя шышкі,
Нашто ж нам шышак насіці, калі не ўмемося біці.
Адказалі лісічкі: — Не хочам той патычкі,
Ідзі ты сам, баравіку, стань за нас у шыку.
Адказалі пячэры: — Не смакуюць нам ваенныя мары.
Няхай за нас мужыкі паб'юцца, рыжыкі.
Адказалі і груздзы: — Мы не дурныя драздзы,
Без круп, без солі ісці і трасцу ні з чым есці.
Адважыўся мухамор, да згінуў жа, як камар,
Ляжыш, грыбе, без духа, што парваўся, як муха.

Тут зноў патрэбны некаторыя тлумачэнні: расказаць — па-польску загадаць, патычка — гэта бойка, шык — строй, парвацца — усхапіцца, узняцца. А ў цэлым верш цікавы як сведчанне таго, што ў XVII стагоддзі шляхта ўжо губляла сваю былую ваяўнічасць, перакладала вайсковыя абавязкі на прыгонных сялян.

Урэшце, у рукапісным зборніку над нумарам 147 аказаліся яшчэ два беларускія вершы пачатку XVIII стагоддзя. Першы з іх мае вычварную польска-лацінскую назву: «Попа ядонцэго і пса шчэкаёнцэго дэскрыпцыя» (значыць: «Апісанне папа, што ехаў, і сабакі, што брахаў»).— У ім высмейваецца палахлівая і пыхлівая духоўная асоба, якая лічыць для сябе абразай звычайны сабачы брэх. Другі верш звязаны з беларускім магнатам Адамам Сяняўскім. Слугі, што засталіся пасля яго смерці бяздомныя, просяць тут удаву гетмана, каб яна не дала ім «загібаць, не аддала на здзек горшаму валадару.

Такім чынам, можна, падсумоўваючы, сказаць, што дзякуючы сумненням, якія выказаў мне Вячаслаў Чамярыцкі, гісторыя беларускай літаратуры XVIII стагоддзя, вельмі бедная па колькасці твораў, узбагацілася нешта пятнаццацю вершамі. Пераважная іх большасць — гумарыстычныя і сатырычныя. Побач з творамі інтымна-песеннай лірыкі, знойдзенымі раней, яны сведчаць, што ў беларускай літаратуры было сваё квяціста-алегарычнае барока. І развівалася яно якраз на скрыжаванні кніжна-літаратурных і народна-фальклорных шляхоў. Творы, накшталт працытаваных вышэй, напісаны пераважна ўжо жывой гутарковай мовай, свецкія па сваёй тэматыцы, і таму іх можна аднесці да першых пробліскаў новай беларускай літаратуры.

Застаецца толькі дадаць, што найбольш верагодным аўтарам працытаваных вершаў з'яўляецца выкладчык Слуцкай калегіі Дамінік Рудніцкі (1676-1739). У яго рукапісных зборніках, якія ў свой час даследаваліся У. Ператцам, а потым загінулі, сустракаліся тыя ж творы, што і ў «Томе II» (напрыклад, верш «Пра чорнага жучка»). Д. Рудніцкі быў здольны паэт, апублікаваў некалькі кніг на польскай і лацінскай мовах і адначасова, як відаць з многіх крыніц, добра валодаў мовай беларускай.

1975

## НА БЕРЛІНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ЮНЕСКО

Вось ужо некалькі год дзейнічае «Праграма ЮНЕСКО па вывучэнню славянскіх культур». У адпаведнасці з ёй наладжваюцца міжнародныя канферэнцыі вучоных. Варшава, Масква, Варна... Чарговая, чацвёртая па ліку адбылася ў Берліне. Тэма яе — «Славянскія

культуры ў гісторыі еўрапейскіх культур (XVIII-XX стст.)». Па-асенняму шматфарбная сталіца ГДР сабрала прадстаўнічы форум: амаль дзвесце дакладчыкаў з 24 краін Еўропы і Амерыкі. Сярод удзельнікаў — невялікая група беларусаў: пісьменнік і літаратуразнавец Алесь Адамовіч, філосаф Яўген Бабосаў, мастацтвазнавец і мастак Леанід Дробаў, гісторык архітэктуры Тамара Чарняўская, аўтар гэтых радкоў. Разам і паасобку ходзім па памаладзеламу за апошнія гады гораду, любуемся панарамай з трыццаць чацвёртага паверха нашай гасцініцы «Штадт Берлін». Радасна вітаем знаёмых па ранейшых сустрэчах. Выкройваем хвіліны, каб пахадзіць па музеях (ну як жа praмінуць зборы са старажытнага Пергама!), кнігарнях, заглянуць у Дзяржаўную бібліятэку (што тут новага выйшла пра беларусаў?). Урэшце збіраемся ў Пленарную залу Акадэміі навук ГДР на адкрыццё канферэнцыі. Услухоўваемся ў шматмоўе, углядваемся ў твары прамоўцаў.

Першым удзельнікаў канферэнцыі вітае віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук ГДР В. Кальвайт. З прамовамі і дакладамі выступаюць паўнамоцны прадстаўнік Генеральнага дырэктара ЮНЕСКО В. Цюрын, старшыня Камітэта па вывучэнню славянскіх культур пры Камісіі СССР па справах ЮНЕСКО Д. Маркаў, віцэ-прэзідэнт Міжнароднага камітэта славістаў Р. Оці, дырэктар Цэнтральпага інстытута гісторыі літаратуры Акадэміі навук ГДР Г. Цыгенгайст. Пра вопыт у засваенні і распаўсюджанні літаратур славянскіх народаў гаворыць намеснік міністра культуры ГДР К. Хёпке. Побач з імёнамі іншых славянскіх пісьменнікаў, чые творы пры пасрэдніцтве ГДР трапілі да заходнееўрапейскага чытача, ён называе Васіля Быкава. Дарэчы, у той жа дзень пераконваемся, што нядаўна выдадзены ў Берліне двухтомнік Быкава, другі пасля беларускага, можна ўжо купіць толькі ў букіністаў. Як і анталогію беларускага апавядання «Буслы над балотамі», нямецкі пераклад «Палескай хронікі» І. Мележа, «Хатынскай аповесці» А. Адамовіча.

— Цікавасць да беларускай літаратуры ў нас узрастае,— гаворыць мне перакладчык і літаратуразнавец Норберт Ранцаў, якога я наведаў вечарам на яго кватэры, застаўленай кнігамі — нямецкімі, балгарскімі, беларускімі, французскімі. Гэта ён уклаў анталогію «Буслы над балотамі», дадаў да яе грунтоўны нарыс пра беларускую літаратуру, біяграфічныя даведкі, пераклаў «Абеліск» і «Здраду» В. Быкава.— Цяпер я рыхтую аднатомнік Анатоля Кудраўца. Разам з сястрой Гундулай і паэтам з Гале Гейнцам Чахоўскі м робім пераклад паэмы «Сымон-музыка» Я. Коласа. Выйдзе ён у выдавецтве «Рэклам» з цікавымі ілюстрацыямі. Паралельна ўкладаю анталогію найвыдатнейшых тэкстаў старажытнай балгарскай літаратуры. А там —

гэта мая мара — па такому ж узору зраблю і старажытнабеларускую анталогію.

Норберт Ранцаў — не адзіны ў ГДР сябар і папулярызатар беларускай літаратуры. Вось ужо колькі выданняў вытрымалі беларускія казкі, перакладзеныя Г.-І. Грымам. У славістычных часопісах часта рэцэнзуе беларускія кнігі доктар К. Гутшміт. Наколькі я пераканаўся, ён добра валодае беларускай мовай. Цяпер чытае яе курс у Берлінскім універсітэце.

Так, здабыткі беларускай літаратуры і — шырэй — беларускай культуры сёння настолькі значныя, што іх улічвае кожнае саліднае выдавецтва, кожнае сур'ёзнае энцыклапедычнае выданне. І не толькі сярод сяброў, у ГДР, але і ў ФРГ, іншых краінах Заходняй Еўропы. Гартаю шматтомны «Кіндлерс літаратур лексікон», які выдаецца ў Мюнхене. У алфавітным парадку ў ім змешчаны артыкулы аб найбольш значных творах сусветнай літаратуры. Знаходжу грунтоўныя артыкулы пра «Новую зямлю», «Сымопа-музыку» і «Дрыгву» Я. Коласа, «Паўлінку» і «А хто там ідзе?» Я. Купалы, «Бацькаўшчыну» і «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, «Гапон» В. Дуніна-Марцінкевіча. У абагульняючым нарысе Э. Кошмідэр прызнае, што беларуская літаратура паспяхова развіваецца «над знакам сацыялістычнага рэалізму». Без даведак пра мастакоў, якія нарадзіліся ці жылі ў Беларусі, цяпер не абыходзіцца ніводнае энцыклапедычнае выданне па мастацтву.

Тую ж пільную цікавасць да беларускай культуры мы адчулі на канферэнцыі. Яе работа працягвалася ў секцыях: «Гістарычны працэс інтэграцыі славянскіх культур у агульнаеўрапейскую культурную свядомасць», «Фарміраванне і значэнне рэалізму ў славянскіх культурах у кантэксце агульнаеўрапейскага развіцця культуры XIX і пачатку XX стагоддзяў», «Новы этап у гістарычным развіцці славянскіх народаў і іх культур пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі», «Другая сусветная вайна ў літаратуры і мастацтве славянскіх народаў і традыцыі антыфашысцкай барацьбы». Свой даклад «Беларуска-заходнееўрапейскія культурныя кантакты ў эпоху Асветніцтва» я чытаў у першай секцыі. Гаварыў пра тое, што ўплыў рускай, польскай і заходнееўрапейскай асветніцкай думкі стымуляваў развіццё Асветніцтва ў Беларусі, станаўленне новай беларускай літаратуры, што ў XVIII ст. у нас была добра вядома творчасць Ф. Вальтэра, Ж.-Ж. Русо, Д. Дзідро. Разглядаў польска-беларускую «пераліцоўку» мальераўскага «Доктара па прымусу», зробленую ў 1787 г. настаўнікам Забельскай калегіі на Полаччыне М. Цяцерскім. Спасылаўся на прыклады з дзейнасці прыгонных і школьных тэатраў. Прыгадаў, што беларусы пісалі артыкулы для славутай французскай «Энцыклапедыі». З усяго гэтага

напрошваецца вывад, што і тады Беларусь не была «інтэлектуальнай пустыняй», уносіла свой уклад у агульнаеўрапейскую культуру.

У кулуарах узнікае многа пытанняў — і зацікаўленых, і недасведчаных. Таму адчуваю, што трэба выступіць яшчэ раз — у дыскусіі за «круглым сталом» па праблемах Асветніцтва.

Праграма напружаная: працуем па восем гадзін. Ледзь знаходжу час, каб паслухаць калег у іншых секцыях. Л. Дробаў просіць стаць яго «асістэнтам» і суправаджаць слайдамі яго даклад «Барацьба супраць фашызму ў беларускім выяўленчым мастацтве». Авалодваючы пезнаёмай тэхнікай, прыслухоўваюся да рэакцыі ў зале. Спачатку — размовы па інерцыі. Потым — цішыня. Зала напружана ўглядаецца ў «Партызанскую мадонну» М. Савіцкага, графіку А. Кашкурэвіча, мемарыялы ў Брэсце і Хатыні.

— Гэта ж не толькі прапаганда, але і сапраўднае мастацтва! — чую побач прыглушаны шэпт.

Паступова асвойваюся з новай «прафесіяй» дэманстратара. Назаўтра асісцірую Т. Чарняўскай (дарэчы, толькі беларусы прыехалі ўзброеныя слайдамі). Яна расказвае пра класіцызм у беларускай архітэктуры. Прысутныя больш з ветлівасці глядзяць на палацы ў Гомелі, Свяцку, Жылічах. Хіба Еўропу гэтым здзівіш?! І раптам на экране — дрэва з буслянкай. Усе недаўменпа глядзяць у мой бок: што яшчэ за кепікі на сур'ёзнай навуковай канферэнцыі? Але Чарняўская ўжо тлумачыць: Беларусь — краіна лясоў, таму тут арыгінальнае драўлянае дойлідства. Вось як гэтыя хаты, цэрквы, ветракі. І хаця з класіцызмам, здаецца, гэта не дужа звязана, усе ў захапленні.

— Паказанае вамі вытрымоўвае канкурэнцыю нават з нашымі помнікамі! — сур'ёзна кажа Чарняўскай вядомы грэчаскі вучоны А. Тахіяос.

Такую ж высокую ацэнку і дакладу, і самім помнікам дае чэх С. Вольман, які старшынствуе на секцыі.

У апошні дзень работы секцый з вялікай увагай былі заслуханы яшчэ два беларускія даклады. Я. Бабосаў доказна і вобразна гаварыў аб дыялектычнай узаемасувязі культуры, тэхнікі і чалавека ў сучасным грамадстве. А Адамовіч разгледзеў узаемадзеянне беларускай і рускай «ваеннай прозы» з еўрапейскай літаратурнай і гуманістычнай традыцыяй. У яго дакладзе гаворка ішла пра творы М. Гарэцкага, В. Быкава, Я. Брыля, І. Чыгрынава, якія добра «ўпісваюцца» ў агульнаеўрапейскі кантэкст. Гэтыя творы заўсёды актуальныя, таму што вучаць чытача маральнай адказнасці за свае ўчынкі, дапамагаюць яму выпрацаваць імунітэт супраць небяспечнай падатлівасці масавым псіхозам, якія выкарыстоўваў фашызм.

Апрача пасяджэнняў нам прапанавалі яшчэ і «неафіцыйную» праграму. Была паездка ў Патсдам, дзе нам паказалі Цэцыліенгоф, у якім тры саюзныя дзяржавы падпісалі гістарычнае пагадненне (Адамовіч там доўга прыглядаўся да рэдкай фатаграфіі спаленага фашыстамі Віцебска і, відаць, адначасова абдумваў новую тэму). Была экскурсія па палацаваму комплексу і парках Сансусі, дзе гісторыя нібы застыла, затрымалася на стагоддзі. Быў канцэрт Баха ў прыдворным тэатры, пабудаваным у стылі ракако.

І былі прыёмы, кактэйлі, на якіх працягваліся дыскусіі, мацаваліся кантакты. Збоку такі прыём нагадвае мурашнік, дзе кожны бязладна вандруе па зале, паклаўшы сабе што-небудзь на талерачку. Але паступова прыкмячаеш у гэтым хаатычным руху пэўную сістэму. З'яўляюцца цэнтры, куды, нібы магнітам, прыцягвае іншых. Вакол Д. Маркава, Л. Навічэнкі, А. Адамовіча, Я. Бабосава, Л. Дробава, які малюе партрэты прысутных і тут жа раздае ім свае творы, заўсёды шматлюдна. Вось Алесь Адамовіч гутарыць з намеснікам міністра культуры ГДР Клаўсам Хёпке, які нядаўна пабываў у Беларусі і цяпер выказвае захапленне Мінскам, творчасцю В. Быкава. Нямецкія таварышы расказваюць аб планах сваіх выдавецтваў, раяцца, што б яшчэ перакласці.

— Мне вельмі спадабалася,— кажа Адамовіч,— ваша задума выдаць у адной касеце «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкага і франтавыя пісьмы яго сына. Вы літаральна перахапілі гэту ідэю ад нас.

— А як прапагандуецца нямецкая літаратура ў Беларусі? — пытаецца намеснік міністра.

Расказваю, што ў свой час, калі І. Бехер быў членам рэдкалегіі «Полымя», некаторыя творы нямецкіх пралетарскіх пісьменнікаў выходзілі па-беларуску раней, чым у арыгінале. Нямала выдаём мы і сёння. Вось і першая дысертацыя У. Сакалоўскага пра беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі рыхтуецца да абароны.

— Так, нам трэба глыбей вывучаць наша ўзаемадзеянне.

— І актыўней пашыраць свае дасягненні.

— Для гэтага прыдалася б адпаведная міжнародная арганізацыя.

І такая арганізацыя створана! На заключным пасяджэнні канферэнцыі было абвешчана аб арганізацыі новай Міжнароднай навуковай асацыяцыі па вывучэнні і распаўсюджванні славянскіх культур. Яе прэзідэнтам выбраны член-карэспандэнт АН СССР Д. Ф. Маркаў. Наперадзе — далейшая напружаная праца дзеля таго, каб увесь свет ведаў лепшыя здабыткі славянскай, у тым ліку і беларускай культуры.

1976

## РЫЖСКІЯ ПОШУКІ

Жаданне паехаць у Латвію — не на дзень, не на два, а хаця б на пару тыдняў — нарадзілася ў мяне нешта з год пятнаццаць назад, калі я ўпершыню прачытаў «Казкі Янтарнай краіны» Уладзіміра Караткевіча. Неадольна захацелася самому палюбавацца пеўнікамі на стромкіх вежах старадаўняй Рыгі, пеністымі хвалямі суровай Балтыкі. Пабываць на магіле Райніса. Паглядзець славуты Латвійскі этнаграфічны музей пад адкрытым небам каля возера Юглас. Паслухаць арган у Домскім саборы. Пазнаёміцца з жыццём братняга народа.

Але жаданні жаданнямі. Няўмольны ж час ішоў і ішоў. Усплывалі розныя самыя неадкладныя справы. І раптам — новы імпульс. Рэцэнзуючы на старонках «Нёмана» даследаванне Мірдзы Абала і Дзінтры Віксна «Дружба, узмужнелая ў вяках», Эрнест Ялугін прыгадаў свае першапачатковыя клопаты і сумненні: хто ж яму ў Мінску перакладзе, хаця б вусна, гэту кніжку з латышскай на беларускую мову? І чамусьці побач з прозвішчамі Р. Барадуліна і В. Сёмухі, якія былі там вельмі дарэчы, назваў і маё прозвішча, хаця я, дальбог, латышскай мовы не ведаю. Чаму назваў? Можа, рашыў, што чалавек, які з горам папалам чытае па-літоўску, павінен валодаць і блізкай да літоўскай латышскай мовай. Ці таму, што я калісьці напісаў невялічкі артыкул да стагоддзя з дня нараджэння Яна Райніса...

Як бы там ні было, рэцэнзія Ялугіна крыху прысараміла мяне: людзі думаюць, што ты спец па Латвіі, а ты, калі не лічыць кароткага прыпынку па дарозе ў Талін, там зусім не бываў. Ды і што ты ведаеш пра яе наогул? Пра дружбу нашых народаў, нашых літаратур? Хіба толькі тое, што Ян Райніс з дзяцінства любіў беларускія народныя песні, што ў 1926 годзе ён пабываў у Мінску і Віцебску. Ну, яшчэ, вядома, пра латышскіх рэвалюцыянераў, якія змагаліся на беларускай зямлі: В. Кнорына-Кнорыня, П. Стучку, К. Ландэра, А. Дрызула. Усё гэта веды да крыўднага скупыя. Як і мая палічка з творамі латышскіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову. Не, так далей нельга! Трэба адкласці розныя там рукапісы і правесці ў Рызе хаця б частку адпачынку.

Калі сказаць па праўдзе, захацелася і сім-тым падзяліцца з латышскімі літаратуразнаўцамі. Неяк у Кракаве мне ўдалося знайсці тры невядомыя раней кніжкі, выдадзеныя па латышскай мове (дакладней, па яе латгальскім дыялекце) у канцы XVIII стагоддзя ў нашым Полацку. Да таго ж у мяне быў яшчэ аўтограф Яна Судрабкална. А трапіў ён да мяне так. Летам 1957 года мы, супрацоўнікі радашковіцкай раённай газеты, рыхтавалі нумар да 75-годдзя з дня

нараджэння Янкі Купалы. Нягледзячы на скепсіс шэфа (усё ж раёнка), я адправіў пісьмы многім вядомым прадстаўнікам братніх літаратур. Першым, памятаю, адгукнуўся Судрабкалн. Ён прыгадаў, што ў часы імперыялістычнай вайны, будучы салдатам, пеша прайшоў праз Радашковічы і Маладзечна. З асаблівай сардэчнасцю напісаў ён тады пра Купалу. Але публікацыя тая засталася незаўважанай ні ў нас (нашы бібліёграфы, у адрозненне ад латышскіх ці літоўскіх, «раёнак» не «распісваюць»), ні тым больш у Латвіі. Дык чаму ж не перадаць той даўні аўтограф, скажам, у рукі Мірдзы Абала, якая ўкладае якраз творы і пісьмы Судрабкалн?

Імкнуўся я ў Рыгу яшчэ з адной ціхай мэтай. Неяк на сустрэчы ў Акадэміі навук нябожчыца Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка таямніча шапнула мне:

— Вось крыху пацяплее — і мы з вамі паедзем у Рыгу, на Рыжскае ўзмор'е, шукаць частку адной багатай бібліятэкі. Усяго адзін чамадан. Але там павінны быць рукапісы нашых класікаў. Проста так, аднаму вам не пакажуць. Трэба дзейнічаць праз людзей, з якімі я пазнаёмілася, жывучы ў Латвіі.

Каюся, па дурасці тады я, захоплены сваімі XIX і XVIII стагоддзямі, не прыдаў гэтым словам належнага значэння: от, частка нейкай рыжскай бібліятэкі... Ды і здароўе Паўліны Вікенцьеўны якраз рэзка пагоршылася. Хутка яна адышла ад нас назусім... Даведаўшыся пра яе смерць, я адчуў згрызоты сумлення: як жа так, не распытаў, не паехаў. Праўда, тут жа прыходзіла дробненькае самасупакаенне: ну што асаблівае магло трапіць у тую далёкую бібліятэку?!

А потым, праз некалькі год, мне выпадкова сказалі пра часопіс, які выдаваўся ў час акупацыі ў Рызе беларускімі паслугачамі фашыстаў. Яго рэдактар (не хочацца называць прозвішча здрадніка, а трэба) Канстанцін Езавітаў выхваляўся, публікуючы тры вершы Максіма Багдановіча, што аўтографы гэтых вершаў знаходзяцца цяпер у ягонай прыватнай бібліятэцы. Пачакайце, падумалася тады: рукапісы Багдановіча да вайны захоўваліся ў АН БССР. Побач з рукапісамі В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і іншых класікаў. І ўсё гэта бясследна згінула ў вайну... Езавітаў у час вайны часта наязджаў у Мінск, але стала жыў у Рызе... У 1944 годзе, ліхаманкава ўцякаючы ад нашай арміі, ён не мог з сабой захапіць бібліятэку, таму, відаць, перадаў найбольш каштоўную яе частку некаму са сваіх знаёмых... І тут полымем апаліла здагадка: дык вось які чамадан, мусіць, мела на ўвазе Паўліна Вікенцьеўна! Нішто сабе «частка»! І як яе знайсці цяпер аднаму, без Паўліны Вікенцьеўны?

І ўсё ж паспрабаваць трэба. Трэба ехаць!

Купіўшы білеты, неспадзявана сустрэў на праспекце Рыгора Барадуліна, які даўно і многа перакладае з латышскай мовы.

— Едзеш? Добра! — ухваліў ён.— Кланяйся там нашым сябрам — Юлію Вапагу, Апдрысу Веяну, Ераніму Стулпану, Віктару Ліўземніеку. З апошнімі двума ты ж знаёмы асабіста: памятаеш, калісьці разам заходзілі да цябе...

Але ў Рызе аказалася, што ўсе названыя Барадуліным пісьменнікі, нягледзячы на дажджлівае лета, сядзяць на дачах. Знайсці месца ў перапоўненых турыстамі гасцініцах таксама аказалася дужа складана. Таму скіраваўся на кватэру да Вячаслава Міхайлавіча Целеша. Таленавіты мастак і страсны калекцыянер, ураджэнец Беларусі і патрыёт Рыгі, ён з'яўляецца адным са шматлікіх увасабленняў той еднасці, якая злучае два суседнія народы.

На кватэры ў Вячаслава Міхайлавіча або проста Вячкі перш за ўсё кідаюся глядзець яго калекцыю старых беларускіх паштовак, сабраную з дапамогай калекцыянераў самых розных гарадоў краіны. У ёй каля 1500 адзінак — больш, чым у любой бібліятэцы і любым музеі. З цікавасцю ўглядаюся ў характэрныя здымкі беларускіх сялян, дарэвалюцыйныя віды Мінска, Гродна, Віцебска, Полацка, Магілёва і нават Жлобіна і Мядзеля. Вось так выглядаў «Акварыум» у Мінску, дзе пазней размясцілася трупа У. Галубка, вось так — помнік Вітгенштэйну ў Полацку, а вось так быў абмундзіраваны радавы беларускага гусарскага палка ў 1807-1809 гг. Неацэнны матэрыял па гісторыі Беларусі, яе матэрыяльнай і духоўнай культуры! Нездарма цяпер да Целеша звяртаюцца за кансультацыямі з самых розных устаноў Беларусі.

— Толькі збіраць паштоўкі — гэтага мала! — захоплена даказвае мне ўладальнік калекцыі.— Трэба даследаваць іх! Возьмем вось гэтыя паштоўкі. Беларускія надпісы. Рэпрадукцыі твораў старажытнага беларускага пісьменства. Форма паштовак сведчыць, што былі яны выдадзены яшчэ да 1906 года. Але кім? І дзе? Такіх загадак многа. Спакваля я складаю каталог старых беларускіх паштовак, рыхтую альбом «Беларускія гарады на старых паштоўках». Цікава супаставіць мінулае з сённяшнім...

— Такія ж супастаўленні я бачу на вашых палотнах і гравюрах. Дарэчы, што гэта за кантрастны пейзаж вунь на той сцяне?

— Мая радзіма — пасёлак Краснасельскі каля Ваўкавыска. Там я вырас, пачаў маляваць. Там мой сябар Міхась Верацiла далучыў мяне да калекцыянерства. Непадалёку ад Краснасельскага знаходзяцца унікальныя крамнёвыя шахты першабытнага чалавека. Таму хочацца стварыць «партрэты» першых беларускіх «шахцёраў». Вабяць таксама

постаці Скарыны, Каліноўскага. Не здраджваючы сваёй першай радзіме, я застаюся верны і другой — Латвіі. Яе людзі, яе краявіды былі прадстаўлены на маёй першай персанальнай выстаўцы, якая адбылася нядаўна ў курортным горадзе Тэрветэ. Імкнуся працягваць традыцыі беларускага мастацтва, спалучыць іх з латышскімі традыцыямі, якія засвоіў я, займаючыся ў рыжскай Акадэміі. Зрэшты, не адзін я так раблю. Да мяне часта заходзіць рыжскі мастак Валянцін Дзевіскіба, я пазнаёмлю вас з ім. Ён нарадзіўся на Гомельшчыне, цяпер жа ўлюбіўся ў Балтыку, піша мора. Нядаўна яго карціны трапілі на ўсесаюзную марыністычную выстаўку.

Тут гаспадар успамінае, што яму пара на пасяджэнне гарадскога клуба філакартыстаў, дзе ён старшынствуе.

Па дарозе абяцае паказаць крышку старой Рыгі: Домскі сабор, Парахавую вежу, Шведскія вароты, камянічкі «Тры браты».

— Па гэтых вузкіх вулачках,— разважае Целеш, крочачы паўз высачэзную вежу Пятра (цяпер яна адрэстаўравана, у часы ж, калі тут быў Караткевіч, знаходзілася ў руінах),— абавязкова павінен быў хадзіць юны Скарына. Не мог не хадзіць. У Рызе ж знаходзілася гандлёвая кантора Лукаша Скарыны, яго бацькі. Сюды часта ішлі плыты з Полацка. Вось і мару стварыць «рыжскі» партрэт нашага першадрукара. Гэта будзе своеасаблівае «дапаўненне» да таго скарынінскага партрэта Т. Страўтманіса, што экспануецца тут у Музеі гісторыі медыцыны імя Паўла Страдыня. Раю паглядзець: адзіны такі музей у нашай краіне, больш ста тысяч экспанатаў.

Але ў той дзень Музей гісторыі медыцыны аказаўся зачынены. Таму я, развітаўшыся да вечара з Целешам, скіраваўся ў іншыя, не менш цікавыя: Музей рэвалюцыі Латвійскай ССР, Музей гісторыі Латвійскай ССР, Музей гісторыі горада Рыгі і мараходства. І ўсюды пабачыў сляды даўніх сувязей паміж нашымі народамі, іх сумеснай барацьбы супраць адных і тых жа ворагаў. Вось гандлёвыя дагаворы паміж Полацкам і Рыгай, заключаныя ў 1330 і 1406 гг., пацеркі, выробленыя ў Полацку. Вось прылады працы латгальцаў, іх дываны і куфры, такія падобныя да беларускіх. Вось дакументы і асабістыя рэчы латышскіх чырвоных стралкоў, якія ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных падзеях на тэрыторыі Беларусі.

Гледзячы на музейныя экспанаты, прыходзіш да вываду, што лёсы нашых народаў падобныя, роднасныя: як маладой латышскай культуры прыходзілася ў свой час прабівацца праз два напластаванні — нямецкае і велікарускае, царысцкае, так і беларусам даводзілася адстойваць свае правы, змагаючыся з паланізатарскімі тэндэнцыямі і вялікадзяржаўным шавінізмам. Тыпалагічна падобныя шляхі развіц-

ця літаратур: Райніс і Купала, «младалатышы» і «нашаніўцы»... Пра ўсё гэта цікава было б паразважаць з Мірдзай Эдуардаўнай Абала, супрацоўніцай Акадэміі навук Латвійскай ССР, даследчыцай сувязей паміж латышскай і беларускай літаратурамі. У 1967 годзе яна ўпершыню прыехала ў Беларусь — на святкаванне 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. Пабывала тады ў Мінску і Полацку — і паехала дамоў, зачараваная беларускай зямлёй і беларускай літаратурай. Карэнная рыжанка, яна пачала вывучаць незразумелую мову, а потым пераклала «Казкі жыцця» Я. Коласа, «Чазенне» У. Караткевіча. Калі ў 1969 годзе Мірдза Абала прыязджала ў Мінск разам з Янам Судрабкалнам (памятаецца, тады іх суправаджалі Пімен Панчанка і Рыгор Барадулін), яна ўжо спрабавала гаварыць па-беларуску. А нядаўна, прымаючы ўдзел у навуковай канферэнцыі, якая праводзілася ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АП БССР, выступіла з дакладам на беларускай мове.

— Ну як, ужо разумееце па-латышску? — з гумарам спытала Мірдза Эдуардаўна па парозе свайго дома, яўна намякаючы на тую рэцэнзію Эрнеста Ялугша.

— Так,— адказваю ў тон.— Часам, калі іду па вуліцы і чытаю шыльды, здаецца мне, што латышы сёе-тое запазычылі ў беларусаў. Напрыклад, «Грамата». Ясна, што гэта «Кнігарня», бо дзе кніга, там і грамата. Або «Едніца» — «Сталовая», «Красу фота» — «Каляровае фота».

— І не толькі гэта,— ужо сур'ёзна працягвае гаспадыня, частуючы самаробным яблычным сокам (характэрна: «абала» па-латышску і ёсць «яблык»).— Араць у нас будзе арт, кажух — кажокс. І нават «сябр» увайшоў у нашу паэзію. А як вы думаеце, што абазначае вось гэты надпіс на томе Райніса?

— «Копоці Ракшці». Відаць, «Збор твораў». Зразумела: накапіць, сабраць... Здаецца, у выданні шматтомніка Яна Райніса ёсць і ваша заслуга, Мірдза Эдуардаўна?

— Так, падрыхтавала некалькі тамоў.

— А цяпер што на варштаце? Прабачце за банальнае пытанне, але яно непазбежпае.

— Здаю ў выдавецтва трохтомнік пісем Яна Судрабкалн, вернага сябра Беларусі. Бачыце, у перададзеным вамі яго пісьме ў рэдакцыю радашковіцкай раённай газеты ён нават напісаў па-беларуску само слова «Беларусь». Будуць у выданні лісты Судрабкалн да Танка, Панчанкі, Агняцвет, Барадуліна. Потым хачу напісаць манаграфію пра Судрабкалн, дзе будзе раздзел (дарэчы, ён ужо апублікаваны ў перыёдыцы) пра яго сувязі з Беларуссю.

Агульнымі намаганнямі ў той дзень мы ўваскрашалі ў памяці самыя розныя старонкі беларуска-латышскага літаратурнага ўзаемадзеяння. Скажам, тое, што латышская тэматыка трывала ўвайшла ў беларускую літаратуру (дастаткова прыгадаць вершы «Райнісавы сосны» П. Броўкі, «Ян Райніс» М. Танка, «Першая сустрэча з Райнісам» В. Зуёнка, паэтычныя цыклы Э. Агняцвет, Р. Барадулін, С. Грахоўскага, М. Талачынскага, Е. Лось, С. Панізніка, А. Пысін, мініяцюры Я. Брыля). Ці тое, што у пачатку 30-х гадоў у Мінску гасцявалі і выступалі вядомыя латышскія пралетарскія паэты Л. Лайцан, П. Кікутс, К. Прэдніекс, а іх творы часта друкаваліся тут у перакладзе на беларускую і нават на літоўскую мову. Згадваліся імёны нябожчыкаў Уладзіміра Пігулеўскага, які доўгія гады быў пасрэднікам паміж дзвюма літаратурамі збіральніка беларускага фальклору ў Латгаліі Сяргея Захарава і яго жонкі, аўтара некалькіх беларускіх п’ес Вольгі Нікановіч-Сахаравай, вучонага-гісторыка Баляслава Брэжгі.

Цяпер іх справу працягвае Мірдза Эдуардаўна.

— Што дало вам «далучэнне» да Беларусі? — пытаюся ў яе на развітанне.

— Чалавек нагадвае падарожніка. Ідзе ён сваім шляхам — доўгім або кароткім. Сустракае на ім розных людзей. З аднымі ідзе побач доўга, з другімі — толькі імгненне. Але пазней, калі яны разлучацца на ростанях, ад сустрэчы застаецца ў кішэні талер. Часам зусім маленькі, медны, часам вялікі, сярэбраны, а часам нават залаты. Мне пашчасціла на сустрэчы з добрымі беларускімі спадарожнікамі, ад якіх у кішэні застаўся залаты талер. Талер дружбы. Дарэчы, вы былі ўжо ў нашым літаратурным музеі? Яшчэ не? Тады абавязкова схадзіце і паглядзіце, колькі там такіх «талераў».

Музей гісторыі літаратуры і мастацтва імя Яна Райніса, які месціцца ў вялізным Рыжскім замку (а яшчэ сем філіялаў — па ўсёй Латвіі), я аглядаў з ціхай зайздрасцю: такі б музей нам, беларусам! Кожнаму класіку — сцяна ў Свінцовай вежы. І нават жывым — па частачцы стэнда. Кнігі, дакументы, фатаграфіі. І, галоўнае, асабістыя рэчы, якія так хораша характарызуюць індывідуальнасць іх уладальнікаў. Кавалак торфу, у якім Я. Ніедрэ ў 1935-1937 гг. атрымаў з волі нелегальныя выданні. Карціна, пракалатая фашысцкім штыком,— В. Лаціс знайшоў яе ў 1944 г. у Даўгаўпілсе. Акуляры і рамень, якія насіў у канцлагеры М. Бірзе. Пісьмовы стол і крэсла Я Райніса, тканіна, прывезеная ім для тэатральнай пастаноўкі з Егіпта. Самаробная ручка А. Упіта. Вуды Я. Яўнсудрабіня. Сталярныя інструменты К. Барона. Калекцыя запальнічак Ж. Грывы, яго ж скрыпка, разбітая фашыстам... І сярод гэтых рэліквій — «талеры» беларуска-латышскай

дружбы. Вось на здымку 1957 г. Я. Судрабкалн стаіць з М. Лыньковым і М. Танкам у Маскве. Вось кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. Такія ж «талеры» сустракаліся і ў іншых сховішчах: у Мемарыяльным музеі А. Упіта (бюсты Янкі Купалы і Якуба Коласа), на дачы-музеі Я. Райніса ў Маяры (кнігі, падараваныя паэту ў Мінску і Віцебску), у Мастацкім музеі Латвійскай ССР (медаль з партрэтам Ф. Скарыны работы маладога скульптара Я. Струпуліса, палотны беларускіх мастакоў І. Хруцкага, В. Бялыніцкага-Бірулі, С. Жукоўскага). Дарэчы, музеяў у Рызе, удвая меншай за Мінск, удвая больш, чым у Мінску,— звыш дваццаці.

Захапіўшыся музеямі, на нейкі час я зусім забыў пра пошукі загадкавага чамадана з беларускімі рукапісамі. Ды і дзе іх шукаць? Хто навядзе на нейкі след?

— Можа, Пётр Аляксандравіч Масальскі? — падказаў Целеш.— Гэта стары настаўнік, выкладаў у беларускіх школах Латгаліі. Да вайны выдаў у Рызе зборнік беларускіх вершаў «На світанні». Перакладаў Райніса, латышскія дайны — зрэшты, яны толькі што надрукаваны ў «Даляглядах». Адным словам — жывая энцыклапедыя.

Пётр Аляксандравіч доўга і цікава расказваў нам пра 20-я і 30-я гады. Беларусам у Латвіі тады жылося цяжка. Беларускія школы забараняліся, а пастаўнікі арыштоўваліся. І толькі падтрымка Яна Райніса дапамагла на нейкі час адчыніць беларускія гімназіі ў Дзвінску (Даўгаўпілсе) і Люцыне (Лудзы), некалькі пачатковых школ. Пасля смерці Райніса не стала і іх.

— Скажыце, калі ласка, а ваш зборнік «На світанні» — адзінае выданне такога тыпу ў буржуазнай Латвіі?

— Чаму ж. Выходзілі, хоць з цяжкасцямі, і іншыя кнігі. У 1926 годзе з'явіўся альманах «Першы крок», дзе сабраны творы каля дваццаці пачаткоўцаў. Нейкі час выдаваліся беларускія часопісы.

— А з Езавітавым лёс вас зводзіў? — спяшаецца Целеш.

— Было аднойчы. Неяк у вайну я мусіў з'ездзіць да яго на кватэру ў Межапарку. Памятаю, усе сцены былі застаўлены кнігамі... Ах, як шкада, што вы спазніліся: некалькі месяцаў назад памерла ў Маскве другая жонка Езавітава — Ларыса Нікіфароўская. Праўда, у час вайны яна знаходзілася на нашым баку фронту, але ў 1944 годзе вярнулася ў Рыгу, жыла на той жа кватэры. Дзесьці павінен быць пляменнік Нікіфароўскай. Вось толькі не памятаю яго прозвішча.

Можна было б напісаць цэлую дэтэктыўную аповесць пра тое, як па старой карце мы адшукалі тую вулачку ў Межапарку, а назаўтра — і сам дом. Як па нумару аўтамашыны ўстанавілі прозвішча пляменніка Нікіфароўскай, а потым і яго новы адрас... Так, пляменнік Нікі-

фароўскай гісторык Эйгімс пасля вайны жыў у тым самым доме, дзе раней была бібліятэка. І нават больш: калі ён быў у партызанах, яго двойчы скіроўвалі да Езавітава, каб высветліць, ці можна яго «перацягнуць на бок партызанаў». Але сувязей, знаёмых Езавітава ён не ведае. Можа, хіба што прасветліць славуты разведчык, адзін з аўтараў трылогіі аб партызанскім руху на беларуска-латышскім памежжы Аляксандр Гром? Здаецца, ён назіраў за акружэннем Езавітава...

Аляксандра Грома на кватэры мы не знайшлі — паехаў якраз падарожнічаць па сваёй Латгаліі. Абарвалася апошняя нітачка, якая магла весці да чамадана з рукапісамі. Будзем спадзявацца, абарвалася часова. Можа, гэтая нітачка адшукаецца ў наступны прыезд у Рыгу. Можа, яна павядзе за граніцу — у Германію або Чэхаславакію, дзе Езавітаў апынуўся ў канцы вайны (старая рыжанка А. Крэйц сцвярджае, што ён усё ж паспеў вывезці частку свайго архіва). А можа, сляды знойдзе (калі толькі рукапісы не знішчаны — з боязі або па недасведчанасці) хтосьці іншы, хтосьці з чытачоў гэтай кнігі.

Зрэшты, не выключана, што Паўліна Вікенцьеўна мела на ўвазе адно, а я шукаў другое. З пісем нябожчыцы да У. Караткевіча вынікае, што дзесьці ў 1925 годзе, выязджаючы з Латвіі, з Даўгаўпілса, у СССР, яна пакінула куфэрак з рукапісамі і кнігамі на паддашшы ў сваёй сяброўкі, потым вядомай артысткі Комісар (яна жыве ў Рызе і цяпер, але пра лёс куфэрка нічога ўспомніць не можа).

Між тым прабыванне ў Латвіі няўмольна блізілася да канца. Давялося адмовіцца ад многага — паездак у Саласпілс і Сігулду, сустрэчы з беларускай паэтэсай Аўгінняй Кавалюк, якая жыве ў Рызе. Праўда, у апошні дзень усё ж удалося дастаць білеты на арганны канцэрт у Домскім саборы (праграма была прысвечана стагоддзю з дня нараджэння латышскага кампазітара Алфэда Калныня) ды з'ездзіць у этнаграфічны музей пад адкрытым небам. У гэтым музеі зноў пазайздросціў латышам: яны захавалі драўляныя пабудовы XVI-XVIII стагоддзяў: земгальскую цэркаўку 1537 г., гумно-школу 1693 г., курную хату рыбака 1750 г., свіран 1755 г., дом сходак 1785 г. І ўсё гэта мае жылы выгляд — нібы гаспадары на хвілінку адлучыліся і вось-вось вернуцца. Народная майстрыха тчэ ў старой хаце шырокае палатно, ганчар лепіць збанок, сталяр мудруе над прасліцай. На сядзібах даспяваюць яблыкі, буяюць бульба і капуста. Прадуманы месцы для адпачынку. Ёсць тут чаму павучыцца нашым работнікам будучага этнаграфічнага музея!

Перад самым ад'ездам яшчэ раз абзваніў усіх пісьменнікаў, чые прозвішчы назваў Рыгор Барадулін. На гэты раз адказаў тэлефон Андрыса Веяна, вядомага паэта і перакладчыка, рэдактара штомеся-

чніка «Карогс». Ён з дзяцінства ведае беларускую мову, беларускія песні. Прысвяціў Беларусі некалькі вершаў, раздзел у паэме пра Райніса «Залатыя лісты на высокай гары». Склаў і даў прадмову да латышскага зборніка П. Панчанкі. Перакладаў Брыля і Танка.

— Хутка ў нас выходзіць аднатомнік Петруся Броўкі «Лагоднасць». Будуць у ім і мае пераклады,— паведаміў Андрыс Веян, калі мы сустрэліся ў яго рабочым кабінеце,— Цяпер разам з Ванагам рыхтуем да юбілею аднатомнік Янкі Купалы. Усяго ж у нас перакладзены творы 80 беларускіх аўтараў. Толькі ў апошні час выйшлі анталогія беларускай паэзіі «Хлеб-соль», «Гандлярка і паэт» І. Шамякіна, «Віленскія камунары» М. Гарэцкага, «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага, «Тартак» І. Пташнікава, «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава. Асабліва папулярныя ў нас Мележ, Быкаў, Шамякін, Барадулін.

— У Беларусі з латышскай мовы перакладаюць, на жаль, крыху менш. Але ўсё ж мы можам пахваліцца зборнікам «Сучасныя латышскія апавяданні», некалькімі выданнямі Я. Райніса, выбранымі творамі А. Упіта, Я. Судрабкална, Ж. Грывы.

— Так, гэта нямала, але можна і трэба рабіць яшчэ больш. Нашы сувязі прыкметна ажывіліся ў 1959-1960 гг., калі адбыліся ўзаемныя дэкады літаратур. Потым усё неяк абціхла. А можна ж часцей арганізоўваць узаемныя паездкі пісьменнікаў, выдаваць абменныя нумары часопісаў, як гэта мы наладзілі, скажам, з Эстоніяй. Чым шчадрэй людзі і нацыі дзеляцца сваімі духоўнымі здабыткамі, тым багацей становяцца самі.

...Па дарозе ў Мінск, у «Чайцы», мне ўспомніліся словы Мірдзы Абала пра «талер дружбы». Ад паездкі ў Латвію ён у мяне застаўся! Няхай не такі вялікі, не «залаты», як у Барадуліна, Караткевіча ці Панізніка, а толькі «сярэбраны» ці «медны». Няхай не знойдзены той чамадан з рукапісамі. Але затое ў сэрцы захаваецца добрая намяць пра бурштынавы край, пра таленавітых і працавітых людзей.

## ВОСЕМ ДЗЁН ТВОРЧЫХ СУСТРЭЧ

*10 кастрычніка 1982 г.*

Сёння ў Польшчу, для ўдзелу ў Днях беларускай літаратуры скіроўваецца дэлегацыя ў складзе Максіма Танка, Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка, Анатоля Грачапікава, старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі Л. С. Сарвіры, аўтара гэтых радкоў. Таксама едзе калектыў Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Беларускай ССР. У сувязі з Днямі

ў Народнай Польшчы запланавана правесці шматлікія літаратурныя вечары і сустрэчы, канцэрты ансамбля, выстаўкі беларускіх кніг, жывапісу, графікі, фатаграфіі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Будуць дэманстравацца мастацкія, дакументальныя і тэлевізійныя фільмы (у тым ліку — «Людзі на балоце»).

...Збіраемся на вакзале за некалькі хвілін да прыходу цягніка Масква — Прага. Максім Танк успамінае ранейшыя сустрэчы з польскімі сябрамі — Ежы Путрамантам, Уладзіславам Бранеўскім. Спрабуем жартаваць. Але ў глыбіні душы крыху трывожна: як яно ў Народнай Польшчы? Усё ж там працягваецца ваеннае становішча. І сейм толькі што прыняў прынцыповае рашэнне аб роспуску старых і стварэнні новых прафсаюзаў...

За Брэстам пачынаем пільна ўглядацца ў вокны, параўноўваем бачанае раней з цяперашнім. Ёсць прыемныя змены. Чыгунка з Брэста да Варшавы ўжо электрыфікавана. Паабапал — у Бялай Падлясцы, Седльцах, Мінску Мазавецкім — выраслі новыя заводы. Аднак некаторыя будоўлі не закончаны, закансерваваны. Па-ранейшаму на палях вузкія загоны-палоскі. І не ўсе з іх належна апрацаваны. Зразумела, што такі стан не спрыяе забеспячэнню насельніцтва харчовымі прадуктамі.

На вакзале ў Варшаве нас цёпла сустракаюць даўнія сябры: вядомы пісьменнік і дзяржаўны дзеяч Юзаф Озга-Міхальскі (ён жа старшыня Ганаровага камітэта па правядзенню Дзён), прапагандыст беларускай літаратуры Фларыян Няўважны, работнікі Таварыства польска-савецкай дружбы (ТПСД), журналісты. Камеры тэлебачання скіраваны перш за ўсё на Максіма Танка: па-першае, ён вядомы ў Польшчы паэт, а па-другое юбіляр.

Пасялілі нас у атэлі «Еўрапейскі» — старамодным, але таму і выгодным. У рэстаране, дзе мы вячэраем, музыка гучыць прыглушана. І творы выконваюцца пераважна класічныя, сур'ёзныя — як і належыць у сур'ёзныя хвіліны, якія перажывае польскі народ.

*11 кастрычніка*

З раніцы — афіцыйныя візіты. Першы — у савецкае пасольства, дзе нас гасцінна сустракаюць пасол Барыс Іванавіч Арыстаў, іншыя прадстаўнікі нашай дзяржавы. Другі — у Галоўнае праўленне ТПСД, размешчанае ў новым і добра абсталяваным будынку. Трэці — да загадчыка аддзела культуры ЦК ПАРП К. Кастыркі. З гутарак мы даведваемся, што не ўсюды ў краіне спакойна. Але польскія таварышы ўпэўнены, што цяжкасці часовыя, што перамогуць развага і цвярозы розум. Паколькі заўтра 39-я гадавіна ўтварэння Войска

польскага, прыгадваюцца даўнія традыцыі сумеснай барацьбы супраць агульных ворагаў, прыгадваецца бітва пад Леніна, дзе гэтае войска прыняло сваё баявое хрышчэнне.

Пасля абеду ў памяшканні ТПСД адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі беларускай кніжкі і графікі. Пра дружбу нашых народаў з польскага боку гаварыў намеснік міністра культуры і мастацтва Станіслаў Пухала, з беларускага — Л. С. Сарвіра. На адкрыцці прысутнічалі сакратар ЦК ПАРП М. Ажахоўскі і пасол СССР у Польшчы Б. І. Арыстаў. Усе з цікавасцю агледзелі выданні беларускіх класікаў, шматлікія ўзаемныя пераклады. З задавальненнем ставім на выставачную паліцу яшчэ адну кнігу, якая толькі што выйшла і таму не паспела трапіць у Варшаву,— анталогію польскага апавядання «Сад», складзеную і перакладзеную Янкам Брылём.

Потым усе пераходзім у канферэнцыйную залу, дзе адбыўся зацікаўлены дыялог пісьменнікаў. Слова па чарзе бяруць Юзаф Озга-Міхальскі, Максім Танк, Ежы Путрамант, Вячаслаў Адамчык, Войцех Жукроўскі, Фларыян Няўважны. Прыводзяцца шматлікія факты, якія сведчаць пра даўнасць і плённасць беларуска-польскага літаратурнага ўзаемадзеяння. Максім Танк чытае па-польску свой верш «На шляху дзікіх гусей», перакладзены Е. Путрамантам яшчэ ў 1935 годзе. У адказ узрушаны Путрамант кажа, што Дні будуць яшчэ адной аказіяй, каб павучыцца інтэрнацыяналізму.

Зацікаўленая гаворка працягваецца ў кулуарах. Станіслаў Рышард Дабравольскі ўспамінае пра свае сустрэчы з Якубам Коласам. Нам паказваюць новыя публікацыі — беларускі нумар «Пшыязні», артыкул У. Стохеля пра Максіма Танка ў «Жэчывістосці», беларускі «разварот» у «Адглосах». Прафесар Базылі Белаказовіч уручае нам чарговы том славістычнага штогодніка, у якім ёсць ажно пяць публікацый па беларускай літаратуры і фальклору. А Эўгеніюш Кабатц кажа, што наступны, лістападаўскі нумар штомесячніка «Літаратура на свеце» будзе цалкам прысвечаны творчасці беларускіх пісьменнікаў — класікаў і сучаснікаў.

Вечар жа мы правялі ў перапоўненай Зале кангрэсаў Палаца культуры і навукі. Спачатку слова ўзялі паэты — Юзаф Озга-Міхальскі і Максім Танк. Потым выступіў Дзяржаўны ансамбль песні і танца Беларускай ССР. Першыя нумары публіка ўспрыняла стрымана. Але віртуознае майстэрства беларускіх спевакоў, танцораў і музыкаў хутка пакарыла сэрцы варшавян. Завяршыўся канцэрт бурнай авацыяй.

— Дзве гадзіны на сцэне гарэў агонь сапраўднага народнага мастацтва,— сказаў Юзаф Озга-Міхальскі, праводзячы нас у гасцініцу. І тым самым нібы падсумаваў уражанні ад вечара.

*12 кастрычніка*

Сёння мы гасцілі ў студэнтаў Варшаўскага універсітэта — будучых русістаў і беларусістаў. Да нас далучыўся Уладзімір Някляеў, які прыехаў сюды з беларускім ансамблем. Яго вершы пра грамадзянскую адказнасць, пра каханне моладзь сустракае бурнымі воплескамі. Як і паэзію Максіма Танка, Анатоля Грачанікава. Крыху цяжэй празаікам і літаратуразнаўцам — не чытаць жа раздзелы з кніг. Таму гаворым пра актуальныя праблемы сённяшняй ваеннай, вясковай і гістарычнай прозы, пра сумесныя старонкі гісторыі.

У абед разам з іншымі ўскладаем вянкі на магілу Невядомага салдата і ў Маўзалеі савецкіх салдат, што загінулі пры вызваленні Варшавы. Велічны цырыманіял збірае шматлікіх гледачоў, узрушае іх да слёз.

Завяршылі дзень сустрэча ў рэдакцыі новага тыднёвіка «Ту і тэраз», выступленне па тэлебачанні.

*13 кастрычніка*

Пераязджаем у Лодзь — горад, слаўны рэвалюцыйнымі традыцыямі. Нас прымаюць першы сакратар ваяводскага камітэта ПАРП Т. Чаховіч і прэзідэнт Лодзі Ю. Невядомскі. Потым аглядаем выстаўку беларускай кнігі ў бібліятэцы Лодзінскага універсітэта. Сярод экспанатаў ёсць і рэдкасці: даваеннае выданне Танкавай «Парачы», «Смык беларускі» Ф. Багушэвіча. З хваляваннем разглядаем стужку ад вяпка, ускладзенага беларусамі да трупы Элізы Ажэшка. «Ад «Нашай нівы» заступніцы пакрыўджаных» — чытаем выцвілы надпіс.

Урачысты і адначасова дзелавы характар мела сустрэча ў Лодзінскім выдавецтве, якое спецыялізуецца ў перакладах твораў беларускай літаратуры. Нашы даўнія сябры Ігар Сікірыцкі, Ян Гушча, Тадэвуш Хрусцялеўскі, Мацей Канановіч, дырэктар выдавецтва Яцак Заорскі падвялі вынікі зробленаму (нам былі ўручаны юбілейныя выданні Янкі Купалы і Якуба Коласа), вызначылі планы на бліжэйшы час (імі прадугледжана новая анталогія беларускай паэзіі, зборнік Р. Барадуліна). Ад імя прадстаўнічага журы Фларыян Няўважны назваў пераможцаў конкурсу на лепшы пераклад з беларускай мовы. Лаўрэатамі сталі Ян Гушча і Эўгенiюш Кабатц. Тут жа быў абвешчаны новы конкурс — на пераклад беларускай паэзіі.

*14 кастрычніка*

Дзелавая атмасфера, што ўсталявалася ўчора, пануе і сёння. На сімпозіуме, прысвечаным сучаснай беларускай літаратуры, Фларыян Няўважны робіць кваліфікаваны агляд сучаснай прозы, паэзіі і

драматургіі. Тадэвуш Хрусцялеўскі гаворыць пра мастацкае майстэрства Якуба Коласа, Ігар Сікірыцкі — пра творчасць Максіма Танка. Затым вучні ні ліцэя імя Т. Касцюшкі паказваюць кампазіцыю з твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Брыля, Івана Шамякіна і Уладзіміра Караткевіча. Натхнёныя твары маладых выканаўцаў сведчаць, што беларускія аўтары прыйшліся ім даспадобы.

Пасля разыходзімся на сустрэчы з чытачамі — хто да воінаў, хто да ткачых, а хто да католікаў з аб'яднання ПАКС. На сустрэчах — многа пытанняў. Відаць, што наша краіна і наша літаратура цікавяць ладзян. Дарэчы, згадваецца, што першая анталогія паэзіі чырвонай Лодзі выйшла ў... Мінску, у перакладзе на беларускую мову, а толькі потым — у арыгінале.

У Лодзінскім музеі ткацтва аглядаем калекцыю слуцкіх паясоў, тканіны з мануфактуры А. Тызепгаўза, якая існавала ў Гродне ў XVIII ст.

*15 кастрычніка*

Наша дэлегацыя дзеліцца на дзве часткі: першая, на чале з Максімам Танкам, едзе ў Беласток, другая знаёміцца са старажытным Торупем, родным горадам Мікалая Каперніка. Праграма Дзён у Торуні надзвычай багатая і разнастайная. Мы прысутнічаем па адкрыцці выстаўкі беларускай вышыўкі і ткацтва (экспанаты для яе ўзяты з музеяў Торуня і Кракава), на канцэрце з твораў беларускіх паэтаў і кампазітараў. У гарадской бібліятэцы нам паказваюць выстаўку беларускіх кніг — у арыгінале і перакладзе. У праграме наступных дзён — вечары пры самавары «Сустрэча з беларускай песняй і паэзіяй», ранішнікі для дзяцей «Беларускія байкі», выстаўкі, прысвечаныя Магілёўскай вобласці, якая сябруе з Торуньскім ваяводствам.

Нашы «беластаччане», што вярнуліся ў Варшаву дзесьці пад ранак, стомленыя, але і задаволеныя, расказваюць аб выключна сардэчных сустрэчах, якія адбыліся ў паўночна-ўсходнім кутку Польшчы. «На такую сустрэчу з Максімам Танкам мы чакалі доўгія гады, і нарэшце наша мара збылася»,— сказала адна ўзрушаная жанчына.

*16 кастрычніка*

На прыёмах у Міністэрстве культуры і мастацтва, Галоўным праўленні ТПСД і савецкім пасольстве падводзяцца вынікі Дзён. І гаспадары, і госці лічаць, што прайшлі яны паспяхова, з узаемнай карысцю. У сваіх тостах па заключнай сяброўскай вячэры Максім Танк і Юзаф Озга-Міхальскі гавораць пра наступныя сустрэчы і новыя пераклады.

Мяркуючы па размовах і газетах, у Польшчы спакойна.

— Спакой, праца і дружба — вось што нам трэба сёння,— разважае, развітваючыся з намі, старшыня Галоўнага праўлення ТПСД Станіслаў Вроньскі.

*17 кастрычніка*

З раніцы адны ідуць паглядзець польскі фільм «Канапелька», пастаўлены паводле аднайменнай аповесці Э. Радлінскага, падзеі якой адбываюцца ў беларускай вёсцы на Беласточчыне; другія выбіраюцца на шпацыр па старых вуліцах Варшавы. Пасля ўчарашняга дажджу выглянула сонца. І на тварах сустрэчных варшавян часцей бачна ўсмешка.

— Хочацца верыць, што найбольш істотныя нашы цяжкасці ўжо засталіся ззаду,— гавораць нам старыя і новыя польскія сябры, што тлумна прыйшлі нас праводзіць на ультрасучасны Цэнтральны вакзал.

У тое ж хочацца верыць і нам. І вера гэта не беспадстаўная. Бо Дні беларускай літаратуры ў Польшчы пакінулі ў нас такое ўражанне, што сяброў там куды больш, чым недругаў. За ўвесь час прабывання мы не сустрэлі ніводнага варожага твару. Былі твары дапытлівыя, цікаўныя, былі і крыху насцярожаныя. Але варожых мы не бачылі. І гэта найбольш істотна.

1982

# 2 Англійскі дзённік

У пачатку 1985 года, калі гэты дзённік быў ужо падрыхтаваны да друку, газета «Звязда» змясціла шэраг артыкулаў А. Бажко і В. Пепляева пад агульнай назвай «Каталіцызм і антыкамунізм», у якіх аўтары слушна ставяць пытанне аб тым, што скарбы, нарабаваныя гітлераўцамі і іх паслугачамі, а затым вывезеныя на Захад, павінны быць вернуты законнаму ўладальніку — беларускаму народу. Многія з гэтых духоўных каштоўнасцей, гаворыцца ў артыкуле «Тактыка «надточаных рук», «аселі ў музейна-бібліятэчным комплексе ў адным з прыгарадаў Лондана».

За вяртанне нашых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей неаднаразова выступаў і я (дастаткова прыгадаць кнігу «Таямніцы старажытных сховішчаў»). Аднак, пакуль вывезеныя скарбы знаходзяцца на чужыне, ёсць сэнс увесці ў наш навуковы ўжытак некаторыя з іх хаця б у такім выглядзе, як публікацыя дзённікавых запісаў, зробленых мною ў 1982 годзе пераважна ў тым жа музейна-бібліятэчным «комплексе».

*25 кастрычніка 1982 г.*

Міжпародны аэрапорт «Шарамецьева — II», дзе ўсё прадугледжана, каб пасажыру было зручна і ўтульна (нават дзверы адчыняюцца самі), поўніўся разнамоўем. Пасля меладычнага гонга мяккі голас дыктаркі абвяшчаў адпраўленне і прыбыццё самалётаў з самых экзатычных куткоў зямнога шара. Апранутыя па-спартыўнаму юнакі і дзяўчаты прыцішана развучвалі сентыментальную нямецкую песеньку. Паўнатварая негрыцянка з добрай сотняй косак і косачак на галаве гукала сваё дзіця, якое зацерушылася ў тлуме каля экспрэс-бара. Горача аб нечым спрачаліся, дапамагаючы сабе жэстамі, чарнявыя італьянцы ці іспанцы. І толькі японцы паводзілі сябе засяроджана, па-дзелавому. Не губляючы часу, яны масціліся ў любым кутку, адчынялі «дыпламаты» і чыркалі нейкія паперы з калонкамі лічбаў.

Светлавое табло, па якім узад-уперад бегалі зялёныя ўказальныя стрэлачкі, сведчыла, што самалёты на Лондан і Токіо адлятаюць амаль адначасова ад аднаго і таго ж тэлескапічнага напаўняльніка (ці як яго там). Узяўшы дэкларацыю, хутка адбываю таможны агляд (мае сувеніры з лёну, саломкі і дрэва, а таксама юбілейныя купалаўская выданні, грамзапісы «Песняроў» і пляшкі з беларускім бальзамам і «Белавежскай» не выклікаюць аніякай цікавасці), падыходжу да зашклёнай

кабіны. Малады, з першым пушком на вуснах пагранічнік доўга вывучае мой пашпарт, прыдзірліва звярае фатаграфію з «арыгіналам». Урэшце, па-дзіцячаму ўсміхнуўшыся, жадае шчаслівай дарогі і паказвае, як прайсці ў той напаўняльнік. Арыентавацца няцяжка: там, дзе болей японцаў і меней еўрапейцаў, будзе самалёт на Токіо, там, дзе болей еўрапейцаў і меней японцаў,— самалёт на Лондан. Сярод еўрапейцаў лёгка вылучыць савецкіх людзей: усе яны больш сабраныя, падцягнутыя і рэчы іх акуратна ўпакаваныя і састаўленыя. У «заходнееўрапейцаў» — больш расслабленасці, больш абыякавасці да наваколля і да рэчаў — іх цэлафанавыя пакеты і пакецікі раскіданы дзе папала.

Да адпраўлення нашага самалёта яшчэ застаецца з паўгадзіны, і можна, папрасіўшы ў таго джэнтльмена, каб ён адсунуў свой парасон-лёстачку, выгодна ўсесціся, сабрацца з думкамі пасля ўсёй мітусні. Значыць, так. Лячу я ў Лопдап па камандзіроўцы, дакладней, па стыпендыю ЮНЕСКО, якая, зразумела, аплачана нашымі ж узносамі ў гэту міжпародную арганізацыю. Лячу, каб шукаць у Апгліі, а знайшоўшы, вывучаць матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры. Не, раблю сам сабе ўдакладненне, трэба па пошукі глядзець шырэй: не толькі літаратуры, а культуры ў цэлым. У рэшце рэшт, я першы прадстаўнік беларускай савецкай гуманісты, які скіроўваецца па Захад дзеля работы ў бібліятэках і архівах. З іншых рэспублік ужо ездзілі не раз — асабліва з Арменіі, Грузіі. Вунь Гурам Патарая, які нядаўна артыкулам «Неадкрытыя астравы скарбаў» пачаў цікавую дыскусію ў «Литературной газете», пабываў у Францыі, Грэцыі, Італіі, Іране, Сірыі, Палесціне і знайшоў там шмат унікальных помнікаў грузінскай культуры, перададзеных затым у Інстытут рукапісаў імя К. Кекелідзе Акадэміі навук Грузінскай ССР. А колькі рукапісаў і кніг вярнулася з-за рубяжа ў армянскі Матэнадаран! А колькі тысяч помнікаў духоўнай культуры засяроджана за апошнія гады ў Рукапісным фондзе імя акадэміка А. Мірзоева Акадэміі навук Таджыкістана! Пра Пушкінскі дом у Ленінградзе і гаварыць няма чаго: яго работнікі вядуць сістэматычныя пошукі не толькі ў нашай краіне (асабліва на Поўначы), але і за рубяжом. Вунь нядаўна цэлую калекцыю папераў І. Анацэвіча выявілі. У калекцыі гэтай аказалася нямала матэрыялаў, звязаных з Беларуссю. Ды і сам Анацэвіч, здаецца, родам з Беларусі, з Бераставіцы, толькі цяжка цяпер прыгадаць, з якой: Вялікай ці Малой. Не, мусіць, ні з той і ні з другой, а з той Бераставіцы без прыметнікаў, якая сёння стала пасёлкам Пагранічны.

Ну, а мы, думалася далей, беларусы... Хіба нам няма чаго шукаць за мяжой? І чаму толькі за мяжой? Малавата ў нас і пошукавых

экспедыцый па Беларусі. Вунь масквічы, ленінградцы ездзяць — па ваколіцах Веткі, дзе многа стараабрадчаскіх кніг, па глухіх кутках Палесся. А мы ці то не можам (камандзіровачных грошай не стае або часу), ці то не хочам. Між тым рукапісы і старыя кнігі бясследна знікаюць. Не раз мне ўжо даводзілася пісаць пра трагічны лёс шафаў і куфраў, напоўненых унікальнымі выданнямі, якія пасля смерці іх уладальнікаў траплялі ў рукі дзялкоў, а потым — у букіністычныя магазіны суседніх рэспублік. Вось і свежанькі факт. Вера Якаўлеўна Ляшук, дацэнт Брэсцкага педінстытута, гэтым летам казала мне, спасылаючыся на мясцовых людзей, што ў Дастоеве, тым самым, дзе калісьці жылі продкі Дастаеўскага, захоўваліся ў царкве рукапісныя кнігі-летапісы і нават адзін са старадрукаў самога Скарыны. А потым, калі царкву легкадумна знеслі, усё гэта знікла ў невядомым кірунку. Мясцовыя краязнаўцы засведчылі, што сярод маёмасці, перададзенай па акту з Дастоева для царквы ў Іванаве, ужо ні рукапісаў, ні кніг не было...

Пошукі ў Беларусі — гэта, аднак, толькі частка вялікай і пільнай справы. Лёс нашага народа складваўся так, што асноўныя крыніцы для вывучэння яго духоўнай культуры аказаліся за межамі рэспублікі — у Ленінградзе, Маскве, Вільнюсе, Кіеве, Львове і нават у гарадах Паволжа і Сібіры. Многія з архіўных і кніжных сховішчаў гэтых гарадоў, асабліва Вільнюса і Ленінграда, намі ўжо нядрэнна вывучаны, але яшчэ вычарпаны не да канца (доказ таму — нядаўняе «пераадкрыць» аўтографа «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцінкевіча, зробленае Язэпам Янушкевічам). Аднак нашы рукі ўсё яшчэ не дайшлі да шматфаліянтнай «Літоўскай метрыкі», якая цяпер захоўваецца ў Маскве, да збораў Гутэн-Чапскіх са Станькава, дэпаніраваных у першую сусветную вайну ў Гістарычным музеі Масквы, да часткі шчорсаўскага архіва Храптовічаў, якая (казаў мне неяк наш археолаг Леанід Давыдавіч Побаль) ляжыць, неразабраная, у падзямеллі адной з былых кіеўскіх цэркваў (не паспелі прывесці ў парадак пасля вяртання з Германіі), урэшце да куфра з паперамі, пакінутага Паўлінай Мядзёлкай у Даўгаўпілсе латышскай актрысе Надзеі Комісар у 1925 годзе... Адным словам, патрэбны франтальныя пошукі ў бібліятэках і архівах нашай краіны, каб скласці зводны каталог усіх беларускіх рукапісаў — па тыпу таго, які робіцца рускімі вучонымі. Ды, падумалася, і скласці яго было б нялёгка, бо, па-першае, малавата сіл (моладзі чамусьці не дужа імпануе капацца ў архівах) і, па-другое, няма каму каардынаваць такі франтальны прагляд — у адрозненне ад іншых рэспублік, у АН БССР дагэтуль няма археаграфічнай камісіі.

...Да рэальнасці вярнуў мяне вэрхал, узняты японцамі. Мацяркі, апранутыя ў шырокія, падобныя да спадніц, сподніки, прышпільвалі адмысловымі шлеямі — хто спераду, хто ззаду — напаўсонных дзяцей, а тыя лянiва супрацiўляліся. Мужчыны замыкалі свае «дыпламаты» з дзелавымі паперамі. І ўсё гэта значыла, што распачыналася пасадка на такійскі самалёт. Наш жа, сведчыла электроннае табло, крышку затрымліваўся. Таму можна вярнуцца да перапыненага роздуму...

Так, лёс не ашчаджаў помнікі беларускага пісьменства. Ды ці толькі беларускага... Хаця і кажуць, што напісанае не знікае і не гарыць, але ў сапраўднасці гарыць, ды яшчэ як. Вунь у Пергаме загінуў збор у 200 тысяч тамоў. Нічога не засталося ад Пталамеевага збору ў 500 тысяч тамоў. А былі ж усё гэта рукапісы ў адзіным экземпляры... І тут мне згадалася дзесьці прачытанае выказванне, што старажытных кніг значна больш знішчана, чым захавалася. Гэтыя словы асабліва стасуюцца да нас. Хто толькі не паліў беларускія кнігі і рукапісы — і свае контррэфарматары ды царкоўныя дзеячы тыпу славутага Сямашкі, і чужыя заваёўнікі. Колькі даводзілася мне чытаць пра вогнішчы з кніг, раскладзеныя шведамі і французамі, кайзераўцамі ў першую сусветную вайну і фашыстамі ў другую!

Чужаземныя захопнікі не толькі палілі, але і рабавалі, вывозілі ў свае краіны. Шведы — у Стакгольм і Упсалу, кайзераўцы — у Гамбург і Франкфурт. Найбольш, вядома, нарабавалі гітлераўцы. У райх былі вывезены самыя каштоўныя кнігі і рукапісы з Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, з Акадэміі навук, іншых збораў. Частку з іх мы потым вярнулі назад. Але толькі частку. Вунь і Юльян Сямёнаў пісаў, што ў ФРГ яму даводзілася сустракаць рэальныя сляды беларускіх калекцый, і Алена Брускова сцвярджала ў «Литературной газете», што ў Аўстрыі, у штольні пад гарой Зальцберг, фашысты перахоўвалі скрынкі з кнігамі, якія належалі мінскай гарадской бібліятэцы. Дзе яны цяпер? Дзе цяпер багатыя зборы Дзяржаўнага музея БССР, вывезеныя на Захад? Дзе легендарны крыж Ефрасінні Полацкай, які да вайны захоўваўся ў Магілёве, а потым (я не раз пісаў пра гэта) апынуўся ў прыватнай калекцыі амерыканскага таўстасума? Усё гэта — наша нацыянальнае багацце, усё гэта павінна быць адшукана і вернута законпаму ўладальніку — беларускаму народу. І, відаць, адна з маіх задач у час прабывання ў Англіі — настойліва шукаць у прэсе, асабліва той, камплектаў якой няма ў нашай краіне, кожны след, які вядзе да вывезеных багаццяў.

Не менш істотная частка беларускіх старадрукаў і рукапісаў трапіла ў зарубежныя архівы і бібліятэкі «мірным» шляхам — ці то праз абмен, ці то разам з калекцыямі розных магнатаў і мецэнатаў.

Скажам, у Рыме, у Ватыканскай бібліятэцы, павінны захоўвацца зборы магілёўскага архіепіскапа Станіслава Богуша-Сестранцэвіча, які ў XVIII стагоддзі ўкладаў беларускі слоўнік. Туды ж, у сакрэтныя архівы, што сёння займаюць 50 кіламетраў стэлажоў, напэўна траплялі беларускія рукапісы, якія абвяшчаліся ерэтычнымі, праследаваліся ўсюдыіснымі езуітамі. Скажам, у Грэцыі, у апісаным Гурамам Патарая Афонскім манастыры, павінны быць і выданні Скарыны, і выданні яго паслядоўнікаў. А не там, то ў іншых мясцінах. Прынамсі, успомнілася: у каталогу, складзеным сербскім вучоным Багданавічам і выдадзеным у Бялградзе колькі год назад, згадваецца ажно 60 рускіх, украінскіх і беларускіх рукапісных кніг, якія знаходзяцца ў грэчаскім манастыры Хіландора...

Тут мяккі жаночы голас — спачатку на рускай, а потым на англійскай мове — абвясціў, што пасажыры «аэрафлотаўскага» рэйса Масква — Лондан могуць заняць свае месцы ў самалёце. Зрабіць гэта было зусім няцяжка, бо з тэлескапічнага напаўняльніка трапляеш проста ў кабіну, у рукі ветлівых і гасцінных сцюардэс. Пасажыраў зусім няшмат — некалькі юнакоў студэнцкага ўзросту, сівы прысадзісты армянін, высока падстрыжаны ветэран з ордэнскімі планкамі, з дзесятак японцаў, якія, мусіць, лятуць праз Маскву транзітам... І ў гэтай незапоўпенасці самалёта я адчуў першы подых «халоднай вайны». Хто ж будзе лётаць, калі Захад, мякка кажучы, не зацікаўлены ў дзелавых кантактах. Вунь і абсталяванне для газаправода не хочуць — на амерыканскай камандзе — нам прадаваць. І гонку ўзбраенняў узвінчваюць, розныя правакацыі чыняць... Не, мусіць, не ў зручны час я лячу. Не ў самы лепшы.

Але — нават каб і хацеў — усе шляхі для «адступлення» ўжо адрэзаны: самалёт пачаў выруљваць на ўзлётную паласу. Выгодна размясціўшыся ледзь не на трох крэслах, пачынаю слухаць, што шчабечуць праз мікрафон нашы мілыя сцюардэсы. А шчабечуць яны, што наш самалёт ІЛ-62 будзе ў паветры тры гадзіны і дзесяць мінут, што шлях наш у 2800 кіламетраў ляжыць на Рыгу і Капенгаген. А паколькі ляцець мы будзем пераважна над морам, то нашай увазе прапануюцца выратавальныя камізэлькі, якія ў кожнага з нас знаходзяцца пад сядзеннем... Адна сцюардэса стала ў праходзе і пачала нам паказваць, як карыстацца той жоўтай камізэлькай — як надзімаць паветра, уключаць кнопку ліхтарыка і свістаць у свісток. Уявіў я сябе на момант з тым ліхтарыкам і свістком у каламутных вячэрніх водах сцюдзёнага Балтыйскага мора — і адразу ж адхацелася слухаць «аэрафлотаўскія» парады. Лепш ужо вярнуцца ў думках да сваіх кніг і рукапісаў...

Значыць, так. Многія скарбы нашай культуры раскіданы па цэлым свеце. Ёсць яны і блізка — у Польшчы, у Чэхаславакіі. Праўда, тут яны больш-менш вывучаны — і мясцовымі сіламі, і нашымі (прыгадваюцца мае ранейшыя паездкі, камандзіроўкі Сцяпана Александровіча, Валянціны Рэпавай, Уладзіміра Казберука, Янкі Саламевіча). Ёсць і далёка — ажно ў Партугалію трапіла частка рукапіснай спадчыны Вінцэся Каратынскага. Ці, скажам, Францыя. Што я планаваў бы сабе цяпер, калі б самалёт ляцеў не ў Лондан, а ў Парыж? Відаць, у першую чаргу, пошукі беларускіх твораў, якія маглі быць вывезены эмігрантамі ў XIX стагоддзі. Напрыклад, Аляксандрам Рыпінскім, які чытаў у Парыжы першы ў свеце курс лекцый па беларусцы, а потым, у 1840 годзе, выдаў іх асобнай кнігай пад назвай «Беларусь». Габрыеляй Скакоўскай, дачкой беларускага паэта Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, якая ў 1865 годзе добраахвотна пайшла за ім у Сібір, а адтуль, пахаваўшы яго ў 1884 годзе ў Іркуцку, прабралася са сваім мужам, былым студэнтам Горы-Горацкага земляробчага інстытута (акалічнасць важная, калі ўлічыць спрэчкі пра аўтарства «Тараса на Парнасе»), у сталіцу Францыі. Добра было б пашукаць у парыжскіх бібліятэках творы В. Савіча-Заблоцкага, архіў беларуска-літоўска-польскай газеты «Грамадскі зговор», а можа, і беларускія вершы Адама Міцкевіча, пра існаванне якіх мне гаварылі дасведчаныя асобы. У рэшце рэшт, чаму геніяльны польскі паэт не мог напісаць хаця б некалькі беларускіх твораў, скажам, у філамацкі перыяд?! Пісаў жа яго сябар Ян Чачот, які прывітаў яго вершам «Едзе міленькі Адам»! Міцкевіч мог тады адказаць нечым падобным... А што беларускую мову ён добра ведаў яшчэ з дзяцінства — пра тое сведчаць яго выказванні ў лекцыях, прачытаных у Парыжы, у Калеж дэ Франс...

Аднак мы ляцім не ў Парыж, а ў Лондан, і таму ўсе разважанні наконт французскіх бібліятэк сёння не маюць асаблівага сэнсу. Лепш засяродзіцца ды яшчэ раз прадумаць, што можа быць у Англіі. Знаходзіцца яна ад Беларусі далей, чым Францыя, але матэрыялаў там, як ні парадаксальна, назапасілася больш. Па-першае, скарынінскія выданні. Яны ёсць — пра гэта сведчаць розныя апісанні — у Нацыянальнай бібліятэцы ў Лондане, у Бадліянскай бібліятэцы ў Оксфардзе, у Беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны, якая вось ужо дзесяць гадоў дзейнічае ў Лондане і ў якую мне, у адпаведнасці з праграмай камандзіроўкі, трэба ў першую чаргу з'явіцца. Па-другое, матэрыялы таго ж Аляксандра Рыпінскага. З Францыі ён пераехаў у Англію, заснаваў у Лондане вольную славянскую друкарню, выдаў у ёй некалькі сваіх кніг, у тым ліку беларускую баладу «Нячысцік». На жаль, некаторых з іх, у першую

чаргу двухтомнага зборніка вершаў 1853 года, не знайшлося ні ў нашай краіне, ні ў Польшчы. То, можа, хоць акажуцца яны там, дзе былі выдадзены... Дарэчы, адначасова з Рыпіпскім у Лондане знаходзіўся Юльян Ляскоўскі, загадкавы аўтар кнігі «Беларускі бандурыст» (Вільня, 1860), якая (былі сведчанні ў «Нашай ніве») першапачаткова пісалася па-беларуску і толькі потым перакладалася на польскую мову. Той жа Ляскоўскі ў 1882 годзе апублікаваў пад псеўданімам Ю. Карабіч два беларускія вершы — свае ці чужыя. Па-трэцяе, павінны над Тэмзай застацца нейкія сляды друкарні, дзе ў 1903 годзе была выдадзена беларуская сацыялістычная брашура «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» (аўтарам яе, здаецца, лічаць Д. Сямашку)... Урэшце, у Лондане трэба шукаць асабісты архіў Янкі Лучыны. Як пісаў у 1932 годзе ў віленскім «Нёмане» Рамуальд Зямкевіч (а ён многа ведаў), пасля смерці паэта яго паперы перайшлі да пляменніцы. Тая ж выйшла замуж за мінчаніна Уладзіслава Рачкевіча, які стаў у буржуазнай Польшчы віленскім ваяводам. І калі да пані Рачкевічыхі звярнуліся з просьбай даць для друку неапублікаваныя вершы Лучыны, яна, саромеючыся «беларускасці» свайго дзядзькі, катэгарычна адмовіла. А потым, у вайну, Рачкевіч апынуўся ў Лондане, узначаліў там польскі эмігранцкі ўрад, урэшце, як кажуць, адышоў у іншы свет. Але засталася ўдава, у якой, можа, і захаваліся тыя вершы... Толькі вось ці захоча паказаць? Ці захочуць паказаць мне іншыя матэрыялы — скажам, рукапісы Купалы і Коласа ў бібліятэцы імя Скарыны? Працуюць жа там людзі, у цэлым варожыя нашай ідэалогіі. З брашуры Браніслава Курагі-Скрагі «Восем год у нацыяналістычным балоце», выдадзенай у 1963 годзе ў бібліятэчцы «Голаса Радзімы», я ведаў, што ў Лондапе, у Згуртаванні беларусаў у Вялікабрытаніі, дзейнічаюць пераважна беларускія нацыяналісты, якія ў вайну здрадзілі сваёй бацькаўшчыне, што Аляксандр Надсон, які цяпер узначальвае бібліятэку і музей, у час фашысцкай акупацыі вучыўся ў афіцэрскай школе.

— Паважаныя таварышы пасажыры, дамы і панове,— зноў пачуўся голас сцюардэсы.— Зараз вашай увазе будуць прапанаваны сувеніры. Купіць іх зможаце за фунты стэрлінгаў або за долары. Каляска з сувенірамі пад'едзе да кожнага з вас.

Успомніўшы, што ў Маскве, у Міністэрстве замежных спраў СССР мне выдалі цэлых дзесяць фунтаў авансу (а кожны ж фунт стэрлінгаў, усплыло ў памяці, прыраўноўваўся калісьці да кошту фунта серабра), і адчуўшы па гэтай прычыне сябе ледзь не антычным царом Крэзам, я пачаў разглядаць розныя вырабы пародных майстроў:

шкатулкі, матрошкі, размаляваныя лыжкі. Беларускія сувеніры ў мяне ёсць, а вось матрошак — няма. І выбраў самую прывабную.

— З вас два фунты і адзін пенс,— усміхнулася сцюардэса.

— Калі ласка, вось тры фунты.

— А дзе я вазьму вам столькі пенсаў рэшты?! — ці то здзівілася, ці то абурылася сцюардэса.

— Ну, тады вазьміце матрошку назад.

— Няхай ужо, дзе маё ні прапала,— неяк дужа па-нашаму, па-славянску махнула рукой дзяўчына.— Другі раз аддасце.

— Што вы, што вы,— збянтэжана прамармытаў я ў адказ.— Гэта ж такія грошы... Амаль білет па лонданскае метро, якое,— тут я рашыў бліснуць вычытанымі ведамі,— празвалі «двухпенсавай падземкай»...

— Калі тое было! — пырснуў смехам сусед з левага боку праходу — маладзейшы за мяне, але, відаць, больш бывалы.— Цяпер, каб праехаць па лонданскаму метро з канца ў канец, трэба разоў у сто болей, фунты з два, і то ў ільготныя гадзіны.

— Колькі ж тады будзе каштаваць таксі, скажам, з аэрапорта і да цэнтра горада? — занепакоіўся я пра сваю плацежаздольнасць.

— Ад аэрапорта Хітроў, куды мы прылятаем, да Лондана лічыцца дваццаць чатыры кіламетры,— паблажліва навучаў сусед.— А там яшчэ накіньце, гледзячы куды вам трэба. Фунтаў так дваццаць — трыццаць і набяжыць.

На іх тры дні жыць можна.

Я панніла звесіў галаву: вось табе і Крэз! На сувеніры накінуўся... Добра яшчэ, калі хто сустрэне — з нашага пасольства ці з Брытанскага савета па справах культурнага абмену з зарубежнымі краінамі, пад ведамам якога я павінен знаходзіцца. Адпаведныя тэлеграмы пасланы. Але самалёт прыбывае ў 23 гадзіны па маскоўскаму часу, а ў 20 — па Грынвічу (пабываць бы, мільганула думка, у той Грынвічскай абсерваторыі, на нулявым мерыдыяне), і хто гэта захоча ў такі позні час цягнуцца ў аэрапорт дзеля нейкага беларускага літаратуразнаўца... За два пенсы рашыў на метро праехаць! На скорую руку прачытаў некалькі нарысаў пра Англію і думае, ёлупень, што ён ужо ведае гэту краіну, бічаваў я сам сябе, адчуваючы непадрыхтаванасць да паездкі. І сапраўды: што я ведаю пра туманны Альбіён — здаецца, так назвалі Брытанскія астравы рымскія легіянеры, высадзіўшыся на ўзбярэжжы ў раёне Дуўра і пабачыўшы белыя крэйдавыя скалы (альбус — па-латыні белы). Толькі тое, што з часоў Вільгельма Заваёўніка (а гэта XI стагоддзе!) на тэрыторыю астраўной краіны не ступала нага чужаземнага захопніка... Ды яшчэ тое, што Англія — гэта (побач з

Шатландыяй і Уэльсам) састаўная частка Вялікабрытаніі; калі ж да Вялікабрытаніі дадаць Паўночную Ірландыю, сёння адзін з найбольш болевых пунктаў нашай планеты, то атрымаецца Злучанае Каралеўства, на чале якога з 1952 года стаіць Лізавета II. Цэлыя стагоддзі Злучанае Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі было цэнтрам велізарнай каланіяльнай дзяржавы, якая, нібы калос на гліняных нагах, распалася пад націскам вызваленчага руху. Засталася, праўда, Садружнасць, аб'яднанне Вялікабрытаніі і яе былых дамініёнаў, але гэта толькі выгляд, толькі цень былой магутнасці і былога, няхай і уяўнага, адзінства...

Што яшчэ? Вядома, шматвяковая крывавая барацьба за англійскі трон, апісаная ў раманах Вальтэра Скота і драмах Уільяма Шэкспіра. Змена Йоркаў, Цюдараў, Сцюартаў. Цэлая трыццацігадовая вайна была паміж імі ў пятнаццатым стагоддзі, вайна Пурпуровай і Белай ружы... Толькі хто з кім змагаўся тады? Здаецца, Йоркі з Цюдарамі? Не, цьмяна ўспомніліся старонкі падручніка, Поркі з Ланкастэрам!. Цюдары былі потым. Як і англійская буржуазная рэвалюцыя. Як і заваёўніцкія паходы па Амерыцы, Афрыцы і Азіі. Як і барацьба англійскага пралетарыяту за свае правы. Як і...

— Вам вячэра,— маё самакапанне ў памяці перапыніла сцюардэса, ставячы на адкідны столік паднос з талерачкамі.— Жадаеце кавы ці чаю?

Рызыкую выпіць кубак кавы, хоць увогуле пазбягаю яе. Але тут трэба падбадзёрыцца перад Невядомасцю. Ва ўяўленні ўсплыла такая сумная перспектыва: мяне ніхто не сустракае, і я вымушаны начаваць проста ў аэрапорце.

— Сэнк'ю вэры мач,— ззаду японцы адмаўляюцца ад курыцы. Мусіць, дзейнічаюць па прынцыпу: сняданак з'еш сам, абед падзялі з сябрам, а вячэру аддай ворагу. Таму, відаць, яны і такія шчуплыя, падцягнутыя... Аднак дармовае чырвонае віно «ворагу», гэта значыць «Аэрафлоту», японцы не аддаюць. Ахвотна цэдзяць яго маленькімі глыточкамі. Правяць кампліменты нашым сцюардэсам, а тыя «спікаюць» па-англійску ў адказ.

Мілыя сцюардэсы, падумалася, памяняцца б мне з вамі цяпер у веданні англійскай мовы! І чаму гэта я на першым курсе універсітэта, калі ішло размеркаванне па групах, паддаўся ўгаворам і, напісаўшы ўжо на агульным сшытку «інгліш», перакрэсліў потым надпіс і згадзіўся пайсці ў нямецкую групу, якая была недаўкамплектаваная. Потым, з гадамі, я імкнуўся неяк выправіць гэту памылку, спрабаваў прайсці школьны курс англійскай мовы і са старэйшым сынам, і з малодшым. Але пораху хапала ненадоўга... Праўда, апошні год хадзіў

на курсы пры кафедры замежных моў у нашай Акадэміі навук. Слухаў грамзапісы, радыё. Але што там ухопіш вечарам, калі галава ўжо затлумлена работай. Не, мелі рацыю нашы продкі, калі пачыналі вучыць сваіх дзяцей замежным мовам у самым раннім узросце. А то вучым у сталыя гады, без практыкі. Праз адно вуха ўлятае — праз другое вылятае... Адзінае суцяшэнне, што (вычытаў у Аўчыннікава, у «Карэннях дуба») англічане — народ флегматычны, маўклівы. Завесці з кімсьці незнаёмым гаворку на вуліцы, у кафэ і нават у гасцях лічыцца дрэнным тонам. Пакуль цябе не пазнаёмяць, набівацца з размовай нельга... Вось і буду маўчаць, падумалася з нейкай злосцю. Тым болей што самі англічане замежныя мовы, у тым ліку і рускую, вывучаюць неахвотна. Лічаць, што іх павінны ўсе разумець, а яны — не абавязкова.

— Наш самалёт прыбудзе ў Хітроў дакладна па раскладзе — у дваццаць тры гадзіны дзесяць мінут,— зашчабятала ў рэпрадуктары.— Тэмпература паветра ў Лондане — дванаццаць градусаў цяпла.

І, пэўна, стаіць густы белы ці жоўты смог, спрацаваў у мяне стэрэатып. Пра лонданскія туманы пісаў яшчэ Дунін-Марцінкевіч. Як гэта ў яго, у «Благаславёнай сям'і»? Ёсць там нешта адпаведнае майму сённяшняму настрого...

Што мне Вена, Мадрыд, што мне Лондан туманны,
Больш за ўсё я бацькоўскаму краю адданы...

А можа, мне і нататкі свае так назваць: «Два месяцы ў туманным Альбіёне»?! У туманным — не толькі ў прамым сэнсе, але і ў пераносным. Ідэалагічнага ж смогу ў іх, як відаць з газет, таксама хапае. Няведання элементарных рэчаў пра нашу краіну. Варожасці да ўсяго савецкага толькі таму, што яно савецкае... З рознымі людзьмі, пэўна, давядзецца сустракацца — сябрамі і недругамі, англічанамі і эмігрантамі. Эмігрантаў таксама нельга адным аршынам мераць. Ёсць такія, што выехалі, шукаючы кавалак хлеба, яшчэ з царскай Расіі або Заходняй Беларусі, калі там панавала польская буржуазная ўлада. Ёсць такія, што трапілі ў фашысцкі палон, былі вывезены ў гітлераўскую Германію на прымусовыя работы, а потым абзавяліся на Захадзе сем'ямі, пабаяліся вярнуцца, запалоханыя варожай прапагандай. Ёсць «палякі», якія ў СССР запісаліся ў армію Андэрса і выйшлі разам з ёй у Іран, а потым рассеяліся па беламу свету. Але ёсць і здраднікі (тут згадаліся гнеўныя словы Купалы і Коласа), што ў час акупацыі супрацоўнічалі з гітлераўскімі ўладамі, разам з імі ў 1944 годзе ўцякалі па Захад. Прыстроіліся там пад крылцам розных службаў, праз «галасы» вяшчаюць... На руках многіх такіх прадажнікаў ёсць

кроў сваіх суайчыннікаў. Толькі вось як распазнаць, вітаючыся, заплямленую табе руку працягваюць ці чыстую, пацiснуць яе ці з абурэннем адмовіцца?!

Між тым самалёт павольна пачаў ісці на пасадку. Сонныя японцы (у іх жа даўно ноч) пачынаюць глытаць нейкія цукеркі ці таблеткі. Прыткнуўшы вушы пальцамі (так лягчэй пераносіцца перапад ціску), гляджу ў начны ілюмінатар. Унізе — мора ліхтарных агнёў, хаатычна раскіданых, нібы гірлянды на навагодняй яліне. Бягуць яны пакручаста, бессістэмна. «Няўжо тут няма прамых вуліц?» — падумалася. І дамы на тых вуліцах пераважна двухпавярховыя, нібы ў вялікай вёсцы. А дзе «хмарачосы», якія, здавалася мне, з'яўляюцца абавязковым атрыбутам заходняга горада? І дзе неонавыя рэкламы, што верна служаць вялікаму бізнесу? Нешта тут не адпавядала традыцыйнаму стэрэатыпу. А можа, мой кніжны стэрэатып не адпавядаў зменлівай рэальнасці?

Ды бог з імі, гэтымі стэрэатыпамі. Разбярэмся заўтра. А цяпер трэба ступіць на чужую зямлю, зрабіць па ёй першыя крокі, дабрацца да аэравакзала — няхай і пры дапамозе аўтакара.

І тут, у першыя хвіліны прабывання на англійскай зямлі, мне стала па-сапраўднаму страшна. Зайшоў у аўтакар, ухапіўся рукой за булавешку, якая звешвалася зверху. Адчуў, што машына кранулася. Глянуў туды, дзе павінна быць кабіна шафёра,— ажно там пуста, пустое месца... І тым не меней аўтакар ехаў — нібы загубе насустрач. Насланнё якое, ці што? Але жах мой доўжыўся толькі хвіліну. Тут жа ўспомнілася, што ў Англіі — левабаковы рух. Таму кабіна шафёра павінна знаходзіцца справа. Так яно і ёсць: вунь сядзіць шафёр — чамусьці ў цёмных акулярах, хоць і ноч на дварэ...

Значыць, падумалася, прыйдзецца тут безупынна памятаць, што знаходзішся ў краіне, дзе рух наадварот. Ды не толькі рух — і лад, і многае ў быцці, норавах.

Давядзецца прывучыць сябе да таго, што, пераходзячы вуліцу, трэба спачатку зірнуць направа, а толькі потым ужо — налева. Каб не трапіць пад колы.

Але з вулічным рухам, супакойваў я сябе, звыкнуцца можна. Пару дзён — і перастроіш сябе. А вось як звыкнуцца з адваротным жыццём-быццём? Як быць з людзьмі, што думаюць зусім інакш, чым ты? Зіркаюць на цябе гнеўна і падазрона, нібы ў тваім саквояжы па меншай меры атамная бомба... Вунь як тая хударлявая і дужа сярдзітая жанчына, мусіць, прадстаўніца іміграцыйных улад, што, седзячы ў праходзе, доўга круціць у руках кожны савецкі пашпарт... Падказваў унутраны голас: не ідзі да яе, ідзі вунь да таго мужчыны ў квадратных

акулярах... Але мужчына ўсё яшчэ быў заняты сівым армянінам, стойка ж каля жанчыны ўжо вызвалілася, і невялічкая чарга ззаду глядзела на мяне з неўразуменнем: чаго гэта ён? Жанчына таксама падазрона глянула ў мой бок.

— Няхай будзе, што будзе! — заглушыў я ўнутраны голас. І пайшоў да стойкі.

— Хто вы такі і чаго прыляцелі ў Злучанае Каралеўства? — нібы пракурор у судзе, спытала жанчына.

Сілячыся ўспомніць англійскую мову, якая раптам зусім выветрылася з галавы, я адказаў, што працую ў Акадэміі навук і прыбыў сюды па камандзіроўцы ЮНЕСКО, каб шукаць і вывучаць беларускія кнігі і рукапісы.

— Якія яшчэ беларускія рукапісы і кнігі ў Лондане! — мае словы падаліся жанчыне яўна чырвонай крамолай.— Хопіць з вас і месяца, каб вывучыць тое, чаго тут няма! — і бух мне ў пашпарт нейкі штэмпель.

— Але ж вось у гэтым дакуменце, што я атрымаў з Парыжа, гаворыцца аб двухмесячнай стыпендыі. І адпаведная згода Брытанскага савета ёсць... Дазвольце хоць пазваніць у Брытанскі савет, высветліць справу...

— Нашто званіць! Прадстаўнік Брытыш каунсіл ёсць тут. Вунь той мужчына...

Мужчына падышоў, пашукаў маё прозвішча ў сваім спісе і флегматычна прамовіў:

— Пра вас я нічога не ведаю, у мяне вы не значыцеся. Я сустракаю іншых людзей. І наогул тут камандуюць іміграцыйныя ўлады. Што я магу?

Зразумела, нічым не змог дапамагчы і работнік савецкага пасольства, які ведаў аб маім прылёце і падышоў на «шумок».

— Нічога,— супакоіў ён мяне,— заўтра аб усім раскажаце ў Брытанскім савеце. Няхай напішуць паперу да іміграцыйных улад, каб потым прадоўжылі вам тэрмін. Усё абыдзецца!

*26 кастрычніка*

Пачынаю знаёміцца з Лонданам, прызвычайвацца да адметных абставін. Першае, што кідаецца ў вочы на вуліцах,— «адваротнасць» руху, стракатасць натоўпу, мноства рэклам. Па ўскраінах, у раёне Фінчлі, дзе я жыву,— Лондан амаль увесь двухпавярховы. І толькі ў цэнтры ўзвышаецца некалькі дамоў вежавага тыпу.

Сёння пабываў у нашым пасольстве і ў Брытанскім савеце, дзе атрымаў стыпендыю — праўда, толькі за адзін месяц. Але тое непаразуменне ў аэрапорце абяцалі ўладзіць.

Непаўторнае ўражанне пакідае гістарычны цэнтр брытанскай сталіцы, яго помнікі.

*27 кастрычніка*

Хто не ведае Брытанскай нацыянальнай бібліятэкі?! Створаная ў 1757 годзе, яна неўзабаве ператварылася ў адну з самых буйных і багатых бібліятэк свету. У яе сценах плённа працавалі Карл Маркс і Уладзімір Ільіч Ленін. Сёння тут сабрана больш дванаццаці мільёнаў кніг і каля ста тысяч рукапісаў. Многія з іх — беларускія або маюць дачыненне да Беларусі.

Брытанская бібліятэка месціцца ў адным будынку, упрыгожаным велічнымі і строгімі калонамі, са славутым Брытанскім музеем (да 1973 года яны нават утваралі адно цэлае). Таму ля ўваходу — поўна турыстаў. Кожнага наведвальніка тут строга абшукваюць, ці часам не нясе з сабой бомбу або міну. Працэдура гэтая прыніжае чалавека, але, відаць, у заходніх краінах, дзе квітнее тэрарызм, проста неабходная.

На маё здзіўленне, афармленне чытацкага білета заняло не больш пяці хвілін. Паставілі мяне перад апаратам, які тут жа выдаў каляровую фатаграфію, запрасавалі яе ў квадрацік картону, паставілі на ім толькі імя і прозвішча — і хадзі, хоць да сканчэння веку.

Унутры бібліятэка таксама зручная для карыстання. У цэнтры круглай залы з высокім купалам-скляпеннем расстаўлены тоўстыя фаліянты з каталожнымі запісамі. А ва ўсе бакі ад каталогаў разыходзяцца, нібы праменні, доўгія сталы з пранумараванымі месцамі. У заказе ўказваеш сваё месца — і праз паўгадзіны табе падвозяць патрэбную кнігу.

Як заўсёды, пошукі пачынаю з каталога. У ім знаходжу унікальны экземпляр «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, выдадзенай у Кракаве ў 1523 годзе, і побач — мінскае выданне 1973 года. Купала прадстаўлены зборамі твораў, Дунін-Марцінкевіч — «Гапонам», Багушэвіч — першым выданнем «Смыка беларускага». Ёсць у бібліятэцы таксама выданні Францыска Скарыны — пражскія і віленскія. Але яны ўжо добра апісаны ў навуковай літаратуры; аналагічныя іх экземпляры ёсць у савецкіх бібліятэках. Таму найперш засяроджваю ўвагу на тых кнігах, якіх не аказалася ў нас; шукаю лонданскія «сляды» Аляксандра Рыпінскага і адваката з Навагрудчыны Ігната

Яцкоўскага, які тут, у Лондане, упершыню апублікаваў у 1854 годзе верш Паўлюка Багрыма «Заграй, заграй, хлопча малы».

І вось у Брытанскай бібліятэцы знаходжу лонданскі двухтомнік Аляксандра Рыпінскага 1853 года. Першы том прысвечаны Віцебску, «роднаму гораду» аўтара, і ўпрыгожаны яго фатаграфіяй. Рыёнскага мы бачым ужо лысага, з доўгімі валасамі збоку, з вусамі і барадой. У нечым ён мне здаўся падобны да Дон Кіхота — якім яго традыцыйна малююць у выданнях Сервантэса. Зрэшты, Рыпінскі і быў своеасаблівым Дон Кіхотам: змагаўся з царызмам, але выбіраў для гэтага ілюзорныя шляхі. Імкнуўся пісаць на пароднай, беларускай мове, але, будучы прадстаўніком шляхты, заставаўся ўсё ж у аддаленасці ад народа. Часам спрабаваў «паяднаны» беларускую мову з польскай — і вельмі здзіўляўся, калі ў яго нічога не выходзіла. З Рыпінскім згасла рэвалюцыйнасць шляхецкая, каб саступіць месца рэвалюцыйнасці дэмакратычнай.

У двухтомнік 1853 года за выключэннем беларускай балады «Нячысцік» (напісана яна ў Рычманд Гіле пад Лонданам) увайшлі польскія творы Рыпінскага — паэмы, вершы, думкі, а таксама пераклады з Томаса Мора. Пад вершамі звычайна ўказаны дакладныя год і месца напісання: Кукавячын над Дзвіной, Парыж, Авіньён, Лондан. Многія творы напісаны ў Тотнэме (Тотэнгаме) пад Лонданам, дзе паэт доўгі час жыў, выкладаў у мясцовай школе маляванне, заснаваў уласную друкарню, займаўся фатаграфіяй, і мне падумалася, што туды абавязкова трэба будзе з'ездзіць...

Многія вершы Аляксандра Рыпінскага цікавыя сваімі эпіграфамі. Так, перад «Уздыханнем выгнанца» ідуць словы Пушкіна: «Сердце в будущем живет». Часта сустракаюцца радкі з украінскіх народных песень (цікава, адкуль Рыпінскі іх ведаў?), з песень «вядомага на Белай Русі паэта Рыпінскага». А да трыялетаў, прысвечаных Тамашу Зану, узяты наступны беларускі эпіграф:

Богу хвала, чорту трасца!
А нам па здароўе!
А хто судзе, хто гаворыць:
Таму безгалоўе!

Каштоўным для гісторыі беларускай літаратуры і фалькларыстыкі з'яўляецца ліст да Рыпінскага Крыстына Ляха Шырмы, змешчаны ў канцы двухтомніка. Адзін эмігрант піша другому: «Хаця не вялікі з мяне русін (г. зн. беларус.— А. М.), аднак я ўважліва два разы прачытаў беларускую баладу «Нячысцік» і здзіўляўся, што гэту гаворку ты яшчэ памятаеш пасля столькіх год і што столькі багацця ў ёй... Так званы класіцызм у нашым пісьменстве, хаця ў свой час і быў па-

трэбны, нямала нам у больш новую эпоху зашкодзіў, бо не даваў паэзіі і нават прозе магчымасці карыстацца багатымі запісамі народнай мовы. Я вельмі ўпадабаў яе, хаця быў выхаваны на грэчаскіх і рымскіх класіках, даўно збіраў народныя песні. Выпадковае знаёмства з Хадакоўскім (адным з пачынальнікаў славянскай фалькларыстыкі, беларусам па паходжанню.— Л. М.) тым болей мяне да гэтага заахвоціла; і ўжо ў 1817 годзе (наколькі памятаю) на фоне народных песень склаў я баладу «Ясь і Галіна» і некалькі іншых, што друкаваліся ў «Дзенніку Віленьскім».

Такім чынам, Крыстына Ляха Шырму сёння мы можам лічыць адным з першых беларускіх фалькларыстаў, хаця яго запісы народных песень дасюль, здаецца, не знойдзены. Але затое лёгка можна адшукаць польскія творы гэтага «русіна», заснаваныя на беларускім фальклоры.

Дзесьці каля трэцяй гадзіны ўспомніў, што пара перакусіць. Выйшаўшы з бібліятэкі, замарыў голад на вуліцы смажанымі каштанамі. Але гэтага паказалася мала, і зайшоў у «бістро», дзе за талерачку фруктовага супу, «гарачага сабаку», гэта значыць сардэльку ў булцы, і шклянку кока-колы заплаціў больш за тры фунты. Проста жах: роўна столькі ж каштуе ў вулічных кіёсках наручны электронны гадзіннік! Мусіць, давядзецца ўспомніць старыя студэнцкія часы і хаця б сняданне і вячэру гатаваць сабе самому.

Па дарозе ў сваё жытло прыглядзеўся да вуліц. Многія атэлі і майстэрні названы імёнамі літаратурных персанажаў: Айвенга, Домбі і сын, Дон Жуан. Мноства ярка аформленых, але, як на нашы крытэрыі, малалюдных магазінаў. Крыклівая рэклама, якая дзейнічае на чалавека, нібы чырвонае палотнішча на быка ў час карыды, абяцае, што толькі тут ты знойдзеш «сваю ўдачу» і прытым «па смешна нізкай цане», якая ў сапраўднасці часта аказваецца вельмі высокай. Некаторыя рэкламы робяць ураджанне, адразу ўрэзваюцца ў падсвядомасць. Напрыклад: на вялізным шчыце прыгажуня трымае на выцягнутай далоні жабу ў кароне, побач стаіць пляшка «бенедыкціну», а ўнізе — подпіс: «Вось тое самае, што ператварае жабу ў прынца!» Пабачыўшы з дзесятак такіх шчытоў, пачынаеш сумнявацца: а можа, яно і сапраўды так?

Найбольш імпазантна выглядаюць, вядома, банкі. Іх пад'езды выкладзены мармурам. Дзверы наведвальнікам важна адчыняюць швейцары ў пышнай уніформе... Фактычна тут канцэнтруецца эканамічнае і палітычнае жыццё краіны. Вонкава палітыка фарміруецца ў Вестмінстэры і на Даўнінг-стрыт, аднак бачныя і нябачныя ніткі туды ідуць якраз адсюль — ад «Мідленд банка», «Лойдз банка», «Барклiз

банка» і «Нэшнл Вестмінстэр банка», якія складаюць так званую «Вялікую чацвёрку» храмаў мамоны.

*28 кастрычніка*

Абедаў сёння ў маленькім кітайскім рэстаранчыку на галоўнай вуліцы Фінчлі. На сценах — усходнія ліхтарыкі, карціны з джонкамі. На абед падалі густы кукурузны суп, які чэрпаеш кароценькай лыжкай, нейкія зусім чорныя грыбы і рэбры ў соусе з соі. Пасля іх палошчаш пальцы ў кубку з вадой, куды ўкінуты кавалачак лімона. Кітайскія рэстараны значна танней, чым англійскія, бо ўтрымліваюцца адной сям'ёй, аднак значна даражэй, чым нашыя. І, галоўнае, ты амаль не ведаеш, што ясі.

Пасля абеду першы раз купляў харчы ў магазіне самаабслугоўвання. Усе прадукты тут загадзя расфасаваны ў самыя розныя на велічыні пакецікі (чым болей бярэш, тым танней выходзіць). Таму і ў зале, і ля касы няма ніякіх канфліктаў. Аднак цэны «кусаюцца». Напрыклад, буханачка белага тонка нарэзанага хлеба каштуе 30-40 пенсаў, а чорнага не бачу зусім. Мясныя вырабы бяруць тут маленькімі порцыямі — па 50, а то і 20 грамаў. Мноства самых экзатычных фруктаў.

*29 кастрычніка*

Пачаў чытаць рукапісныя, у чатырох сшытках успаміны Кветкі Вітан (пад гэтым псеўданімам хавалася Юльяна Вітан-Дубейкаўская). Напісаны яны на беларускай мове пасля другой сусветнай вайны, датычацца ж беларускага жыцця ў Вільні на пачатку стагоддзя.

Чытаючы «Мае ўспаміны» Кветкі Вітан, міжвольна думаў аб прыцягальнай сіле беларускай культуры. Іх аўтар — немка па нацыянальнасці, дачка віленскага купца і фабрыканта Карла Менке. Але сустрэчы з Цёткай, Браніславам Тарашкевічам, іншымі дзеячамі так паўплывалі на яго дачку Юльяну, што яна пачала гаварыць, а потым і пісаць па-беларуску.

Зрэшты, «тутэйшую» мову Кветка Вітан ведала ўжо з дзяцінства. На ёй бацькі гаварылі з прыслугай, спявалі калядныя песні («Стары Восіп барадаты»). Многа народных песень, казак і гульняў ведала няня. «Змалку,— піша мемуарыстка,— я прывыкла да «простай» мовы, таму што няня мая так гаварыла, і яшчэ цяпер памятаю, як нас, дзяцей, вучыла забаве ў воўка і пастуха. Пастух лічыў авечкі й казаў: «Пасу, пасу авячэчкі каля сваёй рэчкі, воўка не баюся, качаргой баранюся». Затым ён шоў да бабы й казаў: «Баба, баба, дай табакі». Воўк у гэты час краў авечку, і пастух зноў лічыў і казаў тое самае, пакуль

воўк панёс апошнюю, затым пастух шукаў воўка і адбіраў свае авечкі».

А потым, у віленскай прыватнай гімназіі Веры Прозаравай, адбылося знаёмства Юльяны Менке з Алаізай Пашкевіч, якая з цягам часу стала Цёткай. Успаміны праліваюць новае святло на ўмовы, у якіх расла беларуская паэтэса, фарміраваўся яе нязломны характар.

Адна беларуска, гаворыцца ва ўспамінах, «знайшлася ў нашай гімназіі і то асаблівая. Разам у вышэйшых клясах з маёй старшай сястрой вучылася Алойзія Пашкевіч. Яна здала экзамены ў 4-ю ці 5-ю клясу і была старшэ другіх дзяўчат па клясе. Казалі, што яна прыехала з вёскі. Яна трымалася асобна ад другіх, была маламоўная, але з маёй сястрой яна сышлася бліжэй, бо сястра ёй памагала адрабляць лекцыі Франц(узскай) і нямецкай мовы, якімі Ал. Пашкевіч слаба ўладала. Наогул аб сваім жыцці і сям'і Ал. П(ашкевіч) ніколі не гутарыла, сястра ведала толькі, што яна жыве ў знаёмых на прадмесці. Але раз у гімназіі паўстаў вялікі перапалох. Ал. П(ашкевіч), вучаніца 7-ай клясы, абамлела ў часе лекцыі, і школьная лекарка прызнала, што гэта ад недаядання яна гэтак аслабела. Памятаю, мая сястра ў хаце са слязьмі апавядала, што Ал. П(ашкевіч) гэтак бедная, што на яду ёй не хапае, але яна вельмі амбітная, што не хоча прымаць помачы. Мая маці казала тады: «Я буду табе даваць булкі па дзве, а ты кладзі ў яе столік, калі яе няма ў класе». Мне гэта рабіла асаблівую прыемнасць: прыходзіць у класу сястры і класці непрыкметна булкі ў пюпітр Ал. П(ашкевіч). Яна спачатку пытала ў клясе, хто гэта палажыў свае булкі ў яе пюпітр, аднак віноўніца не адклікалася, і клясовая дама супакоіла яе, што гэта, мусіць, падарунак. Гэтак мы рабілі да аканчання гімназіі.

З часам Ал. П(ашкевіч), можа, і зацеміла, што гэта мы аб яе дбаем, але нічога не казала і снедала разам з усімі ў сталоўцы, дзе мы яшчэ атрымлівалі гарачую гарбату. Наогул гэты выпадак узварушыў не толькі нас, вучаніц, але і наша начальства. Наша Вера Міхайлаўна мела добрае сэрца, і яна на бацькоўскім савеце парупілася, каб Ал. П(ашкевіч) прызналі стыпендыю, бо яна вельмі старанна і добра вучыцца (плата за навуку была вельмі высокая — як у прыватнай гімназіі, 100 руб. у год, якраз удвая, як у казённай).

Ад таго часу Ал. П(ашкевіч), бачачы агульную спагаду, мела трохі больш даверу і апавядала сястры, што яна ад бацькоў з вёскі мала грошай атрымліваць можа і мусіць дарабляць лекцыямі і таму ёй гэтак цяжка перабівацца.

Ал. П(ашкевіч) і сваімі гадамі (яна позна папала у школу і з вялікімі пакутамі і працай на вёсцы падгатовілася да экзамену ў гімназію), і сваёй павагай выдзялялася сярод вясёлых бестурботных

дзяўчат. Помню, яна кідалася ў вочы сваім бледным паважным тварам, які не бліскаў свежасцю і красой маладосці, але які сваімі сур'ёзнымі вачамі, трохі выступаючымі скуламі, тонкімі і зжатымі губамі казаў аб сіле і цвёрдасці характару.

Да мяне яна мела асаблівую сімпатыю, бо калі выпуск сястры падгатаўляўся да апошніх экзаменаў, я прыходзіла пасля лекцыяў у VIII клясу і памагала ўсім паўтараць арыфметыку, якая ўваходзіла ў экзамен агульнай матэматыкі. Я тады якраз закончыла арыфметыку і магла па свежую памяць выкладаць усе правілы працэнтаў, ступеняў і г. д. Ал. П (ашкевіч) знаходзіла, што я вельмі здольная і паважаная дзяўчынка і ахвоча гутарыла са мной аб гісторыі, у якой я мела вялікую начытанасць. У нас, у хаце, Ал. П(ашкевіч) была рэдкі госць, хоць мая маці яе ветліва прымала і запрашала — усё яна тлумачыла, што не мае часу, бо мусіць не толькі вучыцца, але яшчэ даваць лекцыі, каб зарабляць на сваё ўтрыманне. Мы яе лічылі за польку, бо яна была каталічка і ніколі ні слова не казала аб сваёй беларускасці і палітычных ідэалах. Праўда, і сястра і я былі шмат маладзейшыя за яе. Пасля аканчання гімназіі Ал. П(ашкевіч) паехала ў Пецярбург на курсы праф. Лесгафта (прыватныя курсы, дзе выкладалі прыродазнаўства ва ўсіх яго дысцыплінах і якія выхоўвалі масажыстак і вучыцельніц гімнастыкі). Гэтак мы патрацілі з Ал. П(ашкевіч) сувязь. Мая сястра, якая вельмі маладзенькай выйшла замуж у 1904 годзе, перад сваім выездам з мужам ва Уладзівасток апавядала, што ад адной падругі чула, што Ал. П(ашкевіч) стала сацыялісткай і далучылася да беларускага руху».

*30 кастрычніка*

Наступная сустрэча Кветкі Вітан з Цёткай адбылася ў час першай рускай рэвалюцыі. Ранейшую сціплую і замкнутую гімназістку цяжка было пазнаць: яна ператварылася ў палымянага трыбуна, выразніцу народных думак. У 1905 годзе, працягвае мемуарыстка, «пасля прайгранай японскай вайны, калі першая рэвалюцыя вылілася ў генеральную забастоўку і ўвесь рух па чыгунках спыніўся, у гарадах кіпела, і па шматлікіх мітынгах выносіліся розныя жаданні і рэзалюцыі. У гэтым часе я ўжо закончыла гімназію, збіралася на курсы і вучыла латынь. З вялікім інтарэсам пачала я цікавіцца модным тады сацыялістычным рухам і, вядома, хадзіла на мітынгі і сабранні. І вось на адным мітынгу я ў прамоўцы пазнала Ал. П(ашкевіч), якую я ўжо некалькі гадоў не спатыкала. Як яна змянілася! Я ж яе знала як маламоўную, спакойную, а тутака перад намі была аратарка, якая з вялікай сілай і ўсім сваім сэрцам будзіла ў слухачоў запал і любоў да

прыгнечанага рабочага люду і белар(ускага) сялянства, за вызваленне і лепшую долю якога трэба ахвяраваць усе свае сілы і жыццё. Слухаючы Ал. П(ашкевіч), я разумела, што яна сапраўды тое адчувае, да чаго ўсіх заклікае, і таму, што гэта плыло ў яе ад душы, яна мела вялікі ўплыў на ўсю аўдыторыю. Пагутарыць мне з ёй тады не прыйшлося; за натоўпам нельга было прабіцца да прамоўцы.

Але хутка ўздым першага рэвалюцыйнага руху быў падаўлены, і ўсе дзеячы і павадыры гэтага руху апынуліся ці ў вастрозе, ці на эміграцыі; у лік апошніх папала і Ал. П(ашкевіч). Яна выехала ў Кракаў, каб там закончыць свае навукі. Аб яе жыцці ў Кракаве мне апавядала Алёна Б., пасля жонка праф. Л. (ініцыял не расшыфраваны.— А. М.), пані Алёна была аднакласніца маёй сястры і Ал. П (ашкевіч) у гімн(азіі) В. М. Прозаравай. Спаткаліся яны ў Кракаве як эмігранткі. Там абедзве і выйшлі замуж за эмігрантаў-землякоў, муж пані Алёны, праф. Аль. Л. быў родам з-пад Дзвінска, а муж Ал. П(ашкевіч), спадар Кайрыс, быў вядомы лятувіскі (літоўскі.— А. М.) патрыёт і сацыяліст. Хаця пані Алёна была полька і не цікавілася белар(ускім) рухам, яна з вялікай любоўю і пашанай успамінала Ал. П (ашкевіч)-Кайрыс і яе ахвярную працу».

У «Маіх успамінах» ёсць невядомыя раней звесткі аб прабыванні Цёткі ў Кракаве, яе захапленні тэатрам. Вось што расказала Кветцы Вітан тая ж Алёна Б.: «Ты не ведаеш, з якой нязломнай энергіяй Ал. П (ашкевіч) прабівала сабе дарогу: яна ж уцякла без грошай за граніцу і мусіла сама зарабляць на жыццё. У Пецярбурзе яна гэтаксама зарабляла і вучылася, але там было лягчэй знайсці лекцыі або пацыентку на масаж, якому яна навучылася. А ў Кракаве ёй было яшчэ трудней, і трэба толькі падзіўляць, як яна патрапіла знаходзіць працу і заработак. Але не толькі навуцы і грамадскай дзейнасці яна аддавала ўсе свае сілы; яна захаплівалася думкай узгадаваць свой гаротны беларускі народ і праз тэатр; і вось яна, якая не мела сцэнічнага навыку і асаблівых уздольненняў у гэтым напрамку, бярэ лекцыі дэкламацыі і ігры ў вядомай польскай артысткі Нуны Младзяёўскай, і з упартай працай яна а сягае свае мэты; яе ігра, у якую яна ўлівала ўсю сваю душу, не менш захаплівала, як яе прамовы».

Ал. П(ашкевіч)-К(айрыс), казала пані Алёна, «прыклад для мяне, што можа асягнуць цвёрдая воля і сэрца, поўнае любові да свайго народа. Я часта пыталася, адкуль яна бярэ сілы, каб так жыць, працаваць і вучыцца, калі яе здароўе было слабае і пачаткі сухотаў ужо тады падкопвалі яе сілы. Аб ёй можна толькі казаць, што яна гарэла, як ахвярная Свяча, і свяціла свайму народу да апошняга дня свайго жыцця».

Урэшце, у Кветкі Вітан былі сустрэчы з Цёткай у час першай сусветнай вайны. «Мае ўспаміны» праліваюць святло на найменш даследаваны перыяд у жыцці паэтэсы. Аказваецца, у часы кайзераўскай акупацыі Цётка актыўна ўдзельнічала ў рабоце Беларускага камітэта, які ў складаных умовах рабіў усё магчымае, каб палегчыць жыццё беларускаму насельніцтву Вільні.

Аднак дамо слова Кветцы Вітан. Яе новая сустрэча з Цёткай адбылася на кватэры Івана Луцкевіча, нарачонага мемуарысткі. Абедзве жанчыны «вельмі ўсцешыліся. Пачаліся пытанні і апавяданні. Ал. П(ашкевіч)-К(айрыс) казала, што цяпер з мужам жыве ў Вільні і працуе, як сястра Чырв(онага) крыжа ў шпіталі. Я ж апавядала, што дзеля ваенных надзеяў я засталася ў Вільні, бо не хацела пакінуць маёй сям'і і гэтым перапыніла маю навуковую працу.— «Нічога,— казала Ал. П(ашкевіч)-К(айрыс),— будзеш працаваць у роднай Вільні, тут твая веда і праца будуць больш прыдатныя. Асабліва мяне цешыць, што ты знайшла дарогу да нашага камітэта; вось, не трацячы часу, пералажы на нямецкую мову наш мэмарыял у справе беларускіх школаў да нямецкіх акупацыйных уладаў». І яна з нязломнай сваёй энергіяй горача бралася за справы і была па духу і энергіі найлепшай калегай Ів. Луцэвіча). Мала нас тады было ў Белар(ускім) камітэце, як польскія дзеячы зласловілі, што ўсіх віленскіх беларускіх) дзеячаў можна ўсадзіць на адной канапцы, аднак праца ішла. Цётка, як усе называлі Ал. П (ашкевіч)-К(айрыс), асабліва рупілася аб адкрыцці беларускіх) школаў і памагала знайсці памяшканні і інвентар. Хадзіла з апросам па раёну, каб адшукаць белар(ускія) сем'і, і заклікала бацькоў запісваць дзяцей у гэтыя школы. І як мы ўсе цешыліся, калі ў лістападзе 1915 г. была адчынена першая белар(уская) пачатковая школа. Адсвяткавалі мы гэтую ўрачыстасць супольна й гарбаткай у камітэце; пірог на гэтае свята прынесла я з хаты. Але гэта быў толькі пачын, не хапала вучыцялёў, і вось супольнымі стараннямі Цёткі і Івана Л(уцкевіча) былі адчынены беларускія вучыцельскія курсы... Усе мы працавалі дарма, толькі кіраўнік курсаў, не. Пачобка, атрымліваў пенсію, якую трэба было пакрыць з малых даходаў Беларускага) камітэта. Сама Цётка на курсах не выкладала, не мела часу, але цешылася, што калі 3-х месячныя курсы закончацца, то можна будзе па ўсіх прадмесцях, дзе больш жыло беларусаў, адчыніць беларускія школы. На жаль, гэтай радасці яна не дачакала. Яе здароўе было кволае, у дрэнную пагоду яна вельмі кашляла (і яе падточвалі сухоты) і не магла выходзіць з хаты.

І вось у гэты дзень, калі неба за імглой не было відна, я прынесла ў камітэт мэмарыял-пераклад, які і Цётка мусіла падпісаць. Пан Іван

мяне папрасіў занесці гэты пераклад, як яшчэ і іншыя паперы на перагляд і подпіс да Цёткі, бо яна мае гарачку і не выходзіць з хаты. Пасля подпісу папераў і заканчэння дзелавой часткі нашай гутаркі Цётка перайшла на тэму агульнай палітыкі. І яна глыбока была пераканана, што пасля вайны Беларусь будзе між вольнымі народамі самастойнай. Трэба напрагчы ўсе сілы, каб падгатовіцца да гэтага вялікага моманту, калі белар(ускі) народ сам будзе кіраваць сваім лёсам. Затым яна перайшла па Ів. Луцк(евіча) і казала, што ў ягоны палітычны розум і ахвярную працу яна пакладае вялікія надзеі, але трэба, каб добрая душа рупілася аб ім і ягоным здароўі, і што яна вельмі рада, што я гэтак дзельна яму памагаю і яму добры друг. І тут яна мяне спытала: «Скажы шчыра, ці не пакінула ты на тамтым баку фронту дарагога чалавека або нарачонага?» — «Ах не,— адказала я смеючыся.— Калі я паехала на курсы, то мела адзін намер — стаць вучонай. Хлопцы мяне наогул не цікавілі, у нас на курсах было мала часу на флірты. У нашым семінарыі па мастацтву мы, жартуючы, падзялілі нашых сяброўак па «кавалерственных» і «не кавалерственных дам», да апошніх належала і я. Замуж я не мела намеру выходзіць, пакуль не кончу мае навукі. Ну, і няшчаснае замужства маёй добрай сястры Жэні мяне не заахвочвала да гэтага. Я жыла ў Вільні для нашай сям'і і дзяцей, якія я памагала маме гадаваць, а на курсах я знала толькі маю навуку, любіла бываць у оперы ды канцэртах, але не мела пагоды шчыра закахацца, бо толькі тады выйду замуж».

— Разумею, што ты да тых належыш, якія не любяць флірту, але сапраўды каханне — змест, і асалода жыцця, і гэткія натуры, як ты, калі пакахаюць, то гэта сядзіць моцна. Мне гэтак здаецца, што ты да Іван — два сапага пара; і маё сапраўднае пажаданне, каб вы злучыліся на ўсё жыццё, бо лепшай падругі жыцця я для яго не ведаю».— Я адказала жартам, што пан Іван сваё сэрца аддаў беларускай справе і палітыцы.

«— Ну,— казала Цётка,— я больш бачу, чым ты, ён для цябе мае сапраўды шмат сэрца і інтарэсу, ён сам мне казаў, што ты не толькі прыгожая, але і разумная і мілая. Я спадзяюся, што яшчэ пагуляю на вашым вяселлі». Але «чалавек прэдпалагае, а бог распалагае».

Я вярнулася да хаты ў добрым настроі: мусі, ён мяне кахае, калі і Цётка гэта заўважыла. За тыдзень я пачула, што Цётка выехала ў Навагрудчыну, у сваю родную вёску, дзеля барацьбы з эпідэміяй тыфусу, якая пачала шырыцца па ўсяму краю. У камітэце мы яе больш не бачылі, яна сама там захварэла тыфусам, і яе слабы арганізм не мог перамагчы гэткай цяжкай хваробы, і яна згасла, як ахвярная свеча на алтары сваёй Бацькаўшчыны. Калі гэтая неспадзяваная

вестка дайшла да нас усіх, якія разам з ёй працавалі, нас апанаваў вялікі сум і жаль, асабліва пан Іван не мог доўгі час з гэтым пагадзіцца, што няма яе, якая жарам сваёй душы ўсіх умела захапіць да працы, пакінула нас».

*31 кастрычніка*

Хаця сёння нядзеля (першая мая нядзеля на чужыне), працягваю чытаць рукапісныя ўспаміны Кветкі Вітан. У іх падрабязна расказваецца не толькі пра Цётку, але і пра Браніслава Тарашкевіча, Івана Луцэвіча, Максіма Гарэцкага і іншых дзеячаў беларускай культуры пачатку стагоддзя. Дзесьці ў 1918 годзе, піша мемуарыстка, у Вільню «прыехаў і Браніслаў Тарашкевіч (яго мы ўсе называлі «Тарас»); яму Іван (Луцкевіч.— А. М.) асабліва ўсцешыўся, гэта быў ягоны гадунец, як казаў Іван. Ён сачыў за яго навукай у Пецярбургскім) універсітэце і ганарыўся ім, што ён, як вучанік акадэміка Шахматава, будзе самай выдатнай навуковай сілай у пытаннях беларускай мовы і літаратуры. Тарашкевіч быў мілы, выхаваны, з добрымі манерамі малады хлапец, цікавы субяседнік, культурны, мяккага характару, з ім міла было весці гутарку. З ім я хутка найшла супольныя інтарэсы. Ён быў на універсітэце некалькімі гадамі маладзейшы за мяне, але мы гутарылі аб нашых супольных, прафесарах, аб яго далейшай навуковай працы, ён казаў, што я яму магу памагчы вывучаць гоцкую мову, бо яна яму патрэбна будзе для яго старaславянскіх ізысканняў. Адным словам, мы хутка сталі добрыя знаёмыя, і ён часта бываў у нашым доме».

Далей, у спасылцы Кветка Вітан сведчыць, што ўжо тады Браніслаў Тарашкевіч пачаў перакладаць на беларускую мову Гамера, пісаў невядомыя нам сёння празаічныя творы. Гэта «быў вельмі ўздольнены філолаг і знаўца беларускай) мовы, яго прыгожую беларускую) прозу мы асабліва цанілі. Затым — вялікая страта, што ён толькі распачаў пераклад з грэцкай мовы «Іліяды» Гамера. Ён мне чытаў пераложаную ім першую песнь з грэцкай мовы, і магу толькі казаць, што і мова і гекзаметр былі без заганы...»

Пад уплывам сваіх беларускіх сяброў у 1918 годзе Кветка Вітай пайшла працаваць у Віленскую беларускую гімназію, якая месцілася ў былых базыльянскіх мурах, пазнаёмілася там з М. Гарэцкім, Л. Чарняўскай-Гарэцкай. Сярод знаёмых мемуарысткі была таксама М. Кімант-Яцына, аўтар аперэты «Залёты» на словы В. Дуніна-Марцінкевіча. Аказваецца, гэта была жонка літоўскага дзеяча, «у маладосці вядомая піяністка, вучаніца Рубінштэйна. Яна паходзіла з сям'і уніяцкага святара і да беларусаў мела сімпатыю... Часта яна перакладала на ноты беларускія) песні...»

Успаміны Кветкі Вітан напісаны шчыра, усхвалявана, маюць не толькі пазнавальную, але і пэўную мастацкую каштоўнасць. Вядома, аўтару часам не стае разумення тагачаснай расстаноўкі класавых сіл, некаторых гістарычных падзей. Аднак у цэлым Кветка Вітан, немка па нацыянальнасці, паставілася да беларускага народа з вялікай сімпатыяй.

*1 лістапада*

Як жа склаўся далейшы лёс Кветкі Вітан? Адказ на гэта пытанне дае кніжачка «Лявон Вітан-Дубейкаўскі», выдадзеная ёю на беларускай мове ў 1954 годзе. Прысвечана яна жыццю і творчасці беларускага архітэктара і паэта, аўтара напісанага яшчэ ў 1893 годзе верша «Бура».

У 1922 годзе Вітан-Дубейкаўскі стаў мужам Юльяны Менке.

Паколькі біяграфічныя звесткі пра Лявона Вітана-Дубейкаўскага ў нас амаль невядомы, ёсць сэнс пераказаць тут змест другой, апублікаванай цалкам, часткі мемуараў Кветкі Вітан. Нарадзіўся ён 7 ліпеня (старога стылю) 1869 года (а не ў 1876 годзе, як лічылася раней) у Дубейкаве на Мсціслаўшчыне. Бацькі яго (калі я глядзеў на іх фота, яны асацыіраваліся ў мяне з бацькамі Паўлінкі ў пастаноўцы купалаўцаў) дома гаварылі на беларускай мове, а маці ведала шмат народных песень (потым Вітан-Дубейкаўскі шкадаваў, што не запісаў іх). Закончыўшы гарадскую школу ў Мсціславі, юнак паехаў у Варшаву, паступіў вучыцца ў будаўнічую школу, зблізіўся з рабочымі, пазнаёміўся з «тагачасным сацыялістычным рухам». Вярнуўшыся на радзіму, працаваў на будоўлях. «І вось пры паправе аднаго касцёла ў Магілёўшчыне малады ксёндз адкульсь дастаў «Дудку беларускую» Багушэвіча. Абодва яны, захопленыя гэтымі вершамі, перапісваюць і вучаць іх на памяць, гэтая «Дудка» прабудзіла ў іх сведам'е беларускае, і Лявон Д(убейкаўскі) цяпер пачынае цікавіцца беларускім пытаннем». Гукі «Дудкі» «ўсё мацней адзываліся ў ягоным сэрцы», і пад іх уплывам ён сам спрабаваў пісаць вершы.

У пачатку XX стагоддзя Вітан-Дубейкаўскі працуе дойлідам у Смаленску, у 1907 годзе паступае ў Парыжскую акадэмію архітэктуры, закончыўшы яе, пераязджае ў Варшаву. Завязвае кантакты з выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца», прыязніцца з Браніславам Тарашкевічам. У міжваеннае дваццацігоддзе жыве ў Вільні, праектуе драўляны касцёл у Дрысвятах, піша на беларускай мове працы па будаўніцтву, запісвае прыказкі і прымаўкі (670 з іх прыведзена ў кнізе). Памёр Лявон Вітан-Дубейкаўскі 6 лістапада 1940 года і пахаваны ў Вільні, на могілках Роса. Крыху раней, 21 чэрвеня

1939 года памерла сястра Кветкі Вітан Ляля Менке, якая была здольнай артысткай і часта выступала ў беларускіх спектаклях.

Пахаваўшы блізкіх, у 1940 годзе, яшчэ пры буржуазнай літоўскай уладзе Кветка Вітан выехала ў Германію, дзе жыла ў брата ў Нюрнбергу. У 1953 годзе, на просьбе знаёмых, напісала свае ўспаміны, якія з'яўляюцца цікавым, хаця і супярэчлівым дакументам эпохі. Памерла Кветка Вітан (Юльяна Дубейкаўская) 28 верасня 1969 года ва ўзросце 83 гадоў.

Закончыўшы чытаць мемуары Кветкі Вітан, крыху пагартаў бягучую перыёдыку. Са здзіўленнем даведаўся, што востраў, на якім знаходжуся, хіліцца з поўначы на поўдзень. Раней нахіл складаў трыццаць сантыметраў у сто год, а з 1865 да 1965 года ўжо ўзрос да 61 сантыметра. У сувязі з гэтым павялічваецца небяспека, што ў Лондане можа быць страшэнная паводка — асабліва калі вецер нагоніць ваду з мора ў Тэмзу. Ля ўпадзення ракі вырашана будаваць нахільныя дамбы, а паміж імі ўстанавіць восем стальных шчытоў, якія звычайна будуць ляжаць на дне мора, а ў выпадку чаго ўзнімуцца і перагародзяць шлях вадзе.

А яшчэ даведаўся, што жыхары брытанскай сталіцы ўцякаюць з яе. За апошнія дзесяць год насельніцтва Лондана скарацілася амаль на адну дзесятую частку, і сёння ў горадзе, калісьці адным з самых буйных у свеце, пражывае ўжо менш сямі мільёнаў чалавек. Прычыны міграцыі? Самыя розныя. Тут і беспрацоўе, і дарагоўля жыцця, і жаданне жыць на ўлонні прыроды, удалечыні ад гарадскога тлуму. Можа, і боязь той жа паводкі. І напэўна боязь, што ў выпадку, крый божа, атамнай вайны, у першую чаргу пацерпяць гарады.

*2 лістапада*

Усё больш дае знаць туга па радзіме. Каб заглушыць яе, загружаю сябе работай. Сёння за стол сеў у сем гадзін раніцы і пачаў чытаць успаміны Міколы Шылы, у многім блізкія «Маім успамінам» Кветкі Вітан.

Пра самога Міколу Шылу ведаў я нямнога. У другім томе «БелСЭ», якая тут ёсць у некалькіх бібліятэках, знайшоў толькі звесткі, што ў пачатку стагоддзя ён быў адным са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Ды з выданняў сярэдзіны 40-х гадоў вывудзіў, што паходзіў ён са Смаргоні і памёр 6 красавіка 1948 года. Свае ўспаміны надпісваў літарамі М. Ш. або адным М.

Як і ў многіх дзеячаў беларускай культуры, свядомасць Міколы Шылы сфарміравалася над уплывам першай рускай рэвалюцыі. У той час ён вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, у 1906 го-

дзе прымаў там удзел у нелегальным з'ездзе семінарыстаў, пра які, здаецца, у нас нічога невядома.

Аднак лепей працытую самі ўспаміны: «Рэвалюцыя 1905 года захапіла і Беларусь, якая ў той час лічылася «окраиной России» і мела накінуты расейскім урадам назоў «Северо-Западный край». Разам з палітычнымі дамаганнямі выстаўляліся ў часе рэвалюцыі і дамаганні чыста нацыянальнага характару: беларускія школы, увядзенне ў святынях і ўрадах беларускае мовы і інш. Свае гнёзды рэвалюцыя звіла галоўным чынам сярод рабочых і вучнёўскае моладзі. Адно такое гнёздачка было звіта Беларускай сацыялістычнай грамадой і ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, гадунцом якой я і быў тады. Усё забароненае, усё падпольнае заўсёды цягне за сабой моладзь, пацягнула гэта і мяне. Яшчэ падросткам я зрабіўся актыўным работнікам Беларускае сацыялістычнае грамады. На маім абавязку было дастаўляць літаратуру з Вільні. «Хрэст на свабоду», «Што такое свабода» і іншыя выданні былі блізу ў шафцы кожнага семінарыста. На масленіцу ў 1906 годзе ў нас адбыўся з'езд прадстаўнікоў ад дванаццаці настаўніцкіх семінарыяў. На ім была апрацавана агульная для ўсіх семінарыяў петыцыя і рэгулямін паступавання, усталены дзень забастоўкі, а таксама заснаваны Саюз настаўніцкіх семінарыяў усяе б. Расіі. Забастоўка адбылася. Цягнулася яна блізу цэлы месяц, але мы яе выйгралі. Па экзаменах па Вялікадні раз'ехаліся на летнія канікулы, забяспечаныя літаратурай і інструкцыямі. Па летнім адпачынку сабраліся на навуку, але траіх сяброў мы не далічыліся — іх арыштавалі. У часе допыту адзін з іх прызнаўся і сказаў, што літаратуру даў яму я. Уначы з 6 на 7 верасня ў сценах семінарыі на ложку быў я арыштаваны. Сабраўшы свае манаткі і, з кім можна было, развітаўшыся, у асысце трох жандараў я, сярод ночы, павандраваў на вакзал, каб адтуль ужо пачаць вандроўку ў свет далёкі і шырокі. Першым маім этапам быў Менск, ласне Менскі астрог».

Выйшаўшы на волю, Мікола Шыла жыў у Вільні. Там у 1909 годзе сустрэўся ў рэдакцыі «Нашай нівы» з Цёткай. Беларускую паэтэсу, падкрэслівае мемуарыст, вельмі любілі рабочыя — яны праводзілі яе, калі яна ехала з Новай Вілейкі ў Вільню, адбівалі ад арыштаў паліцыі.

Вечарам па маленькаму японскаму тэлевізару, які стаіць у маім пакойчыку, глядзеў фільм пра атамную вайну. Пасля ядзернага выбуху ўсё на свеце заражана, і сям'я, якая засталася жыць ва ўкрыцці, вырашае свае скамплікаваныя праблемы.

А пасля, у апошніх паведамленнях (яны тут, як і ў нас, у дзевяць гадзін), бачыў тое, што можа прывесці да такога катаклізму. Ля Мальвінскіх астравоў плавалі англійскія караблі, узброеныя ядзернымі бое-

галоўкамі. У далёкіх водах ірваліся міны, што засталіся з часоў бяссла-ўнай вайны. Гінулі маладыя хлопцы, і іх целы, схаваныя ў металічныя труны, аплаквалі маці.

Каму гэта трэба?

*3 лістапада*

Ва ўспамінах Міколы Шылы найбольш каштоўная частка, дзе расказваецца пра Янку Купалу. Яна варта таго, каб яе працытаваць поўнасцю: «Было гэта ў 1909 годзе, у познюю восень. Па адбыцці кары ў вастрозе я спыніўся на жыццё ў Вільні, дзе, дзякуючы стараннем Івана Луцкевіча, я дастаў працу ў вайскова-аружнай майстэрні К. Янкоўскага. Пасля працоўнага дня (у 18 гадзін) я амаль заўсёды накіроўваўся ў рэдакцыю «Нашай нівы». У той час рэдакцыя наша з'яўлялася для беларусаў свайго роду клубам, месцам сустрэчаў і знаёмстваў. Тут жа я пазнаёміўся і падружыў з Янкам Купалам. Яшчэ да знаёмства я зачароўваўся ягонымі вершамі, я іх развучваў і часта ў прыватных дамах дэкламаваў іх з захапленнем. Чытаючы ягоныя вершы, яшчэ ў вастрозе я ўяўляў Купалу зусім іншым. Па ягоных тагачасных творах, якія час ад часу траплялі ў вастрог, поўных запалу, барацьбы, клічаў і лозунгаў, ён здаваўся мне ўвасабленнем рэвалюцыянера, трыбунам, поўным энергіі і сілы. На гэтую тэму часта вёў гутаркі з Коласам, Алесем Гаруном і Ал. Бурбісам, якія асабіста яго ў той час таксама не ведалі, бо апошнія два трапілі ў вастрог яшчэ раней за мяне. Але іх думка больш-менш сходзілася з маёю.

Гадзіна сёмая вечара. Пры газавым асвятленні Ядвігін Ш. расказвае мне аб сваіх студэнцкіх гадах у Маскве. А расказваў ён па-мастацку. Я ўвесь — слух і ўвага. Адчыняюцца дзверы. У рэдакцыю не то ўваходзіць, не то ўсоўваецца малады, вышэй сярэдняга росту чалавек у паношаным паліто. Здароўкаецца, Ядвігін Ш. нас знаёміць. У мяне расчыняюцца вочы: «Дык вось ты які»... Як быццам нешта абарвалася ўва мне. Пачынаецца гутарка. Я пільна сачу за Купалам. Нічога рэзкага ў ягоных манерах і жэстах, няўзрушана, спакойна гаворыць, час ад часу прамільгне ўсмешка, заіскрацца вочы, і зноў спакой пануе на ягоным твары. Загаварылі аб паэзіі, аб новых яе формах. Тут Купала, як відаць, сеў на свайго коніка. Трэба было чуць, як ён з захапленнем, ажыўлена стаў на абарону чыстага мастацтва (як відаць з далейшага тэксту, гэты тэрмін М. Шыла тут ужыў у значэнні «класічнае мастацтва».— А. М.), выступаючы супроць спробаў розных наватараў у паэзіі. «Я лічу сапраўднай паэзіяй толькі тую, якая здольна разварушыць заснуўшыя сілы ў народзе, якая здольна разбудзіць народ ад спячкі»... «Гэта не паэзія,— гаварыў далей Я. Купала,—

якую сяння прачытаў, а заўтра па ёй ніякага следу ў душы як і не было. Праўдзівая паэзія гэта тая, якая пакідае след, нібы зазубрынкі ў душы чалавека, і цягне сэрца чалавека да тых ідэалаў, да якіх кліча паэта». На гэта Ядвігін Ш. зазначыў, што ў нас такіх няма, што мы, на жаль, не маем Байранаў, Гётэ, Пушкіных... «Калі няма — дык будуць»,— лаканічна адказаў Купала.

Працаваў ён тады ганарова (г. зн. бясплатна.— А. М.) у рэдакцыі, дзе правіў усе вершы, прысланыя ў «Нашу ніву». Праца гэтая адбывалася вечарамі, а іншы раз ён браў папку з сабой ці то да дому, ці на месца свае платнае працы ў бібліятэку Данілевіча — «Знание», якая ў той час месцілася на Георгіеўскім праспекце пад № 4. Там, між іншым, часта адбываліся і нашыя беларускія рэпетыцыі.

Па натуры маўклівы, задумлівы, неразгаворчывы, Купала рэдка калі прымаў удзел у спрэчках. Затое сам заўсёды ўважна прыслухоўваўся, каб не прапусціць аніводнага слова. З кнігаю ён ніколі не разлучаўся. Ён не чытаў, а еў іх... І гэта была праўда. Кожны дзень ён з захапленнем перадаваў змест ці то апавяданняў, ці вершаў, якія за дзень прачытаў. «Гэта — мая школа,— гаварыў ён.— Я ж нават і пісаць як след не ўмею, каракулі стаўляю». Гэтай бядзе таксама памаглі. Купілі ў касыя лінейкі сшыткі, я спачатку пісаў элементы літараў, а потым літары. Сшытак блізу за дзень быў спісаны, але іншы раз замест элементаў літараў у канцы знаходзіўся і вершык. Трэба аддаць справядлівасць ягонай стараннасці і ўпартасці — калі браўся за якое дзела, дык заўсёды даводзіў яго да канца.

Жыў Купала ў Вільні на Зарэччы. Кожную блізу суботу мы з ім наведвалі польскі тэатр «Лютню». Тэатр ён любіў неяк асабліва, «пакупалаўску», як гаварыў Уласаў. Як толькі адчынялася заслона, ягоных вачэй ніякім чынам нельга было адарваць ад сцэны. Ён, здавалася, разам з артыстамі перажываў самую п'есу. Аднойчы мы яшчэ загадзя купілі білеты на «Дзяды» Міцкевіча. Трэба аддаць справядлівасць, што ігра артыстаў была цудоўная. Пакінула яна на нас вельмі вялікае ўражанне. Ідучы да хаты, Купала гаварыў: «Бачыш, геній выхапіў з нашага беларускага жыцця такі маленькі кавалачак і стварыў з яго цудоўны твор. Не, не! Трэба вучыцца, трэба працаваць, каб чужынцы не рабавалі нашых скарбаў, нашага жыцця; трэба паказаць ім, што і мы патрапім «людзьмі звацца». Кожная добрая пастаноўка, кожнае якое-кольвек выдатнае мастацкае з'явішча, якое пакідала па сабе след у душы, выклікала ў ім падобныя гутаркі. Трэба было бачыць і адчуць, як ён правіў вершы нашых песняроў, якія прабавалі свае сілы на літаратурным полі дзейнасці. «Во, паглядзі, колькі новых маладых талентаў паўстала з нашага народу за якіх-кольвек два-тры

гады дзейнасці нашае газеты. А што было б, каб даць нам свабоду, даць школы нашыя, скінуць з нас ланцугі няволі!» — часта гаварыў ён. Першыя вершы Цішкі Гартнага, Бядулі, Гурло, Чарнышэвіча, Старога Уласа і шмат, шмат іншых прайшлі праз здольныя рукі Купалы. Не памятаю, хто, але пачынаючы паэт прыслаў у рэдакцыю свой верш. Купала прачытаў і, сказаўшы, што твор вельмі добры, сеў правіць. Верш быў надрукаваны. Праз некаторы час ізноў прыйшоў ліст з вершам. Аўтар пісаў, што ён нават і не думаў, што можна так прыгожа і гладка пісаць...

У канцы 1909 ці пачатку 1910 года — добра ня памятаю (на самой справе — у канцы 1909 года.— А. М.) — у Вільню прыехаў Карусь Каганец. Прыехаў ён, як хадзіў і заўсёды, у кажушку і беларускай світцы. Світка была падперазана рэменем, на якім вісеў прывязаны да раменьчыка нож і Шабалтас (плоскі мяшэчак для папераў.— А. М.). Спакойная, зраўнаважаная гутарка яго рабіла моцнае ўражанне. Ягонае аблічча — малы рост і горб, вялікая галава з пасівеўшай бародкай і жывымі, пранiклiвымi вачыма цягнула да сябе кожнага. Пасяліўся Каганец у мяне, на Набераждай, каля шпіталя св. Якуба. З гэтага дня кожны вольны вечар Купала праводзіў у гутарках у нас. На якія толькі тэмы не ішла размова! І літаратура, і тэатр, і мастацтва (Каганец у поўным значэнні гэтага слова быў мастак і скульптар), але кожная тэма зводзілася на нашае беларускае жыццё і ягоныя праблемы. У гэты час адбываліся рэпетыцыі падрыхтоўванае беларускае вечарынкі: апрацоўвалася п'еса Крапіўніцкага «Па рэвізіі», хор пад кіраўніцтвам кампазітара Л. Рагоўскага і беларускія танцы над кіраўніцтвам Буйніцкага. Хоць Купала ўдзелу не прымаў, бо ўжо збіраўся ехаць у Піцер на курсы Чарняева, але без ягонай прысутнасці не адбылася ніводная рэпетыцыя ці спеўка. «Эх, братка, як добра выходзіць! Шкада, што еду, але, дасць бог, пабачу і я. Дзядзька Карусь, трэба пісаць свае арыгінальныя творы,— гаварыў ён Каганцу.— Пазычаць добра, але пазычанае заўсёды трэба аддаваць... Няхай лепш у нас пазычаюць». Праз некалькі дзён пасля гэтага мы гурмам правялі яго на станцыю. Ехаў ён у Піцер, як ён сам казаў, каб вучыцца, як найбольш прынесці карысці і славы нашаму народу.

Гэта былі мае першыя сустрэчы з Купалам...»

Наступныя сустрэчы Міколы Шылы з беларускім песняром адбыліся ў Пецярбургу. Як і Янкам Купалам, ім заапекаваўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла. На яго кватэры Шыла пазнаёміўся з Браніславам Тарашкевічам, Клаўдыем Дуж-Душэўскім, зноў пабачыўся з аўтарам «Жалейкі». «Праф. Эпімах-Шыпіла,— гаворыцца ва ўспамінах,— заангажаваў мяне ў хоры і скоках. Збіраліся дзеля вывучэння беларускіх

песняў у зале польскага «Сокала» (культурна-спартыўнага таварыства.— А. М.) на Сёмай роце. Хор вёў спачатку Талат-Келпш, каторы быў мала знаны (на самой справе вядомы літоўскі кампазітар.— А. М.), пазней аб якім я нідзе не чуў. Ён нас навучыў шмат беларускіх харавых песняў, як: «Зялёны дубочак», «А хто там ідзе?», «Ай, у полі каліна», «Ці я ў мамкі не дачушка была» і шмат другіх мелодыяў, якія і да гэтага часу не выйшлі з галавы маёй».

У Пецярбургу Шыла прысутнічаў на канцэртах трупы Ігната Буйніцкага, беларускіх спектаклях. Некаторыя з іх ладзіліся для рабочых вядомага сваімі рэвалюцыйнымі традыцыямі Пуцілаўскага завода, пра што мне раней нідзе не даводзілася чытаць. Аднак лепей зноў працытуем самога мемуарыста: «Першы раз я ўбачыў танец Буйніцкага з яго дочкамі ў Пецярбургу, на Пецярбургскай старане, на этнаграфічным вечары, дзе ён здабыў сваімі прыгожымі скокамі другое месца пасля ўкраінцаў. На гэтых жа вечарынах я пазнаў і першыя беларускія песні на сцэне. После гэтага я ўжо сам прымаў удзел у танцах супольна з Чаславам Радзевічам на вечарыне, ладжанай на Васілеўскім в(остраве), здаецца, эсперантыстамі. У 1912 г. (не выключана, што аўтар тут недакладны: вядомы толькі факт пастаноўкі «Паўлінкі» ў Пецярбургу ў лютым 1913 г.— А. М.) на Троіцкай вул. у грамадскай зале першая найвялікшая вечарына была беларуская. Ставілі «Паўлінку», харавыя песні і скокі на сцэне. Да 7-й гадз (іны) раніцы ў зале адбываліся танцы, дзе было болей тысячы асобаў. Гэтая вечарына, каторая ўзварушыла ў той час усіх беларусаў і адчыніла вочы шмат каму з іх на свет, была нашым паспяхова вытрыманым экзаменам». Далей Шыла называе прозвішчы прысутных на вечарыне студэнтаў Ляснога інстытута, Ваенна-медыцынскай акадэміі. «Нямала тут было і работнікаў Пуцілаўскага завода, праз лучнасць з каторымі пазней павязалі добрыя адносіны з гэтым заводам, а нават ставілі там спектаклі. Ставілі «Паўлінку», «Моднага шляхцюка» і др. На пастаноўках прысутнічала столькі людзей, што не тоўпіліся ў зале тэатра. Прасілі яшчэ і яшчэ ставіць на сцэне беларускія спектаклі. Разыходзіліся тысячы экземпляраў беларускіх кніжак і брашураў аб Беларусі, якія выдаваліся суполкай «Загляне сонца і ў нашаваконца», пад кіраўніцтвам Бр. Эпімаха-Шыпілы. На Пуцілаўскім заводзе галоўнымі артыстамі былі: Часлаў Радзевіч, Жылуновіч (Цішка Гартны.— А. М.), Сталыгва з дачкой, я і другія)».

Урэшце, ва ўспамінах Міколы Шылы ёсць сведчанні, што Бранілаў Эпімах-Шыпіла, чалавек усебакова адораны, займаўся таксама збіраннем рэчаў беларускай матэрыяльнай культуры, меў у сваёй кватэры невялікі музей. «Была ў яго цэлая шафа скупленых беларускіх

паясоў, кашуляў і нават жычак да кашуль, каторымі любіў наш бацька (так называлі Эпімаха-Шыпілу пецярбургскія беларусы.— А. М.) часта пахваліцца, калі дзе што новае здабыў дзеля свайго музея, у які перамянілася яго ўласная кватэра на Васілеўскім востраве. Хто не быў у яго, той не бачыў фігуры Хрыста, выразанай з дрэва на Беларусі, гаршкоў з гліны і вазаў у беларускім стылі». Вакол Эпімаха-Шыпілы групаваліся мастакі, артысты, настаўнікі. «У яго фактычна месціўся ўвесь штаб новай Беларусі, як выдавецтва, так і мастацтва. У яго руках была сабрана бясцэнная беларуская бібліятэка... Ён жа дастаў і слоўнік Насовіча, які ляжаў пад дзесяццю пячаткамі ў Акадэміі навук і аб каторым мала хто ведаў. Ён адчыніў гэтыя таямніцы, каторыя былі скрыты царскімі ахранкамі ад беларускага народа».

Успаміны М. Шылы сведчаць, што гэта быў здольны белетрыст.

...Сёння адкрылася сесія англійскага парламента, з гэтай нагоды ў палаце лордаў выступала каралева з праграмнай прамовай, якая трансліравалася па тэлебачанні. Уся цырымонія была вельмі відовішчная. У драбніцы захоўваліся традыцыі, якім многа стагоддзяў. Каралева сядзела на троне, вядома ж, у кароне. Пасля ўся працэсія скіравалася да выхаду ў строга акрэсленым парадку, а шлейф за каралевай неслі ажно чатыры пажы. У адным толькі было зроблена адступленне ад старых звычаяў: як мне казалі, раней канцлер, беручы тэкст праграмы з рук каралевы, мусіў кленчыць, а потым адступаць задам, але паколькі ён ужо вельмі стары, то цяпер яму дазволілі стаяць і ісці нармальна.

Што ж датычыцца самой праграмы, то ў ёй, наколькі я зразумеў яе, былі два істотныя моманты. Каралева сказала, што трэба паляпшаць адносіны з Усходам. А ў канцы прадвяшчала дэнацыяналізацыю транспарту і сувязі. Нібы гэта дапаможа выйсці з крызісу...

Але ці дапаможа? З такім заканамерным пытаннем сёння выступілі лідэры апазіцыйных партый — ліберальнай і лейбарысцкай.

*5 лістапада*

Ва ўспамінах Кветкі Вітан і Міколы Шылы, якія пазаўчора я скончыў чытаць, гаварылася пра ўплыў, аказаны паэзіяй Францішка Багушэвіча на светапогляд і творчасць прадстаўнікоў беларускай літаратуры наступнага перыяду. Сёння, чытаючы мемуары іншых аўтараў, пераканаўся, што гэты ўплыў быў куды большы і шырэйшы, чым нам уяўлялася раней. Відаць, мы ўсё яшчэ недаацэньваем «будзіцельскае» ўздзеянне паэтычнага слова Францішка Багушэвіча на пісьменнікаў і дзеячаў пачатку XX стагоддзя. Яно было своеасаблівай эстафетай, прынятай імі як жывая спадчына, звяном, што яднала два

пакаленні, дзве эпохі, два стагоддзі. Нездарма калі ў 1904 годзе выйшлі бесцэнзурныя «Песні», там аказалася 13 вершаў Багушэвіча — 8 з «Дудкі беларускай» і 5 са «Смыка беларускага».

А вось яшчэ жменя невядомых раней для мяне фактаў.

Дзеяч «нашаніўскай» пары, аўтар некалькіх беларускіх брашур Дамінік Аніська (1888-1971) згадваў пра час дзесьці каля 1906 года: «Як я быў у Горадні, праходзячы Саборнай вуліцай, заўважыў у акне кнігарні «Дудку беларускую» Францішка Багушэвіча. Зразумела, зараз жа яе купіў. Гэта была першая беларуская кніжка, якая мне трапілася. Прадмова да гэтай кнігі вельмі мяне тады ўсхвалявала і ўмацавала мяне ў перакананні, што я беларус».

Ураджэнец вёскі Каранды Ашмянскага павета Адам Лісоўскі (1882-1929) у 1903-1904 гадах, будучы студэнтам Пецярбургскай духоўнай акадэміі, прывозіў з сабой на канікулы «Дудку беларускую» і «Смык беларускі», чытаў іх у навакольных вёсках.

Ураджэнец вёскі Клешні Шчучынскага раёна аўтар беларускіх вершаў і брашур айцец Янка Тарасевіч (1892-1978), які ў 1967-1968 гадах наведаў Беларусь і «не хацеў вяртацца адтуль», згадваў, што нацыянальная свядомасць ў яго пачала фарміравацца пад уплывам вершаў Мацея Бурачка. Гэтыя вершы ён чуў у дзяцінстве ад мясцовага ксяндза Цілевіча, які, прыехаўшы да хворага, чытаў сялянам «Дудку беларускую».

Калі гаворка зайшла пра Багушэвіча, то нельга не працытаваць адно сведчанне, якое можа навесці на след трэцяга, невядомага сёння зборніка паэта — яго «Скрыпачкі беларускай». У сувязі з даўнім артыкулам С. Александровіча «Новае пра Францішка Багушэвіча» ў заходнім друку неяк сцвярджалася наступнае: «Багушэвічава «Скрыпачка» ніколі і нідзе не друкавалася, рукапіс яе перахоўваў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла, пакуль не аддаў у Беларускую Акадэмію навук. Рукапіс гэты выкарыстоўваў і дэманстраваў студэнтам на сваіх лекцыях праф. М. Піятуховіч у 1929-30 акадэмічным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце».

Звесткі пра тое, што ў Міхайлы Піятуховіча быў арыгінал ці копія «Скрыпачкі беларускай», перакрыжоўваюцца са звесткамі, што ў таго ж прафесара меліся падараваныя адной студэнткай рукапісы Аляксандра Рыпінскага, якія таксама выкарыстоўваліся на лекцыях. У рукапісах тых, знойдзеных у 1929 годзе, прыводзіўся тэкст паэмы «Тарас на Парнасе», падпісанай прозвішчам Канстанціна Вераніцына. Рыпінскі лічыў яго псеўданімам (Генадзь Кісялёў даказаў, што існаваў такі рэальны чалавек, выпускнік Горы-Горацкага земляробчага інстытута) і сцвярджаў, што паэма напісана ў 1856 годзе «як водгук на

з'яўленне ў літаратуры Тараса Шаўчэнкі». Тым жа прозвішчам Вераніцына была падпісана ў рукапісе паэма «Два д'яблы», дзе тыя нячысцікі гавораць на беларускай мове. Акрамя таго, сярод папераў Рыпінскага быў сцэнічны абразок Арцёма Вярыгі-Дарэўскага «Адвячорак» і верш «Вясна гола перапала», напісаны «нейкім мешчанінам».

Калі б удалося знайсці архіў прафесара Піятуховіча, гэта была б для беларускай культуры вялікая падзея.

...Вечарам крыху спалохаўся, калі за акном раздаліся нечаканыя выбухі. Але тут жа мяне супакоілі: гэта школьнікі ўзрываюць розныя там штучкі, каб адзначыць гадавіну «Перахавай змовы» 1605 года. Жадаючы забіць караля Якава I, католікі падклалі тады пад будынак парламента некалькі бочак з порахам. Але змова была выкрыта, а яе кіраўнік, Гай Фокс, спалены на кастры. У памяць пра гэта сёння паляць на кастрах лялькі, ладзяць феерверкі, страляюць. I па традыцыі кожны раз, калі англійскі манарх збіраецца адкрываць сесію парламента ў Вестмінстэрскім палацы, яго падвалы дакладна аглядаюць, шукаючы той жа порах.

*7 лістапада*

Нязвычна праводзіць Кастрычніцкае свята ўдалечыні ад радзімы... З раніцы пазваніў у наша пасольства, павіншаваў са святам, атрымаў такія ж віншаванні ў адказ. Потым, каб не паддацца сумоце, усеўся за работу. Тым болей што мне якраз прынеслі «святочны падарунак» — рукапіс п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Розна міласць бывае».

З прац сваіх папярэднікаў я ўжо ведаў, што рукапіс гэтай п'есы, знойдзены ў Мазыры, да вайны захоўваўся ў Акадэміі навук БССР. Але змест яе заставаўся невядомы. Таму зразумелы той энтузіязм, з якім я ўзяўся за рукапіс. На жаль, энтузіязм хутка змяніўся расчараваннем: «Розна міласць бывае» аказалася добра знаёмай «Ідыліяй», якую часам, недакладна перакладаючы назву з польскай мовы, называюць «Сялянкай». Тэкст «оперы ў 2-х актах Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча» быў у 1860 годзе перапісаны для Ядвігі Сабалеўскай нейкім В. Межаеўскім, які ў канцы дадаў свой польскі вершык-панегірык.

I ўсё ж знаёмства з рукапісам мела свой сэнс. Не трэба будзе шукаць невядомую п'есу Дуніна-Марцінкевіча, бо мы ўжо ведаем, што «Розна міласць бывае» і «Ідылія» — гэта адзін і той жа твор («Ідылія» — фактычна яго жанравае вызначэнне, падзагаловак). Рукапіс сведчыць таксама аб папулярнасці аўтара «Гапона», аб тым, што нягледзячы па друкаванае выданне 1846 года, тэкст «оперы» перапісваўся ад рукі, пашыраўся ў рукапісах.

А яшчэ сёння вычытаў, што рукапісы Дуніна-Марцінкевіча шырока распаўсюджваліся ў наваколлі Люцынкі, перахоўваліся ў сялянскіх хатах у мястэчку Пяршаі. Аказваецца, Дунін-Марцінкевіч жыў у блізкіх і сяброўскіх адносінах з сялянамі навакольных вёсак. І калі яны ішлі ці ехалі каля яго хаты ў Пяршаі на фэст, выходзіў на дарогу, спыняў сялян, да якіх меў давер, перадаваў ім перапісаныя ў некалькіх экземплярах свае вершы і казаў: «Прачытайце, што я тут напісаў, а па імшы, як выйдзеце на цвінтар, дайце суседзям, хай і яны пачытаюць». А калі ў Пяршаі дайшлі першыя нумары «Нашай нівы», мясцовыя жыхары, што памяталі Дуніна-Марцінкевіча, гаварылі: «Бачыце во, пан з Люцынкі дык рукою пісаў, а іншыя паны ўжо і друкаваць дадумаліся...»

Вечарам, у апошніх паведамленнях, уключылі Красную плошчу. Англійскае тэлебачанне паказала святочны парад, дэманстрацыю, выступленні спартсменаў. Аднак акцэнт быў зроблены на ваеннай тэхніцы. І акцэнт яўна тэндэнцыйны.

*8 лістапада*

Перапыніўшы пошукі, рашыў з'ездзіць у Брытанскі музей, адзін з буйнейшых у свеце. А заадно і паглядзець на выразаны са слановай косці трон слуцкіх князёў, закуплены музеем у аднаго калекцыянера-спекулянта ў пачатку нашага стагоддзя.

Брытанскі музей (заснаваны ў 1753 годзе) сапраўды ўражвае сваімі багаццямі. Будучы метраполіяй вялізнай каланіяльнай дзяржавы, Англія канцэнтравала тут скарбы літаральна з усіх канцоў свету. Дзесяткі егіпецкіх мумій — мужчынскіх, жаночых, дзіцячых. Сотні этрускіх і грэчаскіх ваз і амфар. Статуі з Парфенона (у тым ліку славутыя кентаўры), якія былі, па сутнасці, зрабаваны англійскім паслом пры двары турэцкага султана лордам Элджынам і звароту якіх цяпер настойліва патрабуюць урад і грамадскасць Грэцыі. Гіганцкія выявы міфічных жывёлін, што ўпрыгожвалі гарадскія сцены старадаўняй Асірыі. Вавілонскія і шумерскія скульптуры, свяшчэнныя быкі ў натуральную велічыню. Кітайскія, індыйскія, персідскія і візантыйскія каштоўнасці. Сярэдневяковая зброя і багата ўпрыгожаныя шкатулкі. Сотні старых гадзіннікаў, нябесных сфер і механізмаў, якія ідуць, цікаюць, круцяцца. Ад такой шматлікасці падобных прадметаў ажно стамляецца зрок.

І тут у бакавой зале я сустрэў таго сівога армяніна, з якім ляцеў у адным самалёце ў Лондан. Хоць тады мы не перакінуліся ні слоўцам, аднак цяпер павіталіся, як добрыя знаёмыя — чужына яднае нават

выпадковых падарожных. Аказалася: армянскі археолаг, акадэмік Аракелян.

— Ну, як вашы ўражанні? — пытаецца ён.

— Багата, але перапасычана. Не ведаеш, на чым сканцэнтраваць сваю ўвагу.

— І мая такая думка. Я тут ужо не першы раз. І калі мяне просяць выказаць крытычныя заўвагі, то гавару, што галоўны недахоп гэтага музея ў тым, што з яго можна было б лёгка зрабіць пяць або дзесяць музеяў.

Трона слуцкіх князёў я так і не знайшоў. Мне сказалі, што, хутчэй за ўсё, ён у запасніках другога музея — Вікторыі і Альберта.

Вяртаючыся назад, раздумваў аб гістарычнай справядлівасці і несправядлівасці. Аб тым, што патрэбна пераразмеркаванне музейных, архіўных, бібліятэчных багаццяў, асабліва калі яны былі атрыманы незаконным шляхам. Або хаця б абмен іх. Многія кнігі, рукапісы, карціны, рэчы матэрыяльнай культуры, звязаныя з Беларуссю, знаходзяцца далёка за яе межамі, часта ў запасніках, дублетных фондах. Каб вывучаць іх, даводзіцца затрачваць немалыя грошы. І ў той жа час у нашых зборах ёсць рэчы і творы, якія асаблівай цікавасці для нас не ўяўляюць, але затое каштоўныя для іншых народаў.

Вечарам у сваёй пошукавай працы пераскочыў з часоў Дуніна-Марцінкевіча на чатыры стагоддзі назад. Неяк раней я не звярнуў увагі на публікацыю рускага філолага А. Сабалеўскага 1910 года, у якой гаварылася аб перакладзе на беларускую мову часткі Бібліі, «Песні песняў», зробленым яшчэ да Скарыны, у XV стагоддзі (а паводле П. Уладзімірава, кімсьці з прадаўжальнікаў нашага першадрукара). У любым выпадку шкада, што Сабалеўскі не апублікаваў увесь тэкст перакладу, бо гучыць ён вельмі паэтычна і па-свецку. Не магу ўтрымацца, каб не выпісаць хаця б невялікі ўрывак: «Целуй мя целованіем уст своих, бо лепши уст перси твои пад вином, благовоннейши нижли ароматы масшии налепших. Олей изманныи имя твое; прото молодци миловати суть тебе. Тягни мя но собе, побегнем в добровонностех мастей твоих. Увел мя есть царь до винниц своих; радоватися будем, а веселитися в тобе. Памятливый будучи персей твоих над вино; правіш милують тебя».

Так упершыню прагучаў у Беларусі гімн цялеснаму каханню!

*9 лістапада*

З артыкула англійскага славіста, Гая дэ Пікарда, даведаўся, што адным з першадрукароў у Англіі быў Ян Літвін, хутчэй за ўсё беларус. У 1480 годзе ён заснаваў друкарню ў лонданскім Сіці — усяго на тры

гады пазней, чым з'явілася першая на Брытанскіх астравах друкарня Уільяма Кекстана.

Факты біяграфіі Яна Літвіна сёння амаль невядомыя. Але паколькі слова «Літвін» пісалася пасля імя з малой літары, лагічна зрабіць вывад, што гэта не прозвішча, а ўказанне на месца нараджэння — Вялікае княства Літоўскае. Аўтар артыкула дапускае, што Ян Літвін ці, дакладней, Ян з Літвы мог вучыцца ў Празе, дзе была літоўская калегія, а друкарскае майстэрства асвоіць у Італіі, у Джона Буля (на гэта ўказвае падабенства шрыфтоў). Так ці інакш наш зямляк апынуўся ў Лондане, выдаў там некалькі кніг па заканадаўству (самастойна або ў суполцы з Уільямам Мэхлінскім). А пасля 1483 года знік з Англіі. Не выключана, што, перабраўшыся ў Кракаў, памагаў там Швайпольту Фіёлю друкаваць першую славянскую кнігу «Трыёдзь посная».

Вечарам меў мажлівасць пазнаёміцца з масіўным альбомам, пераплеценым у чырвоны аксаміт. У ім знаходзіцца каля трохсот фатаграфій, зробленых удзельнікамі этнаграфічнай экспедыцыі на Случчыну ў канцы 20-х гадоў. Дзякуючы гэтым здымкам захаваліся ўзоры народнага адзення, дойлідства. Зафіксаваны творы мастацтва, рэчы хатняга ўжытку. Бясцэнны скарб для гісторыкаў культуры!

Па тэлебачанні паказвалі, як у аэрапорце Хітроў палісмены кілаграмамі канфіскуюць опіум і гашыш. Аматары лёгкай нажывы закупляюць іх у Пакістане (там наркотыкі прадаюцца свабодна) і спрабуюць пранесці праз таможню, каб потым, пры ўдачы, збыць свой тавар тым, хто хоча забыць пра рэальнасць у прывідным трызненні.

*10 лістапада*

Ад Яна з Літвы, аднаго з англійскіх першадрукароў, сёння перайшоў да першадрукара беларускага, Францыска Скарыны. Аказваецца, яго імя было добра вядома ў Англіі яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Скарыне прысвечана каля дзесятка старонак у кнізе шатландца Э. Гендэрсона «Біблійныя даследаванні і падарожжы ў Расію, уключаючы паездку ў Крым і праезд па Каўказу». Выдадзена яна ў Лондане ў 1826 годзе.

У пятым раздзеле сваёй працы Э. Гендэрсон даследуе першыя «рускія» пераклады Бібліі (асабліва Кнігі Быцця), выдадзеныя Скарынам у Празе. У той час, на пачатку XVI стагоддзя, сцвярджае вучоны, адбываліся значныя змены ў «рускай» мове. «У выніку сувязей паміж Расіяй і Польшчай, прагрэсу польскай мовы ў граматычных і лексічных адносінах і іншых моцна дзейнічаючых прычын пачала фарма-

вацца польска-руская гаворка, на якой да сённяшняга дня працягваюць размаўляць простыя людзі, што насяляюць правінцыю, вядомую пад назваю Белая Русь. Менавіта на гэтай гаворцы, на ранняй стадыі яе фарміравання — былі апублікаваны Пяцікніжжа і іншыя часткі Пісання — прыкладна ва ўказаны вышэй перыяд».

«Аднак,— працягвае Гендэрсон,— за выключэннем саміх выданняў, да нас, на жаль, не дайшлі ніякія дакументы, з якіх мы маглі б сабраць звесткі пра самога перакладчыка, абставіны, пры якіх з'явіўся яго пераклад, яго распаўсюджанне. Нам вядома толькі, што яго імя было Францыск Скарына, што ён парадзіўся ў старадаўнім горадзе Полацку, размешчаным на Дзвіне і Палаце, што ён быў доктарам медыцыны і што яго кнігі друкаваліся ў Вільні, у доме Якуба Бабіча, бурмістра гэтага горада. Добраўскім выказана здагадка (тут Гендэрсон спасылаецца на кнігу чэшскага філолага «Літаратурнае падарожжа па Швецыі і Польшчы».— А. М.), што Скарына ўзяўся за сваю справу па прапанове Сігізмунда, караля Польшчы, і што, суправаджаючы ў 1515 годзе манарха ў Вену, яму лёгка было здабыць у гэтым горадзе славянскі шрыфт, неабходны для друкавання яго перакладу». Далей шатландскі вучоны пералічвае кнігі, выдадзеныя Скарынам у Празе ў 1517-1518 гадах, і сцвярджае, што беларускі першадрукар хацеў апублікаваць там увесь пераклад Бібліі, аднак паколькі ўзніклі палітычныя разыходжанні паміж Чэхіяй і Польшчай, ён павінен быў пераехаць з гэтага горада ў Вільню, дзе ў 1525 годзе надрукаваў Дзеянні і Пасланні апосталаў (Апостал.— А. М.)».

У руках Гендэрсона быў экземпляр Кнігі Быцця, які яму ў бібліятэцы Акадэміі навук у Пецярбургу паказаў прафесар Круг. Аказалася, што надрукаваны ён «на тоўстай паперы, добрымі літарамі і выдатна захаваўся», упрыгожаны гравюрамі, «адбітымі з драўляных дошак». «На першай старонцы, узятай у дэкаратыўную рамку, размешчаны загаловак, факсіміле якога прыводзіцца ніжэй у кнізе».

Падаўшы факсіміле «Бивлии руской», шатландскі вучоны апісвае гравюру, што змешчана на другой яе старонцы і паказвае вайну анёлаў з д'ябламі, адзначае, што ў кнізе ёсць прадмова, якая займае дзесяць старонак, і спасылкі-маргіналіі да асобных мясцін тэксту.

Пра сам пераклад Гендэрсон піша, што ён безумоўна зроблены не са стараславянскай, а з лацінскай мовы (вульгаты), хаця знаёмства са стараславянскім тэкстам выразна відаць у асобных мясцінах. Часам пераклад Скарыны істотна адрозніваецца і ад лацінскай, і ад стараславянскай крыніц і набывае рысы «арыгінальнасці і самастойнасці».

Каб даказаць, што пераклад Скарыны зроблены з вульгаты і адначасова ў некаторых мясцінах залежны ад старaславянскага тэксту, Гендэрсон прыводзіць шматлікія прыклады. Паралельна з фразамі, узятымі з беларускага перакладу, падаюцца фразы на лацінскай, старaславянскай, англійскай і грэчаскай мовах. З гэтых прыкладаў робіцца вывад, што Скарына ішоў сваім, адметным шляхам.

У заключэнне Гендэрсон згадвае, што пераклады Бібліі ў той час звычайна рабілі людзі духоўныя. Скарына ж быў чалавекам свецкім, лекарам. Таму яго пераклад быў актам грамадзянскай мужнасці. Скарына разумеў, што яго дзейнасць могуць палічыць грахоўнай, ледзь не блюзнерскай. І, каб апярэдзіць магчымую крытыку, у прадмове да Дзеянняў падкрэсліў, што апостал Лука таксама быў лекарам. А ў прадмове да Кнігі Данііла адвёў ад сябе магчымыя абвінавачанні ў тым, што ён перакладае Біблію на далёка не «святую» гаворку, спасылкамі на тое, што вось жа існуюць пераклады на грэчаскую, лацінскую, сірыйскую і егіпецкую мовы. То чаму да іх не можа дадацца і «руская», г. зн. беларуская?!

У рабоце шатландскага вучонага бясспрэчна ёсць недакладныя выказванні (напрыклад, пра «польска-рускі» дыялект). Але асобныя з яго назіранняў (асабліва лінгвістычныя паралелі) не згубілі навуковай каштоўнасці да нашага дня. Кніга Гендэрсона сведчыць пра вядомасць і папулярнасць Скарыны ў Заходняй Еўропе ўжо ў мінулым стагоддзі.

*11 лістапада*

Сёння ў заходняй перыёдыцы натрапіў на артыкул «Невядомыя апавяданні XIV і XV стст.». Тэкст гэтых апавяданняў, «Чюдо 11 святого отца Николы» і «Чюдо 12 святого отца Николая», у нас вядомы — яны змешчаны ў кнізе М. Н. Ціхаміравa «Описание Тихомировского собрания рукописей», выдадзенай у Маскве ў 1968 годзе. Аднак у нас не было спроб вызначыць час і месца напісання гэтых твораў. У артыкуле лагічна даказваецца, што ўзніклі яны ў старажытным Лукомлі: першы — паміж 1392 і 1394 гадамі (Мікола, развітваючыся з Пархвенам, кажа, што з Лукомля ён ідзе ў Полацк, каб там пакараць тых, хто «целуют крест и изменяют», а такім здраднікам якраз у той час быў там князь Скіргайла; Вітаўт жа ў абразку названы яшчэ проста князем, а не вялікім князем), другі — у канцы XV стагоддзя (згадваецца Друцк, які перастаў існаваць у пачатку XVI стагоддзя). Творы розняцца па свайму стылю (першы вызначаецца жывасцю,

дыялагічнай формай, другі нагадвае сухую справаздачу), таму, робіцца заключэнне, напісаны рознымі аўтарамі.

Перанёсшыся з сівой даўніны ў жывую рэальнасць, пайшоў сёння абедаць у італьянскае кафэ (кітайская кухня ўжо прыелася). Падаючы ракавінкі з нейкімі малюскамі, спагеці і каву з пеністым верхам («капучыно»), вясёлы, жвавы і добразычлівы афіцыянт напяваў неапалітанскую мелодыю. Аднак грошы ўзяў удвая большыя, чым кітайцы.

*12 лістапада*

У пасляваенны час на Захадзе было знойдзена некалькі буквароў, выдадзеных на тэрыторыі Беларусі ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Гэта магілёўскі буквар 1649 года — у бібліятэцы Упсальскага універсітэта (Швецыя), магілёўскі буквар 1648 года — у бібліятэцы горада Гота (ГДР), куцейненскі буквар 1653 года — у бібліятэцы Марша ў Дубліне (Ірландыя) і Брытанскай бібліятэцы ў Лондане. Усе яны падрабязна апісаны ў апублікаваных тут даследаваннях. Супастаўленне тэксту гэтых выданняў дазволіла аўтарам публікацый зрабіць вывад, што магілёўскія і куцейненскія буквары ўзыходзяць да буквара, выдадзенага ў Еўі ў 1618 годзе (аўтарам або адным з аўтараў яго быў, відаць, Мялецій Сматрыцкі). Унікальны экземпляр еўейскага выдання выяўлены ў бібліятэцы Мідл Тэмпл у Лондане (у адрозненне ад капенгагенскага экземпляра тут ёсць тры апошнія лісты).

Акрамя таго, у Англіі зроблены навуковыя апісанні яшчэ трох экземпляраў беларускіх выданняў, якія знаходзяцца ў бібліятэках Оксфардскага і Уральскага універсітэтаў. Гэта — «Граматыка славянская» Л. Зізанія, выдадзеная ў Вільні ў 1596 годзе, «Штодзённыя малітвы» 1601 года з віленскай друкарні Мамоніча (склаў іх Лявон Мамоніч), і «Паўустаў» 1695 года з арыгінальнымі «Малітвамі пры святой літургіі». Апублікаваныя ўрыўкі з гэтых рэдкіх кніг могуць саслужыць добрую службу гісторыкам беларускай мовы і літаратуры.

*13 лістапада*

У Лондане сёння свята: выбіраюць новага лорда-мэра Сіці. Выбіраюць толькі на год. Гэта, як мне сказалі, павінен быць вельмі багаты чалавек, бо бедны не вынесе ўсіх расходаў на «рэпрэзентацыю». Але яго выдаткі хутка акупляюцца, бо фірма або прадпрыемства мэра не патрабуе асаблівай рэкламы.

Галоўным момантам свята з'яўляецца ўрачыстае шэсце па традыцыйным маршруце. Новы лорд-мэр едзе ў старадаўняй карэце, каб прыняць прысягу. Яго суправаджаюць мэры іншых англійскіх гарадоў. Суправаджаюць аркестры, атрады самых розных войск. Гэта ма-

ляўнічае відовішча, яркае шоу, сказалі мне, яно бывае толькі раз у год.

І таму яго грэх не паглядзець.

І вось стаю ў натоўпе англічан і шматмоўных турыстаў каля кафедральнага сабора святога Паўла і чакаю, пакуль з-за павароту з'явіцца працэсія. Свята ёсць свята: дзеці патрабуюць ад бацькоў, каб ім купіць серабрыстыя, у форме сэрца паветраныя шары, дарослыя махаюць сцяжкамі, п'юць з бутэлек піва.

Нарэшце палісмены пачалі наводзіць парадак. Пачуліся гукі барабанаў і труб. З'явіліся пешыя і конныя гвардзейцы ў высокіх чорных шапках. Везлі бочкі з півам, «самым лепшым у Англіі». Дэманстравалі самыя прыгожыя ў Англіі ногі высокія і танклявыя дзяўчаты, апранутыя пад бутэлькі з тым жа півам ці галоўкі сыру. Зноў гвардзейцы на чорных конях, узброеныя пікамі. Зноў аркестры з трубачамі і валыншчыкамі. Ехалі новыя дамы і машыны. Танцавалі пінгвіны і русалкі. За пішучымі машынкамі сядзелі самыя лепшыя англійскія сакратаркі. Беглі халадзільнікі з канкрэтным адрасам фірмы. На цягачах везлі самалёты і аўтамашыны. Куляліся клоуны. І непатрэбным дадаткам да гэтага развясёлага шоу здалася мне карэта, запрэжаная шасцёркай белых коней, якая везла на прысягу і банкет у Гілдхоле новага лорда-мэра, апранутага ў чырвоную мантыю і белае жабо. Усміхаўся задаволена, махаў капелюшом, але энтузіязму ў адказ не было.

Хто ён, новы лорд-мэр? Якія яго погляды? І што абяцае ён гараджанам? Каб атрымаць адказ на ўсе гэтыя пытанні, купіў за 50 пенсаў «Афіцыяльную сувенірную праграму». З яе даведаўся, што новага лорда-мэра завуць Энтоні Джоліф (значыць: Жартаўнік, Весялун), што яго фірма квітнее і што частку грошай ён аддае шпіталю для недаразвітых дзяцей. Паглядзеў на здымкі: мэр у дзяцінстве нясе нейкае вядзерца, мэр ля сваёй машыны, мэр з жонкай і трыма дзецьмі. Прачытаў «Пасланне» новага бацькі горада, дзе ён толькі вітаў 21 мэра з іншых гарадоў краіны, што прыехалі на свята, і нічога не абяцаў самім гараджанам (можа, так яно і сумленней). І нідзе ні слова аб поглядах гэтага чалавека. Не сказана нават, да якой партыі ён належыць.

І ўсё ж сацыяльнае «лякарства» для краіны ў праграме ўказана. Адзін з яе аўтараў, лорд Робэнс, піша, што каб скончыць з крызісам і беспрацоўем, каб Брытаніі стаць «самай багатай краінай», «забяспечыць занятасць працоўнага насельніцтва і палепшыць фізічную і сацыяльную інфраструктуру нацыі», патрэбна зусім драбніца. Усё ўпіраецца ў асігнаванне... 65 тысяч долараў на разведку і здабычу

нафты ў Паўночным моры. Будзе побач свая нафта — і ўсе праблемы вырашацца самі сабой... Адным словам, мікстура хвораму грамадству выпісваецца, але падобна яна на чыстую знахарскую вадзічку.

Здзівіла, што нідзе нічога не сказана пра старога лорда-мэра. Ніводнага слова ўдзячнасці. Нібы ў цяперашняга мэра і не было папярэдніка, нібы заняў ён пустое месца.

Сярод шматлікіх даволі прымітыўных рэклам, змешчаных у праграме, спадабалася адна: фірма «Труман Хэнберы» вітае «новага лорда-мэра Лондана, 318 лорда-мэра на гэтай пасадзе з тых часоў, як мы пачалі варыць добрае піва і Эль на нашым бровары па Брык-лайн». Даволі далікатна і сціпла. Калі не ўлічваць, вядома, падтэксту: мэры прыходзяць і адыходзяць, а мы, фірмы, застаёмся!

Пасля шоу паглядзеў кафедральны сабор святога Паўла, вонкава падобны да рымскага сабора святога Пятра. Пабудаваны ён вядомым архітэктарам К. Рэнам у 1675-1710 гадах, адразу пасля Вялікага лонданскага пажару. Унутры ўсё велічна і ўрачыста — акрамя кіёскаў, што бойка гандлююць сувенірамі. Узышоўшы на галерэю купала і прыставіўшы вуха да сцяны, можна пачуць слова, шэптам сказанае на супрацьлеглым баку, на адлегласці ў 32 метры.

*14 лістапада*

Міма маёй (ды і іншых літаратуразнаўцаў) увагі неяк прайшла «Кантычка», выдадзеная ў 1914 годзе Марцінам Кухталі у Вільні. У яе рэдкім экземпляры, які тут захоўваецца, на старонках 45-59 ёсць старадаўняя, хутчэй за ўсё складзеная ў XVIII стагоддзі, «Песня аб Лазары». Гэты твор мае выразныя стылёвыя рысы барока (парадаксальнасць, кантрастнасць, алегарычнасць). І, што саліае галоўнае, вызначаецца сваім сацыяльным зместам, асуджэннем багатага панства:

Жыў сабе пан багаты,
Шмат меў срэбра, шкарлатаў
І каштоўныя шаты.
Еў, піў, гулі разводзіў,
Дзень і ноч так праводзіў,
У сэрцы пыхі меў годзе;
Рассядаўся ў пакоі,
Еў і піў да ўбою,
А брат мучыўся ў гною.
Ведаў, што быў у зацішку
І ляжаў там паблізку,
А яды? хоць бы з міску.
Хоць аб'едзену б скварку

Ці віна бела чарку —
Не пашле небараку.
Ў крэсле пан засядае,
З яды вусны ўцірае,
А Лазар замірае.
Багач «віват» гукае,
Дзень, ноч музыка грае —
Бядак слёзы глытае.

Дарэмна Лазар звяртаецца да брата, просячы аб літасці. У адказ ён чуе абразлівыя словы:

«Што, быдлё, ты мармочаш?
Са мной разам сесць хочаш?
Сваяка з сябе корчыш:
Уздумаў братам мне звацца —
Не хачу з табой знацца,
Твайму лганню ўслухацца.
Я багач ўсяго свету,
Маю коні, карэту —
Ты які пан на гэта?
Маю двор, і святліцы,
І сады, і крыніцы;
Скарб твой — чэрві, як спіцы.
Маю дом багацтв поўны,
Каралеўскім ён роўны —
Чалавек ты нікчомны;
Маю атлас, пурпуры,
Сабалі і ваўчуры —
На табе ж латы, дзюры.
Крэсел, лаваў савіта,
Сцены срэбрам абіты,
І жыву знамяніта;
А твае плот — пакоі,
Мрэш сабачай ядою,
А твой стол — кучы гною.
Дзе ў цябе тут банкеты,
Марцыпаны, паштэты?
Я ўсё ем, але дзе ты?
Што ляжыш тут пад небам
Аб вадзе і аб хлебе —
Мне такіх не патрэба.
Ў скрынях маю ў вастатку,

Грошы многа ў дастатку —
Не баюся прыпадку,
Бо хто ж можа забраці
Мне маё ўсё багацце,
Скарбы хто мне расхваце?
Ты мне што за вашмосця?»
Плюнуў беднаму ў вочы —
Вось багач які ў злосці.

Але, у рэшце рэшт, дабро ўзнагароджана, а зло пакарана. Праўда, справядлівасці ў тагачасным, феадальным свеце не было. А таму невядомы нам аўтар і не чакаў яе ад караля ці суда. Заставалася толькі адна падзея — на суд звышнатуральных сіл. І яны ўзнеслі Лазара на неба, а пана кінулі ў пекла.

Як прайшло часу мала.
Што ж з багатым тым стала?
Чарцей ліха прыгнала:
Прыляцелі, напалі,
«Ужо пара», закрычалі,
«Йсці табе ў пекла далей!
Не рабі тэстамэнту
Ужо з багацтв, з дыямэнтаў,
Годзе плачу, ляманту».
На чарцей паглядае —
У хаце поўна іх зграя;
Ён са страху ўздыхае.
Як яго скон заскочыў,
На верх вылупіў вочы
І зубамі ласкоча.
А тут чэрці-вужакі
Ужо даюцца у знакі:
Як на звера сабакі,
Адарвалі пустошу
Ад ўсіх скарбаў, ад грошы,
Паняслі ў пекла ношу.
Там пячэцца ён штодня
За свае усе збродні,
А язык — як паходня.

Можна ўявіць сабе, з якімі пачуццямі прыгонныя сяляне слухалі «Песню аб Лазары», калі яе спяваў дзесьці на кірмашы або цвінтарышчы сляпы вандроўны лірнік.

*15 лістапада*

Тая ж самая прывідная падзея на справядлівасць, што наступіць хаця б пасля смерці, хаця б пры сканчэнні свету, гучыць у вершы «Аб страшным судзе». Невядомы нам аўтар (па барочнаму стылю можна меркаваць, што жыў ён у XVII ці XVIII стагоддзі) малюе жахлівыя, апакаліптычныя карціны «апошняга суда», дзе асаблівыя кары спасцігаюць багатых людзей.

Ваструбіць архангел — і мёртвыя васстануць,
А прад судам страшным нагія паўстануць.
Там убогі і скарб многі,
Там ўладыкі і калекі —
Усі роўна стануць.
Царые і князі без слуг, без адзежды,
Без скарбаў, без жаднай надзежды,
Стануць нагі, без павагі, без радзіны,
Без дружыны, самі сабою.
Сядзячаму на прастоле мусяць атвет даці,
Як ся спрабавалі без боскай благадаці.
Ах, мой божа, паможа,
Бо шатана зла, хітра здрада.
Бо там на вымовы не зраць,
Ні на роды, ні на парсону,
Ні на прэжны свары, хто што зробіць,
Хто што стварыў, люб благое, люб тэж злое,
Яўна там будзець.
Ўсе там дзялы нашы адкрыюцца яўна,
Грэшным на стыд вечны,
А верным на славу.

Як і «Песня аб Лазары», духоўны верш «Аб страшным судзе» завяршаецца суровым і справядлівым пакараннем для тых, хто правёў жыццё марна, у гультайстве ды баляванні. У абодвух творах як нешта само сабой зразумелае сцвярджаецца, што дзе беднасць — там дабрыня і цнатлівасць, а дзе багацце — там злосць і амаральнасць.

Такія ж па сутнасці народныя ўяўленні аб добрым і злым выявіліся потым у вершы Францішка Багушэвіча «Быў у чысцы». Тут — пачатак традыцыі, а там — яе працяг.

*16 лістапада*

Амаль цэлы дзень загубіў на паездку ў Міністэрства ўнутраных спраў, каб атрымаць дазвол на працяг камандзіроўкі. Узяў з сабой прысланую мне па пошце адпаведную паперу з Брытанскага савета.

Па дарозе (ехаць давялося далёка, бо міністэрствы цяпер тут выносяць за цэнтр горада) прадумваў усе аргументы і контраргументы.

У Міністэрстве ўнутраных спраў многа наведвальнікаў — пераважна індусаў, афрыканцаў, кітайцаў. Але работа наладжана добра: пры ўваходзе табе выдаюць жэтон з нумарам, а потым ты сядзіш у зале і чакаеш, калі над адным з ваконцаў загарыцца табло з тваім нумарам... Узяўшы мае паперы і здзіўлена пакруціўшы ў руках савецкі пашпарт, клерк адлучыўся мінут гэтак на сорак: можа, узгадняў пытанне з начальствам, а можа, яно глядзела, якое маё дасье. Седзячы ў чаканні, стараўся ўспомніць усе свае «грахі» перад заходнім светам. Што праўда, то праўда: тутэйшыя парадкі часам крытыкаваў. Але ж тады з Брытаніі трэба было б выдаліць большую палову англічан... А што датычыцца самой каралевы, то, здаецца, нідзе пра яе нічога непачцівага не гаварыў. Наадварот — Караткевічу паштоўку з яе партрэтам паслаў.

Мусіць, гэта паштоўка і пераважыла шалі ў мой бок. Усё абышлося добра. Прабыванне мне прадоўжылі нават на сем дзён звыш тэрміну. Праўда, фінансава мне гэтыя сем дзён ужо ніхто не падмацуе. Таму адляцець давядзецца строга па плану.

Вярнуўшыся з паездкі, натрапіў на невядомыя мне вершы беларускага паэта пачатку XX стагоддзя Дзеда Доніса (Дзяніса). У зборніку «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» быў апублікаваны (услед за «Нашай нівай») адзін яго твор — «Бабыль». У каментарыях да яго сказана, што пад гэтым псеўданімам хаваўся Мікола Савасцюк, біяграфічныя звесткі пра якога не захаваліся. Сёння высветлілася, што гэта быў мінчанін, пісаў з 1903 года. Некалькі яго вершаў захавалася ў альбоме Альберта Паўловіча. У адным з іх, «Мужычай долі», гучыць горкая скарга на цяжкае паднявольнае жыццё і адначасова надзея на лепшую будучыню.

Як на свет я нарадзіўся,
Кажуць, ліха была:
Голад на зямлі насіўся,
Дзе ні глянь, магіла.
Мерлі людзі, як ніколі,
Эх, гады ліхія!
Як успомню я нядолю,
Сэрца неяк ные.
А як паншчынай жылося,
Часам дзед раскажа,
Многа крыўды пражылося,
Усёй не перакажа.

Як па панскаму хаценню
Ў мужыкоў стралялі
І як жонак для пацехі
У палацы бралі.
Як пакутаваць навекі
Пан у Сібір ссылаў,
Не глядзеў, што жонку з дзецьмі
Мерці пакідаў.
Не глядзеў ні на маленне
Жонак-мацярок,
Яго сэрца, як каменне,
Ён не чуў слязок.
Цяжкі крыж на долю выпаў
Бедным мужыкам,
Божа моцны і праўдзівы,
Шчасце дай ты нам!
Дай, каб Дума, што збярэцца,
Праўды прынясла,
Каб за кроў, што гэтак льецца,
Жыццё нам дала.
Каб дала за нашу працу
Трохі больш зямлі,
Каб усім, хто нам спрыяе,
Ланцугі знялі.
Жыццё наша, як ты горка,
Як ты поўнае слязьмі!
Але ўзыдзе ж скора зорка
Жыткі новай на зямлі.

Другі верш, «Успамінанне» (магчыма, тут аб'яднаны два розныя вершы), напісаны ўдалечыні ад родных мясцін (хутчэй за ўсё, у царскім астрозе). Аўтар, чалавек ужо ў гадах, скардзіцца на сваю цяжкую долю. Але ён не паддаецца песімізму, гатовы спяваць «гімны» пра змаганне за «волю святую, жаданую».

Дзе ты, родны край далёкі,
Дзе вы, нівы і паля,
Дзе той дуб стары, высокі,
Што садзіў улетку я.
Дзе той лес, што гэтак многа
Майму сэрцу думак даў,
Усё, што было дарагога,
Усё вастрог праклятый ўзяў.

Эх ты, жыццё наша, жыццё!
Цяжкі крыж мае судзьбы,
Хоць пад старасць пакажыце
Мне вы праўду на зямлі!
* * *
Чуецца голас з клеткі зялезнай,
Голас вялікіх байцоў…
Сэрца зайшлося ад злосці мяцежнай,
У жылах заўрэлася кроў.
З падвалу струменем поўныя жаху
Гукі ка мне паплылі…
Дайце магутныя крылле жар-птаха —
Вольнасць вярну на зямлі!
Дайце мне волю святую, жаданую,
Скіньце ланцужны акоў,
Я запаю вам пра долю загнаную
Гімны вялікіх байцоў!

Асоба Дзеда Донка (Міколы Савасцюк), яшчэ аднаго паэта, узнятага хваляй рэвалюцыі 1905 года, варта таго, каб ёй зацікавіліся даследчыкі, што вядуць архіўныя пошукі.

*17 лістапада*

Яшчэ адна забытая публікацыя: успаміны прафесара Уладзіміра Адамава пра Максіма Багдановіча. Пазнаёміліся яны ў 1917 годзе. Месца мемуарыст не ўказвае, але гэта мог быць толькі Мінск, дзе тады паэт працаваў у губернскім харчовым камітэце.

Аднойчы Адамава зацікавіла, чаму ў суседнім доме так позна гарэў агонь. Яму растлумачылі, што там «беларускае зямляцтва». Зайшоўшы неяк туды (можа, гэта была «Беларуская хатка»?), прафесар сутыкнуўся з маладым чалавекам, які назваўся Максімам Багдановічам. Ён «павёў мяне па пакоях,— успамінае У. Адамаў,— знаёмячы з беларускаю культураю. Шмат з чым для мяне новым я тады пазнаёміўся, але больш за ўсё зрабілі на мяне ўражанне слуцкія паясы, я тады надзвычай здзівіўся мастацкаму выкананню іх. І ў мяне запала думка, што беларусы сапраўды маюць сваю самастойную нацыянальную культуру й што мастацтва ў вырабе паясоў надзвычай высокае. Пасля гэтага я часта заходзіў да беларусаў. Надта добра пазнаёміўся з М. Багдановічам. Ён нават некалькі разоў заходзіў да мяне на кватэру. Чытаў вершы Я. Купалы і Я. Коласа. Надзвычай мне спадабалася паэма «Курган» Я. Купалы. Я нават і не чакаў пачуць гэткіх высокамастацкіх твораў на беларускай мове.

Нашы гутаркі працягваліся часамі амаль усю ноч. І Багдановіч вымушаны быў заставацца ў мяне начаваць. Калі я аднойчы звярнуўся да яго з словамі «Вы, мабыць, таксама пішаце вершы на беларускай мове, прачытайце што-небудзь з сваіх твораў». Тады ён заўсёды скромна адказваў: «Што мае вершы, хіба я так магу напісаць, як Купала?» Ён мне зачытаў тады верш «Слуцкія ткачыхі».

Толькі ў 1923 годзе прафесар Адамаў даведаўся, што Багдановіч быў вялікім паэтам і што яго ўжо няма ў жывых. Але ў памяці ён застаўся «маладым стройным мужчынам», які «шчыра любіў сваю бацькаўшчыну-Беларусь».

Успаміны Уладзіміра Адамава, выхаванца Маскоўскага універсітэта, прафесара батанікі, былі напісаны ў 1933 годзе, перад яго ад'ездам з Мінска ў Крым. У той час мемуарыст ведаў на памяць амаль усе вершы Максіма Багдановіча і любіў іх дэкламаваць.

Паспеў яшчэ глянуць успаміны, падпісаныя ініцыяламі Э. Б., пра Каруся Каганца, які перад першай сусветнай вайной пеша прыйшоў з Вільні ў Мінск — «хацеў трохі краю пазнаць і людзей». «Прыпамінаю яго,— піша аўтар,— з палкай у руцэ, у ботах, у шапцы з брыльком... Твар у яго худы, вусы даўгаватыя». Гаворка ў Каганца была «нейкая асаблівая; як бы архаічная, на старадаўні лад ведзеная. Ён часта карыстаўся некаторымі словамі і зваротамі, ведамымі з беларускіх друкаў і рукапісаў шаснаццатага веку». У гутарцы пісьменнік «быў надта паважны, як філосаф, да смешак, да гумару не надаваўся».

*19 лістапада*

І яшчэ адны ўспаміны — на гэты раз Ахола Петэры, фінскага пісьменніка і журналіста (1875-1919). У час першай сусветнай вайны, у 1915 годзе, ён аказаўся ў Віцебску, правёў ноч на вакзале, запоўненым галоднымі бежанцамі.

На віцебскім вакзале Ахола Петэры раздумваў аб «непатрэбнасці вайны». Гэта — «млын загубы людзей і добрых дасягненняў чалавецтва!». І не бежанцы былі ў вайне вінаваты. «Гэтаксама падбадзёрвала тое, што я знаходжуся сярод невінаватых, сярод пакрыўджаных, такіх самых, як і я; нягледзячы на тое, што я не зусім разумеў іх мову, тым не меней я разумеў іх думкі і таму яны ўсе былі мне, як браты-родзічы».

У Віцебску фінскі пісьменнік склаў верш, прысвечаны жанчыне, што дала патрымаць яму дзіця, каб накарміць іншых. «Сядзеў я тут пасярод людзей аднолькавага лёсу, адчуваючы бясконцую радасць належнасці да іх. Забыў, што я з далёкай, паўночнай Фінляндыі — са сцюдзёнага краю — быццам я ўжо тут даўно належу да гэтай сям'і

абяздоленых крыўдай гаротнікаў». А калі жанчына вярнулася і падзякавала яму «на сваёй мове», якая «нагадвала рускую», фінскі пісьменнік сказаў ёй: няхай дзіцё застаецца ў яго на руках, бо ўсе людзі — адна сям'я. І яна заснула, паклаўшы яму галаву на калена, побач з дзіцём. А ён сядзеў непарушна і адчуваў толькі бясконцае будучае шчасце ўсяго свету. Шмат думаў у гэтую доўгую ноч... «Думаў аб тым, што трэба рабіць, каб хутчэй наступіла новая эра чалавецтва».

Потым, у цягніку на Оршу, Ахола Петэры доўга гаварыў з той жанчынай-бежанкай аб «непатрэбнасці войнаў для простых людзей». І адчуў «унутраны спакой і веру ў будучыню».

Даўно, год амаль семдзесят, нарадзіліся гэтыя думкі на Віцебшчыне. А як сугучныя яны нашаму часу! Як адпавядаюць таму, што бачу я тут вечарамі на экране тэлевізара. Англійскія жанчыны суткамі пратэстуюць супраць размяшчэння на іх зямлі, у Грынэм-Хамон амерыканскіх ракет смерці. Сядзяць на асфальце з малымі дзецьмі, вараць няхітрую страву. А распаўнелыя ад піва «бобі» хапаюць іх за рукі і за ногі (гэта тут называецца «жабіным маршам»), цягнуць у кюветы. Але жанчыны настойліва вяртаюцца назад — дзеля ўласных дзяцей, дзеля ўсяго жывога на зямлі.

*20 лістапада*

Каб выявіць сляды скарбаў нашай культуры, вывезеных у час вайны ў гітлераўскую Германію, пачаў праглядаць розныя варожыя нам газеты, што выдаваліся раней на Захадзе. Апублікаваныя ў іх матэрыялы яшчэ раз для мяне засведчылі, што з першых дзён акупацыі гітлераўцы пачалі сістэматычную акцыю па вывазу і знішчэнню беларускіх музеяў, бібліятэк і архіваў.

Ужо ў канцы жніўня 1941 года з Мінска ў Кёнігсберг былі вывезены найбольш каштоўныя карціны, «каменныя бабы» і калекцыя слуцкіх паясоў, што да вайны захоўвалася ў Нясвіжы. Затым у Рацібор быў вывезены архіў АН БССР. У Інстэнбургу (Усходняя Прусія), а затым у Гехштэдце (каля Ульма на Дунаі) аказаліся зборы Беларускага гістарычнага музея.

У час вайны фашысты вывезлі ў глыб Германіі таксама значныя матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, першапачаткова засяроджаныя ў Баранавічах. У 1942 годзе яшчэ былі там карціны Рубенса, Сальвадорэ Роза, творы беларускіх мастакоў, заходнееўрапейскі і кітайскі фарфор, беларуская разьба па дрэве XIV стагоддзя. Усё гэта да сённяшняга дня не знойдзена, не вернута. Прынамсі, я не чуў пра гэта.

А наогул чытаць такую перыёдыку — справа непрыемная. Колькі хлусні і бруду сабрана на яе старонках! І чым бліжэй да бясслаўнага канца, тым гучней заклікі ісці ў «наступ», каб «зламаць рогі» савецкім і заходнім войскам, тым бессаромней сцвярджэнні, што Нямеччына для беларускіх «арбайтэраў» — гэта «суцэльны прыгожы парк», дзе ім было дазволена нават... насіць на грудзях «асобны» знак — стылізаваны колас. Нібы нанава перажываеш (толькі бачачы ў фальшывым люстэрку) усе ваенныя падзеі. І лепш разумееш палітыку гітлераўцаў, якія кіраваліся старым рымскім прынцыпам «падзяляй і пануй». Вось, скажам, некаторыя «запаведзі» беларускіх нацыянал-фашыстаў: «Не злучай сябе звязкамі жанімства з чужынцамі», «Не перасаджай ні мовы чужой, ні паэзіі, ні грамадскіх формаў, ні звычаяў, ні абрадаў, нічога, што не вырасла з народнага грунту».

Прамыя заклікі да чалавеканенавісніцтва і культурнай ізаляцыі!

*21 лістапада*

У час вайны з Беларусі на Захад трапіў таксама бясцэнны крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены мясцовым майстрам Лазарам Богшам. Пра яго лёс пісаў неаднаразова я, пісалі іншыя аўтары. Як вынікала са звестак, што былі атрыманы з ленінградскага «Эрмітажа», пасля вайны крыж трапіў у калекцыю амерыканскага мільянера Моргана. Мой артыкул наконт усяго гэтага заканчваўся словамі, што гістарычная рэліквія, вывезеная ў час вайны, павінна быць вернута народу, уласнасцю якога яна з'яўляецца.

Стукні па стале — нажніцы недзе забразджаць... Сёння знайшоў водгук на тую публікацыю. Абапіраючыся на дакументы, што былі вывезены на Захад з Мінскага гістарычнага музея, у нью-йоркскіх «Запісах» прасачылі шлях крыжа Ефрасінні Полацкай ад яго вывазу з Полацка ў Мінск і да перадачы ў Магілёў у 1929 годзе (Мінск тады знаходзіўся паблізу граніцы, і беларускую сталіцу хацелі перанесці ў Магілёў). У Магілёве крыж спачатку выстаўляўся ў музейнай экспазіцыі, а потым быў схаваны ў браніраваны пакой, адкуль і знік на пачатку ваенных падзей.

Што ж датычыцца пасляваеннага лёсу крыжа, то пра яго сказана наступнае: «Бібліятэка ды калекцыя Моргана, сядзіба якое ў Нью-Йорку, вядомая сваімі каштоўнасцямі ва ўсім свеце... Праведзеная... хутка пасля апублікаванага артыкула А. Мальдзіса спроба выясніць і па каталогу калекцыі, і беспасрэднымі роспытамі яе адпаведных працаўнікоў (а як жа: напішуць у каталогу ці скажуць, што трымаюць крадзенае! — А. М.) справу магчымага перахоўвання ў ёй крыжа святое Афрасінні дала вынік негатыўны. Гэта, зразумела, яшчэ не

дастатковы довад таго, што крыж сапраўды не ў ЗША дый не ў калекцыі Моргана. Гэтую магчымасць і ў далейшым не трэба выпускаць з віду пры пошуках бясцэннае гістарычнае рэліквіі беларускага народа».

І далей у гэтым штогодніку, у цэлым нам варожым, ішлі словы, з якімі нельга не пагадзіцца: «Калі крыж святое Афрасінні яшчэ наогул існуе, трэба яго знайсці ды дамагчыся звароту таму народу, рукамі мастака-майстры якога калісьці быў ён створаны, народу, якому больш 800 гадоў таму сваёю воляю яго адказала слаўная полацкая князёўна».

У працытаваным толькі што артыкуле прасочаны таксама (на падставе інвентарнай кнігі) лёсы некаторых іншых скарбаў, якія да вайны захоўваліся ў Мінскім гістарычным музеі. Так, разам з крыжам у 1929 г. было перавезена ў Магілёў рукапіснае слуцкае Евангелле, скапіраванае ў 1582 годзе Юрыем Алелькам (таксама знікла ў час вайны). А крыж Параскевы з Полацка быў пасля вайны выяўлены (аб чым я не ведаў) у Яраслаўлі Растоўскім.

*22 лістапада*

Яшчэ адна буйная страта часоў апошняй вайны — беларускія рукапісы (у тым ліку Максіма Багдановіча і, магчыма, Міхайлы Піятуховіча) і кнігі, нарабаваныя ў Мінску здраднікам К. Езавітавым і перавезеныя недзе ў 1943 годзе ў Латвію. У газеце «Літаратура і мастацтва» я неяк пісаў пра пошукі гэтых матэрыялаў у Рызе: не мог жа іх здраднік вывезці з сабой у 1944 годзе, калі ратаваўся ад наступлення Савецкай Арміі. Хутчэй за ўсё, думалася тады, перадаў каму ці схаваў... Аднак пошукі ў Рызе вынікаў ніякіх не далі.

І толькі сёння даведаўся: мог і часткова вывез. Адзін з эмігрантаў піша, што ў 1944 годзе бачыў бібліятэку Езавітава ў Рызе — у ёй было шмат рэдкіх старадрукаў. «Кнігі стаялі ў вялікім пакоі на паліцах ад падлогі аж да столі. Выязджаючы з Рыгі, Езавітаў здолеў даволі шмат з іх забраць з сабой. У Нямеччыне, калі ён быў цяжка хворы..., кнігамі заапекаваўся адзін з беларускіх дзеячаў і прывёз іх з сабой у ЗША». Трымаў іх у сутарэнні, нікому не пазычаў, каб не рабілі копій.

З другога боку, беларускія рукапісы Езавітава маглі, як мне сёння сказалі, трапіць у Чэхаславакію, дзе ён аказаўся ў самым канцы вайны, перад пакараннем.

Пасля абеду ў кафэ «Адам і Ева» рашыў прайсціся па Фінчлі, паглядзець на людзей, на дамы. Гэты раён горада лічыцца далёка не фешэнебельным, не прэстыжным. Жыве тут пераважна рабочы люд, служачыя розных фірм і кантор. Многа афрыканцаў, індусаў,

кітайцаў. Забудова даволі хаатычная. Першыя паверхі на галоўных вуліцах заняты дробнымі крамамі і крамкамі (прыгадалася вызначэнне Напалеона: англічане — нацыя крамнікаў). На бакавых вуліцах крамаў няма. Забудаваны яны аднастайнымі домікамі з «вертыкальнай» планіроўкай кватэр. Ад вуліцы жытло адгароджана нізенькімі плоцікамі з акуратна падстрыжаных кустоў. Кожны ўладальнік імкнецца ўнесці разнастайнасць хаця б нейкай дробяззю: арыгінальна ўкладзеным ходнікам, мікраскапічным кветнікам, выразанымі з дрэва грыбамі пад вечназялёным дрэўцам. Вокны ў дамах шчыльна завешаны фіранкамі, і мне цяжка меркаваць, як жывецца за імі. Дом для англічаніна — гэта крэпасць, у якой ён хаваецца ад іншых людзей, ад паўсядзённых клопатаў. І ўвайсці ў гэтую крэпасць пабочнаму чалавеку, тым больш іншаземцу ды яшчэ з Савецкага Саюза — справа зусім нерэальная.

Удзень жылыя дамы выглядаюць амаль бязлюдна: каля іх не сядзяць на лаўках старыя, не гуляюць дзеці, не гамоняць суседкі. Рэдкія прахожыя, засяроджаныя і раўнадушныя да наваколля, некуды спяшаюцца. Нягледзячы на познюю восень, халодны парывісты вецер, апрануты ўсе лёгка — у плашчыкі, куртачкі. Юнакоў часта звонку не адрозніш ад дзяўчат (называецца такая мода «юнісекс»). У адзенні пераважаюць танныя тканіны і стракатыя колеры. З апраткі тут не робяць культу (як гэта часам бывае ў нас). А навукоўцы — дык тыя ўвогуле носяць, як у нас сказалі б, абы-што.

*23 лістапада*

Гай дэ Пікарда згадзіўся паказаць мне ў Лондане мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна. На гэта, папярэдзіў ён, спатрэбіцца цэлы дзень.

Калі мы сустрэліся на станцыі метро «Чэрынг-крос», у руках Гая дэ Пікарда быў для мяне падарунак: кнігі «Маркс у Лондане» і «Ленін у Брытаніі». Першая — багата ілюстраваны турысцкі даведнік, другая — сціплая брашура, выдадзеная Брытанскай кампартыяй. Водзячы мяне па старых вуліцах і завулках, англійскі славіст часта цытаваў абедзве гэтыя кнігі, прыводзіў з іх асобныя факты.

Найперш мы наведалі дом нумар 28 па вуліцы Дзінстрыт, на якой устаноўлена (на ўзроўні трэцяга паверха) круглая мемарыяльная дошка з надпісам, што тут у 1851-1856 гадах жыў Карл Маркс. Гэта, калі не лічыць помніка на могілках Хайгейт, ці не адзінае сёння ў Лондане месца, дзе памятнай дошкай ушанавана імя заснавальніка навуковага камунізма. Аднак у чатырохпавярховым доме не знайшлося

плошчы хаця б для невялікага музея (увесь першы паверх яго займае экзатычны карэйскі рэстаран).

— Іншыя дамы, у якіх Карл Маркс жыў у час свайго трыццаці-чатырохгадовага выгнання ў Брытаніі,— гаворыць Гай дэ Пікарда,— да нашага часу не захаваліся або карэнным чынам перабудаваны. Месца жыхарства сваёй сям і ён мусіў мяняць даволі часта. Але цяжкасці не зламалі яго. Гэта быў не толькі вялікі вучоны, але і вясёлы, жыццелюбівы чалавек. Такім ён і застаўся ў намяці лонданцаў.

Не зберагліся ў брытанскай сталіцы і дамы, у якіх жыў Уладзімір Ільіч Ленін. Як вядома, стваральнік нашай партыі і дзяржавы прыязджаў сюды шэсць разоў: у 1902 г.— для выдання «Искры», у 1903 г.— для ўдзелу ў II з'ездзе РСДРП, у 1905 і 1907 гг.— для ўдзелу ў ні і V з'ездах партыі, у 1908 і 1911 гг.— для работы ў Бібліятэцы Брытанскага музея. Невядомы сёння і будынкі (дзеля канспірацыі яны мяняліся), у якіх праходзіў гістарычны з'езд 1903 года.

Сёння адзіным месцам у Лондане, дзе ўвекавечана памяць аб прабыванні тут Уладзіміра Ільіча Леніна, з'яўляецца старадаўні двухпавярховы дом на плошчы Кларкенуэл-грын пад нумарам 37а. У гэтым будынку, памаляваным у залаціста-лімонны колер, з 22 да 38 нумара друкавалася ленінская «Искра», часта бываў і працаваў Ільіч. З 1933 года тут знаходзіцца Мемарыяльная бібліятэка К. Маркса. У пакоі, дзе выходзіла газета,— бюст У. І. Леніна, стол, якім ён карыстаўся, яго творы на розных мовах, рэпрадукцыі са старонак «Искры». Работнікі бібліятэкі, што абводзяць нас па пакоях, расказваюць аб прабыванні Уладзіміра Ільіча Леніна і Надзеі Канстанцінаўны Крупскай у Лондане, паведамляюць невядомыя мне раней дэталі, апублікаваныя ў кнізе «Ленін у Брытаніі».

А пад вечар мы паехалі ў Тотнэм, калісьці асобны гарадок, а цяпер раён Лондана, дзе ў 1849-1857 гадах жыў Аляксандр Рыпінскі. Па дарозе Гай дэ Пікарда дзяліўся вынікамі сваіх архіўных і бібліятэчных пошукаў. Ён устанавіў (і ўжо надрукаваў пра гэта артыкул), што аўтар «Беларусі» працаваў тут выкладчыкам французскай мовы і малявання ў школе Ігл-хаўс. У 1851 годзе Рыпінскі жыў у маленькім будынку пад нумарам 3 па Чэнс-роу разам са сваім земляком мастаком Станіславам Руткоўскі У 1855 годзе паэт плаціў 20 фунтаў арэнднай платы за дом пад нумарам 5 па Гроўв-плэйс. Тут жа, у Тотнэме, знаходзіліся друкарня і фатаграфічная майстэрня Рыпінскага. Пікарда выказвае здагадку, што якраз у гэтай друкарні была ў 1854 годзе выдадзена кніжка «Аповесць пра мае часы, або Літоўскія прыгоды», у якой упершыню быў апублікаваны верш П. Багрыма «Заграй, заграй, хлопча малы» (шрыфт кніжкі аналагічны са шрыфтам

«Нячысціка», ды і наўрад ці была тады ў Лондане другая друкарня, якая мела б кароткае ў).

У Тотнэмскім музеі, размешчаным у замку Брус, нам ласкава (рабочы дзень ужо канчаўся) паказалі дзве гравюры А. Рыпінскага, на якіх з розных бакоў відаць будынак школы Ігл-хаўс, а таксама ўпрыгожанае партрэтам каралевы Вікторыі пасведчанне, якое беларускі паэт выдаў адной з вучаніц школы. Гравюры сведчаць аб вялікіх мастацкіх здольнасцях аўтара. Хавальнік музейных фондаў пазнаёміў нас таксама са старымі картамі Тотнэма, па якіх мы ўстанавілі, дзе знаходзілася сама школа, а таксама дамы, у якіх жыў Рыпінскі. Будынак школы не захаваўся (на яго месцы цяпер тэхнічны каледж), а дом нумар 5 па Гроўв-плэйс збярогся да нашага часу. Мы агледзелі яго наперакор праліўпому дажджу (для ведама будучых наведвальнікаў: дом двухпавярховы, а ўнізе — магазін кветак).

*24 лістапада*

Занатоўваю яшчэ адзін след, што вядзе за мяжу. У ліпені 1941 года з акупіраванага Смаленска быў у Германію вывезены архіў — сотні папак, датаваных 1917-1938 гадамі. Пасля вайны яны аказаліся ў Нацыянальным архіве ў Вашынгтоне. У 1959 годзе мікрафільм гэтага архіва можна было заказаць за 425 долараў.

У папках, вывезеных са Смаленска, былі і беларускія матэрыялы. Напрыклад, фальклорныя запісы, зробленыя беларускім паэтам Васілём Кавалём у яго роднай вёсцы Сава Горацкага раёна Магілёўскай вобласці.

...Працягваючы пазаўчарашнія назіранні, хочацца сказаць яшчэ некалькі слоў пра англійскія магазіны. У пачатку прабывання ў Лондане мне хацелася спяваць ім дыфірамбы: так усё ў іх добра арганізавана, упакавана, раскладзена на паліцах ці развешана на кручочках. Кожны тавар абавязкова суправаджаецца падрабязнай інструкцыяй-характарыстыкай, а кожная прадаўшчыца стараецца, каб ты не накінуў магазін без пакупкі. Але паступова пачынаеш разумець, што ўсё гэта — і шматфарбная ўпакоўка, і кваліфікаваныя парады, і ўсмешка касіркі — аплачваюцца з тваёй жа кішэні, уваходзяць у цану тавару. А цана тая, калі не лічыць распрадажаў, мае адну тэндэнцыю — расці ўверх. Многія лічбы на этыкетках закрэслены, заменены больш важкімі. Па традыцыі цэны тут не акругляюцца: 99 пенсаў, 49 фунтаў. Таму пры пакупцы табе абавязкова дадуць, усміхнуўшыся, яшчэ і рэшту. Горкае расстанне з грашыма будзе крыху падсаладжана, і ты, можа, прыйдзеш у магазін яшчэ раз, дапаможаш яму выжыць у канкурэнтнай барацьбе з суседзямі. І, магчыма, купіш нават

тое, што табе і не дужа патрэбна, што праз месяц заменіш такой жа непатрэбнай рэччу, але больш дасканалай. Купіш, каб хутчэй спажыць ці хутчэй выкінуць.

Праўда, легкадумна купляюць у Англіі пераважна іншаземцы. Карэнныя жыхары паводзяць сябе ў магазінах сур'ёзна. Яны загадзя ведаюць, дзеля чаго туды заходзяць, хутка знаходзяць і выбіраюць патрэбны тавар. Толькі ў прадуктовых магазінах выбар працягваецца даўжэй. Гаспадыні засяроджана і скрупулёзна падлічваюць на мінікалькулятарах суадносіну цаны і калорый. Асабліва тыя, хто належыць да платных клубаў «Сачы за сваёй вагой». І яшчэ больш тыя, што вымушаны эканоміць кожны пенс.

*25 лістапада*

Ужо месяц, як я ў Англіі. Туга па радзіме ўсё ўзрастае. Адзіны паратунак ад яе — работа. Добра хоць, што сёння пазваніла з хаты жонка. Сказала, што ўсё ў парадку, перадала прывітанні ад сяброў. Сказала і сумную вестку: памёр Андрэй Макаёнак...

Супярэчлівы водгук на Захадзе знайшлі пошукі на тэрыторыі Беларусі, асабліва ў возеры Стаячым каля Крупак, затопленых скарбаў, вывезеных у 1812 годзе войскамі Напалеона з Масквы. У гэтых водгуках выказваецца сумненне, ці маглі французы давезці парабаваныя багацці да беларускай зямлі, бо ў забытых «Записках» А. Булатава сцвярджаецца, што 190 фурманак з маскоўскім дабром былі перахоплены казакамі атамана Платава яшчэ да Смаленска (тады ж з адабранага серабра было адліта вялізнае панікадзіла для Успенскага сабора ў Крамлі). Тым не менш Вальтэр Скот у кніжцы «Жыццё Напалеона Банапарта, імператара Францыі» беспадстаўна напісаў, што ўсю маскоўскую здабычу французы выкінулі ў Сямлёўскае возера (паміж Вязьмай і Дарагабужам), якое таксама называлі Стаячым. Пасля перакладу гэтай кніжкі на рускую мову, у 1835 годзе Мікалай I загадаў інжынеру-палкоўніку Чацверыкову правесці ў тым возеры пошукі, аднак, апрача стосу камянёў, яны нічога не далі. Толькі ў 1912 годзе з дна возера былі выцягнуты гарматы.

*26 лістапада*

У 1948 годзе прамільгнула ў заходнім друку інфармацыя, якая можа быць карысная пры пошуках самых старых беларускіх кніг, друкаваных і рукапісных: «У нямецкай гарадской бібліятэцы ў гор. Вольфэнбітэль перахоўваецца беларуская бібліятэка сястры колішняга князя Літоўскага Жыгімонта Аўгуста, княгіні Браўншвейгскай». Воль-

фэпбітэль — гэта невялікі гарадок паміж Браўншвейгам і Ватэнштадтам, раней рэзідэнцыя біскупа.

А яшчэ для пошукаў можа быць карысны чарговы том (даведаўся пра яго сёння) працы «Архівы і зборы рукапісаў у СССР», прысвечаны Прыбалтыцы і Беларусі. Яго аўтар, вядомая амерыканская даследчыца Патрыцыя Кенэдзі Грымстэд, акрамя савецкіх улічыла таксама зарубежныя сховішчы, у якіх ёсць беларускія матэрыялы. Выдадзены том у 1981 годзе Гарвардскім універсітэтам.

Выбраўшыся ў цэнтр горада, каб забраніраваць у «Аэрафлоце» месца на зваротны шлях, заехаў у Нацыянальную карцінную галерэю, што ўзвышаецца ў паўночнай частцы Трафальгарскай плошчы. Гідаў тут няма. Таму, купіўшы план, самастойна вандруеш па сарака шасці залах, спыняешся на ўказаных у схеме месцах ля найбольш славутых твораў — палотнаў Рэмбранта, Рубенса, Веласкеса, Ганса Гольбейна Малодшага, Леанарда да Вінчы, Беліні, Канстэбла... Добра, што тут жа можна купіць недарагія рэпрадукцыі з гэтых шэдэўраў, а таксама слайды, паштоўкі. І яшчэ адно спадабалася: мяккія падлогі глушаць крокі наведвальнікаў. Ствараецца мажлівасць засяродзіцца на сузіранні Прыгожага.

І па кантрасту з той гармоніяй, што ўладарыць у галерэі, яшчэ больш абвострана ўспрымаеш дысгарманічнасць тутэйшага жыцця. Не магу забыць бяздомнага мужчыну ў гадах, якога бачыў па дарозе назад. Стаяў ён у метро ў безнадзейна зношаным касцюме і неакрэсленай формы капелюху. Над ім з рэкламы ўсміхалася загарэлая прыгажуня, заклікаючы правесці каляды на бясхмарных Гавайскіх астравах. Але мужчыне было не да таго раю. Ён не глядзеў на рэкламу, стараўся не глядзець на людзей. Насунуўшы капялюх на вочы, ён адчайна і неяк сарамліва цёрся спіной, відаць, даўно не мытай, аб вугал аўтамата, заладаванага бляшаначкамі з кока-колай. Паміж ног быў заціснуты поліэтыленавы мяшок з манаткамі. У спрацаванай, пакрытай вяровачкамі жыл руцэ — яшчэ адзін пакунак... У парках над Тэмзай стала холадна — вось ён і прыйшоў сюды з усім скарбам. Не, не каб жабраваць, бо гэта забаронена законам, а каб толькі сагрэцца. І яшчэ — у надзеі на цуд: а раптам нехта паспачувае і сам падыдзе, працягне руку дапамогі.

Адзін з трох мільёнаў англійскіх беспрацоўных.

27 лістапада

З раніцы пачаў рыхтавацца да паездкі ў Оксфард. Дзеля гэтага на асобных картачках выпісаў усё, што мае для мяне цікавасць у славутай на ўвесь свет Бадліянскай бібліятэцы, заснаванай пры

Оксфардскім універсітэце яшчэ ў 1598 годзе. З працы Дж. Бэрнікота і Дж. Сіменса «Некаторыя неапісаныя славянскія старадрукі ў англійскіх бібліятэках», апублікаванай у часопісе «Оксфард славонік пэйпэз» у 1951 годзе, мне было вядома, што якраз там захоўваецца некалькі «Граматык», «Азбук» ды «Часасловаў», выдадзеных у канцы XVI — першай палавіне XVII стст. у друкарнях былога Вялікага княства Літоўскага. Далей — у каталогу Бадліянскай бібліятэкі за 1684 год значылася сем беларускіх друкаваных «інфармацыйных бюлетэняў» — 1563, 1571, 1579, 1580, 1602, 1610 і 1617 года. Гаворка ў іх нібы вядзецца пра розныя палітычныя падзеі, у тым ліку пра вайну паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай, узяцце Полацка рускімі войскамі і г. д. Затым — арыгінал ліста нашага асветніка і друкара Сымона Буднага да англійскага мысліцеля Джона Фокса. Сам ліст у розных працах ужо называўся і часткова прыводзіўся, але поўны тэкст яго ў нас не друкаваўся. Урэшце — у той жа Бадліянскай бібліятэцы знаходзіцца беларускі рукапісны слоўнік XVII стагоддзя. Але яго можна і не глядзець, бо, казаў мне Міхаіл Раманавіч Суднік, старшыня Беларускага камітэта славістаў, копія таго слоўніка ўжо ёсць у Інстытуце мовазнаўства нашай Акадэміі навук.

У адрозненне ад крыніцазнаўчых «чамаданныя» зборы занялі ўсяго некалькі хвілін. У адпаведнасці з праграмай у Оксфардзе я павінен правесці толькі тыдзень. Праўда, тыдзень гэты будзе цяжэйшы, чым лонданскі месяц. Тут я часта чую беларускую мову, рускую, польскую. А ў Оксфардзе, відаць, давядзецца жыць у выключна англійскім асяроддзі. Неяк трывожыць яно пры маім веданні мовы... Суцяшала толькі, што хоць на першых кроках будзе мной апекавацца оксфардскі славіст Джэры Стоўн. Ён жа павінен заказаць для мяне месца ва універсітэцкім інтэрнаце. І, магчыма, дапаможа на пачатку бібліятэчных пошукаў.

*28 лістапада*

І зноў хуткі «кар» памчаў праз «таўны» і «віліджы» цэнтральнай Англіі — на гэты раз асветленыя мяккім асеннім сонцам. На дарогах амаль бязлюдна — усе праводзяць нядзельны «уік-энд» у сямейным коле. Толькі ля Оксфарда, калі справа паказаліся карпусы завода легкавых аўтамабіляў, стала больш ажыўлена: у машынах накіроўваліся за горад людзі старэйшага пакалення, на веласіпедах — моладзь, студэнты. Аднак, у адрозненне ад нашых прыгарадаў, ніхто не збочваў у ляскі, што прывабна зелянелі побач, або па сенажаць, што цягнулася ўздоўж рачулкі. Чорныя шыльды грозна папярэджвалі: «Прайвіт!» А супраць прыватнай уласнасці, на якой тут грунтуецца

жыццё, не асмельваўся выступаць ніхто. Для мяне так і засталося загадкай, дзе ж спыняюцца аматары загарадных вандровак, бо на ўзбочынах іх таксама не было відаць. А можа, і не спыняюцца зусім? Можа, паездзяць — і дамоў?

Домік Стоўнаў, злучаны бакавымі сценамі з іншымі такімі ж домікамі, здаўся зусім падобным да соцень такіх жа пабудоў у Лондане, можа, толькі крышку меншы. Гаспадыня дома, Вера Стоўп, аказалася масквічкай. У Англіі яна, мяркуючы па дзіцяці, ужо гадоў з дзесяць. Але ўсё ніяк не можа акліматызавацца, прызвычаіцца да тутэйшай рацыяналістычнасці. І яе англійскую мову, дзе кожнае слова не зліваецца з іншымі ў адзіную абойму, а даволі выразна вычляняецца, я разумею амаль цалкам. Зрэшты, за абедзенным сталом гаварылі і па-руску, і па-беларуску, і па-польску. Аб чым? Ды, адпаведна з англійскім этыкетам, усё аб тым жа надвор'і — якое яно сёлета мяккае, зусім не асенняе. Ды яшчэ пра хобі — хто як бавіць вольны час. Не дай бог за сталом загаварыць аб працоўных буднях — гэта лічылася б ледзь не абразай. І ўсё ж на сёння было зроблена некаторае выключэнне з правіла: гаспадыня згадвала навуковыя кантакты з беларускімі мовазнаўцамі.

Пасля абеду мяне адвезлі ў аспіранцкі інтэрнат. Пакойчык аказаўся хоць і на паддашку, але нішто сабе, прасторны. Толькі халаднаваты, без цэнтральнага ацяплення. Хочаш уключыць электрычны камін — кідай у лічыльнік пяць пенсаў!

На развітанне Джэры Стоўн параіў мне заўтра з раніцы запісацца ў Бадліянскую бібліятэку, а потым зацікавіцца працамі першага оксфардскага славіста Уільяма Мофіла, які жыў у канцы мінулага стагоддзя.

— Па-мойму,— сказаў Стоўн,— ён пісаў і пра Беларусь. Павінен быў пісаць, бо не раз ездзіў у Расію, займаўся яе народамі... Таму знайдзіце час і загляніце ў бібліятэку Тэйларыянскага інстытута, спытайце там Дэвіда Говелса. Ён валіец, таму да беларуса, прадстаўніка малога народа, ён аднясецца з асаблівай зычлівасцю...

— Але ж беларусы — не малы народ,— запярэчыў я.— Нас каля дзесяці мільёнаў.

— Усё роўна — меншы ў параўнанні з суседнімі,— не здаваўся Стоўн.— А гэта часам уплывае на сімпатыі... Зрэшты, я сам папрашу Говелса, каб паказаў вам кнігазбор Мофіла. Павінна ж там быць і нешта беларускае.

*29 лістапада*

Як гэта прыемна — за рубяжом, за трыдзевяць зямель ад радзімы, у абсалютна невядомым горадзе ды раптам сустрэць земляка! І не толькі земляка, а і знаёмага, з якім не раз бачыліся і ў нашай Акадэміі навук, і па розных вечарах аматараў кнігі. Спускаюся ўніз на сняданак, кошт якога ўваходзіць у кошт пражывання (10 фунтаў у суткі). Ем «хэм энд эге», гэта значыць вяндліну з яешняй (вяндліны той кавалачак ажно свіціцца ад тонкасці), запіваю чаем з малаком, да якога — падсмажаныя кавалачкі хлеба з варэннем. Прыслухоўваюся да гамонкі за суседнімі столікамі — пераважпа англійскай. Аж тут, бачу, спускаецца зверху Ігар Валатоўскі, беларускі фотабіёлаг, малады доктар навук. Апрануты ён як тыповы англійскі навуковец — у джынсах і ў кашулі наросхрыст. Дэмакратычна, значыць. І «спікае» па-англійску куды лепей за мяне. Акліматызаваўся тут, бо, у адрозненне ад мяне, яго камандзіроўка шасцімесячная, а да Англіі ён быў яшчэ ў ЗША і ФРГ.

— Кнігалюбскае прывітанне! — кажу Ігару.— І ад Барыса Сачанкі, і ад Васіля Вільтоўскага, і ад іншых агульных знаёмых! Казалі мне, што вы недзе тут. Але каб сустрэцца ў адным інтэрнаце, за адным сталом...

— Свет цесны,— з англійскай флегмай канстатуе Валатоўскі.

— І куды ні кіпеш, усюды трапіш у беларуса,— дадаю яму ў тон.

Англічане зіркаюць у наш бок: што гэта яшчэ за гаворка гучыць у старажытным Оксфардзе? Але пытацца тут не прынята. Выяўляць эмоцыі — таксама. Таму нашы суседзі дажоўваюць свае грэнкі, дзякуюць за кампанію і ціха знікаюць. Ігар жа, застаўшыся, дае мне мноства каштоўных парад. Найперш — як прайсці ў Бадліянскую бібліятэку. На карце, якую ўчора пакінуў для мяне Стоўн, малюе розныя стрэлачкі і крыжыкі. Праводзіць мяне не можа бо сам спяшаецца ў лабараторыю, прад вочы шэфа.

— Добра было б разам з'ездзіць у Стратфард на Эйване,— кажа на развітанне.

— А хіба недалёка адсюль?

— Дзве гадзіны язды аўтобусам.

— Тады — абавязкова! Быць у Англіі і не з'ездзіць на радзіму Шэкспіра — такое ж самае варварства, як жыць у Беларусі і не наведаць Вязынку.

Арыентуючыся па стрэлачках на карце, лёгка знаходжу славутую бібліятэку, заснаваную ў 1595 годзе Т. Бодлі. Месціцца яна ў некалькіх будынках — старых і новых, квадратных і круглых. Галоўная трохпавярховая частка ўтварае замкнуты двор. Зверху тырчаць вежачкі, падобныя на яловыя шышкі — рэдкай луской уніз. Двор вы-

сланы каменнымі плітамі, выслізганымі да бляску дзесяткамі пакаленняў студэнтаў. У цэнтры ж, каля галоўнага ўваходу,— бронзавы помнік важнага, закаванага ў панцыр Уільяма Герберта, вучонага і паэта, канцлера Оксфардскага універсітэта на пачатку XVII стагоддзя. Самой скульптуры таксама больш за трыста год. Зроблена ж яна па эскізу самога Рубенса.

У бібліятэчным двары знаходжу рэгістратуру, дзе, каб запісацца, трэба паказаць рэкамендацыю ад якога вядомага вучонага. У мяне такой рэкамендацыяй служыць афіцыйнае пісьмо ад Брытанскага савета. Працягваю канверт сівому чалавеку ў чорнай мантыі, а ён мне ў адказ — тэкст бібліятэчнай «прысягі», якую трэба не толькі падпісаць, але і прачытаць услых — на доказ, што ты добра засвоіў усе правілы. Вымаўленне маё, зразумела, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Але рэгістратар цярпліва чакае, пакуль я скончу. Урэшце на ламанай руска-польскай мове пытае, што мяне ў бібліятэцы цікавіць. Адказваю, што беларускія матэрыялы.

— О, тады вам спачатку трэба ў генеральны каталог, а потым, калі выпішаце сігнатуры, у аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг — так званую бібліятэку дзюна Хамфры. Раю таксама зайсці ў славянскую секцыю, што ў новым будынку праз вуліцу. Там Грэгары Уолкера спытайце,— раіць рэгістратар, наклейваючы «маментальную» фатаграфію на мой чытацкі білет.

Праз вялізную залу з рабрыстымі скляпеннямі, дзе ў вітрынах выстаўлены самыя рэдкія выданні, іду ў аддзел каталогаў. У адрозненне ад нашых бібліятэк, у якіх кнігі пераважна распісаны на картачках, тут усе паступленні рэгіструюцца ў вялізных, пераплеценых у скуру фаліянтах. Ранейшыя запісы зроблены ад рукі, пазнейшыя — у выглядзе друкаваных уклеек. Карыстацца такім каталогам, як і весці яго — даволі нязручна. Але такая ўжо векавая традыцыя. Ламаць жа традыцыі тут намнога цяжэй, чым у іншых краінах. Зрэшты, нязручныя каталогі — дробязь. Куды важней, што бібліятэка сапраўды багатая і што ў ёй ёсць патрэбныя мне выданні.

І раптам — першае расчараванне. Калі я запоўніў бланкі заказаў і падаў іх дзяжурнай, яна, з застыглай усмешкай на твары, адказала, што кнігі могуць быць дастаўлены ў чытальную залу толькі на заўтра, а рукапісы — ажно на паслязаўтра. Маўляў, сховішчы знаходзяцца ў іншых будынках, пасыльныя туды ходзяць рэдка... Пасля лонданскай Нацыянальнай бібліятэкі, дзе кнігу прыносяць табе па рабочае месца праз паўгадзіны пасля заказу, гэта мне здалося, мякка кажучы, ненармальным. Але што зробіш. Са сваім статутам у чужы манастыр не палезеш. Толькі вось чым заняць час, запоўніць вакуум, які нечакана

ўтварыўся? Ну, зразумела, трэба найперш паглядзець горад. А можа, і схадзіць у кіно. Больш месяца я ў Англіі, а ні разу не выбраўся ў кінатэатр. У прыгарадзе Фінчлі, дзе я жыў у Лондане, усе тры кінатэатры аказаліся закрытымі ў сувязі з крызісам. А на дадатковую паездку ў цэнтр не хацелася губляць дарагі час.

Выбраўшыся з бібліятэкі на галоўную вуліцу Оксфарда (ёю, вядома ж, аказалася Хай-стрыт: Высокая або Вялікая), я найперш купіў ілюстраваны турысцкі інфарматар, а разгарнуўшы яго, даведаўся, што знаходжуся ў «залатым сэрцы Англіі». І сапраўды, прыгледзеўшыся да старых будынкаў, заўважаеш, што яны пафарбаваны, у адрозненне ад шэрага Лондана, у жоўта-залацісты колер. Прынамсі, галоўныя, якія ўтвараюць сілуэт горада: круглы Шэлданскі тэатр, узведзены таленавітым архітэктарам К. Рэпам у 1699 годзе, камера Радкліфа, частка бібліятэчных збораў, сярэдневяковыя саборы і універсітэцкія каледжы. І сілуэт гэты непаўторны: у Оксфардзе, як нідзе болей, выявіла сябе так званая вертыкальная готыка. Кожны стары гмах упрыгожаны ажурнымі вежамі і купаламі, над якімі яшчэ тырчыць па некалькі шпіляў. І калі глядзець з узгорка, перад табой паўстае густы залацісты грэбень, вострыя зубы якога нацэлены прама ў неба.

Асабліва прывабныя старыя універсітэцкія дворыкі. Вароты ў іх упрыгожаны багатай разьбой, сцены абвіты шматфарбнымі раслінамі. Акуратна падстрыжаныя газоннымі зелянеюць на адным і тым жа месцы па некалькі соцень год. З павагай глядзіш на адпаліраваныя падэшвамі камяні: па іх маглі хадзіць Томас Мор і Эразм Ратэрдамскі, Адам Сміт і Джон Лок, якія тут жылі, будучы выкладчыкамі або студэнтамі. Кожны універсітэцкі каледж (а іх тут каля сарака) мае свае традыцыі, свае легенды, сваю гісторыю, часта вельмі даўнюю. Скажам, пачатак Мертан-каледжа губляецца ажно ў XI стагоддзі! А яго бібліятэка нязменна існуе ў адным і тым жа скляпеністым памяшканні з 1379 года!

Сённяшнія студэнты універсітэта жывуць (вядома, за дарагую плату) у тых жа асобных пакойчыках, разам ядуць за тымі ж доўгімі пачарнелымі сталамі, што іх папярэднікі ў далёкім XV ці XVI стагоддзях. З той толькі розніцай, што ў пакойчыкі праведзены электрычнасць і газ, а васковыя свечкі ў кандэлябрах, якія ўпрыгожваюць сталы, заменены электрычнымі лямпачкамі. Ды яшчэ папярэднікі не ведалі веласіпедаў, на якіх цяперашнія студэнты гойсаюць па вуліцах, па спецыяльна адведзеных уздоўж тратуараў палосах, дабіраючыся на заняткі, у магазіны ці на сяброўскую гаворку ў пракураным «пабе». Каля любога будынка, уздоўж сцен або ў спецыяльных гнёздах,

выстройваюцца цэлыя чароды гэтых веласіпедаў… Што зробіш! Хаця ў Оксфардзе вучыцца пераважна моладзь з багатых, арыстакратычных сем'яў, але і ёй пры цяперашняй дарагоўлі даводзіцца эканоміць і на гарадскім транспарце і, тым больш, на бензіне (калі ў каго ёсць свая машына). А, з другога боку, яно і зручна: на веласіпедзе ад нікога ты не залежыш, мускулы развіваеш і паветра не забруджваеш...

На маё здзіўленне, ці не адзіным грамадскім будынкам, каля якога ў той дзень не пабачыў я веласіпедаў, быў... кінатэатр. Знаходзіўся ён на людным месцы, побач з фешэнебельнымі магазінамі, дзе вітрыны пераабсталёўваліся ўжо па калядны лад, побач з капліцай у памяць аб публічным спаленні нейкага біскупа, каля якой на агароджы «кейфавала», ці, па-англійску, «плыла» моладзь з характэрным наркатычным бляскам у вачах. Аднак я быў першым гледачом, які купіў білет (за два фунты і 10 пенсаў!) на дзённую праграму. Адзіным гледачом, перад якім за дзесяць мінут да сеанса адчынілі дзверы ў вялізную залу. Для мяне аднаго прагучаў заклік перасесці направа, калі я куру, ці перасесці налева, калі я не куру. І толькі пасля самай рознай кінарэкламы ў залу ўвалілася, галёкаючы, з дзесятак юнакоў — мусіць, з тых, што «пакейфавалі» марыхуанай ці гераінам. Дзяўчаты, што прыцягнуліся ўслед за імі, пачалі смаліць папяросы — не зважаючы на тое, правы гэта бок залы ці левы. Густы дым засціў экраннае палатно. І мне давялося перасесці амаль на першы рад, балазе свабодных месцаў было поўна.

І вось пачалося... Да Англіі я не раз чытаў аб так званым «масавым» мастацтве на Захадзе. Але ніколі не ўяўляў, што яно можа аж так нізка дэградаваць. У Англіі існуе строгая, нібыта пурытанская цэнзура. Кожны кінатвор атрымоўвае свой «сертыфікат»: адно А, два А або «зорачку», калі там ёсць секс ці жорсткасць. Перад стужкамі, уключанымі ў сённяшнюю праграму, таксама дэманстраваліся замацаваныя подпісамі цэнзараў дакументы, якія дазвалялі паказ абодвух фільмаў — і амерыканскага «Гардона юрлівага», і французскай «Прыватнай нянечкі» — для шырокай аўдыторыі. І ўсё ж даць такі дазвол маглі толькі людзі, для якіх інтарэсы бізнесу стаяць вышэй і за густ, і за элементарную сумленнасць.

Мяркуйце самі. У першым фільме, «Гардоне юрлівым», пастаўленым Говардам Зікмам, прымітыўна-вытанчаны секс спалучаецца з жахамі і гвалтам. Пачынаюцца падзеі з катастрофы самалёта, у якім усе — і пасажыры, і каманда — сталі, пад уплывам невядомых іскраў, займацца не тым, чым трэба. Аказваецца, гэта планета Порна бамбардзіруе зямлю сваімі «сексуальнымі зарадамі»... Каб выбавіцца ад іх, героі фільма (гераіня, вядома ж, у касцюме Евы) лятуць па касмічным

караблі, жадаючы расправіцца з жорсткім валадаром далёкай планеты. Тое, што яны там пабачылі, вельмі далёка выходзіць за межы прыстойнасці. Якіх толькі монстраў — ад робатаў да цыклопаў — не спакушае прыгажосць адважнай зямлянкі. Якіх толькі групавых оргій не напрыдумваў рэжысёр дзеля касавасці фільма! Аднак усё, як і трэба было чакаць, завяршаецца шчасліва: зямляне эфектна ўзрываюць замак-логава падобнага да японскага самурая дыктатара планеты Порна і вяртаюцца назад у цудам выратаваным караблі.

Калі ў першым фільме можна было, пры паблажлівым стаўленні, знайсці хоць нешта дадатнае (усё ж героі нібы змагаюцца супраць прымусу ды і тэхнічна здымкі зроблены на высокім узроўні), то другі, «Прыватная нянечка», проста пазбаўлены ўсялякага сэнсу. Жыхары вялікага і змрочнага дома ўвесь час займаюцца толькі тым, што дэманструюць самае інтымнае ў чалавечых узаемаадносінах. Паміраюць ад сексу або, наадварот, дзякуючы яму вылечваюцца ад доўгай хваробы. Ніякіх клопатаў, ніякіх сацыяльных і маральных праблем — жывёльны пачатак бярэ верх над чалавечым. І хлопцы ў зале, «раскейфаваўшыся» яшчэ болей ад духоўнай атруты, іржуць і рагочуць, уторачы героям. Чужая нікчэмнасць з'явілася для іх своеасаблівай індульгенцыяй: калі ўсё дазволена тым, на экране, то чаму нешта не дазволена ім?!

Пасля ўсяго такога выходзіш з кінатэатра спустошаны і раструшчаны. Нельга ж вось так здымаць з гледача ўсялякія маральныя тармазы, атупляць і дэмаралізаваць яго! Нельга так дэгуманізаваць чалавека, дээстэтызаваць жанчыну! Мне здавалася, што, выйшаўшы, каля кас я пабачу пікеціроўшчыц, якія будуць пратэставаць супраць дэманстрацыі такіх фільмаў, што пазбаўляюць іх усялякай паэтычнасці і рамантычнасці. Але нічога падобнага, зразумела, я не пабачыў і не мог пабачыць. Вось каб у фільмах здзекаваліся з ката ці сабакі, то Каралеўскае таварыства па апецы пад жывёлай арганізавала б які пратэст. А чалавек — не жывёла, усё стрывае.

— Поскудзь, пане браце! — сказаў бы пра такое на маёй Астравеччыне стары Эйнік, апошні прадстаўнік мясцовага дробнашляхецкага роду. Але ён памёр. Задоўга да таго, як за акіянам прыдумалі планету Порна...

А ёсць жа, падумалася, яшчэ фільмы, якія цэнзуру не праходзяць, для якіх і дзесяці зорачак не хапіла б. Ідуць яны, мяркуючы па рэкламе, у закрытых залах для такой жа багемнай моладзі, толькі больш багатай.

*30 лістапада*

За снеданнем пажаліўся Валатоўскаму, што вось учора выбраўся ў кіно, але толькі змарнаваў час, бо фільмы аказаліся ніжэй усялякай крытыкі.

— Што вы хочаце,— дасведчана адказаў Ігар.— Кіно тут не вытрымлівае канкурэнцыі з фірмамі, якія выпускаюць відэакасеты. Купі або пазыч — і круці дома, праз тэлевізар, колькі захочаш. Таму гаспадары кінатэатраў або канчаюць банкруцтвам, або паказваюць амерыканскія кічы. Але ёсць у Оксфардзе кінатэатр «Фенікс», дзе ідуць і добрыя старыя фільмы.

— А па якой вуліцы гэты «Фенікс»?

— На Уолтан-стрыт. Ціхай глухой вулачцы за Ашмалейскім музеем. Магу паказаць — якраз сёння вольны вечар выдаўся.

— Не, дзякую. Сёння давядзецца папрацаваць. Недзе мяне ўжо заказаныя кнігі чакаюць.

У славістычнай секцыі Бадліянскай бібліятэкі сапраўды ўжо выканалі мой заказ. Але не цалкам. Найбольш рэдкія кнігі давядзецца глядзець там, дзе яны захоўваюцца,— у зборах дзюна Хамфры... Задавальняюся тым, што ёсць. Гартаю выданні XVIII-XIX стагоддзяў, у якіх гаворыцца пра нашага Францыска Скарыну. Аказваецца, нашага першадрукара ведалі па Захадзе куды лепш, чым гэта нам уяўлялася раней. Скажам, нямецкі вучоны Ёган Давід Міхаэліс у трэцім выданні сваёй кнігі «Уводзіны ў гісторыю гатычных выданняў Новага запавету» (Гецінген, 1777) сцвярджаў, што самы першы з вядомых яму «рускіх» перакладаў Бібліі быў зроблены ў Празе «стараннем доктара медыцыны Францa Скарыны». Аўтар заклікаў збіраць звесткі пра гэтага загадкавага для яго чалавека, які, відаць, быў «пражскім вучоным», шукаць скарынінскія выданні ў маскоўскай сінадальнай бібліятэцы.

У Англіі ж першым, яшчэ да Гендэрсона, згадаў пра Скарыну Джэймс Таўклі. У яго кнізе «Біблійныя анекдоты, якія ілюструюць гісторыю Свяшчэннага пісання і яго ранняя пераклады на розныя мовы», выдадзенай у Лондане ў 1813 годзе, гаворыцца наступнае: «Адным з самых старых выданняў Бібліі, друкаваных рускім шрыфтам, з'яўляецца «Пяцікніжжа» памерам у чацвёрку. Яно было перакладзена Францыскам Скарынам, доктарам медыцыны, і надрукавана ў Празе ў 1519 годзе. «Пяцікніжжа» выдадзена на добрай паперы, цудоўнымі кірылічнымі літарамі, з нямногімі абрэвіятурамі або зусім без іх».

Для нас асабліва цікава, што англійскі бібліст асуджаў Скарыну за зневажальную, «апаганьваючую» гравюру да «Пяцікніжжа». На ёй, маўляў, паказаны анёлы, якія «ўступаюць у адзінаборства з пякельнымі духамі, а над імі — святая тройца, прадстаўленая ў выглядзе

старога з трыма абліччамі, які ўзнімае руку, бласлаўляючы іх». Іх — гэта значыць і анёлаў, і д'яблаў, што з пункту гледжання артадаксальнай рэлігіі, вядома, здавалася блюзнерствам.

Аднак далей Таўнлі мяняе тон і хваліць «Пяцікніжжа» за тое, што да кожнай часткі ў ім ёсць прадмова, а ў кожным раздзеле — рэзюме. «Усё разам упрыгожана гравюрамі, загалоўнымі літарамі і віньеткамі». Урэшце, англійскі даследчык называе скарынінскі пераклад “Дзеянняў і пасланняў» («Апостала»), выдадзены ўжо у Вільні.

Карыстаючыся выпадкам, заглянуў у картатэку славістычнай секцыі: цікава, што тут ёсць з беларускіх кніг. Аказалася, вельмі мала. З мастацкай літаратуры — толькі першы зборнік Паўла Марціновіча «Прадвесне» і некалькі эмігранцкіх выданняў . З літаратуразнаўства — толькі «Загадка беларускай «Энеіды» Генадзя Кісялёва і «Ад задумы да здзяйснення» Міхася Мушынскага. З перакладаў — лонданскае выданне «Сотнікава» Васіля Быкава і анталогія беларускай паэзіі, падрыхтаваная Вэрай Рыч. А дзе шматтомныя выданні нашай класікі? А дзе нашы сучасныя пісьменнікі?

— Мала ў нас беларускіх кніг,— пагаджаецца кіраўнік славістычнай секцыі Грэгары Уолкер, якому я адрасаваў свае пытанні.— Не даходзяць яны да нас... Крыху больш ёсць у Тэйларыянскім інстытуце. Схадзіце туды, адшукайце Дэвіда Говелса. Ён вам паможа.

І як гэта я забыў пра тое, што мне раіў Джэры Стоўн! Заўтра абавязкова пайду ў Тэйларыянскі інстытут! А сёння, пакуль ёсць вольны час, пагартаю яшчэ паланістычную картатэку. Гісторыя ж нашага пісьменства так цесна звязана з гісторыяй польскай літаратуры.

З картатэкі выбраў чатыры пазіцыі: выдадзеныя на эміграцыі ўспаміны Марыі Чапскай (з тых Чапскіх, якім належала Станькава) «Еўропа ў сям'і», аўтабіяграфічны раман ураджэнца Бабруйшчыны Міхала Паўлікоўскага «Дзяцінства і маладосць Тадэвуша Іртэнскага», зборнік артыкулаў вядомага рэакцыянера Станіслава Мацкевіча-Цата «Адышлі ў змрок» і кнігу Валяр'яна Мейштовіча «Пайшло з дымам», выдадзеную ў Лондане ў 1973 г. Прозвішча апошняга аўтара, помнілася, таксама неяк звязана з Беларуссю.

Пасля абеду чытаў успаміны Марыі Чапскай. Яна падрабязна апісвае дарэвалюцыйны Мінск, маёнтак у Станькаве. Выказвае нават сімпатыю да Савецкай улады. Але агульны тон успамінаў не спадабаўся. Чапская хваліцца, з якімі славутымі еўрапейскімі родамі была ў сваяцтве яе сям'я, з гордасцю згадвае, як у дзяцінстве яна збірала паштовыя маркі, каб дапамагчы негрыцянскім дзецям. А пра

беларусаў, беларускіх сялянскіх дзяцей, якія жылі і пакутавалі побач,— у кніжцы ні слова!

Вечарам пахаладала. На дахі і дрэвы пачаў асядаць іней. Але оксфардскія студэнты па-ранейшаму хадзілі ў пінжаках. А аднаго бачыў нават у кашулі. Прызвычаіліся, ці што? Мне ж ноччу двойчы даводзілася вылазіць са свайго «канверціка» (дзеля цеплыні коўдра з усіх бакоў засоўваецца пад матрац), каб укінуць у ненасытнае жэрала лічыльніка чарговую пяціпенсавую манету.

*1 снежня*

У бібліятэцы Тэйларыянскага інстытута, студэнты якога вывучаюць замежныя мовы, беларускіх кніг сапраўды аказалася куды больш, чым у «Бадліянцы». Дэвід Говелс, перасоўваючы рухомыя і таму вельмі эканомныя паліцы, паказаў мне зборы твораў нашых класікаў, працы па гісторыі, мастацтву, фальклору. Аднак многіх кніг апошніх год выдання я не пабачыў.

— Ведаеце,— апраўдваецца і адначасова нібы папракае мяне Говелс,— у адрозненне ад рускіх ці ўкраінскіх беларускія выданні вельмі цяжка заказваць. У рэкламны бюлетэнь «Международной книги» яны трапляюць выключна рэдка. Праўда, ёсць яшчэ штогодні каталог новых савецкіх кніг на беларускай мове, але выходзіць ён (у вашым жа выдавецтве «Беларусь») з вялікім спазненнем. Закажаш указаную ў ім кнігу — і атрымоўваеш адказ: на жаль, увесь тыраж ужо вычарпаны. Так вы пазбаўляецеся валюты, а мы — патрэбнай для нас літаратуры! І ведаеце,— Говелс дапытліва глянуў на мяне,— у сувязі з гэтым у нас ходзяць чуткі, нібы тыражы беларускіх кніг увесь час змяншаюцца, нібы іх у вас увогуле цяжка купіць...

— Няпраўда! Наадварот, тыражы кніг растуць. Гадоў

з дваццаць назад тыраж нават у тры — пяць тысяч экземпляраў лічыўся вялікі. Беларускія кнігі тады залежваліся, уцэньваліся. А цяпер сітуацыя змянілася. Творы Мележа, Быкава, Шамякіна, Брыля, Караткевіча выходзяць тыражом у сорак — шэсцьдзесят тысяч — і, уявіце сабе, расходзяцца, раскупляюцца ўмомант. Ці такі факт. З'явіўся нядаўна беларускі пераклад «Рабінзона Круза». Тыраж — 110 тысяч. І ўсё знікла імгненна.

— Выходзіць, хлусяць нашы газеты... Тое, што вы расказалі, асабліва мяне ўражвае. Бо я, няхай вам будзе вядома, з Уэльса. А яго жыхары, валійцы,— невялікі, але старадаўні народ, які ўзыходзіць да кельцкіх плямёнаў. Мова наша таксама старажытная і адметная. Але гавораць на ёй далёка не ўсе валійцы. Пачатковая адукацыя ў нас, праўда, на роднай мове. Аднак сярэдняя і вышэйшая — на англій-

скай. Моладзь часта цураецца свайго, забывае свае карэнні... А ў вас як яно? Газеты неяк пісалі, што ў вас наогул забараняецца гаварыць па-беларуску. Дзейнічае, прабачце за выражэнне, рука Масквы...

— Прычым тут «рука Масквы»,— не вытрымаў я.— Цікава тады, чаму ж гэтая рука ў Грузіі, у Літве^ ва Узбекістане, у іншых рэспубліках не дзейнічае, а ў Беларусі чамусьці дзейнічае!

— Значыць, у Мінску ўсе гавораць па-беларуску?

— Не, я не сказаў гэтага. У нас — двухмоўнасць. Па-беларуску гаворыць вёска, гавораць учарашнія вяскоўцы ў горадзе, гавораць пісьменнікі...

— Значыць, вы лічыце, што моўнай праблемы ў вас няма?

— Чаму ж, ёсць. Але праблема гэта, я ўжо не раз гаварыў у Лондане, цяпер не палітычная, а маральная, этычная. Кожны сам і толькі сам павінен вырашыць, на якой мове яму гаварыць. Бачыце, многія беларусы адчуваюць, так сказаць, комплекс непаўнацэннасці, уяўны, вядома. Ім здаецца, што беларуская мова — гэта мова вёскі, а руская — мова горада, мова прэстыжная. Чаму склаўся такі комплекс — ужо іншая справа. Тут і стагоддзі сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, і дэнацыяналізацыя, паланізацыя ці русіфікацыя, мясцовага дваранства. Адным словам, да рэвалюцыі ўмовы не спрыялі фармаванню беларускай нацыі. І ў гэтым асноўная прычына, а не ў міфічнай руцэ Масквы. Хто не хоча ў нас парываць са сваімі каранямі, той не парывае. Праблема, паўтараю, ёсць, але гэта хутчэй праблема ўнутранага выбару.

— Як і ў нас,— пагадзіўся Говелс.— Адны арганізоўваюць канцэрты народнай песні, шукаюць сляды даўніны. Другія, а іх большасць, лічаць, што ў наш касмапалітызаваны век усё гэта нікому не патрэбна. Але рацыю маюць першыя. Ці ж не так?

— Цалкам згодзен з вамі. Як і з тым, што беларусы яшчэ не навучыліся як след прапагандаваць сваю культуру, свае кнігі. Таму і не заўсёды яны даходзяць сюды. Вярнуся па радзіму — буду гаварыць пра гэта.

— А цяпер давайце паглядзім бібліятэку Мофіла,— прапанаваў Говелс.— Не можа быць, каб там не было беларускіх выданняў! Можа, нават з аўтографамі...

У кнігазборы першага оксфардскага славіста сапраўды аказаліся тры беларускія кніжкі — зборнік прыказак І. Насовіча, «Беларускія народныя песні» П. Шэйна і мовазнаўчая праца Я. Карскага. Аднак, на жаль, без аўтографаў.

Бачачы маё расчараванне, Говелс прапанаваў:

— А вы паглядзіце даследаванні самога Мофіла. Мне здаецца, што Беларусь яго цікавіла.

Бяру ў пустую чытальную залу цэлы стос кніг, выдадзеных у Лондане ў канцы мінулага стагоддзя. «Чэхі і славакі», «Палабы», «Скарочаная граматыка сербскай мовы», англійскае выданне «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча з прадмовай У. Мофіла... Не, не тое. Пра Беларусь у іх няма нічога. А можа, вось тут, у працы «Славянская літаратура»? У пачатку яе, на другой старонцы, сапраўды сустракаю такое вызначэнне: «Беларусы, якія насяляюць заходнія губерні (Расіі — А. М.), налічваюць каля чатырох мільёнаў жыхароў». Больш падрабязныя звесткі на старонцы 105: «Гаворачы пра літаратуру на рускіх дыялектах, дарэчы будзе ўключаць сюды беларусаў з Магілёўскай, Мінскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў. Старая літаратура гэтай часткі цяперашняй Рускай імперыі з'яўляецца, наколькі можна сабе ўявіць, даволі нешматлікай. У ранні перыяд, які намі разглядаецца, нялёгка таксама дакладна яе аддзяліць ад вялікарускай і маларускай. Напрыклад, «Слова аб палку Ігаравым», успомненае ў папярэднім раздзеле, больш правільна назваць маларусам... Сярод першых помнікаў беларускай літаратуры знаходзяцца «Судзебнік» 1468 года і «Літоўскі статут», складзены ў 1522-1529 гадах. Беларускія летапісы невялікія, нешматлікія па колькасці і ў цэлым знаходзяцца ў адных і тых жа спісах, што і ўсходнерускія. Некаторыя каштоўныя помнікі апублікаваны ў «Белорусском архиве»; першы яго выпуск, на жаль адзіны, Грыгаровіч выдаў у 1824 годзе».

І далей, на старонках 112-113: «Літаратура беларусаў не вельмі багатая на творы і цяпер амаль цалкам вусная. Зборнікі народных песень публікаваліся Шэйнам, Бяссонавым і іншымі. У 1844 годзе маленькі томік «Вясковых песенак» (Я. Чачота.— А. М.) быў надрукаваны ў Вільні, лацінскімі літарамі, на так званай «славяна-крывіцкай» гаворцы. Аднак, на самой справе, яна з'яўляецца не чым іншым, як беларускай. Крывічы, якіх згадваў Нестар, былі старажытным племем, што насяляла гэты рэгіён. Ёсць добры слоўнік Насовіча, і гэты дыялект паступова становіцца аб'ектам філалагічных даследаванняў». Далей ідзе фраза, якая сведчыць, што Мофіл бываў у Беларусі, праязджаў праз яе: «Што датычыцца самой краіны, дзе жывуць беларусы, то яна, несумненна, з'яўляецца адной з найменш цікавых частак Расіі — як з пункту гледжання маркотнасці і аднастайнасці краявідаў, так і беднасці насельніцтва».

«Для філолага, які займаецца нешматлікімі рэлігійнымі кнігамі і іншымі раннімі публікацыямі на тэрыторыі Беларусі,— працягвае Мофіл,— часам вельмі цяжка дакладна сказаць, на якой яны гаворцы.

Як гэта часта бывае ў выпадку, калі мова мала ўжываецца, мы назіраем вялікае мноства яе формаў. Моўная аспова ў многіх з гэтых кніг з'яўляецца стараславянскай, ёсць таксама шмат паланізмаў. У Вялікім княстве Літоўскім, якое ў значнай ступені дабілася — да сваёй уніі з Польшчай — палітычнай значнасці, беларуская мова выкарыстоўвалася для дыпламатычных мэтаў». На тую ж мову, насычаную, аднак, «многімі стараславянізмамі, Францыск Скарына пераклаў частку Старога запавету, кнігі якога ён друкаваў у Празе ў 1517-1519 гадах, і «Дзеянні і насланні» (Апостал.— А. М.), выдадзеныя ў Вільні ў 1525 г.».

Звесткі пра беларусаў і беларускую мову ёсць таксама ў кнізе Мофіла «Руская мова і яе дыялекты», дзе сказана наступнае: «Некалькі слоў трэба сказаць пра трэці рускі дыялект, які называецца беларускім і на якім гавораць у асобных частках Літвы (маецца на ўвазе Літва гістарычная.— А. М.) і Валыні, асабліва ў Магілёўскай, Мінскай і часткова Віленскай губернях. У ім, безумоўна, многа польскіх слоў і фразаў; доўгі час ён быў афіцыйнай мовай Вялікага княства Літоўскага, хаця ў цэлым так і не ўзняўся над сялянскай гаворкай, не стаў высакародным. Па-беларуску напісаны ўсе летапісныя і юрыдычныя помпікі гэтага народа. Шэрл у сваёй параўнальнай славянскай граматыцы ўказаў на некаторыя асаблівасці гэтай мовы. Вызначаючы яе рысы, можна прыгадаць, што ў беларусаў о пераходзіць у а, напрыклад: сторона — старана... Яе адрозненні ад чырвонарускай або маларускай гаворкі нязначныя і неістотныя, яны практычна ігнараваліся Коўлішам (заходнееўрапейскі філолаг.— А. М.). На беларускай мове Сматрыцкі напісаў сваю «Сінтагму» або граматыку царкоўнаславянскай мовы, апублікаваную ўпершыню ў Полацку (на самой справе ў Еўі.— А. М.) у 1619 (на самой справе ў 1618.— А. М.) годзе.

Згаданы раней слоўнік Насовіча быў выдадзены ў 1870 годзе. Матэрыял, з якога складзены гэты слоўнік, з'яўляецца красамоўным сведчаннем аб належнасці беларускай мовы да славянскай сям'і. Крыніцамі тут паслужылі: 1) фальклор, запісаны (аўтарам.— А. М.) з вуснаў сялян: песні, прымаўкі, паданні, казкі; 2) зборы фальклорных твораў, запісаных у ваколіцах Магілёва, Пінска і Гродна, у правінцыях, што распасціраюцца аж да Віслы; 3) матэрыялы (вельмі скупыя) па беларускай мове і літаратуры, апублікаваныя ў «Отчетах» Імператарскай акадэміі мастацтваў, у працах Маскоўскага таварыства аматараў літаратуры, у «Этнографическом сборнике» Імператарскага геаграфічнага таварыства, урэшце ў зборніках Чачота і Зянькевіча. Некаторыя беларускія песні выдадзены Бяссонавым, але я гэтай кнігі не бачыў».

Урэшце, некалькі слоў пра беларускую мову і літаратуру ёсць у кнізе У. Мофіла «Польшча», выдадзенай у Лондане і Нью-Йорку ў 1893 годзе. Там гаворыцца, што беларусы насяляюць Мінскую, Гродзенскую і іншыя губерні, складалі «больш цывілізаваны элемент» Вялікага княства Літоўскага. «На гэтай мове напісаны афіцыйныя дакументы, якія пасылаліся палякамі сваім літоўскім падданым, напрыклад, Уладзіславам II у 1420-1423 гадах, Казімірам у 1468 годзе, а таксама так званы «Літоўскі статут» 1529 года. Ёй жа прысвечаны граматыка Карскага і слоўнік Насовіча».

Такім чынам, дзякуючы Стоўну і Говелсу я пазнаёміўся з першымі ў Англіі ды, бадай, і ва ўсёй Заходняй Еўропе працамі, у якіх дадзена даволі падрабязная характарыстыка беларускай мовы і літаратуры. У кнігах Мофіла ёсць, безумоўна, і недакладныя сцвярджэнні. Але ў апраўданне яму прыгадаем, што беларусазнаўства ў яго часы толькі пачынала складвацца.

Абедаў сёння ў кітайскай кавярні. За суседнім столікам праўляла нейкае сямейнае міні-свята маладая негрыцянская кампанія. Кожны разбаўляў сваю пяцідзесяціграмовую порцыю джыну стограмовай бутэлечкай «тоніка» — і гэтага для вяселля хапала. Заўважыў я, што ў англійскія кафэ негры амаль не ходзяць, бо там на іх глядзяць скоса. А тут — свабодай. Тут гаспадары — такія ж імігранты.

Пасля абеду ўзяўся чытаць Станіслава Мацкевіча-Цата, чыё імя было калісьці добра вядома ў Заходняй Беларусі. Здзівіла, што гэты рэакцыянер не адмаўляў, а наадварот сцвярджаў «беларускасць» Адама Міцкевіча. У яго кніжцы «Адышлі ў змрок» ёсць такое выказванне: «Вось і Міцкевіч, гэты тытан паэзіі, гэты паэт, якога не было і не будзе, гэты творца польскай мовы, парушаў усялякія правілы граматыкі. Да свісцячай польскай мовы дадаваў мяккасць і чуллівасць мовы беларускай, якая туліла яго ў калысцы. Нездарма казаў ён, што самая прыгожая паэзія ў свеце — гэта песенька, якую ён пачуў у вёсцы:

Да цераз мой двор...»

І далей, праз сотню старонак, зноў: «Міцкевіч збеларушчыў польскую мову самым неграматычным чынам, гэта значыць узняў яе пад нябёсы».

Аналагічныя думкі, прыгадалася, выказаны Цатам і ў варшаўскім часопісе «Керункі» (1956, № 10): «Ёсць разумныя знаўцы, якія не без рацыі сцвярджаюць, што палавіна напісанага Міцкевічам не дастасоўваецца да норм добрай польскай мовы. Міцкевіч быў магутным павевам беларускай мовы, магутным прадаўжальнікам таго ўплыву беларускай мовы на мову польскую, што пачаў дзейнічаць яшчэ ў XV

стагоддзі, што яе далікацыю, дасканаліў, аддаляў ад няўклюдных форм мовы, супольнай з чэхамі, якой палякі гутарылі ў XIV стагоддзі. Што засталося б ад Элізы Ажэшка, калі б мы з яе прозы, з яе апісанняў, тугі, рэалізму выкінулі ўсе правінцыялізмы, беларусізмы дый проста русізмы?»

А мы чамусьці баімся сказаць (каб нібы не пакрыўдзіць суседзяў), што Міцкевіч і Ажэшка мелі самае непасрэднае дачыненне таксама да шматмоўнай літаратуры Беларусі.

*2 снежня*

Каб перад сённяшняй паездкай «увайсці» ў эпоху Шэкспіра, з раніцы чытаў у бібліятэцы матэрыялы па беларускай літаратуры XVI стагоддзя — пра Скарыну і Буднага. Яны ж, і Шэкспір, і нашы асветнікі, былі сынамі адной і той жа эпохі Рэнесансу, яе тытанамі. Шэкспір нарадзіўся праз год пасля таго, як Будны выдаў у Нясвіжы першую беларускую кніжку па тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пры жыцці Шэкспіра, у 1584 годзе, з'явілася першая інтэрмедыя, дзе чалавек з народа, віленскі шавец, асоба, у нечым падобная да Фальстафа, загаварыў на беларускай мове. На жаль, Каспара Пянткоўскага, аўтара інтэрмедыі, ніяк нельга мераць па таленту з Шэкспірам.

У дзённым і таму пустым аўтобусе па Стратфард пашкадаваў, што ўжо раздарыў у Лондане прывезеныя з сабой беларускія пераклады вялікага англічаніна. Выдадзены яны прыгожа — і ранейшыя «Гамлет», «Санеты», «Кароль Лір», і сёлетняя навінка «Антоній і Клеапатра». Перакладалі іх майстры сваёй справы — Юрка Гаўрук, Уладзімір Дубоўка, Язэп Семяжон... Адным словам, было б чым пахваліцца ў музеі Шэкспіра! Ды нічога, калі спатрэбіцца, калі будзе каму, раскажу пра тое, якой папулярнасцю карыстаюцца ў нашых тэатрах пастаноўкі шэкспіраўскіх трагедый і камедый. І не толькі шэкспіраўскіх. Часта ў нас ідуць п'есы Бернарда Шоў. Добра выдадзены Байран. Ёсць беларускія пераклады Ч. Дзікенса («Домбі і сын», «Вялікія чаканні»), В. Скота («Айвенга»), Д. Свіфта («Гулівер»), Г. Уэлса (ажно тры кніжкі), О. Уайльда, Р. Стывенсан. Праўда, пераважна гэта выданні 20-30-х гадоў, у апошні час перад англійскімі пісьменнікамі мы ў даўгу. Але ж, падумалася, яшчэ ў большым даўгу перад намі англічане: з беларускай мовы тут перакладае адна Бэра Рыч. Выйшаў яшчэ «Сотнікаў» В. Быкава, але ў перакладзе з рускай мовы — у прадмове нават не адзначана, што гэта беларускі пісьменнік.

Аднак паразважаць пра ўсё гэта ў шэкспіраўскім музеі не давялося. У касе, дзе мы куплялі білеты (цана даволі высокая — 80 пенсаў), нават не пацікавіліся, адкуль мы і хто. Экскурсаводаў тут

няма — набывай даведнік і тлумач усё сабе сам. І кнігі водгукаў у нашым разуменні няма — запісваеш толькі сваё прозвішча і краіну, каб потым статыстыкі мелі падставы для падлікаў. З тых жа статыстычных звестак мы даведаліся, напрыклад, што турыстаў з Вялікабрытаніі (53 тысячы) у 1981 годзе было ў музеі... меней, чым з ЗША (63 тысячы). Наведвальнікаў з Савецкага Саюза налічана няшмат — усяго 212 чалавек. І вінавата ў гэтым перш за ўсё атмасфера «халоднай вайны».

Сам Шэкспіраўскі музей робіць незабыўнае ўражанне. Як і большасць дамоў Стратфарда, яго двухпавярховы будынак, гаворыцца ў даведніку, «напалову драўляны, напалову мураваны». Калісьці ў наваколлі раслі вялікія дубовыя лясы. Непадалёку, у Уайлмкоўце, былі багатыя запасы каменю, які лёгка шчапаўся. І вось з тоўстых дубовых брусоў, злёгку абчасаных, рабіўся каркас, які унутры запаўняўся каменнем або цэглай. Каменныя часткі потым з абодвух бакоў, ад вуліцы і з сярэдзіны, атынкоўваліся, бяліліся. І атрымоўваліся чорна-белыя, квадратныя або падоўжаныя соты. Усё гэта зверху надбудоўвалася мудрагелістымі мансардамі, пакрывалася стромкімі дахамі з чырвонай ці шэрай дахоўкі. У выніку атрымаўся стыль, якога, апрача Стратфарда і бліжэйшых гарадкоў, няма больш нідзе на свеце.

На жаль, цяперашні музей, хоць ён і носіць назву

«Месца нараджэння Шэкспіра», знаходзіцца не ў аўтэнтычным будынку. Ад таго, сапраўднага, захавалася толькі падлога з гладкіх каменных пліт. Усё астатняе адбудавана ў XIX стагоддзі (месца было выкуплена на сабраныя ахвяраванні ў 1847 годзе) у адпаведнасці са старымі чарцяжамі і духам аддаленай у часе эпохі. Асабістых рэчаў Шэкспіра амаль не захавалася. У асобнай вітрыне ляжаць толькі рэшткі шкла, манеты і кавалак грабянца, якія былі знойдзены пры раскопках па месцы старога дома. Іх, безумоўна, мог трымаць у руках юны Уільям, але мог і не трымаць... Ёсць копіі дакументаў, якія сведчаць, што менавіта тут, на вуліцы Хінлі, знаходзіліся жытло і крама яго бацькі, Джона Шэкспіра. Ёсць яшчэ старыя партрэты, кнігі, якімі драматург карыстаўся, пішучы свае трагедыі на гістарычныя тэмы. Аднак «аўтэнтычная» атмасфера ствараецца не асобнымі экспанатамі, скупа размешчанымі ў рэдкіх вітрынах, а дакладна ўзноўленым абсталюнкам стратфардскага жылога дома XVI стагоддзя — залы, спальні, кухні. Цагляныя каміны-палянішчы з падвешанымі чыгункамі. Драўляны ложак з двума гранёнымі слупкамі замест звычнай для нас задняй сценкі. Драўляная калыска на падлозе з разнымі бакамі і плоскім дашкам там, дзе павінна быць галоўка дзіцяці. Вышчарбленая вякамі масіўная дубовая парта, за якой мог вучыцца

Шэкспір. Пачарнелыя крэслы з высокімі падлакотнікамі. Калаўроце — не вертыкальны, як у нас, а плоскі, гарызантальны. Масіўныя скрыні з сакрэтнымі замкамі, жалезныя падстаўкі для лучыны, начышчаны медны посуд. І кветкі, усюды букеты асенніх кветак, нібы гаспадары гэтага суровага дома не памерлі стагоддзі назад, а выйшлі на хвіліну, каб не бянтэжыць сваёй прысутнасцю даволі рэдкіх наведвальнікаў.

Выходзячы, мы з Ігарам выказалі адзін другому здзіўленне, што ў музеі ніяк не паказана сусветная (у тым ліку савецкая, беларуская) слава Шэкспіра. Мусіць, прыйшлі мы да вываду, такія матэрыялы сабраны ў сучасным будынку Шэкспіраўскага цэнтра, узведзеным побач у 1964 годзе, калі святкавалася 400-годдзе з дня нараджэння драматурга. Мяркуючы па даведніку, там ёсць бібліятэка, архіў, праводзяцца розныя чытанні і выстаўкі (якраз была выстаўка адзення шэкспіраўскай эпохі). Але з-за позняга часу ў цэнтр мы ўжо не трапілі. І перад ад'ездам у Оксфард рашылі паглядзець горад.

Калі Лондан нейкі шэры, а Оксфард — залацісты, жоўты, то Стратфард — увесь бела-чорны. Дамы нібы разлінаваны пачарнелымі дубовымі брусамі, якія трымаюць пабеленыя каменныя «закладкі». Увесь горад, асабліва цэнтральныя Хай-стрыт і Чэрч-стрыт, па якіх у дзень нараджэння Шэкспіра праходзіць стылізаваная працэсія, здаюцца нейкімі карнавальнымі, казачнымі, цацачнымі. Усе гасцініцы і кафэ ў цэнтры названы, зразумела, імем славутага драматурга або яго папулярных герояў. Яго ж партрэты — на самых розных таварах у шматлікіх сувенірных крамах. У Стратфардзе не толькі ганарацца сваім вялікім земляком, але і робяць на ім звычайны бізнес.

У вячэрнім змроку, што ствараў адпаведны ўзнёсла-таямнічы настрой, мы агледзелі яшчэ гатычную царкву Святой тройцы, дзе Шэкспір пахаваны, квадратны карабок Каралеўскага шэкспіраўскага тэатра, які глядзіцца ў цёмныя воды Эйвана, каменныя арачныя масты, перакінутыя праз рэчку яшчэ ў XV стагоддзі. Над той жа рэчкай узвышаецца помнік Шэкспіру, зроблены ў 1888 годзе. Найвялікшы з англамоўных пісьменнікаў задуменна сядзіць у крэсле, пастаўленым на купале невысокай (і, як нам здалося, крыху безгустоўнай) калоны, а паблізу застылі ў бронзе ягоныя славутыя героі — Гамлет, ледзі Макбет, Фальстаф і прынц Хол (на месцы апошняга я паставіў бы Джульету).

Можна было б яшчэ паглядзець сядзібу маці Шэкспіра ва Уайлмкоўце і домік Эн Хэтуэй, жонкі драматурга, у Шотэры. У адрозненне ад будынка, дзе ён нарадзіўся, гэтыя мясціны захаваліся ў сваім першапачатковым выглядзе і цяпер клапатліва ахоўваюцца так званым Шэкспіраўскім трэстам, напалову дабрачынным, напалову ка-

мерцыйным. Аднак дарога туды была даволі далёкая. Заставацца ж нанач не мела сэнсу. І мы, перакусіўшы крыху ў бараку аўтастанцыі («вакзалы — не кажуць англічане, таму будуюць іх абы-як), вярнуліся ледзь не апошнім аўтобусам у Оксфард. Адчувалася крыху стома. Але паездкай мы былі задаволены: многа пабачылі, многа даведаліся. Радзіма Шэкспіра перастала для нас быць бесцялесным геаграфічным пунктам і цяпер стане асацыіравацца з асабістымі ўражаннямі.

У аўтобусе было даволі ціха (тут машыны ўвогуле робяць менш шуму і грукату, чым у нас), і мы з Валатоўскім разгаварыліся пра Англію і англічан. Ігар знаходзіцца ў Оксфардзе ўжо некалькі месяцаў, таму яго назіранні больш markdownрознабаковыя, даюць падставы для больш грунтоўных абагульненняў.

— Мае кантакты з шэфам, доктарам Уотсам,— кажа ён,— амаль бездакорныя. Тут добрае лабараторнае абсталяванне, багаты выбар рэактываў, акуратны дапаможны персанал...

— Прабачце, Ігар, але я, сорамна прызнацца, нават не ведаю, чым вы займаецеся. Ведаю толькі, што вы ў Інстытуце фотабіялогіі, ледзь не самы малады ў нашай Акадэміі доктар навук, раней вялі грамадскую работу ў камітэце камсамола. А больш — нічога...

— Разам з англійскімі калегамі мы цяпер даследуем малекулярны механізм зроку. Устанаўліваем, як бы тут прасцей сказаць, структурныя ўласцівасці таго асноўнага будаўнічага рэчыва, з якога складаюцца чалавечыя зрэнкі. А ўстанавіўшы, зможам адказаць на пытанне, чаму наш зрок здольны ўспрымаць святло нават у малых колькасных.

— Выходзіць, работа мае і практычнае значэнне?

— І тэарэтычнае, і практычнае. Мадэліруем некаторыя агульныя працэсы, што адбываюцца ў воку. Вынікі апублікуем у часопісах — савецкіх і англійскіх. А потым практыкі змогуць гэта выкарыстаць, скажам, пры лячэнні вочных хвароб лазерным выпраменьваннем.

— Апрача навуковых кантактаў былі, відаць, і асабістыя? Мне дагэтуль неяк не ўдавалася пагаварыць з англійскімі рабочымі, фермерамі. Проста ж так не падыдзеш і не загаворыш — гэта ўспрымаецца тут як нявыхаванасць... А вам, Ігар, даводзілася сустракацца з рабочымі?

— Хоць зрэдку, але даводзілася.

— І што? Якія іх думкі? Што яны ведаюць пра нас?

— Ведаюць вельмі мала. І здзіўляюцца, калі ім расказваеш элементарныя ісціны. Асабліва іх шакіруе, што ў нас такая нізкая плата за жыллё, за камунальныя паслугі. «Наш урад праводзіць не тую

палітыку, якая патрэбна простым людзям!» — сказаў мне ў канцы размовы адзін рабочы, які абслугоўвае нашу лабараторыю.

— А ў цэлым англічане як нацыя?

— Мне падабаецца іх дзелавітасць, сумленнасць, працавітасць, акуратнасць і не падабаецца іх імкненне да грошай і ўлады, іх рацыяналістычнасць. Англічанін зробіць для цябе ўсё, але толькі ў межах, прадугледжаных яго службовымі абавязкамі... Быў у мяне такі анекдатычны выпадак. Выйшаў у агульную ванную з пакоя, зашчоўкнуў дзверы — а ключ застаўся на стале. Дзень суботні, вечар, я ў мінімальным адзенні, а прыбіральшчыцы з запаснымі ключамі няма. Прашу ў жанчыны, якая працуе ў інтэрнаце, ведае мяне: схадзіце, прынясіце ключ, тут жа недалёка. Не, кажа, гэта не ўваходзіць у мае абавязкі...

— Ну і чым скончылася?

— Выручылі амерыканцы, суседзі мае па пакоі. Запрасілі да сябе, схадзілі па запасны ключ... І чым тлумачыцца такая чэрствасць англічан, такая некамунікабельнасць?!

— Можа, замкнутым, астраўным геаграфічным становішчам? Суровай гісторыяй, дзе поўна захопаў, пераваротаў, крывавых пакаранняў...

— Магчыма. І яшчэ традыцыйнай ганарлівасцю. На еўрапейскі кантынент англічане глядзяць як па нешта ніжэйшае...

*3 снежня*

Лацінскае пісьмо Сымона Буднага, датаванае 1574 годам і адпраўленае з Лоска, захоўваецца цяпер у калекцыі Раўлінсона пад нумарам 107-с. Гэта тоўсты, пераплецены ў скуру канвалют (зборнік) розных матэрыялаў. І сярод іх — восем старонак, чатыры вялікія лісты (97-100), спісаныя вуглаватым рашучым почыркам Буднага.

Аўтограф беларускага асветніка прынеслі мне ў чытальную залу дзюка Хамфры, дзе ў арачных вокнах свецяцца рознакаляровыя вітражы-малюнкі, з партрэтаў на чытача пазіраюць суровыя дзяржаўныя мужы, а падпёртая разнымі бэлькамі-кранштэйнамі столь размалявана маленькімі квадратамі, і ў кожным з іх — раскрытая кніга з цытатай. Кнігі, старыя фаліянты таксама стаяць радамі — у тры паверхі — над доўгімі сталамі з пачарнелых дубовых дошак. Лёгка было ўявіць, што на тым жа месцы, дзе ты цяпер сядзіш, маглі сядзець і той жа Фокс, і нават сам Шэкспір (калі бываў у Оксфардзе, вядома).

Што датычыцца Фокса, то пра яго я ўжо сабраў некаторыя звесткі. З энцыклапедый і працы Дж. Мозлі «Джон Фокс і яго Кніга»

(Лондан, 1940) даведаўся, што нарадзіўся ён у 1517, а памёр у 1587 годзе, што быў гэта відны дзеяч Рэфармацыі, палымяны публіцыст. Анабаптысты ў 1565 і езуіты ў 1581 годзе прыгаворвалі яго да пакарання смерцю, але ў абодвух выпадках яго ратавалі шматлікія прыхільнікі і паслядоўнікі. Галоўны твор Фокса, «Кніга пакутнікаў» (1563), заваяваў вялікую папулярнасць сярод ніжэйшых слаёў грамадства і неаднаразова перавыдаваўся. А ў 1571 годзе надрукаваў ён перакладзенае на народную мову Евангелле. Гэта акалічнасць, відаць, асабліва прывабіла Буднага, які тады якраз рыхтаваў свой пераклад Новага запавету (выйшаў ён у Лоску ў 1574 годзе).

Як відаць з самога пісьма, пра Фокса Буднаму расказаў англійскі купец, член гандлёвага таварыства «Маскоўская кампанія» Раф Ратэр, які наведаў Лоск вясной 1574 года. Беларускага друкара тады хвалявалі розныя багаслоўскія і філасофскія пытанні — аб адзінстве святой тройцы, паходжанні Хрыста, бязгрэшным зачацці. Яго трактоўка гэтых праблем далёка адыходзіла ад хрысціянскай дагматыкі. Смелыя погляды Буднага выклікалі асуджэнне мясцовых артадоксаў. І вось ён, шукаючы аднадумцаў, рашыў падзяліцца сумненнямі з Джонам Фоксам, якога Раф Ратэр назваў «светачам». Наколькі можна меркаваць з беглага прагляду пісьма, Будны падрабязна выклаў свае асноўныя палажэнні, даў новую, адметную філалагічную трактоўку асобных мясцін з Евангелля. У канцы беларускі асветнік просіць англічаніна выказаць сваю думку наконт узнятых пытанняў і абяцае, атрымаўшы адказ, выслаць свае кнігі.

Пасланне Буднага да Фокса, безумоўна, патрабуе спецыяльнага вывучэння і, перш за ўсё, перакладу на беларускую мову (цікава было б таксама даведацца, ці адказаў Фокс на гэты ліст). Таму рашыў заказаць фотакопію рукапісу (ксеракапіравальная машына тут не дала б рады). На маё здзіўленне, невялікі заказ (усяго восем старонак) абышоўся ледзь не ў адзінаццаць фунтаў. І прысылаць яго мне абяцалі толькі праз два месяцы.

Забыў яшчэ сказаць, што сённяшняя праца ў бібліятэцы была перапынена выццём сірэны. У дзесяць гадзін раніцы абвясцілі ці то пажарную, ці то атамную трывогу. Дзяжурны па залу падышоў да мяне і сказаў, што трэба апрануцца і хуценька выйсці на вуліцу. Рэакцыя ў чытачоў была самая розная: адны жартавалі з трывогі, другія ледзь не пратэставалі... Пастаяўшы ў дворыку мінут з пяць, усе збянтэжана вярнуліся на свае месцы.

Па дарозе з бібліятэкі зайшоў у Музей гісторыі навукі. Як і іншыя англійскія музеі, ён вельмі багаты. Сотні старых мікраскопаў і тэлескопаў розных памераў, першыя «вылічальныя» машыны і электра-

прыборы, лабараторнае абсталяванне, асабістыя рэчы оксфардскіх вучоных. Але, як і ў іншых англійскіх музеях, такое нагрувашчванне цісне на цябе, перашкаджае выдзеліць асноўнае, сканцэнтраваць на ім увагу. Да таго ж занадта многа месца, часам больш, чым вучоным, удзяляецца фундатарам музея — тым, што толькі давалі грошы.

Вечарам адшукаў кінатэатр «Фенікс», пра які гаварыў Валатоўскі. Яго рэклама абяцала нейкую «Пякельную ноч». Не дужа захоплены такой перспектывай, я ўсё ж узяў білет (за два з лішнім фунты) і зайшоў у залу. На маё здзіўленне, у зале аказалася многа людзей. Моладзь не галёкала, а засяроджана перашэптвалася.

І вось пагасла святло, а на экране (без папярэдніх рэкламных ролікаў) пачалі крочыць... калопы фашыстаў: крок — уперад, два — назад. Мантажор спалучыў старыя дакументальныя кадры так, што яны выклікалі смех. І моладзь смяялася. Але не ржала, а менавіта смяялася.

Праз пару мінут зноў запалілі святло. З бакавога ўваходу ў залу ўнеслі і паставілі каля сцэны глыбокае крэсла са старым, аброслым сівой шчэццю мужчынам. Глухім хрыплаватым голасам ён пачаў гаварыць, што зараз будзе дэманстравацца заходнегерманскі фільм 1961 года «Жыццё і справы Адольфа Гітлера». Матэрыялы для гэтай дакументальнай стужкі збіраліся ў самых розных краінах, у тым ліку і ў СССР. Стары просіць гледачоў уважліва аднесціся да фільма — што б там ні пісалі газеты, усё гэта было ў сапраўднасці: і жахі фашызму, і бамбардзіроўка Лондана і Ковентры, і супраціўленне у самой Германіі. Голас мужчыны, відаць, бязногага, ветэрана вайны, то ўзвышаўся, то зусім затухаў. Часам нават здавалася, што стары засынае. Але моладзь сядзела ціха, чуйна рэагавала на кожнае слова. Відалася, што яна ведае прамоўцу і любіць яго.

Што сказаць пра сам фільм? У нашай краіне дэманстраваліся дзесяткі кінатвораў, у якіх апошняя вайна паказана і больш асэнсавана, і больш аб'ектыўна. Але заходнегерманская стужка таксама ўражвае. Вядома, у ёй, як і трэба было чакаць, не аддадзена належнае пакутам і подзвігу савецкіх людзей (маўляў, усім было цяжка і ўсе ваявалі). Але ёсць у фільме і канцлагеры, і спаленыя вёскі Беларусі, і гераізм абаронцаў Сталінграда. Ёсць бесчалавечнае аблічча фашызму.

Калі скончыўся сеанс, усе засталіся па сваіх месцах, а стары прадоўжыў гаворку. Некаторыя, сказаў ён, жадаюць забыць мінулае, робяць выгляд, што нічога вось гэтага не было. Але было яно, і нікуды ад яго не дзенешся. Быў у Англіі свой фашыст Мослі і ёсць яго паслядоўнікі, згуртаваныя ў партыі «Юніяністскі рух». Таму фільм гу-

чыць як перасцярога: мінулае не павінна паўтарыцца. Барацьба за гэта цяпер ідзе ў глыбіні чалавечых душ...

Моладзь паапладзіравала старому. Многія падыходзілі і ўдзячна паціскалі яму руку. Падышоў і я, сказаў, што я «фром ЮССА».

— Гэта вельмі добра, што савецкія людзі сюды прыязджаюць,— адказаў стары.— Калі мы будзем адзін аднаго лепш ведаць, менш стане небяспека, што фашызм адродзіцца зноў.

Выйшаўшы з кінатэатра, яшчэ раз падышоў да афішы. Што за насланнё: замест «Жыцця і спраў Адольфа Гітлера» значылася «Пякельная ноч». Нейкая маскіроўка, ці што?

А з другога боку, падумалася, хіба фашызм не быў для Еўропы змрочнай, пякельнай ноччу?!

*4 снежня*

Да сённяшняга дня не падазраваў нават, што нарадзіўся і жыву я ў... пустыні, што мая радзіма, Беларусь — гэта голая Атлантыда, пазбаўленая ўсіх культурных багаццяў пасля таго, як адсюль адышоў у нябыт польскапанскі прымус. Калі б мне нехта сказаў, што такое сцвярджэнне магчыма, палічыў бы гэта недарэчным жартам. Але ўласнымі вачыма вычытаў у мемуарах пана Валяр'яна Мейштовіча наступнае: «На землях Вялікага княства Літоўскага сёння пануе пустэча — такая, якую бачыў Міцкевіч, калі ехаў у Пецярбург. Атлантыда».

Што ж, калі пустэчай лічыць адсутнасць такіх магнатаў, як сам Мейштовіч, як яго сваякі Касакоўскія ў Вялікай Бераставіцы і Шырыны ў Германавічах, то з гэтым вызначэннем я згодзен!

І ўсё ж чытанне нават самых рэакцыйных кніжак мае свой сэнс. З успамінаў Мейштовіча «Пайшло з дымам» я даведаўся, што да апошняй вайны ў рэзідэнцыі Касакоўскіх захоўваліся «Апошні суд» Даменікіна, творы Бакіярэлі, Лямпі, Рустэма, Сухадольскага, сапраўднае ці ўяўнае палатно Рэмбранта. Трэба падказаць нашым мастацтвазнаўцам, каб пашукалі сляды бераставіцкай карціннай галерэі. Пра існаванне яе ў нас, здаецца, нічога невядома... Кніжка Мейштовіча, пры ўсёй яе антыбеларускасці, сведчыць таксама, што беларуская мова ў мінулым была пашырана нават сярод магнатаў. Яе добра ведаў, напрыклад, прыгоннік Карп, які ў першай палавіне XIX стагоддзя жыў на тэрыторыі этнічнай Літвы. Калі да яго прыязджалі царскія чыноўнікі, ён «пераходзіў на беларускую мову ў яе самых моцных выражэннях, што ніяк не пасавалі б да пецярбургскіх салонаў і маглі выклікаць чырвань нават на жандарскіх абліччах». Мейштовіч сведчыць таксама, што па-беларуску і літоўску часта гаварылі нават... у легіёнах Пілсудскага (словы аднаго з мясцовых «легіянераў», кала-

рытна выпісанага Місюка, пададзены ў арыгінальным гучанні). Такім чынам, наперакор сваёй асноўнай тэндэнцыі, міжвольна мемуарыст сцвярджаў, што яго радзіма з'яўлялася не польскай, а беларускай і літоўскай.

Перагартаўшы кніжку Мейштовіча, узяўся за камплекты часопіса «Оксфард славонік пэйпэз», які, хоць зрэдку, друкуе матэрыялы па беларусцы. З яго ж даведаўся, што наяўнасць беларускай мовы была ў 1842 годзе адным з аргументаў у карысць адкрыцця славянскай кафедры ў Оксфардскім універсітэце. У спецыяльнай брашуры «Роздум аб важнасці славянскіх моў і літаратур...», выдадзенай тады ў Лондане, сцвярджалася, услед за Шафарыкам, што беларусаў налічваецца 2726 тысяч, з якіх 350 тысяч — католікі.

У тых жа «Оксфардскіх славянскіх запісках» знайшоў матэрыялы пра нашага земляка Лявона Бакста. Гэты вядомы партрэтыст і ілюстратар нарадзіўся ў Гродне ў 1866 годзе. Да рэвалюцыі выехаў з Пецярбурга ў Парыж, дзе і памёр у 1924 годзе. Цяпер палотны Бакста, яго эскізы тэатральных дэкарацый і касцюмаў раскіданы па ўсім белым свеце. Ёсць яны, аказваецца, і ў Оксфардзе, у музеі Ашмола. Там жа, даведаўся ў дадатак, выстаўлены творы Левітана, Сярова, Бенуа, Фядотава, Каровіна, Рэрыха...

Не пайсці ў Ашмалейскі музей я ўжо, зразумела, не мог. Пра Бакста, прызнаюся з сорамам, раней нічога не чуў. А тут, удалечыні ад яго роднага Гродна, сабрана болей дзесятка малюнкаў Бакста. Ды яшчэ ў суседстве з іншымі славутымі мастакамі!

Ашмалейскі музей (сваё імя ён узяў ад Э. Ашмола, які заснаваў яго ў 1683 годзе) глядзіцца нібы паўтарэнне Нацыянальнага музея ў Лондане. Тая ж перагружанасць, тыя ж дзесяткі егіпецкіх мумій і грэчаскіх статуй, рэчы матэрыяльнай культуры, прывезеныя з блізкіх і далёкіх калоній. Але ёсць і адметнае, непаўторнае. Перш за ўсё — гэта багатая калекцыя жывапісу, у тым ліку твораў Бакста. Асабліва прываблівають яго партрэт Андрэя Белага з дапытлівымі і сумнымі вачыма і малюнак «Айседора Дункан у танцы». Лаканічна, некалькімі энергічнымі штрыхамі перададзены жаноцкасць, цялеснасць, але і рашучасць славутай актрысы, якая адыграла значную ролю ў жыцці некаторых рускіх паэтаў.

Вечарам зноў пайшоў у «Фенікс». Хацелася разгадаць учарашнюю неадпаведнасць паміж рэкламай і фільмам. Ды яшчэ спадзяваўся, што зноў пабачу таго старога ў калясцы, распытаю яго (і як гэта не здагадаўся ўчора?!) пра яго жыццёвы лёс. Але сёння яго не аказалася, а ў зале, разам са мною, сядзела ўсяго трое гледачоў. Ішоў галандскі фільм «Ідзі за ўсімі» — пра антыфашысцкае супраціўленне.

Зняты ён у добрай рэалістычнай манеры. Яго герой, які ведае ўсе яўкі, трапляе ў засценак. Ёсць небяспека, што ён, каб не выдаць падпольшчыкаў, там атруціцца. І таму кіраўніцтва прымае нялёгкае рашэнне: нешматлікімі сіламі напасці на турму і вызваліць свайго таварыша... Падумалася, што — каб не галандскія рэаліі і залішняе капанне ў псіхалогіі — такі фільм у прынцыпе мог бы быць зняты на сцэнарыю Быкава ці Адамовіча.

*5 снежня*

Пасля сняданку да лонданскага аўтобуса заставалася яшчэ гадзіны з тры, і таму рашыў я на развітанне прайсціся па Оксфарду, яшчэ раз налюбавацца яго ажурнымі шпілямі, якія чамусьці лічацца «дрымотнымі», ставамі, па якіх плаваюць лебедзі. Доўга стаяў каля вежаў-двайнятаў каледжа Усіх душ. Захапляўся мініяцюрным кафедральным саборам, у архітэктуры якога прадстаўлены ўсе перыяды (ранні, дэкараваны і перпендыкулярны) англійскай готыкі. Паглядзеў на гадзіннік «Вялікі Том», прымацаваны да надбрамнай вежы каледжа Крайст-чэрч і вядомы тым, што б'е ён 101 раз — па колькасці студэнтаў, якія тут вучыліся першапачаткова. На сценах дамоў вышукваў сярэдневяковыя «гаргулі» — выступы вадасцёкавых труб, упрыгожаныя гратэскнымі скульптурамі. У кожнай фігуры — сваё аблічча, вясёлае або страшнае. Асабліва спадабалася адна «гаргуля»: да морды сабакі прытулілася дабрадушнае аблічча даўганосага мужчыны; прытым відаць, што сабака і разумнейшы, чым гаспадар, і выпіць яму зусім не хочацца...

А яшчэ на хвіліну заскочыў у музей гісторыі Оксфарда. З усіх пабачаных англійскіх музеяў ён найбольш нагадвае нашы: экспанаты тут не нагрувашчваюцца, а размяшчаюцца прадумала, у адпаведнасці з ідэяй мастака. Добра прадстаўлены гістарычныя пачаткі горада і універсітэта, сярэдневяковыя рамёствы, развіццё прамысловасці, паўсядзённае жыццё розных слаёў насельніцтва. Перада мною паўставаў не толькі горад-музей, але і горад-працаўнік. Горад, у якім застыг, акамянеў у залацістых мурах і адначасова жыве, працягвае жыць сам дух гісторыі.

Ідзі — і чытай яе!

Ад'язджаючы, падумаў: добра, што на свеце ёсць такія гарады, як Оксфард! Падобна Рыму і Афінам, падобна нашым Маскве і Кіеву, Полацку і Гродну яны нібы кандэнсуюць, матэрыялізуюць мінулае, злучаюць яго з сучаснасцю. Яны вучаць нас аптымістычнай ісціне: смяротны толькі асобны чалавек, чалавецтва ж — з яго пераемнасцю пакаленняў — неўміручае!

*6 снежня*

Узнаўляю працу над рукапіснымі і друкаванымі матэрыяламі па гісторыі беларускай літаратуры. Сёння натрапіў на верш «Да што гэта за паўстала», запісаны у 1909 годзе ў вёсцы Войштавічы цяперашняга Валожынскага раёна як народная песня. Але твор гэты мае яўна літаратурнае паходжанне. Хутчэй за ўсё, ён узнік у другой палавіне мінулага стагоддзя. Змест верша — выразна сацыяльны:

Да што гэта за паўстала,
Што па свеце праўды мала?
Топчуць праўду пад нагамі,
А няпраўда між панамі.
Стаіць праўда да ў парозе,
А няпраўда за столікам,
Есць праўда суху рыбу,
А няпраўда ашатрыну.
П'ець праўда горка піва,
А няпраўда — мёд і віна.
Да што гэта за паўстала,
Што на свеце праўды мала?

Вечарам бачыўся з англійскай славісткай Шырын Акінэр. Спытаўся ў яе пра беларускі «кітаб», які лёг у аснову яе доктарскай дысертацыі.

— Рукапіс гэтага «кітаба»,— сказала Акінэр,— быў куплены Брытанскай нацыянальнай бібліятэкай у Стамбуле пятнаццаць год назад. Спачатку думалі, што ён на сербскай мове. Ажно аказалася, што на беларускай. Паводле вадзяных знакаў на паперы, рукапіс узнік у сярэдзіне XIX стагоддзя — ва ўсякім выпадку пасля 1831 года. У мове «кітаба» ёсць цюркізмы, паланізмы, украінізмы. Але іх нямнога. Пераважае мова чыста беларуская. У рабоце над дысертацыяй мне вельмі памаглі працы савецкіх даследчыкаў, асабліва нябожчыка Антановіча, які першы так грунтоўна даследаваў беларускамоўныя «кітабы».

— Я ведаю, вы лёгка і ахвотна чытаеце па-беларуску. Што вам больш за ўсё падабаецца ў сучаснай беларускай літаратуры?

— Пад уплывам вядомага англійскага славіста Арнольда Макміліна з задавальненнем перачытала Быкава. З празаікаў падабаецца Казько. З паэтаў заімпанавалі мне Семашкевіч, Мацяш, Разанаў. Захапіўшыся прачытаным, нават пачала рабіць пераклады з беларускай мовы.

Пасля адыходу Акінэр узяў у бібліятэцы тоўсты, у 600 старонак том яе дысертацыі. У ёй дадзена фанетычная, марфалагічная,

лексічная і сінтаксічная характарыстыка мовы рукапісу. У канцы — слоўнік, вытрымкі з тэксту ў лацінскай транслітэрацыі. А вось як, для прыкладу, гучыць сам тэкст: «Потым Іса із гары зышов да аднаго села с пляцэм, з нутром фрасунлівым і велікім голасам рэк: І людзі тут мешкаючые! А людзі таго села, велікіе і малые, мужчыны і невясты, усе прэців его вышлі, пыталі: хто ты ест, голас твой чуючы, нутры нашы асвецілісе, дамы нашы ўсе светласцей напэлнілісе, тваю павельбёную парсуну відзім».

*7 снежня*

Паспрабаваўшы (без асаблівага поспеху) высветліць лёс рукапісаў Янкі Лучыны, узяўся за рукапісны зборнік вершаваных твораў невядомага мне дагэтуль беларускага паэта Янука Касцевіча. Як відаць з яго ўласнаручных аўтабіяграфічных нататак, нарадзіўся ён 18 мая 1857 года ў Будславе, там жа вучыўся ў царкоўнапрыходскім вучылішчы. Пра сваю вучобу ў ім Касцевіч піша так: «Там мне прыйшлося ўхапіць мой прасвет, каторым карыстаюся дагэтуль. Больш навукі мець не здарылася. Мы, убогія мяшчане, на кусок хлеба клалі цяжкую працу, бо нават шнура грунта ані гаспадаркі не мелі».

Далейшы лёс Касцевіча складваўся так. Адбыўшы «салдатчыну», у 1882 годзе пасяліўся ў Лібаве, дзе праслужыў больш трыццаці год. Пасля пераехаў у Палангу. Жывучы сярод латышоў і літоўцаў, не забыў беларускай мовы, пісаў на ёй паэмы і вершы, якія падпісваў псеўданімам Літоўскі беларус. Пра сваю творчасць у 1925 годзе адгукаўся так: «Люблю часам будзь што напісаць. Мае часам запісы друкуюць тут. Я дык да законнага і духоўнага жыцця не меў ніколі ніякай ахвоты. Мусіць, вырабіўся праз жыццё асобы погляд на божы свет. Думаю, што не кожны Габіт (манаскае адзенне.— А. М.) ці сутана будуць у небе і не кожны армяк ці сярмяга ў пекле. Кожнаму мілая бацькаўшчына, толькі божынька сказаў, што праракам у бацькаўшчыне быць трудна... Бацькаўшчына наша павінна быць усюды, гдзе мы ёсць».

...Вечарам, у апошніх паведамленнях, паказалі ў тэлебачанні Паўночную Ірландыю, у якой вось ужо доўгія гады, па сутнасці, пануе рэжым ваеннай акупацыі. З-пад руін узарванага паба выцягвалі забітых і параненых. Усяго загінула 16 чалавек. А з 1967 года, як паведаміў дыктар,— звыш дзвюх тысяч... Крывавіць незагойная рана заходняга свету.

*8 снежня*

Далей працаваў над рукапісам Янука Касцевіча. Асноўнае месца ў ім займае паэма пра князя Вітаўта, яго паход супраць крымскіх татараў. Вобраз галоўнага героя (для супрацьпастаўлення рэчаіснасці) яўна ідэалізуецца.

Родны край літоўскі любіў да ўпаду,
Дабіраўся ўсюды парадку і ладу.
Даносаў і хвалшу ў жыцці ненавідзеў,
Ніколі нікога ні ў чым не абідзеў.
Сам гожы дый чынны, як сокал у лёце,
Вясёлы і смелы пры цяжкай рабоце.

Далёкія паходы Вітаўта праходзілі, бы нейкае свята. Спыніўшыся на начлег, воіны ладзілі пародныя гульні, спаборнічалі ў спрыце.

Літоўскія песні далёка нясліся,
Дый бягі на конях у полі завяліся.
Там у котку, мышку, у жмуркі ігралі,
Там круг ці качулку грамадой качалі,
Там палкамі бабку стараліся выбіць,
Там пікай кідалі, у цэль каб не хібіць.
Зрабілі калыскі людзям калыхацца.
Словам, на лад усякі сталі забаўляцца,
На рацэ шмат было вясёлай забавы,
Нарабілі козлаў, насцялілі лавы,
З гэных лаваў у воду другі ўглыб кідаўся,
Доўга пад вадою на дне аставаўся.
Нашліся і сеці, рыбу лавіць сталі,
Агнёў вечарамі шмат параскладалі.
Шум, вяселле, гоман пайшоў па ўсім полі,
Забаўляўся кожны, як хацеў даволі.

Сардэчна сустракалі воінаў Вітаўта на Украіне, дзе яны правялі зімоўку. Апісанне тут крыху мадэрнізуецца — свядома ці міжвольна.

Час ішоў нядрэнна, гучна і вясёла.
Хутары, дый вёскі, і большыя сёла,
Поўны людзей смаглых, зіму праездзілі,
Дзяўчаты дый бабы знакомствы вадзілі;
Знайшлася і скрыпка, бубен ці бандура,
Засвярбела часам маладая скура,
Дык патопаць міла, паскакаць ахвота,
Зімой не вяліка у вёсцы работа.
Дзецюкі-літвіны да ўсяго ахвочы,
Не спяць, пяюць песні да самай паўночы,
Дый розныя сказкі часта распраўляюць,

За гэта шмат ласкі нават у баб маюць.

Украінскія жанчыны ўручаюць літоўцам на далейшую дарогу вышываныя ручнікі. Гэта дае повад для этнаграфічных супастаўленняў.

Літоўскія дзеўкі тэй моды не маюць,
Прасцей усё робяць і менш вышываюць,
Дый не маюць таго агністага вока,
Што так хлопца коліць пад сэрца глыбока.

І вось аб'яднаныя «літоўскія» і «кіеўскія» войскі ў Крыме. Татары гавораць Вітаўту, што яны ненавідзяць свайго жорсткага бея і з радасцю ўспрымуць паражэнне. Пачынаецца рашаючы бой.

Сцерліся з сабою дзве сілы магучы,
Падняўся пыл ў полі, як ад грознай тучы.
Конніца татараў, прыспусціўшы піку,
Як шаранча, перла радамі без ліку,
На кіяўлян проста праз поле ляцела,
Урэзацца клінам дый змяць нас хацела.

Убачыўшы, што перамога хіліцца не на іх бок, татары самі забілі бея і заключылі жаданы мір. Многія з іх пайшлі з Вітаўтам у Літву, аселі ў Трокскім павеце. Памяць аб даўніх падзеях жыве сярод «літоўскіх» татараў. Усю гэту гісторыю аб паходзе на Крым аўтару расказаў стары гарбар з-пад Трокаў Гусейн (па-мясцоваму Хасень), нашчадак таго чамбула (сотніка), што верна служыў Вітаўту.

*9 снежня*

Творчасць Літоўскага беларуса з'яўляецца цікавай старонкай у развіцці беларуска-літоўскіх літаратурных сувязей. Янук Касцевіч быў добра знаёмы з многімі літоўскімі грамадскімі дзеячамі і пісьменнікамі, прысвяціў ім свае вершы. Ён вітаў прыезд у Палангу «найбольшага літоўскага паэта» Майроніса. Ён наведаў хворага «светача» Ёнаса Басанавічуса, цяжкі лёс якога навёў нашага земляка на такі роздум:

Праўды дык нідзе не любяць,
Праўду гоніць увесь свет,
Праўду крыўдзяць, трацяць, губяць,
Каб яе загінуў след.
Людзей зло апанавала,
Гордасць ўсюды верх бярэць.
І нянавісць расці стала,
Сіла скуру з нас дзярэць.

На сустрэчу ў Паланзе вядомага публіцыста Казіміраса Прапаляніса Касцевіч падрыхтаваў вялікі верш, які пачынаўся радкамі:

Найбольш добры ў краю тот,
Хто ад сэрца патрыёт.
Яго людзі распазнаюць
І ў пачоце яго маюць.
Той простым шляхам ідзець,
Здароўе, працу кладзець —
Ці ў службе, ці ў рабоце,
Ці ў другім якім хлапоце,
Каб пражыты кожны час
Быў карысны для ўсіх нас.

У канцы рукапіснага зборніка Літоўскага беларуса змешчана чатырохрадкоўе «З жыцця паэтаў».

Паэту па смерці ладанам і кадзяць
І яго партрэты ў здобны рамкі садзяць.
Словам, як пахвалы, так поўна і чэсці.
А жыў, галадаўшы, ніхто не даў есці.

Якім чынам словы гэтыя стасуюцца да самога аўтара? Якое месца ён зойме ў гісторыі нашай літаратуры? Несумненна, што, калі б працытаваныя вышэй радкі былі напісаны ў XIX стагоддзі, творчасць Янука Касцевіча стала б значнай з'явай. Але ўзніклі яны ў часы, калі ў літаратуры ўжо былі Купала, Колас, Багдановіч. Таму апісальная і дыдактычная паэзія Літоўскага беларуса ўспрымаецца сёння як запознены, хоць і адметны, сімптаматычны «рэцыдыў» XIX стагоддзя. Як і творы Дзеда Доніса, гэта своеасаблівы мосцік паміж двума стагоддзямі, дзвюма эпохамі.

*10 снежня*

У Брытанскай нацыянальнай бібліятэцы знайшоў зборнік «Палітычных твораў» Ігната Яцкоўскага — таго самага адваката з Навагрудчыны, памяць якога захавала верш Паўлюка Багрыма. Выдадзены зборнік у 1853 годзе ў Лондане — у тотнэмскай друкарні Аляксандра Рыпінскага, якая (пра гэта сведчаць выхадныя звесткі) месцілася ў доме нумар пяць на Гроўв-плэйс.

«Палітычныя творы» складаюцца з публіцыстычных артыкулаў, напісаных у Лондане ў 40-х гадах мінулага стагоддзя. Яны сведчаць, што іх аўтар з'яўляўся зацятым ворагам царскага самаўладства (артыкул «Навошта ў Лондан прыязджаў Мікалай»). Праўда, Ядкоўскі быў, на жаль, манархістам, рабіў стаўку на князёў Чартарыскіх і выступаў супраць левага крыла эміграцыі, Ворцаля і Ялевеля. Але чаму? Ды таму, што зняверыўся ў заходнім рэспубліканізме. «У рэспубліканскіх Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі,— палемізаваў ён з апанен-

тамі,— зняволенасць сялян куды большая, чым у Польшчы; кара смерці чакае таго, хто выступіць з праектам паслаблення гэтай няволі». Аднак прыведзеныя словы не значаць, што іх аўтар ідэалізаваў жыццё ў Польшчы. Наадварот, ён сцвярджаў, што «Польшча з усіх краін самая бедная, сяляне тут ядуць хлеб з асцюкамі».

Зборнік Ігната Яцкоўскага сведчыць, што наш зямляк быў таленавітым публіцыстам. Праўда, часта свой запал скіроўваў не туды, куды было варта.

Заказваў сёння таксама экземпляр «Гапона» Дуніна-Марцінкевіча. Думаў, можа, ёсць на ім які аўтограф, якія запісы. Але кніжку не прынеслі, матывуючы, што яна ў запасніках. Ляжыць, падумалася, нікому тут непатрэбная... І як добра было б яе, а таксама іншыя беларускія рэдкасці памяняць па што-небудзь англійскае. Што канкрэтна? Скажам, вунь у Гомелі, у абласной бібліятэцы ляжыць частка збораў Паскевіча, дзе ёсць прыжыццёвыя выданні і Дзікенса, і Скота, французскіх і нямецкіх класікаў. Ляжыць, таксама асабліва нікому не патрэбная...

Вяртаючыся з бібліятэкі, быў сведкам такой сцэны. У вагон метро зайшлі два школьнікі гадоў па 12. Акуратна апранутыя, у белых кашульках, з сінімі гальштукамі, упрыгожанымі эмблемай нейкай прыватнай і таму прэстыжнай школы. Але што яны толькі не вытваралі: і свісталі, і на носе гралі, і ногі ў брудных боціках на мяккія сядзенні клалі, і партфелямі паўз галовы іншых пасажыраў кідаліся. Каб гэтак у нас — абавязкова знайшоўся б чалавек, які ўтаймаваў бы маленькіх хуліганаў. А тут усе падкрэслена адварочвалі галовы, рабілі выгляд, што нічога асаблівага не дзеецца... Лупцуюць гэтых падшыванцаў у англійскіх школах розгамі ды, падумалася, мала.

Але калі вечарам расказаў аб сваіх назіраннях, даведаўся, што такія паводзіны — своеасаблівая форма дзіцячага пратэсту супраць адзіноцтва і няўвагі з боку дарослых. Дзеці тут ідуць у школу рана — з пяці год. З 11 год ім ужо вызначаюць (у адпаведнасці з тэстам) жыццёвы шлях: пераводзяць з агульнай у «граматычную» (найбольш элітарную), «сучасную» або «тэхнічную» школу. Рана дзяцей робяць самастойнымі, ізалююць ад сям'і. І многія з іх вымушаны зарабляць. Апытанні паказалі, што кожны трэці падлетак ва ўзросце ад 11 да 16 год працуе, атрымоўваючы куды меншую плату, чым дарослыя.

А яшчэ адна форма пратэсту — гульня «Чыкін» («курчо»). Дзеці кладуцца перад аўтамашынай або цягніком і чакаюць. Выігрывае той, хто ўскочыць апошнім, у каго мацнейшыя нервы.

І часта пераможца застаецца пад коламі.

*11 снежня*

Чытаў у Брытанскай бібліятэцы вельмі цікавыя нататкі аб падарожжах па Беларусі нямецкага пісьменніка і асветніка Хрысціяна Шлегеля (1757-1842). Нейкі час ён працаваў настаўнікам-гувернёрам у Рэвелі (Таліне). Адтуль часта адпраўляўся ў вандроўкі па Расійскай імперыі. Потым апісаў іх у кнігах «Падарожжа з Польшчы у Санкт-Пецярбург» (Эрфурт і Гота, 1818) і «Падарожжы ў многія рускія губерні ў 178*, 1801, 1807 і 1815 гадах» (Майнінгем, 1823). Аб існаванні гэтых кніг мне, дарэчы, сказаў Гай дэ Пікарда.

Найбольш падрабязна і каларытна Шлегель апісаў сваё першае прабыванне ў Беларусі ў 80-х гадах XVIII стагоддзя. Шлях яго тады ляжаў з Рэвеля праз Пскоў, Апочку, Полацк, Сянно, Шклоў, Магілёў, Стары Быхаў, Рагачоў, Чачэрск і Гомель. Дзесяткі старонак кнігі аўтар прысвячае прыгоннаму жыццю беларускіх сялян, выгляду іх адзення, жылля. Даюцца нотныя запісы (бадай, першыя ўвогуле!) беларускіх народных песень. Прыводзіцца пашыраная тады прыказка:

Хто ў Беларусі не бываў,<br>
Той беднасці не відаў.

У адрозненне ад іншых тагачасных аўтараў Шлегель называе Падзвінне і Падняпроўе не Літвой ці Польшчай, а Беларуссю. Толькі мясцовую шляхту, якая прыгнятала сялян, ён лічыў польскай. Зрэшты, шляхта гэта маёмасна была вельмі дыферэнцыравана. Падарожніку даводзілася бачыць «высакародных» людзей, у якіх адна нага была абута ў бот, а другая ў лапаць (калі не ставала за што дакупіць другі бот).

Шкада, што творы Шлегеля не патрапіліся раней, калі мы з Валянцінам Грыцкевічам рыхтавалі кнігу «Шляхі вялі праз Беларусь». Ды нічога: можа, прыдасца пры перавыданні.

...У параўнанні з англійскімі дзецьмі англійскія каты і сабакі выглядаюць больш прывілеявана. Кожны з хвастатых пазірае на цябе з пачуццём перавагі — нібы ведае, што яго ахоўвае Каралеўскае таварыства, а вось дзяцей — толькі Нацыянальнае. Пакалечыш ката ці сабаку — зацягаюць па судах, жорстка абыдзешся з дзіцем, асабліва ўласным,— да гэтага нікому няма аніякай справы. У хатніх жывёлін ёсць тут свае «дамы для састарэлых», свае рэстараны і нават свае часопісы (значную іх частку займаюць некралогі). Ну і, вядома, свае мясныя кансервы, свае галеты ў выглядзе костачак.

Неяк быў у магазіне сведкам сцэны, калі экстравагантна апранутая жанчына настойліва патрабавала замяніць ёй учарашнюю пакупку:

— Мае каты ўжо не жадаюць есці «Кіт-і-кэт». Дайце лепей «Топ-кэт».

І далі, і замянілі. Кацінае жаданне ёсць закон.

Характэрна, што ў апошні час, калі пачаўся крызіс, таваразварот фірмы «Педыгры петфудс», якая спецыялізуецца на кансерваваных харчах для жывёлы, прыкметна падскочыў уверх. А паколькі кацінае і сабачае пагалоўе засталося амаль тое ж (каля дзесяці мільёнаў), то вывад напрошваецца адзін: больш танныя жывёльныя харчы купляюць — для сябе і сваіх дзяцей — беспрацоўныя. Купляюць — і, мусіць, не вяртаюць назад: дзіця — не кот, з'есць усё.

*12 снежня*

Куды толькі лёс не закідваў беларусаў! Ігната Дамейку — у Чылі, Мікалая Судзілоўскага — на Гавайскія астравы, Канстанціна Ельскага — у Цэнтральную Амерыку, братоў Галынскіх з Крычава — у Егіпет. Сын навагрудскага кашталяна Сцяпан Аскерка стаў ледзь не першым эканамістам у Прусіі. А ўраджэнец вёскі Макраны Пружанскага павета Фелікс Зянковіч у сярэдзіне мінулага стагоддзя аказаўся тут, у Лондане, зблізіўся з Герцэнам і Агаровым. Адсюль у 1863 годзе ён адправіўся ў марскую экспедыцыю, каб даставіць зброю паўстанцам Кастуся Каліноўскага. Не маючы часта магчымасці прыносіць карысць свайму пароду, такія людзі працавалі на карысць іншых.

Да вядомых раней у нас асоб эмігрантаў-беларусаў варта дадаць Францішка Дзеражынскага (1779-1850). Закончыўшы Полацкую акадэмію, выкладаў там рускую мову і музыку. Пазней быў настаўнікам філасофіі і матэматыкі ў Магілёве. У пачатку 20-х гадоў эміграваў у ЗША, дзе ўнёс вялікі ўклад у развіццё адукацыйнай сістэмы. Гэта яго стараннямі быў арганізаваны Сен-Луіскі універсітэт у штаце Місуры, каледж у горадзе Уорчэстары.

Работу перапыніў прыход Гая дэ Пікарда. Гаварылі пра беларускую музыку XVI-XVII стагоддзяў. Пікарда расказваў пра сваю варшаўскую знаходку — беларускі ірмалой, які захоўваецца ў бібліятэцы Красінскіх, у так званым «Перамышленскім кодэксе». Ноты ў ім запісаны на заходні лад, «квадратна». Пікарда думае, што гэты спосаб занеслі ў Беларусь з Чэхіі гусіцкія спевакі. «Квадратныя» ноты выцеснілі старадаўняе знаменнае (крукавое) запісванне мелодый, якое прыйшло на Русь з Грэцыі. Наколькі відаць з запісаў, ірмалой належаў дзяку Самуілу Бенядзіктавічу. А ўзнікла гэтая рукапісная кніга хутчэй за ўсё на поўначы Беларусі — у Полацку ці Віцебску. У Беларусі, лічыць Пікарда, было некалькі буйных цэнтраў царкоўнай музыкі,

распевы якіх істотна розніліся паміж сабой (асабліва ступенню выкарыстання народнай, «скочнай» музыкі).

...Уключыў тэлевізар — і аслупянеў: у той момант, калі ўжо з'явіўся гук, але яшчэ не было выявы, пакой напоўніўся... чыстай рускай мовай. Мужчынскі і жаночы галасы расказвалі пра станцыю метро «Маякоўская» ў Маскве. Потым — пра нашы кніжныя магазіны. Ішоў урок рускай мовы, зроблены ў цэлым добразычліва і кваліфікавана. Праўда, закончыўся ён — для «экзотыкі» — сумніцельнай песеннай «а ля рус» пад назвай «Шарманка, шарманка».

*13 снежня*

Назбіралася ўжо крыху фактаў, якія сведчаць пра знаёмства з Беларуссю і беларускай літаратурай у заходнім свеце. Сёння стараюся гэтыя звесткі неяк упарадкаваць.

У ЗША першым перакладам з беларускай была, бадай, народная песня пад назвай «Мёртвая любоў». Надрукаваў яе ў 1836 годзе бостанскі часопіс «Норт Эмерыкэн рэв'ю». А першай публікацыяй на беларускай мове — верш Янкі Купалы «Тарасу Шаўчэнку», надрукаваны ў арыгінале 15 красавіка 1909 года ва ўкраінскай газеце «Свобода».

У Англіі першыя звесткі пра беларускую літаратуру, у прыватнасці пра Ф. Скарыну, прывялі ўжо згаданыя Дж. Таўнлі, Е. Гендэрсон і У. Мофіл. Затым з'явіўся артыкул Геб. Палісандара (пад гэтым псеўданімам хаваўся Іван Луцкевіч) «Бела-Русіны» (часопіс «Англо-Рашн», 1904, № 12). У 1914 годзе два аўтары, Г. Іваноўская і Г. Анслоў, надрукавалі ў англійскім часопісе «Фолклор» каля чатырох дзесяткаў беларускіх народных песень з нотамі.

У пасляваенны час пераклады з беларускай мовы сістэматычна друкуе англійскі паэтычны часопіс «Мэніфолд» («Разнастайнасць»). У перакладзе Вэры Рыч тут з'явіліся творы Максіма Багдановіча («Мае песні», «Апокрыф»), Янкі Купалы (вялікая падборка вершаў), Максіма Танка («Рукі маці»), Анатоля Вярцінскага («Маленькі домік»), Ларысы Геніюш («У начным»), Янкі Сіпакова («Зялёнае воблака на рынку»), Анатоля Вялюгіна («Лясное возера»). Змешчана інфармацыя пра «мемарыяльны вечар Максіма Багдановіча», які прайшоў у Лондане 13 мая 1967 года.

Апрача таго, артыкулы па беларусцы друкуюцца ў часопісах «Славонік энд Іст Юэрэпіен рэв'ю» (напрыклад, артыкул А. Макміліна «Купалаўская «Бандароўна» і Шаўчэнка», 1982, № 2) і «Оксфард славонік пэйпэз». Вялікую і добрую справу робіць бібліяграфічны «Штогоднік даследаванняў па сучаснай філалогіі». Ён фіксуе ўсе кніжныя і часопісныя публікацыі прац беларускіх савецкіх літаратуразнаўцаў,

мовазнаўцаў і фалькларыстаў, а таксама зарубежных беларусазнаўцаў. Дзякуючы гэтаму выданню дасягненні беларускай філалогіі становяцца хутка вядомыя ў заходнім свеце.

Трэба таксама сказаць, што англійскія студэнты, якія жадаюць вывучаць беларускую мову, маюць ужо два падручнікі — кароткі Р. Брэя і больш поўны прафесара Шэфілдскага універсітэта П. Мейо. Абодва аўтары абапіраліся на працы беларускіх савецкіх даследчыкаў, сучасны правапіс. Гэта адрознівае іх падручнікі ў лепшы бок ад «Беларускай мовы» В. Пашкевіч, выдадзенай у Канадзе з фінансавай дапамогай урада. Добрая папера, урыўкі з твораў класікаў, беларускія пейзажы... Але гэтаму падручніку не стае галоўнага — навуковасці. Аўтар абапіраецца на беларускі правапіс... да 1933 года, прытым яшчэ самастойна «палепшаны». Англійскі рэцэнзент гэтага выдання слушна запярэчыў, што яно будзе ўводзіць у зман вучняў і студэнтаў, складзена без пачуцця адказнасці.

Урэшце звесткі пра Беларусь ёсць у брытанскіх энцыклапедыях. Але звесткі вельмі скупыя і недакладныя. Скажам, для 15 выдання энцыклапедыі Брытаніка (1975) артыкул пра Беларусь пісаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута геаграфіі АН СССР М. І. Растаргуеў (артыкул быў заказаны праз АДН). Геаграфічную шырыню і даўжыню Беларусі ён вызначыў правільна. Але неяк умудрыўся нават не назваць прозвішча Скарыны, ні слова не сказаць пра сучасную літаратуру. З твораў Якуба Коласа названы «Адшчапенец» і «Дрыгва», але не названы «Новая зямля», «Сымон-музыка», палеская трылогія. Заходнія рэцэнзенты слушна паставілі пытанне: калі у Беларусі, як аб гэтым гаворыцца ў выданні, ёсць Акадэмія навук і 28 ВНУ, то няўжо там не знайшлося адпаведных аўтараў, каб ім заказаць кваліфікаваны артыкул?!

Вечарам англійскае тэлебачанне зноў паказвала жанчын, якія пратэстуюць супраць амерыканскіх ядзерных «першынгаў». Сядзяць на дарозе, што вядзе ў Грынэм-Камон, спяваюць песні, вешаюць вянкі на дратах агароджы. А нахабныя «бобі» хапаюць жанчын за ногі, цягнуць у паліцэйскія машыны... Жорстка і агідна.

Тут усё больш пераконваюся, што кожны напамін аб уроках другой сусветнай вайны, аб адказнасці за зробленыя ў яе час злачынствы мае глыбокі сэнс. Бо гэта напамін усім тым, хто сёння хоча развязаць вайну трэцюю і, можа быць, апошнюю.

*14 снежня*

Яшчэ некалькі фактаў, якія сведчаць аб успрыняцці беларускай літаратуры на Захадзе. Факты гэтыя, на жаль, разрозненыя і часам нязначныя.

ФРГ. У 1980 годзе Элізабет Котмаер пераклала на нямецкую мову верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» і выдала яго ў Штутгарце асобнай «Паэтычнай лістоўкай» у серыі «На ўзвышшы». Тэкст ідзе паралельна на беларускай і нямецкай мовах. На чацвёртай старонцы выдання — партрэт Купалы 1939 года і кароткія звесткі пра аўтара верша і беларускую літаратуру ў цэлым. Сцвярджаецца, што яна расцвіла пасля 1917 г., што на беларускую мову цяпер перакладаецца сусветная класіка — ад Гамера, Шэкспіра і Гётэ да Тагора, Верлена і Хемінгуэя. На думку Котмаер, перакладзены ёю верш перадае атмасферу першай рускай рэвалюцыі, з'яўляецца праграмным выражэннем сацыяльнага і нацыянальнага адраджэння беларускага народа.

Іспанія. Шэсць старонак займае артыкул пра Беларусь у дзявятым томе дадатку да «Энцыклёпэд'я Універсаль Ілюстрада», выдадзеным у 1933 годзе. Тут прыводзяцца звесткі пра гісторыю, культуру і літаратуру Беларусі, называюцца прозвішчы пісьменнікаў (пачынаючы ад Скарыны), літаратурныя аб'яднанні «Маладняк», «Полымя» і «Узвышша». З іспанскіх перакладаў занатаваў толькі адзін — «Апокрыф» М. Багдановіча («Носотрос», 1953, №1).

Аргенціна. Славенскі штомесячнік «Меддоб'е» («Між вякамі»), які выдаецца ў Буэнас-Айрэсе, у чацвёртым нумары за 1978 год змясціў падборку твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа (урыўкі з паэмы «Сымон-музыка») і Цёткі ў перакладзе Цінэ Дэбаляка. «Нарыс беларускай літаратуры» папісаў для нумара доктар Эміль Цяўлоўскі, былы выкладчык універсітэта ў Буэнас-Айрэсе.

Канада. Доктар Джон Садоўскі апублікаваў артыкулы «Беларуская культура ў XVI стагоддзі» («Канадзіэн Славонік пэйпэз», 1970, № 4) і «Вытокі сучаснай беларускай літаратуры» («Мэнітоба», 1970, № 1). Пры ўсёй сваёй кампілятыўнасці яны даюць канадскаму чытачу пэўнае ўяўленне пра наша старажытнае пісьменства.

Трэба, урэшце, прыгадаць яшчэ адно выданне, хаця гаворка ў ім ідзе не пра слаўныя, а пра бясслаўныя справы беларусаў. Я маю на ўвазе кнігу амерыканскага юрыста Джона Лофтуса «Сакрэт «Беларусі», толькі што выдадзеную ў ЗША. Расказваецца ў ёй пра беларускіх нацыяналістаў, якія ў часы фашысцкай акупацыі арганізавалі вайсковую адзінку «Беларусь», а цяпер знайшлі прытулак у ЗША. Наколькі я ведаў з нью-йоркскага «Беларуса», Лофтус прама абвінаваціў Дзярждэпартамент і Міністэрства абароны ў тым, што яны прыгрэлі злачынцаў, прыкрываюць іх ад адказнасці. «Беларус», вядома, лічыць

кнігу паклёпам, заклікае збіраць сродкі, каб судзіцца з аўтарам. Але ж чорнае не назавеш белым.

Сёння я бачыў гэтую кніжку ў сценах бібліятэкі, хацеў пачытаць, каб ва ўсім разабрацца самому. Але мяне далікатна так адгаварылі: маўляў, аўтар кіраваўся сенсацыйнымі мэтамі, многае перабольшыў, таму не варта губляць на такую кніжку час. Падумалася: відаць, не жадаюць, каб я вынес смецце з эміграцкай хаты, ці што?

*15 снежня*

Чытаючы розныя польскія і літоўскія эміграцкія выданні, зноў падумаў пра тое, што вось жа ёсць людзі, якія не прызнаюць урокаў гісторыі. Часы мяняюцца, а гэтыя людзі застаюцца нязменнымі ў сваёй дрымучай закасцянеласці, у сваёй непавазе і нянавісці да іншых народаў.

Яшчэ ў 1927 годзе М. Мурдэльё (пад гэтым псеўданімам хаваўся Аскерка, «блізкі сусед і добры знаёмы» Багушэвіча) пісаў у брашуры «Каршун выдзёўбвае нам не сэрцы, а мазгі», што Савецкая Беларусь і Савецкая Украіна — гэта «фікцыі, створаныя бальшавікамі». Як і беларуская нацыя ўвогуле. «Сярод нас нават з'яўляюцца людзі, якія спрабуюць сцвярджаць, што не толькі есць на свеце беларусы, але нават ёсць і беларуская мова, а таксама і літаратура. Дык вось: гэтаму я павінен катэгарычна запярэчыць, бо як няма беларусаў, так і беларускай мовы няма...» І затым шавініст-пілсудчык накідваўся на вызваленчы рух у Заходняй Беларусі: маўляў, усе гурткі

Грамады арганізуюцца праз «бальшавіцкіх агентаў за бальшавіцкае золата», а беларусамі сябе лічаць усяго «некалькі хваравіта амбітных маньякаў».

З часу, як пісаліся гэтыя радкі, прайшлі дзесяцігоддзі. Беларусь з годнасцю вынесла суровыя выпрабаванні вайны, заняла сваё месца ў ААН. Беларуская літаратура сёння вядомая ва ўсім свеце. І тым не менш у польскіх эміграцкіх выданнях па-ранейшаму сцвярджаецца, што беларусы і Беларусь — гэта фікцыя. Тадэвуш Лапалеўскі ў кнізе «Паміж Нёманам і Дзвіной», перавыдадзенай нядаўна ў Лондане, зноў паўтарае закарузлую думку, што БССР стварылі, каб «пакакетнічаць з мясцовым насельніцтвам». А потым узялі ды і аднавілі царскую «забарону друкаваць кніжкі на беларускай мове». Далей у гэтай кніжцы (дзіўна, што яе хтосьці нават пахваліў у мінскім друку) гаворыцца, што жыхары Наднямоння і Падзвіння — людзі кансерватыўныя, «супрацiўляюцца ўсім навінкам цывілізацыі» і ўвогуле бездапаможныя, нятворчыя. І толькі ў канцы, нібы скрозь зубы, робіцца прызнанне, што былому шляхецка-абшарніцкаму панаванню на гэтых землях

прыйшоў канец, што «сталася так з волі карэнных жыхароў і што адбыўся беззваротны працэс, па які няма рады».

З такіх жа антысавецкіх пазіцый напісаны польскі раман Сяргея Пясецкага «Ніхто не дасць нам выбаўлення», падзеі якога адбываюцца на Міншчыне ў 1918-1919 гадах, і кніга Януша Праўдзіца-Шляскага «Навагрудчына ў барацьбе. 1940-1945».

Больш аб'ектыўны характар маюць польскія брашуры «Беларускі народ сярод сваіх суседзяў» У. Вяльгорскага і «Сучасная беларуская літаратура ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы» В. Друі, выдадзеныя ў Лондане ў пасляваенны час. Іх аўтары ўжо вымушаны прызнаць, што Беларусь — не фікцыя, а рэальнасць і што беларуская культура мае трывалыя здабыткі.

*16 снежня*

Працягваю знаёмства з англійскімі кнігамі, у якіх ёсць звесткі пра Беларусь. Сёння ў бібліятэцы прынеслі мне кнігу А. Макелюма Скота «Па той бок Балтыйскага мора», якая вытрымала ў Лондане два выданні — у 1925 і 1926 гг. На пачатку 20-х гадоў яе аўтар пабываў у Савецкім Саюзе — Ленінградзе, Маскве, а таксама ў Літве, Латвіі, Эстоніі, Польшчы. Заглянуў нават у занятае бела-палякамі Гродна. Але пра Савецкую Беларусь расказаў толькі тое, што пачуў з вуснаў літоўскага і беларускага культурнага дзеяча Клаўдзія Дуж-Душэўскага, з якім сустракаўся на яго сціплай кватэры ў Каўнасе.

Макелюм Скот прызнаецца, што ад Дуж-Душэўскага ён упершыню пачуў аб існаванні беларускага народа, яго багатых гістарычных традыцыях, этнічных межах (у іх вызначэнні апавядальнік быў не зусім дакладны). Цяпер беларуская тэрыторыя, падкрэсліваецца ў кнізе, падзелена, у адпаведнасці з Рыжскім дагаворам, на дзве часткі. Ва ўсходняй, дзе створана Беларуская ССР, народ «атрымаў вялікія магчымасці для культурнага развіцця», там дасягнуты «добрыя поспехі ў сэнсе адукацыі і мовы». Іншае становішча ў заходняй частцы, дзе буржуазныя ўлады адмаўляюць права беларусаў на сацыяльную і нацыянальную незалежнасць: усіх католікаў прымусова запісваюць палякамі, лепшыя землі аддаюць «каланістам», саджаюць нявінных людзей у турмы і ўвогуле «пераймаюць і ўдасканальваюць метады інквізіцыі». Услед за Дуж-Душэўскім аўтар выказвае надзею, што неўзабаве будзе вызвалена і Заходняя Беларусь.

*17 снежня*

Першым англійскім літаратарам, які трапіў у Савецкую Беларусь і падрабязна яе апісаў, была Сесіль Чэстэртон. Яе выключна цікавыя,

хоць часам і супярэчлівыя дарожныя нататкі пад загалоўкам, які можна перакласці «Мае рускія прыгоды», або «Мая руская рызыкоўная задума», былі ў 1931 годзе выдадзены асобнай кнігай адначасова ў Лондане, Бамбеі і Сіднеі. Беларускія ўражанні тут займаюць каля 120 старонак. Паколькі ў Беларусі гэта выданне засталося незаўважаным, варта на ім спыніцца падрабязней.

Як можна меркаваць з самой кнігі, сваё падарожжа па

Беларусі і Украіне Сесіль Чэстэртон адбыла познім летам 1930 года. Па-першае, аўтар згадвае падзеі 1929 года ўжо ў мінулым часе. Па-другое, і гэта галоўны аргумент, яна прысутнічала ў Мінску на Першай усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўцы. А яна, як вядома, дзейнічала ў жніўні-кастрычніку 1930 года.

Што ж датычыцца рызыкі, то яна ў англійскай пісьменніцы сапраўды была. Мяркуйце самі: жанчына, якая не мае савецкай візы, якая зусім не ведае рускай мовы, тым не менш едзе разам са сваёй спадарожніцай Бані з Варшавы ў Стоўбцы, каб неяк «прабіцца» скрозь «кардон» і пабываць у нашай краіне. Дзеля чаго? Мусіць, дзеля таго, каб уласнымі вачыма паглядзець, што робіцца «пад Саветамі», параўнаць праўду з рознымі выдумкамі буржуазнага друку. І, мусіць, крышку дзеля сенсацыі: паглядзіце, маўляў, якая я смелая, не пабаялася розных запалохванняў і адправілася ледзь не на край свету...

У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, скажам, ад англійскага падарожніка У. Кокса, які пабываў на нашай зямлі ў XVIII стагоддзі. Чэстэртон ужо добра ўсведамляла, што накіроўваецца менавіта ў Беларусь. «Польска-руская граніца,— піша яна ў пачатку кнігі,— працягнулася з поўначы на поўдзень на шэсцьсот міляў і на паўночным усходзе праходзіць праз тэрыторыю, паселеную з абодвух бакоў русінамі, якія гавораць на адной і той жа мове з мясцовымі лексічнымі адрозненнямі. З абодвух бакоў яны апрацоўваюць адну і тую ж малаўрадлівую глебу, каб забяспечыць хаця б спартанскае жыццё, займаюцца аднымі і тымі ж традыцыйнымі мастацтвамі і рамёствамі. У межах Польшчы яны называюцца беларусінамі, за граніцай жа яны становяцца беларусамі. На абодвух тэрыторыях народ вызнае часткова каталіцкую, часткова ж праваслаўную рэлігію». Далей пісьменніца падкрэслівае, што сяляне ў Заходняй Беларусі, хаця і ходзяць у польскія школы, з цяжкасцю разумеюць «афіцыйную мову». «Іх песні, іх легенды, іх карэнныя традыцыі знаходзяць выражэнне ва ўласнай гаворцы і, як іх земляробчыя метады, узыходзяць да пакаленняў, вельмі аддаленых у часе,— конны плуг усё яшчэ пракладвае ў іх барозны ў полі...»

З Варшавы ў Стоўбцы Сесіль Чэстэртон прыехала начным цягнікам недзе ў чатыры гадзіны раніцы. Маленькі, акуратны гарадок з пабеленымі домікамі ёй спадабаўся, як і мясцовыя жанчыны, што ў такі ранні час басанож хадзілі па вуліцах. У Стоўбцах пісьменніца выпіла «жытнёвай кавы з добрым маслам і белым хлебам», паспала некалькі гадзін у атэлі з гучнай назвай «Еўропа», а потым нейкі мясцовы дзеяч павёз яе і Бані сваім «доджам» у Нясвіж. Па дарозе іх неверагодна трэсла на выбоінах. Твары і адзенне пакрыліся тоўстым слоем пылу. Але, не зважаючы на гэта, падарожніца пільна ўглядалася ў навакольныя краявіды — пералескі, балотцы, палі, дзе жанчыны цяжка працавалі побач з мужчынамі, абрабляючы ў поце «мачыхузямельку», драўляныя хаты ў вёсках, драўляныя цэркаўкі, драўляныя капліцы... Усё тут было іначай, чым у Англіі, усё займала ўяўленне пісьменніцы, наводзіла на роздум.

У Нясвіжы падарожнікі патрапілі на маляўнічае відовішча. «Мясцовы рынак быў забіты сялянамі, што прывезлі сюды з наваколля прадукты на нізкіх драўляных, без рысораў вазах, якімі карыстаюцца ва ўсёй Польшчы і Расіі. Свінні рохкалі, каровы мычалі, куры і качкі трапяталіся і кудахталі, пераходзячы ад прадаўцоў да пакупнікоў, якія засяроджана абмацвалі іх, ацэньваючы ў адпаведнасці з укормленасцю. Мяхі з бульбай, буханкі хлеба, сыр, масла, буракі, свежазнесеныя яйкі былі згруджаны на сталах і на зямлі, прадавалі ж іх старыя жанчыны і маладыя дзяўчаты ў яркіх каляровых хустках, пышных спадніцах і цяжкіх, высока шнураваных ботах». Мужчыны ў «жакетах з авечай скуры», пад якімі, пэўна ж, маюцца на ўвазе звычайныя кажухі, і ў «вялізных крагах» (ці не лапцях?) ішлі піць свае барышы ў памяшканне, дзе, нібы на «дзікім Захадзе», іграў «джазбанд», трэнькала расстроенае фартэпіяна.

У Нясвіжы нейкі польскі афіцэр доўга ўгаворваў англічанак не ехаць у СССР. Там, маўляў, жывуць ледзь не дзікуны, там ніхто не ведае заходнееўрапейскіх моваў, там нават зусім нявіннае дзеянне можа быць расцэнена як «спроба шпіянажу». І, галоўнае, жанчынам наўрад ці ўдасца трапіць у «само сэрца камунізма», бо ў іх належным чынам не аформлены пашпарты. «Саветы» пільна ахоўваюць свае граніцы, і шансы прайсці праз яе непрыкметна роўныя нулю...

І ўсё ж падарожніцы рашылі рызыкнуць. Купіўшы у Стоўбцах білеты да Мінска, «сталіцы Белай Русі», яны ўселіся ў цягнік, які ішоў у Негарэлае. Савецкі пагранічнік здзіўлена ўзяў у рукі іх пашпарты і потым, нягледзячы на пратэсты, некуды панёс. Жанчыны зусім перапалохаліся, бо ім здавалася, што «знаходзіцца ў Расіі без пашпарта горш, чым не мець імя». Але бывалы амерыканец, які ехаў побач, су-

пакоіў іх: дакументы бяруць для звычайнага кантролю і потым, у Негарэлым, вяртаюць назад. Падарожніцам заставалася адно — глядзець у акно, занатоўваць першыя ўражанні ад Краіны Саветаў.

«Спачатку пейзаж,— гаворыцца ў кнізе Чэстэртон,— быў звычайны, ён заставаўся нязменным у параўнанні з заходнебеларускім краявідам. Аднак паступова маленькія загончыкі і пясчаныя пустэчы саступалі месца доўгім участкам апрацаванай зямлі, вялізным бульбяным фермам, акрам і акрам жыта, аўса і буракоў, садам з яблыкамі і маленькімі слівамі». Мясцовыя сяляне, што ішлі паабапал чыгункі, выглядалі моцнымі. Англічанак здзівіла, аднак, што яны, «у адпаведнасці з мясцовым звычаем», неслі абутак у руках, каб уздзець яго толькі ў горадзе.

Далей Чэстэртон падрабязна апісвае ўсе тыя фармальнасці, якія чакалі іншаземцаў у Негарэлым. Але нарэшце пашпарты былі атрыманы назад, грошы абменены, гадзіннікі пераведзены на дзве гадзіны ўперад. І англічанкі занялі месцы ў прыгарадным цягніку. З кожнай станцыяй у вагоне станавілася ўсё цясней. З цікавасцю прыглядалася пісьменніца да выпадковых спадарожнікаў. Вось маладая жанчына «з вачыма мадонны» корміць сваё грудное дзіця. Вось другая жанчына, старая бабулька, згаварыўшы пацеры, залазіць на паліцу, каб крышку паспаць. Вось вяскоўцы вязуць у горад, мусіць, на рынак, карзінкі з яблыкамі і памідорамі. Звычайныя людзі з паўсядзённымі клопатамі. Але што яны думаюць, якімі планамі жывуць? Чэстэртон вельмі хацелася з імі пагаварыць. Ды перашкаджаў моўны бар'ер.

У Мінск цягнік прыйшоў ужо ноччу. Вакзал аказаўся забіты людзьмі, якія пераважна спалі ў самых неверагодных позах. Падарожніцы спрабавалі знайсці сярод іх нейкага прадстаўніка ўлады, нейкага чыноўніка, які разумеў бы англійскую мову. Аднак на разгубленых чужаземак ніхто не звяртаў аніякай увагі. Тады яны рашылі дабірацца да гасцініцы самастойна, на таксі. Толькі таксі каля вакзала таксама не было. Давялося даверыць сваё жыццё рамізніку, які доўга кружыў па цёмных вуліцах. Уяўленне пісьменніцы малявала самыя страшныя сцэны: вось іх рабуюць разбойнікі, вось іх садзяць у турму... Але ўсё скончылася добра: рамізнік урэшце спыніўся каля гасцініцы (потым аказалася, што гэта была Першая Савецкая гасцініца). «Цэрбер»-швейцар завёў іх у пакой, дзе на вокнах не было фіранак, а вада ва ўмывальніку капала маленькімі кроплямі. Затое пасцель па ложках здалася даволі чыстай, і змораныя дарогай англічанкі заснулі цвёрдым сном.

...Дайшоўшы да гэтай мясціны ў кнізе Чэстэртон, я неяк унутрана ўстрывожыўся. У тыя далёкія часы, на парозе трыццатых

гадоў, жыццё ў нашай краіне было яшчэ цяжкое: не залячыліся раны, нанесеныя імперыялістычнай і грамадзянскай вайной, дзейнічала картачная сістэма, не ставала тавараў першай неабходнасці. Да таго ж якраз пачалася калектывізацыя з усімі яе класавымі канфліктамі. Таму ў мяне і ўзнікла трывога, што часовыя цяжкасці, адсутнасць тых жа фіранак у вокнах або гарачай вады ў кране могуць англійскай пісьменніцы, якая раней жыла ў пэўным камфорце, засланіць вочы на больш істотнае, на глыбокія сацыяльныя змены, што тады адбываліся ў нашай краіне. Узнікла неадольнае жаданне, каб Мінск здаўся ёй, калі яна першы раз выйдзе ў горад, лепшым і прыгажэйшым, больш падобным да сённяшняга. Няхай бы, думалася, перамагла яна сваю абмежаванасць, убачыла ў Беларусі не толькі адмоўнае, але і станоўчае, а пабачыўшы, стала сябрам нашай краіны.

Аднак першыя ўражанні, якія ўзніклі ў Чэстэртон і Бані, калі яны на наступны дзень выйшлі на вуліцу і сталі шукаць «Міністэрства замежных спраў», былі ўсё ж даволі змрочныя. Старыя дамы, якія патрабавалі рамонту (не забудзем, што гэта быў раён Нямігі), старыя людзі, што ішлі, звесіўшы галовы. Перапоўненыя трамваі, якія да таго ж хадзілі вельмі нерэгулярна. Маленькія майстэрні саматужнікаў і крамы, дзе ў вокнах-вітрынах выстаўляліся выпадковыя тавары... Няўжо дзеля ўсяго гэтага, устрывожылася сама пісьменніца, варта было «прабівацца праз кроў і боль»? Няўжо дзеля гэтай «апатыі» праводзіўся «самы вялікі эксперымент», якога ніколі раней не бачыў свет, не бачыла чалавецтва? Павінен жа быў ён даць нешта большае, чым вось гэтае беднаватае, у параўнанні з мяшчанскім Захадам, быццё...

Крыху пазней Чэстэртон знайшла адказы, няхай і няпоўныя, на хвалюючыя яе пытанні. Незнаёмыя людзі дапамаглі ёй дабрацца да ўстановы, якую яна называе «форын офіс», Міністэрствам замежных спраў (у сапраўднасці гэта было прадстаўніцтва Наркамата замежных спраў СССР пры Саўнаркоме БССР). Малады і сімпатычны чалавек па імю Янка, прадстаўнік таго новага пакалення, якое «будзе кіраваць і ўладаць рускай зямлёй», умомант звязаўся па тэлефоне з «міністрам» Ульянавым[1], што якраз знаходзіўся на Першай усебеларускай выстаўцы, а той, паабяцаў прыслаць сваю аўтамашыну, каб замежныя госці змаглі прыехаць да яго і пабачыць відовішча, пра якое і не чулі «ў Лондане, Варшаве, Нью-Йорку ці Берліне».

[1] Вярнуўшыся ў Мінск, я, з дапамогай нашых энцыклапедыстаў, высветліў, што тут маецца на ўвазе Аляксандр Фёдаравіч Ульянаў, які ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў быў ўпаўнаважаным Наркамата замежных спраў СССР пры СНК БССР.

І тут у кнізе ідзе мясціна, якую трэба працытаваць поўнасцю, каб зразумець усе змены, што ў той дзень адбыліся ў настроі і поглядах англійскай пісьменніцы.

«Машына,— згадвае яна,— аказалася зношанай, аднак хуткай, і мы выехалі са старога горада, бруднаватага і беднаватага, і ўехалі ў новы раней, чым я паспела ўсвядоміць змену. Гэта быў цудоўны момант. Адышлі назад пасрэдныя вуліцы, векавыя дамы і пазбаўленыя сэпсу быццё старыя людзі. Застой нечакана змяніўся жыццём. Фабрыкі, жылыя дамы, клінікі, бальніцы ўзнікалі з абодвух бакоў; шырокія вуліцы былі абсаджаны дрэвамі; густоўна спланаванае жытло цешыла вока; звонкія молаты, вялізныя краны, арміі рабочых напаўнялі шумам наваколле, усюды кіпела энергія. Стары Мінск з яго сумнымі гісторыямі, пакутамі і расчараваннямі застаўся ззаду. Уперадзе нас чакаў новы раздзел нацыянальнай гісторыі — раздзел, які належаў маладому пакаленню.

Тое ж самае адбывалася ўсюды ў Расіі. Мёртвае ў гарадах пакідалася, каб яно дажывала свой век ва ўласным гніенні. Захоўвалася толькі тое, што мела грунт для далейшага развіцця. Так было не толькі з мясцінамі, але і з людзьмі. Тыя, хто не мог успрыняць новыя ідэі, хто не мог парваць са сваімі карэннямі, заставаўся ў застоі. Бо Савецкая Расія — гэта краіна энергічных людзей, якія з цікаўнасцю ўзіраюцца ў будучыню і не баяцца мінулага.

Мы ехалі праз Пралетарскі парк (цяпер парк імя Горкага.— А. М.) з яго высокімі дрэвамі і кустамі ў квецені. Студэнты з універсітэта прагульваліся па траве каля людных сцяжынак. Я прыкмеціла пралетарскі тэатр, пралетарскае кафэ, запоўненае хлопцамі і дзяўчатамі, што стаялі на парозе свайго жыцця; яны былі чыстыя, стройныя, у яркіх кашулях і блузках — я адчувала сябе так, нібы трапіла ў іншую краіну. Сур'ёзныя, перакананыя, гэтыя хлопцы і дзяўчаты, хаця сярод іх і ўспыхваў нечаканы смех, трымалі сябе горда — як нашчадкі і ўладальнікі новай краіны.

Калі я глядзела па іх здаровыя і мэтанакіраваныя твары, я ведала, што гэта — маладосць Расіі, якая падтрымлівае полымя камунізма паўсюдна ў СССР».

...Моцнае ўражанне пакінуў Саўтуоркскі кафедральны сабор, пабудаваны ў XII стагоддзі на былым рымскім прадмесці Лондана. Тут знаходзіцца надмагілле сярэдневяковага паэта Джона Говера. Скульптар паклаў яму пад галаву тры кніжкі — на англійскай, французскай і лацінскай мовах. Аказваецца, усе тры яны былі ў свой час літаратурнымі мовамі Англіі. Усё роўна, падумалася, як у нас: значная ж частка нашай літаратурнай спадчыны напісана на лацінскай, рус-

кай, польскай, стараславянскай мовах. А мы гэтую частку незаслужана забываем, ігнаруем.

Абедаў (рыба з хрэнам і авечыя ныркі з варэннем) у кафэ, дзе на пачарнелай сцяне вісіць партрэт колішняга наведвальніка — самога Дзікенса.

*18 снежня*

Сесіль Чэстэртон цікавіла ў Мінску літаральна ўсё: і дзейнасць цэркваў (яна пабачыла, што ў адной з іх свабодна адпраўлялася пабажэнства), і рэкламныя аб'явы на слупах (якраз ішоў галівудскі фільм з удзелам папулярнага тады Білі Доўва). Асабліва яе радавала, што ў Беларусі паспяхова вырашаецца нацыянальнае пытанне, што ў Мінску людзі «гавораць на сваёй роднай беларускай мове, якая ў СССР стала прызнанай мовай». Тут, працягвае Чэстэртон, «я зразумела ўсю мудрасць палітыкі Крамля, які, насуперак царскаму рэжыму, што прымушаў непаслухмяныя мільёны гаварыць па-руску, узнавіў у кожнай рэспубліцы Саюза права карыстацца сваёй роднай мовай у школах і публічных установах».

І вось аўтамабіль з англійскімі госцямі спыніўся ля ўваходу на выстаўку (прыгадаем, што размяшчалася яна на плошчы ў 75 гектараў паміж цяперашнімі паркам імя Чэлюскінцаў і вуліцай Якуба Коласа). Чэстэртон адразу зразумела, што па свайму характару, на масштабах гэта выстаўка была зусім непадобная на ўсё тое, што яна бачыла раней, у тым ліку на англійскую экспазіцыю у прыгарадзе Лондана Уэмблі. У Мінску ўсё было «задумана сур'ёзна, каб паказаць гандаль, індустрыю, сельскую гаспадарку і агульнае развіццё Беларусі за час пасля устанаўлення Савецкай улады».

На пачатку знаёмства з выстаўкай англійская пісьменніца «адчула самыя моцныя ўражанні за усе свае жыццё». «Непасрэдна каля галоўнага ўваходу, дамінуючы пад мноствам будынкаў, стаяла гіганцкая статуя Леніна. Яго сціснутая рука была ўзнята ўверх.., яго твар ўздзейнічаў на ўяўленне са звышчалавечай сілай; ён ўзвышаўся над наваколлем як сімвал гіганцкай дзяржаўнай магутнасці, якую ён стварыў сваёй працай». Скульптуру Чэстэртон палічыла «цудоўнай у мастацкіх адносінах». На нейкі момант пісьменніцы здалося, што Ленін вось-вось ажыве, загаворыць.

Англічанка звярнула ўвагу, што шматлікія наведвальнікі выстаўкі стыхійна спыняліся каля помніка, аказвалі яму «кранаючую пашану». Людзей тут было мноства, з розных канцоў краіны. Адны прыехалі сюды, каб пераняць вопыт, другія — каб пашырыць свой кругагляд, трэція — каб весела правесці час. Пісьменніцу спачатку

здзівіла, што аркестр на выстаўцы выконваў музыку з «буржуазных» опер «Мадам Батэрфляй», «Кармэн» і «Вільгельм Тэль», што тут «звінелі ілюмінаваныя фантаны і гушкаліся вялікія арэлі». Але потым зразумела, што беларусы зберагаюць культурную спадчыну, умеюць не толькі працаваць, але і адпачываць.

На выстаўцы місіс Чэстэртон у першую чаргу паглядзела павільён выяўленчага мастацтва. Падарожніцы здалося, што «выстаўленых тут мастакоў галоўным чынам натхняла індустрыялізацыя. На іх палотнах перад гледачамі паўставалі вялізныя краны, масіўныя трактары, складаныя тварэнні з жалеза і сталі. Відненіся таксама творы на ваенную тэму, але яны былі вытрыманы ў больш традыцыйным духу, як і партрэты герояў рэвалюцыі. Карл Маркс са сваёй сівой барадой быў найбольш папулярны пасля Леніна, які паказваўся на карцінах у розным узросце і розных позах, то ў дзіцячым адзенні, то з шаноўнай лысінай,— гэтыя два дзеячы знаходзіліся заўсёды побач».

Пасля павільёна выяўленчага мастацтва пісьменніцу павялі ў дзіцячую секцыю, дзе былі выстаўлены «вельмі захапляючыя мадэлі самалётаў, трактараў і паравозаў». Хлопчыкі і дзяўчынкі тут гулялі не з традыцыйнымі лялькамі, а з кубікамі і іншымі геаметрычнымі фігурамі, што англічанка знайшла вельмі разумным, хоць крыху і сумным. Там жа, у зашклёных вітрынах было выстаўлена прыгожае дзіцячае адзенне.

Затым місіс Чэстэртон запрасілі ў рэстаран на абед. Даваў яго «міністр Ульянаў». Як піша падарожніца, гэта быў «стройны сур'ёзны чалавек з добрымі стомленымі вачыма і вострай барадой, адзенне яго, хоць і таннае, выглядала прыстойна, і быў ён у абавязковай твідавай кепцы». Ульянаў прыняў абедзвюх жанчын вельмі добразычліва, сказаў ім, што яны з'яўляюцца першымі англічанкамі, якія прыехалі ў беларускую сталіцу пасля ўстанаўлення Савецкай улады. Затым адбылося знаёмства гасцей з «мясцовым меню». Чэстэртон выбрала сабе «суп з капусты, шклянку піва і катлеты з цяляціны», Бані — рысавую кашу і тушаную ялавічыну. Англічанак прыемна ўразіла, што стол быў засланы бездакорна белай сурвэткай, а ўвесь «сервіз» — вельмі «прыстойны».

За той жа абедзенны стол былі запрошаны таксама два амерыканскія літаратары. Адзін з іх аказаўся Морысам Гіндусам, з творчасцю якога Чэстэртон была ўжо знаёма. Адпраўляючыся ў СССР, яна прачытала яго «вулканічную» кнігу «Зmененае чалавецтва», дзе «раскрыты магчымасці, а таксама сённяшні стан Савецкай улады», аднак «ніколі не спадзявалася сустрэцца з ім у рэспубліцы, якой ён прысвяціў спецыяльную кніжку». Далей англійская пісьменніца прыводзіць

цікавыя звесткі пра Гіндуса. Аказваецца, ён «нарадзіўся пры царскім рэжыме»[2] у чатырнаццаць год выехаў у ЗША, дзе атрымаў універсітэцкую адукацыю і стаў папулярным амерыканскім пісьменнікам. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі захапіўся сацыялістычнымі ідэямі. «З таго часу кожны год ён праводзіў некалькі месяцаў у рускіх вёсках, у саўгасах і калгасах, каб у дасканаласці зразумець складанасці і магчымасці пяцігадовага плана». У некаторых кнігах і артыкулах Гіндуса (вось бы адшукаць іх!) гаворка ішла якраз пра сацыялістычныя пераўтварэнні ў Савецкай Беларусі.

Разгаварыўшыся з Чэстэртон, даведаўшыся пра яе «адысею», Гіндус прыйшоў да вываду, што яна ледзь не вар'ятка. Выбрацца ў СССР, абсалютна не ведаючы мовы і звычаяў, не маючы адпаведных дакументаў! Амерыканскі пісьменнік параіў англічанкам неадкладна вяртацца дамоў. Аднак яны толькі ўсміхнуліся ў адказ і тут жа рашылі, у дадатак да Беларусі, наведаць яшчэ і Украіну.

Пасля «міністэрскага ленча» госці адправіліся далей знаёміцца з выстаўкай. Чэстэртон прызнае, што прапаганда тут стала «сапраўдным мастацтвам». Наведвальнікам паказвалі новыя гатункі жыта, ячменю, аўса, выведзеныя мясцовымі селекцыянерамі. «Усюды маладыя, тэмпераментныя агракультурысты нястомна расказвалі, колькі бушэляў збожжа атрымлівалі з акра два гады назад, год назад, у гэтым годзе; вытворчасць хутка ўзрастала з кожным прамежкам часу».

«Тое, што яны сцвярджаюць, адпавядае сапраўднасці,— растлумачыў жанчынам Гіндус.— Я ведаю ўсе тыя гаспадаркі, пра якія яны расказваюць. Некалькі год назад там былі пяскі, неўрадлівая пустэча. Сёння там віруе жыццё, атрымоўваюць высокія ўраджаі. Толькі ў Беларусі можна палічыць сотні такіх дзяржаўных і калектыўных фермаў».

Англічанкі і амерыканцы паволі пераходзілі ад стэнда да стэнда, ад павільёна да павільёна. У адным месцы іх пачаставалі смачнымі яблыкамі — гібрыдам англійскіх «рыбстонаўскіх пепінак» і мясцовых гатункаў. Дарэчы, вырошчвалі іх спецыяльна на англійскі рынак. У іншым паказалі свіней беркшырскай пароды, якіх гадавалі таксама для экспарту. У «павільённых» свінарніках і кароўніках было ўстаноўлена сучаснае абсталяванне, аўтаматычныя паілкі. «І яны,— сцвярджае Чэстэртон,— гэта значыць абсталяванне і жывёла, не толькі экспанаваліся на выстаўцы. Іх паўтарэнні мы сустракалі ўсюды па Расіі».

[2] Пры далейшых пошуках высветлілася, што Маўрыцы. (Морыс) Гіндус нарадзіўся ў вёсцы Вялікі Быкоў на Случчыне у 1891 годзе У 1905 годзе выехаў з бацькамі ў ЗША. Пасля рэвалюцыі сімпатызаваў нашай краіне, часта пісаў пра яе ў нарысах і рэпартажах, якія на англійскай мове друкаваліся у ЗША. Апошні раз М. Гіндус быў у Беларусі ў 1939 годзе, калі браў інтэрв'ю ў П. К. Панамарэнкі.

Затым гасцей завялі на дзялянку з featureмі лекавымі раслінамі, прызначанымі... таксама для Англіі. Закончылася ж вандроўка на «маленькім лікёрным заводзе», дэгустацыяй «чэры брэндзі» і іншых «мясцовых вінных вырабаў», пасля чаго настрой яшчэ палепшыўся, а ў галовах сталі нараджацца новыя планы. Чэстэртон здалося, што па дарозе ў Кіеў яна абавязкова павінна сысці недзе з цягніка, каб пабачыць беларускую вёску, пажыць у ёй некалькі дзён.

На выстаўцы падарожніцы зрабілі некалькі фотаздымкаў, пазнаёміліся з савецкімі людзьмі. Маладая «агра-культурыстка» з кароткімі валасамі і ямачкамі на шчоках расказала госцям, што яна выйшла з малазямельнай сялянскай сям'і, дзе да рэвалюцыі ўсе мусілі працаваць на пана, усе не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. А цяпер яна, як і многія іншыя яе равеснікі, вучыцца ва універсітэце, атрымоўвае дзяржаўную стыпендыю, летам зарабляе да 150 рублёў «на вялікай фруктовай ферме». Праўда, працягвае Чэстэртон, моладзь павінна асабістыя інтарэсы часта падпарадкоўваць грамадскім, дзяржаўным, трактары часам засланяюць чалавека, але робіцца гэта зноў жа дзеля дабра ўсяго грамадства. Таму «савецкая моладзь, падобна юным арлам, горда ўзнімае вочы прама да сонца».

Пад вечар дзяржаўная аўтамашына адвезла англійскіх падарожніц у атэль, дзе ў іх пакоі ўжо быў наведзены адносны парадак. Паклаўшы на стол атрыманыя падарункі, яны яшчэ раз пайшлі ў горад: пабывалі на рынку, у майстэрнях саматужнікаў, у цырульні (не былі б то жанчыны!), урэшце заглянулі ў рэстаран, каб павячэраць. На жаль, апошні расчараваў англічанак: ад афіцыянта яны чулі адно і тое ж слова «сейчас», якое стала для іх своеасаблівым сімвалам мінскага сервіса.

Затое ранішні сняданак, які складаўся з жытнёвага хлеба (у Лондане такі падавалі толькі ў рэстаранах багемнага квартала Соха), яблычнага варэння і салодкага чаю, здаўся падарожніцам смачным і незвычайна танным. Некаторых прадуктаў, асабліва мяса, у краіне не ставала Аднак пісьменніца зрабіла вывад, што тут ніхто не галадаў, кожны меў роўнае права ў забеспячэнні сваіх асноўных патрэб. І, галоўнае, уперадзе свяціла рэальная надзея на лепшае.

*19 снежня*

Місіс Сесіль Чэстэртон і яе спадарожніца Бані пакідалі Мінск у добрым настроі. «Замежны міністр» Ульянаў дапамог ім купіць спальныя білеты да Кіева, яшчэ раз памяняць грошы. У чамаданах ляжалі падарункі беларускіх «агракультуры». Савецкія людзі аднесліся да англійскіх госцяў добразычліва, спачувальна, такім чынам, робіць

вывад пісьменніца, не збыліся усе «прароцтвы», выказаныя з польскага боку граніцы: «Нас ніхто не мучыў і не праследаваў, не рэгламентаваў і афіцыйна не інструктаваў. Мы бачылі ўсё, што нам хацелася хадзілі, куды пажадалася, і ніводзін камісар ці работнік ОГПУ не аказаўся на нашым шляху».

Усеўшыся ў вагон, падарожніцы яшчэ раз прыгледзеліся да натоўпу за акном. У адрозненне ад Захаду, на тварах жанчын тут не відалася грыму ці памады. Адзенне было просценькае і таннае, без розных там дадатковых «аксесуараў» — летніх пальчатак, рыдыкюляў ці шауковых панчох. Але маладыя, загарэлыя, бадзёрыя дзяучаты добра абыходзіліся і без іх. Старэйшым, уздыхае Чэстэртон (з гэтага вынікае, што і сама яна была пажылога ўзросту), прыдалося б крыху грыму ды розных «жаночых штучак». Праўда, самі беларускі такой патрэбы, відаць, не адчувалі...

І вось цягнік крануўся, за вокнамі неўзабаве паплылі сельскія краявіды. Адзінокія сяляне працавалі на сваіх маленькіх дзялянках. Адзінокі пастушок пасвіў адзінокую карову. Аднак усюды кідаліся ў вочы і новыя прыкметы, рысы калектыўнага, «арганізаванага» земляробства. «Адчувалася, што ўраджай сёлета багаты, яблыкі і грушы цяжка звешваліся з дрэў. Мы заўважалі гаспадарчыя будынкі, акуратна памаляваныя, квітнеючыя, напоўненыя чалавечым жыццём».

Краявіды за акном уздзейнічалі на ўяўленне падарожніц. Беларуская вёска вабіла іх. Мацнела неадольнае жаданне пабываць у ёй. І на адным з бліжэйшых прыпынкаў (на жаль, Чэстэртон не падае яго назвы, але, мяркуючы па адлегласці, гэта было недзе ў раёне Пухавіч) падарожніцы выйшлі з цягніка, працягнулі здзіўленаму і разгубленаму «станцыйнаму майстру» свае білеты і пашпарты, а той, ніякавата ўсміхнуўшыся, «адпусціў» жанчын. Засталося толькі адшукаць таксі ці «дрожкі». Але ні таго, ні другога, зразумела, не аказалася. І англічанкам давялося караскацца па звычайную сялянскую «цялегу» (гэта слова, як і некаторыя іншыя, Чэстэртон падае ў арыгінальным гучанні). Пясчаная дарога прывяла іх у адну з вёсак, дзе новае своеасабліва пераплялося са старым. Пахілыя хаты з саламянымі стрэхамі суседнічалі з сучасным жытлом. У адным з лепшых дамоў, дзе пражываў «мужык» Іван з жонкай Мартай (вось бы, падумалася, неяк адшукаць іх, даведацца, як далей склаўся іх лёс), англічанкі спыніліся на начлег. Гаспадыня паказала госцям, дзе магазін, дзе пошта і школа.

Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, кантакты не ладзіліся. Тады мясцовыя жыхары прывялі немца Ганса, які крыху ведаў і англійскую мову. Яшчэ да вайны ён ажаніўся з уладальніцай мясцовай кра-

мы. Неўзабаве яна памерла, а Ганс пачаў працаваць у суседняй камуне.

Новы знаёмы аказаўся добрым гідам і прапагандыстам. Найперш ён правёў англічанак па суседніх хатах. Некаторыя з іх былі даволі бедныя — з земляной падлогай, з «палацямі», па якіх спала ўся сям'я. Але ўсюды адчувалася імкненне да ўтульнасці, добры густ гаспадароў. Чэстэртон уразілі «сатканыя сялянамі вясёленькія, упрыгожаныя ружамі заслоны, што віселі на дзвярах, зялёна-блакітна-жоўтыя дываны ўласнай работы, што ўпрыгожвалі сцены, велічнае выражэнне твару Леніна, паказанага на партрэтах у юным і сярэднім узросце, партрэты гэтыя былі ўпрыгожаны вельмі дасканалай вышыўкай. Тонкія вырабы былі зроблены шурпатымі мазолістымі рукамі, стомленымі працаю пальцамі. Тут, у хатніх рамёствах, праявіўся прыроджаны геній народа, якога не змагла зламаць рабская праца на працягу цэлых пакаленняў».

Дарэчы, з тым жа народным мастацтвам падарожніцы сутыкнуліся назаўтра, калі вяскоўцы пераапрануліся ў святочнае адзенне. Нават прадаўшчыца ў магазіне красавалася ў чырвонай шнуроўцы і вышыванай «зялёна-чорнай шалі». На вуліцы ж у той нядзельны дзень «ігралі ўсе колеры вясёлкі. Маладыя дзяўчаты, што прыйшлі дамоў з камуны, былі ў яркіх блузках, з бліскучымі ўпрыгожаннямі ў валасах. Маладыя хлопцы фарсілі ў прыгожых белых кашулях з сіняй і чырвонай вышыўкай. Бабулькі былі ў хустках, дзе па чорнаму фону ішлі зялёны, чырвоны, блакітны і пунсовы колеры». «Гэтае адзенне,— працягвае Чэстэртон,— часта перадавалася ад старэйшага пакалення маладзейшаму і з'яўлялася спрадвечным сімвалам унутраных адрозненняў паміж вёскай і горадам, паміж індывідуальным пачаткам і стандартызацыяй. Гэтая прыгожая апратка была нібы сцягам самой зямлі». Сяляне радасна ўспрымалі сацыялістычныя перамены — «новыя дамы, вячэрнія школы, калгасы», аднак «у асабістых густах» заставаліся традыцыйнымі. І гэту з'яву пісьменніца ўхваляе.

Пра вячэрнія школы Чэстэртон згадала нездарма. Неяк Ганс пазнаёміў яе з настаўнікам, які аказаўся вельмі разумным і начытаным чалавекам. Пад яго кіраўніцтвам вучылася грамаце не толькі юнае пакаленне, «моцныя дзеці са светлымі вачыма і інтэлігентнымі тварамі», але і іх бацькі, дзяды і прадзеды. У школе, сведчыць англічанка, «старое прывабнае стварэнне, якому жыццё, нібы на гравюры Дзюрэра, пакрыла твар маршчынамі, трымала ў руках буквар і чытала па складах; стары патрыярх крывіў губы, спрабуючы карыстацца алавікам; маці вялікай сям'і цярпліва чытала павучанні для дзяцей». Там жа, у школе, падарожніцам удалося паслухаць радыёканцэрт, у

якi былi ўключаны творы Чайкоўскага i Вагнера, а таксама «трансляцыя оперы з Берлiна».

Камунар Ганс не толькi вадзiў падарожнiц па вёсцы, але i расказваў iм пра мясцовае жыццё. Ранен, пры царскай уладзе, казаў ён, жылося сялянам цяжка. Уласнай зямлi не хапала, таму даводзiлася за мiзэрную плату працаваць на панскай. Пасля Кастрычнiка жыццё змянiлася. Аднак нахабныя кулакi па-ранейшаму спрабавалi эксплуатаваць чужую працу, нажывацца на продажы прадуктаў гараджанам. Вось чаму неабходны былi калектывiзацыя i лiквiдацыя кулацтва. Праўда, працягваў Ганс, яны даюцца нялёгка, праходзяць у жорсткай барацьбе. Несвядомыя сяляне, нават беднякi, рэжуць жывёлу, падпальваюць свае стагi са збожжам. Але перамагае новае. Моладзь адмаўляецца ад старога ўкладу, пакiдае бацькоўскiя хаты i ўступае «ў калектыўныя гаспадаркi, дзе ёсць сучасныя машыны i агульныя выгоды, дзе каардынуюцца працоўныя намаганнi». Калi ж моладзь i вяртаецца да «родавых карэнняў», то толькi дзеля таго, каб «угаварыць сваiх бацькоў далучыцца да камунальнага жыцця».

Англiйская пiсьменнiца пагаджалася з аргументамi Ганса, але той палiчыў iх усё ж недастатковымi i аднойчы прапанаваў з'ездзiць у суседнi саўгас (на «дзяржаўную ферму»), дзе працавалi многiя людзi з горада. «Гэты асаблiвы цэнтр дзяржаўнай дзейнасцi,— пiша Чэстэртон,— меў эксперыментальны характар. Тут выводзiлiся новыя гатункi яблык i груш. Большыя i лепшыя слiвы вырошчвалiся пад наглядам экспертаў-агракультурыстаў таго ж тыпу, якiх мы сустракалi ў Мiнску. Такiя ж эксперыменты праводзiлiся з аўсом i жытам. Пшанiца ж тут, на бедных глебах, не расла. У гаспадарцы мы агледзелi трактары i хлявы, а таксама невялiкi малочны завод, падобны да таго, якi мы бачылi ў выставачным павiльёне. Усё было клапатлiва дагледжана i акуратна адладжана». Рабочыя жылi не ў «катэджах», а ў вялiкiх дамах, займаючы ў iх кватэры ў залежнасцi ад памеру сям'i. Жыццё iх здалося пiсьменнiцы нармальным, хоць i крыху аднастайным, пазбаўленым iндывiдуальнага пачатку.

Пажыўшы ў невядомай нам вёсцы некалькi дзён i нават пусцiўшы тут «карэннi» (Банi вельмi прывязалася да суседскай дзяўчынкi Машы), падарожнiцы адправiлiся на фурманцы далей. Iм хацелася пабачыць iншыя вёскi, каб зрабiць больш шырокiя абагульненнi. У дарозе не было асаблiвых выгод. Пасцель у выпадковых хатах не дужа грашыла свежасцю i мяккасцю. Сняданне цi вячэра часам зводзiлiся да кавалка жытнёвага хлеба з малаком. Але, бачачы «бездапаможнасць» iншаземак, беларускiя сяляне ахвотна iшлi iм насустрач.

У апошнім «беларускім» раздзеле кнігі, які мае красамоўную назву «Маладая краіна — для моладзі», Чэстэртон расказвае аб наведванні калгаса, які больш ёй спадабаўся, чым камуны. Тут, здалося падарожніцы, грамадскія інтарэсы лепш спалучаліся з асабістымі. «Тут мы пабачылі калектывізацыю ў дзеянні, накіроўваючую спружыну руху, які разгортваецца па ўсёй Расіі. Працоўныя цалкам, з гордасцю і энергіяй, аддавалі сябе справе. Мы не выявілі тут нічога, што сведчыла б аб іх пагоні за зарплатай. Мы адчулі, што яны з'яўляюцца свабоднымі людзьмі, якія працуюць у свабоднай краіне». Асабліва прыйшліся англічанцы даспадобы кемлівыя дзеці калгаснікаў, якія ўжо з шасці-сямігадовага ўзросту сур'ёзна захапляліся тэхнікай. Побач з тым падарожніца заўважыла і адмоўнае ў вясковым жыцці — перш за ўсё марнатраўныя адносіны да той жа тэхнікі.

Праз некалькі дзён Чэстэртон і Бані дабраліся да маленькага гарадка М. (хутчэй за ўсё Мар'інай Горкі), дзе пабывалі на «масавым камсамольскім мітынгу» (усе яго ўдзельнікі былі нібы «намагнічаны» новымі ідэямі), назіралі цырымонію пахавання маладога вайскоўца. Пераначаваўшы ў мясцовай гасцініцы, яны рашылі прадоўжыць падарожжа ў Кіеў і ўселіся на цягнік, які ішоў на Бахмач.

Уражанні ад Беларусі засталіся ў Чэстэртон самыя добрыя. Вядома, ёй даводзілася бачыць і «рудыменты» мінулага. «Аднак побач з імі было і энергічнае адраджэнне — новыя гмахі заводаў, лепшыя жылыя дамы, свежае жыццё прабівалася праз старое. Тут можна было нават пабачыць сапраўдную цэнтралізаваную меліярацыйную сістэму! Усюды нас сустракалі з сяброўскімі пачуццямі і гасціннасцю, і з кожным днём узрастала колькасць простых слоў, якія мы разумелі, а жыццё набывала ўсё большую прывабнасць. Мы адчувалі, што прысутнічаем пры станаўленні новай нацыі, якой наканаваны вялікі лес». І далей: «Белая Русь была нашай дзівоснай прыгодай, і мы добра адчулі і ацанілі яе патрэбы, яе індустрыялізацыю, яе адданасць ідэі».

Пабываўшы на Украіне, пабачыўшы славутасці Кіева, Чэстэртон вярнулася ў «стары свет». Апошняя фраза яе кнігі гучыць так: «Новая і незвычайная старонка у гісторыі чалавецтва пішацца Расіяй на мурах еўрапейскага капіталізму».

Пазнаёміўшыся з кнігай С. Чэстэртон «Мае рускія прыгоды», я захацеў падрабязней даведацца пра лёс яе аўтара. Аднак Брытанская энцыклапедыя, да якой я звярнуўся, не давала яе жыццяпісу. Ці не таму, падумалася, што яна ў свой час з сімпатыяй (хоць і з некаторай наіўнасцю, жаночай сумбурнасцю) апісала сваё падарожжа ў маладую Краіну Саветаў?! Магла напісаць «сенсацыйную» кнігу пра нашы недахопы і цяжкасці, магла ўсё паказаць у чорным святле, каб

зарабіць на гэтым, як іншыя яе сучаснікі, немалыя грошы. Але рашыла застацца аб'ектыўнай і праўдзівай. Гэта, вядома ж, сведчыць аб прагрэсіўнасці грамадскіх поглядаў Чэстэртон. Дарэчы, з тых жа, дэмакратычных пазіцый напісаны і дзве іншыя яе кнігі, якія мне ўдалося пабачыць у тутэйшых бібліятэках,— «У самым змрочным Лондане» і «Жанчыны дна». Расказваюць яны пра цяжкае жыццё лонданскай беднаты — зусім іншае, чым тое, што пісьменніца пабачыла ў Савецкай Беларусі.

Аднак пара ад 20-30-х гадоў перайсці, у адпаведнасці з храналогіяй, да наступнага, пасляваеннага перыяду. Беларуская тэматыка ў гэты час па-ранейшаму цікавіць англійскіх пісьменнікаў. «Бедных хлопцаў» Беларусі, якім нялёгка жывецца ва ўмовах акупацыі, згадвае Хрыстафор Тыцьенс, галоўны герой «Тэтралогіі Тыцьенсаў» Форда Медокса Форда, пісьменніка «для выбраных». Гэты герой у час вайны, пасля кантузіі, аказаўся ў Францыі, і «беларусы» ледзь не першымі ўсплываюць у яго памяці ў крытычнай жыццёвай сітуацыі. Абрад купалля падрабязна апісаны ў аповесці англійскага пісьменніка польскага паходжання Ежага Петаркевіча «Пераплеценая повязь» (Лондан, 1953). Часткова на Палессі адбываюцца падзеі яго ж гістарычнага рамана «Рабунак і вернасць» (Лондан, 1955).

Беларус з'яўляецца галоўным героем рамана Энтані Рычардсона «Няма месца, каб спакойна прыхінуць галаву» (Лондан, 1957). Абапіраючыся на расказ аднаго эмігранта, гэты папулярны англійскі празаік (асаблівую славу прынесла яму экранізацыя рамана «Бяскрылая перамога») узнавіў трагічную старонку ў гісторыі беларускага народа, паказаў, што лінія фронту ў час апошняй вайны дзяліла не толькі землі, але і сем'і. Пры Савецкай уладзе дружна жылі два браты, Мікола і Саша Нёманы. Старэйшы Мікола, чалавек, адданы Савецкай уладзе, служэнню Беларусі, быў ідэалам для малодшага. Але ў час фашысцкай акупацыі яны аказаліся па розныя бакі барыкад: Мікола, натуральна, пайшоў у партызаны, а шаснаццацігадовы Саша, ратуючы ад смерці бацькоў, запісаўся ў паліцаі. Аднак уплыў старэйшага брата не прапаў бясследна. Саша адмаўляецца расстрэльваць маладога беларуса-партызана, які недзе на берагах Дзвіны трапіў у нямецкі палон, і за гэта сам ледзь не быў расстраляны. Аказаўшыся потым у Германіі, на заходнім фронце, юнак не хоча ваяваць за чужыя інтарэсы і разам з іншымі землякамі ўдзельнічае ў антыфашысцкім бунце. Адны «пратэстанты» былі тут жа расстраляны, другія, у тым ліку і Саша, трапілі ў канцэнтрацыйны лагер. Пасля таго як апошні быў вызвалены амерыканцамі, герой доўга вагаецца, што яму рабіць далей. Вярнуцца на радзіму? Але ж там могуць успомніць яго

службу ў паліцыі, у 30-й гітлераўскай дывізіі. І Саша Нёман, хлопец з-пад Гарадзішча, застаецца па чужыне, у Англіі... Энтані Рычардсон у цэлым аб'ектыўна паказвае яго трагедыю, якая таксама на сумленні фашызму. Побач з гэтым у рамане сустракаюцца і тэндэнцыйныя выказванні. Аўтар часам імкнецца стаць «над падзеямі», паказаць апошнюю вайну як сутыкненне дзвюх жорсткіх варожых сіл, і толькі.

*20 снежня*

Бяруся за вывучэнне і ксеракапіраванне рукапісаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Як відаць з уладальніцкай пячаткі, яны (прынамсі, некаторыя з іх) пабывалі Ў руках фашысцкага прыхвасня Леаніда Галяка. Хутчэй за ўсё, ён і вывез іх, уцякаючы ў 1944 годзе ад кары за супрацоўніцтва з акупантамі. А можа, надумалася, ён быў (Галяк памёр ужо) якраз тым беларусам, што прысвоіў сабе рукапісы Езавітава і потым трымаў іх у сутарэнні ў Нью-Йорку?!

*21 снежня*

Пераважная большасць рукапісаў Янкі Купалы, якія захоўваюцца ў Скарынііянай бібліятэцы, ужо апублікавана. Гэта — паэма «Курган», вершы «Роднае слова», «Памяці Вінцука Марцінкевіча». Аднак, тым не меней, іх рукапісы маюць вялікую навуковую каштоўнасць, таму што дазваляюць меркаваць, як аўтар працаваў над тэкстам. Некаторыя словы тут перакрэслены, радкі перапрацаваны.

Сёння мы ведаем такое чатырохрадкоўе з «Кургана»:

На купалле там птушка садзіцца, пяе,
У піліпаўку воўк нема вые.
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Першапачаткова ж гэтая мясціна гучала так:

Летам птушкі лятуць, галасіста пяюць,
Стада воўчае вые зімою.
Косы сонцавы днём залатыя снуюць,
Ночкай зоры глядзяць чарадою.

Або яшчэ красамоўны прыклад паляпшэння тэксту. Першапачатковы варыянт:

Скурганіў бы душу я чырвонцам тваім —
Чырванцы нам не пішуць законаў.
Небу справу здаю, сную думкі аб чым,
Сонцу, зорам, арлам думкай роўна.

І варыянт выпраўлены:

Скурганіў бы душу чырванцом тваім я;

Гуслям, княжа, не пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.

А ўвогуле правак у «Кургане» не так ужо і многа. Паэма напісана, як кажуць, па адным дыханні.

У вячэрнім ужо змроку агледзеў стары Таўэр, што ўзвышаецца на беразе Тэмзы. Будаўніцтва гэтага замка было распачата ў XI стагоддзі Вільгельмам Заваёўнікам. У белых сценах Таўэра спачатку месцілася каралеўская рэзідэнцыя, потым — турма для самых вялікіх злачынцаў (можна агледзець камеры, дзе яны сядзелі: на падлозе — кучы гнілой саломы і сінтэтычныя мышы), урэшце — манетны двор, абсерваторыя. Цяпер у замку захоўваецца старая зброя, каралеўскія рэгаліі. Спецыяльна тут трымаюць і па дзяржаўныя грошы кормяць чорных крумкачоў — лічыцца, што калі яны знікнуць з Таўэра, то загіпе і Брытанская імперыя. Па двары горда ходзяць, сочачы за парадкам, пышна апранутыя гвардзейцы. Але іх гордасць кудысьці знікае, калі турысты пачынаюць тыцкаць грошы за дазвол сфатаграфавацца побач... Усё ў Таўэры добра дагледжана і вельмі маляўпіча выглядае, ды чамусьці не кранае мяне так, як кранаді сцепы Навагрудскага замка або гродзенскай Каложы. Можа, таму, што англійская гісторыя такая жорсткая. А можа, таму, што — чужое.

*22 снежня*

Сярод рукапісаў Янкі Купалы ёсць і удрукаваны, як мне сказалі, верш «Хаўруснікам», датаваны 19 кастрычніка 1913 года. Паэт асуджае рэакцыйныя выданні, якія адмаўлялі існаванне беларусаў. Гэта — польская «Газэта цодзенна» і рускі «Виленский вестник», што «сабраліся хэўрай, як свінні на сметнік»,—

Ды ну ж гаманіці,
Ўхмыляцца пад вусам,
Як лепш атуманіць
Мазгі беларусам.

Пасля доўгай спрэчкі газеты дамовіліся, што беларусаў найлепш падзяліць.

Забыліся толькі
Хаўруснікі ночы
Спытаць беларуса,
Чым сам ён быць хоча...[3]

---

[3] Потым высветлілася, што верш «Хаўруснікам» друкаваўся ў часопісе «Полымя» ў 1929 годзе.

Ёсць тут і карэктурныя адбіткі нейкага беларускага часопіса ці зборніка з вершамі Канстанцыі Буйло і пачаткам празаічнага твора «Апошняе спатканне» Уладзіслава Галубка[4]. Усе памылкі ўважліва выпраўлены рукой Янкі Купалы (цяпер ён паўстае перад намі яшчэ і як карэктар). А зверху ім напісаны ўказанні друкарам: «Исправить, поставить нумерацию страниц, сделать оттиски в более приличном виде и прислать еще раз для просмотра. Ив. Луцевич. 25/IV. 1913».

Затым звяртаюся да рукапісаў Якуба Коласа. Большасць з іх таксама апублікавана, добра вядома шырокаму чытачу. Гэта — прысвячэнне («Беларускай моладзі») з паэмы «Сымон-музыка», апавяданне «Вясна» з «Другога чытання для дзяцей беларусаў», артыкул «Мова Лынькова па раману «На чырвоных лядах», вершы «Водгулле», «Доля батрачкі», «Панскай Польшчы» (канчатковая назва: «Польскім катам»), «Поле». Аднак арыгінал ёсць арыгінал. Часам ён паўнейшы за публікацыю. Так, у артыкуле «Мова Лынькова па раману «На чырвоных лядах» выяўляецца прапушчапая ў публікацыі 1934 года канцоўка. І гэты ўрывак істотны, бо сведчыць, што Якуб Колас ухваляў увядзенне ў літаратурную мову трапных дыялектных слоў: «З спіска яго (М. Лынькова.— А. М.) слоў, якія значацца тут пад рубрыкаю правінцыялізмаў, можна смела ўжываць і ўводзіць у літаратурную мову, як, напрыклад:

Безульства, субар, згараць, вобмегам, ніціцца, апоўзлікі.

Гэту акалічнасць трэба залічыць Лынькову як плюс».

*23 снежня*

Побач з вядомымі творамі сярод рукапісаў Якуба Коласа ёсць і творы удрукаваныя, ёсць чарнавыя накіды, у якіх трэба будзе скрупулёзна разабрацца. Пакідаю гэту работу на потым, калі атрыманыя ксеракопіі можна будзе параўнаць з іншымі рукапісамі, што захоўваюцца ў Коласавым музеі ў Мінску. Тут жа прывяду толькі два невядомыя раней тэксты, дакладней, іх чарнавыя накіды, зробленыя паэтам, які вельмі ашчаджаў паперу, на адваротным баку яго «чыставікоў».

Вось пачатак верша «Родны брат наш», адрасаванага ў заняволеную Заходнюю Беларусь:

Мы тут чуем, чуем, браце,
Стогн твой здушаны, глухі,
Стогн пакуты ў роднай хаце,
Лёс твой ведаем ліхі.

---

[4] Ужо ў Мінску ўстанавіў, што гэта быў трэці сшытак часопіса «Маладая Беларусь», выдадзены у Пецярбургу у 1913 годзе.

Пад царом было нялёгка,
А пад панам стала горш...

Урэшце — нейкі гумарыстычны ці сатырычны накід:

Апускаецца заслона.
Я пытаю, што за дзіва?
Аж выходзяць дзве асобы:
Валасень і Галалобы.
Да кніжок ідуць імкліва,
За работу селі жыва,
Точаць кнігі, як мікробы.
Узіраюся ў іх твары.
Валасень — зубок мышыны,
Рот шырокі, бы ў пачвары,
Ростам, ну, так паўмужчыны.

Знайшоўся таксама рукапіс невядомага артыкула Якуба Коласа «Падумайце аб дзецях!». Датаваць яго трэба, відаць, 20-мі гадамі, калі некаторыя нашы педагогі захапляліся фармалістычнымі навацыямі і забаранялі школьнікам чытаць казкі, калі з дзецьмі сталі праводзіць «усяночныя» мерапрыемствы, пускаць іх на познія і неадпаведныя кінасеансы. Усё гэта выклікала глыбокую трывогу Якуба Коласа. Зрэшты, прывяду тэкст яго артыкула цалкам:

«Я бы хацеў, каб голас мой не быў голасам таго, хто кліча ў пустыні.

Ёсць з'явы жыцця, да якіх нельга прывыкнуць, з якімі не можна пагадзіцца. Як цені, як цёмныя плямы загубленага сумлення, яны ўстаюць і ходзяць за табою, бяссонныя, бедныя, змардаваныя, як нейкі бясслоўны дакор.

Два моманты аднае і тае ж з'явы мне глыбока запалі ў душу, і я не магу думаць аб адным, каб не ўспомніць другога. На вуліцы гралі трубы, пераплятаючыся з хорамі дзіцячых галасоў. А дзесь на акраіне горада, непадалёку, разрываючы мрок позняй-позняй ночы, жудаснанема лямантаваў адзінокі дзяціны голас.

Калі разбіраць гэтыя два моманты як нейкія праяўленні душы дзяцей, то пры іх, на першы погляд, рэзкіх непадабенствах, у іх аснове ляжыць глыбокі трагізм дзяцінай псіхалогіі, і больш глыбокі ён не ў адзінокім голасе ляманту, а ў арганізаваным хоры дзяціных галасоў пад музыку труб у гэты позні час ночы.

Так, я хачу гаварыць аб нашых дзецях. Але тут трэба не гаварыць, а крычаць, крычаць так, каб і глухія пачулі, а сляпыя прасвятлеліся: убачылі, убачылі тое бяздонне ненармальнасці, у якой жывуць і выхоўваюцца нашы дзеці.

Калі я бачу на вуліцы ў поўнач змучаныя, апатычныя фігуры дзяцей 10-12 гадоў, як ідуць яны ў свае прытулкі з вечароў, дзе ім чытаюць незразумелыя і недаступныя іх разуменню даклады, і калі я чую «мненія» людзей «кампэнтэтных» аб тым, што дзецям не можна чытаць казак пра лісічку, ката і пеўніка, то ці не маю я права і аснаваны запытацца ў людзей «кампэнтэтпых», што гэта: здзек над дзецьмі ці «кампэнтэнтная некампетэнтнасць»?

Пара палажыць канец гэтай пошасці — не вечароў, а дзяцінаму начніцтву. Хіба ж гэта нармальна — зацягваць вечары далёка за поўнач, канчаць іх у 3, 4, 6 гадзін раніцы?

Што ж з'яўляецца вынікам гэтага?

Я думаю, што гэтыя вынікі могуць быць няясныя толькі таму, хто знаходзіцца на ніжэйшай ступені культурнага стану, а калі людзі культурныя дазваляюць такія ненармальнасці, то яны робяць праступленне перад маладым пакаленнем, гвалтуюць грамадзянскае сумленне.

І ці можа быць дзіўным пасля гэтага, калі дзеці 14 гадоў заяўляюць, што ім надакучыла жыццё, у іх страчана пачуццё радасці жыцця, і смерць яны гатовы прыняць спакойна.

Зайдзіце, каму гэта цікава, у гадзін 12 ночы ў Беларускую хатку па кінематаграфічныя сеансы. Там кішаць дзеці, закінутыя дзеці гарадскіх акраін. На экране — сцэна оргій. Дзеці пазіраюць на гэтыя сцэны і тут жа, па натуральнаму нахіленню дзяцей да пераймання, паўтараюць гэтыя сцэны. Перад іх вачыма праходзіць і другая сцэна, сцэна расстрэлу. Як жа адбіваецца на іх гэтая сцэна? Вынікам гэтае сцэны з'яўляецца гульня. Некалькі хлопчыкаў прыгаворваюцца да расстрэлу. Іх выводзяць, ставяць. Другая група хлопчыкаў, узяўшы палкі замест карабінаў, паводзяць на іх «карабіны».

— Пах! — крычаць яны. Прыгавораныя падаюць, а расстрэльшчыкі кідаюцца на іх і колюць.

— Што вы робіце?

— Трэба дакалоць, бо, можа, хто яшчэ жывы.

Я і пытаюся ў тых, да каго гэта належыць, добра гэта ці не? (Услед ідзе другі варыянт сцэны «расстрэлу».— А. М.)

У нас многа адбываецца сходак, дзе мудрыя педагогі вядуць мудрыя разважанні аб комплексных сістэмах навучання, аб дальтпланах, лабараторных метадах, аб «стержневых» размеркаваннях прадметаў навукі. Усё гэта добра. Не трэба толькі парушаць другую запаведзь мудрага Маісея: не сатвары сабе куміра ў вобразе... Але за гэтымі прынцыпамі, сістэмамі, комплексамі ўпарта не бачаць дзяцей — яны затоплены ў гэтым педагагічным хаосе, прыдушаны, зацёрты.

Дык звярніце ж увагу на дзяцей. Не трэба забываць простага правіла:

Не дзеці для метадаў і сістэм, а наадварот.

І я звярачаюся да педагогаў, не да тых, чыя педагагічная эрудыцыя падобна флюгеру, а да педагогаў, у сэрцы якіх не патухлі іскры любасці да дзяцей. Скажыце вы сваё слова.

Я звярачаюся да прадстаўнікоў медыцынскага слова — аўтарытэтнае слова павінны пачуць глухія.

Няхай жа той голас не будзе крыкам у пустыні.

Якуб Колас».

А яшчэ ў далёкую лонданскую бібліятэку трапіў вось гэты дакумент: «Начальнику ст. Клей Михелево Московско-Курско-Харьковско-Севастопольской жел(езной) дор(оги). Настоящим Совнарком Белоруссии просит предоставить одну оборудованную теплушку для переезда из города Обоянь Курской губернии (ст. Клей Михелево) в гор. Минск известного Белорусского поэта Константина Мицкевича (Якуба Коласа) с его семейством и имуществом». Датаваны дакумент 4 красавіка 1921 года.

Пасля абеду выбраўся, каб у апошні раз прайсціся па галоўнай вуліцы Фінчлі. Горад ужо рыхтуецца да каляд, найбольш важнага тут свята года. Там, дзе вуліца раздвойваецца, стаіць упрыгожаная ёлка, гучыць музыка. Жанчыны нясуць святочныя падарункі: маляўніча ўпакаваныя карабкі з цацкамі, «панчохі» і «шкарпэткі» з цукеркамі (у калядную ноч англійскія дзеці вешаюць каля свайго ложка панчоху, куды Санта Клаўс, гэта значыць бацькі, кладзе што-небудзь смачнае). Краіна рыхтуецца на нейкі час забыць пра штодзённыя клопаты. Паслязаўтра англічане будуць есці свой традыцыйны пудзіш з цукатамі, адорваць блізкіх і знаёмых, глядзець святочнае шоу па тэлебачанні.

А пакуль што — звычайны працоўны дзень. Рабочыя спраўна, без аніякага смецця рамантуюць тратуар. Шафёр выгружае ля гароднiннага магазіна поліэтыленавыя мяшкі з падабранай адна ў адну бульбай. Беспрацоўны негр на скрыжаванні вачыма просіць падаць што-небудзь на свята. Дзяўчаты праціраюць вітрыннае акно. Вяртаюцца са школы дзеці. „

Іду па вуліцы і ўглядаюся ў твары людзей. І вары самыя розныя — белыя і чорныя, вясёлыя і заклапочаныя, добрыя і злосныя. Заклапочаных куды болей, чым вясёлых, а добрых — чым злосных... Іду і думаю, што гэта вельмі важна — бачыць твары людзей, выдзяляць іх з бязлікай масы. Асабліва — у сучасным свеце.

Іду па вуліцы і пазіраю на англічан, думаю пра тое, а ці ведаю я іх. Кажуць, каб спасцігнуць англійскі нацыянальны характар, трэба тут пражыць з дзесятак гадоў. Аднак пасля двух месяцаў я ўжо магу вызначыць некаторыя, больш вонкавыя рысы гэтага характару.

Па-першае, англічанін, асабліва лонданец, звычайна вельмі стрыманы і замкнуты. На вуліцы не пачуеш гучнай гаворкі, смеху, плачу. Жыхары англійскай сталіцы ідуць маўкліва, засяроджваюцца на сваім, у кантакты ўступаюць неахвотна. Нездарма яшчэ Герцэн пісаў, што «няма горада ў свеце, які больш адвучаў бы ад людзей і больш прывучаў бы да адзіноцтва, чым Лондан».

Па-другое, жыхары Вялікабрытаніі вялікія традыцыяналісты. Яны любяць старыя дамы і звычаі, рэчы і кнігі. Яны традыцыйныя ў ежы (падумаць толькі: банберыйская слойка выпякаецца ў нязменным выглядзе ўжо 400 гадоў!), адзенні (дастаткова паглядзець на каралеўскую гвардыю), жыллі (замена камінаў цэнтральным ацяпленнем была цэлай праблемай), газетах і часопісах, назвах вуліц і населеных пунктаў (яны тут ніколі не мяняюцца). Англічане неахвотна расстаюцца са сваімі «нестандартнымі» футамі і фунтамі, пінтамі і дзюймамі. Традыцыя тут цэніцца больш, чым навацыі.

Па-трэцяе, англічанін, і бедны, і багаты, вельмі ашчадны. Пакупкі плануюцца за некалькі месяцаў, а то і гадоў наперад. Замест падарункаў на імяніны і вяселле прыносяць чэкі-купоны таго ці іншага магазіна (выбірай потым сам, што табе больш патрэбна). У модзе так званыя «ботл парці» — вечарынкі, куды кожны прыходзіць са сваёй бутэлькай. Грошы, нават самую маленькую суму, англічанін трымае дзеля працэнтаў у банку. Бо інакш не выжывеш, не вытрымаеш у канкурэнтнай барацьбе. Бо інакш з багатага Уэст-энда перасялішся ў бедны Іст-энд, будзеш купляць тавары не ў фешэнебельным «Хародзе», а на «блышыным рынку», станеш «сэндвічмэнам», гэта значыць чалавекам-рэкламай, або беспрацоўным. Прабачце, тэрмін «беспрацоўе» ў Англіі цяпер не ў модзе; замест слова «анэмплоймент» друк настойліва пашырае слова «рыдандэнс» — «лішак рабочай сілы». Сутнасць адна і тая, але ўсё ж прыемней адчуваць «лішак» чагосьці, чым недахоп... Ашчаднасць асабліва ўзрасла цяпер, калі Англія, паводле левага друку, стала «хворым чалавекам Еўропы», калі рост цэн намнога апярэджвае рост зарплаты, калі з-за высокіх падаткаў пачалося «бегства славутасцей» — кіназорак, поп-музыкантаў, пісьменнікаў.

І яшчэ адну рысу я адзначыў бы: добразычлівасць. Звычайна англічанін паспрабуе табе дапамагчы, зразумець, не пасмяецца з тваёго дрэннага вымаўлення. Аднак гэтая добразычлівасць рэдка распаўсюджваецца на «каляровых». Аднойчы ў вагоне метро я ўступіў месца

пажылой індусцы... Бачылі б вы, якімі вачыма паглядзелі на мяне пасажыры! Яны тут наладжваюць расісцкія пагромы, а нехта асмельваецца дзейнічаць наадварот!

І ўсё роўна: пасля двухмесячнага прабывання англічане выклікаюць у мяне большую павагу, чым раней. Можа, таму, што цяпер я іх ведаю не па кнізе, а жывых.

*24 снежня*

Вось і падышло да канца маё знаходжанне ў Англіі. Два месяцы карпатлівых пошукаў і самых розных сустрэч прамільгнулі хутка... Ці задаволены я сваёй паездкай? І так, і не. Задаволены, бо знойдзены цікавыя матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры, сведчанні яе ўзрастаючай папулярнасці ў краінах Захаду. Праўда, калі ляцеў у Лондан, наіўна думаў, што такіх матэрыялаў і сведчанняў знайду ў Скарынінскай бібліятэцы куды больш. Але цяпер разумею, што памыляўся. Бо адкуль жа ім узяцца ў сховішчы, якое стваралася «самадзейна» — з рэшткаў таго, што было выпадкова вывезена эмігрантамі пераважна антысавецкіх перакананняў, а потым ахвяравана, завяшчана ці прададзена бібліятэцы?! Дарэчы, асноўную і найбольш каштоўную частку яе збораў складаюць якраз савецкія выданні, якія, зразумела, ёсць і ў мінскіх бібліятэках.

Задаволены я сваім падарожжам таксама таму, што ў яго час мне ўдалося наведаць мясціны, звязаныя з жыццём Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна, Оксфардскі і Кембрыджскі універсітэты, шэкспіраўскі Стратфард і славуты Брытанскі музей — адным словам, пабачыць новую краіну з багатай гісторыяй і культурай. З другога боку, я адчуваю, што мае ўяўленні пра сённяшняе жыццё гэтай краіны, яе стараннага народа застаюцца вельмі прыблізныя, эпізадычныя. Не было ў мяне сустрэч ні з рабочымі, ні з фермерамі.

У Маскву ляцеў англійскім «Боінгам» (на савецкі рэйс перад калядамі чамусьці не аказалася месц). Розніўся ён ад ІЛ-62 тым, што ветлівасць сцюардаў тут больш халодная, стрыманая, а ленч менш сытны, хоць і больш разнастайны. І яшчэ адно адрозненне. Нашы сцюардэсы пытаюцца: «Хто хоча выпіць?» (Жадаючых мала...) Англійскі сцюард ставіць пытанне інакш: «Якой з гэтых маленькіх пляшачак вы аддаеце перавагу?»

У самалёце адкрыў блакнот і стаў пераглядаць старонкі з запісамі-планамі, што зрабіць і дзе пабываць. Выкрасленых радкоў было куды больш, чым нявыпраўленых. Але і невыкрасленых набіралася спорна. Не паспеў я наведаць музей Вікторыі і Альберта, дзе, відаць, захоўваецца трон слуцкіх князёў, і музей васковых фігур мадам Цюсо

(страта невялікая: «беларусаў» там пакуль што няма), «Чорны музей» крыміналістыкі пры Скотленд-Ярдзе і музей Дарвіна. Не паспеў паглядзець змену варты каля Букінгемскага палаца і помнік «Рускі арол», устаноўлены ў гонар перамогі над Напалеонам арміі Кутузава. Не паспеў пабываць у Каралеўскай оперы і на мосце Ватэрлоо, у пабе «Шэрлак Холмс», дзе ўзноўлена кватэра папулярнага героя Конан Дойла, і нават у славутым Гайд-парку. З пункту гледжання турыста гэта недаравальна. А з пункту гледжання навукоўца, якому дарагая кожная гадзіна? Тут, мусіць, важней тыя выпіскі і ксеракопіі, якія зроблены за два месяцы майго прабывання ў Альбіёне. Познім вечарам я ўжо быў у Мінску. Быў дома. Здаецца, гэта Нансен пісаў, што прывабнасць кожнага падарожжа — якраз у вяртанні.

1982

## ЗМЕСТ



Мальдзіс А.

З літаратуразнаўчых вандраванняў: Нарысы, эсэ, дзённікі.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 215 с.

Асноўную частку кнігі беларускага літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук складае «Англійскі дзённік», у якім аўтар падрабязна расказвае пра свае пошукі і знаходкі матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры ў часе камандзіроўкі ў Лондан і Оксфард. Літаратуразнаўчы матэрыял падаецца ў непасрэднай сувязі з асабістымі назіраннямі з жыцця сучаснай Англіі. Акрамя таго, у кнізе змешчаны матэрыялы пра «літаратуразнаўчыя» вандраванні ў Польшчу і ГДР, росшукі ў архівах нашай краіны. Кніга адрасуецца як спецыялістам-літаратуразнаўцам, так і шырокаму колу чытачоў.